# Маладосць

3

**Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс**

**(688) САКАВІК, 2011**

**Выдаецца з 1953 года**



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Літаратура і Мастацтва»,
г. Мінск**

## У НУМАРЫ:





Тэхнічнае рэдагаванне і камп’ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Ірына КАЧУРКА*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 03.03.2011. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 14,26. Тыраж 2568 экз. Заказ 561.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**

# Часопіс «Маладосць» застаецца сучасным



***В**ось ужо неўзабаве і сакавік мінецца, а ўсё яшчэ помніцца люты — месяц кніжных выстаў. Спачатку Міжнародная выстаўка, дзе ўладарыла кніга, у нас у Мінску, потым у Вільнюсе ў Літве, дзе мы з вядомай пісьменніцай Аленай Масла ў складзе нашай беларускай дэлегацыі прадстаўлялі сваю рэдакцыйна-выдавецкую ўстанову «Літаратура і Мастацтва». А, калі больш поўна — Яе Вялікасць айчынную Кнігу.Засталося шмат уражанняў: па-першае, ад самой выстаўкі, на якой мелі магчымасць увачавідкі пабачыць, што нашы кніжныя выданні годна ўпісваюцца ў агульную міжнародную плынь, што да іх нашы суседзі-літоўцы праяўлялі вялікую цікавасць. Гэта тычылася не толькі гістарычнай і краязнаўчай літаратуры, але і мастацкай, асабліва кніг для дзяцей. Менавіта гэтая літаратура на сённяшні дзень ва ўсім свеце карыстаецца попытам. І самым актыўным — кнігі для падлеткаў, якіх традыцыйна нестае. Чаму «традыцыйна», можа запытацца чытач? Але дастаткова згадаць свой школьны ўзрост, які завецца сярэднім школьным узростам, каб атрымаць адказ на гэтае пытанне. Ведаючы пра гэта, некаторыя прыватныя выдавецтвы нават ствараюць цэлыя серыі, кшталту, «Бібліятэка для дзяўчынак» ці — для хлопчыкаў. Але па-сапраўднаму цікавых твораў для падлеткаў у гэтых выданнях мала, ды і выкідваюцца яны на наш кніжны рынак з блізкага замежжа. Толькі ж зараз хачу напісаць пра іншае...*

*У Вільнюсе па ініцыятыве Пасольства нашай краіны ў Літве мы з Аленай Масла мелі магчымасць сустрэцца з вучнямі беларускамоўнай школы імя Францыска Скарыны і нават правесці ў адным з класаў адкрыты ўрок, дзе, вядома ж, ішла гаворка пра нашу літаратуру. Па той цікавасці і ўвазе, з якой нас слухалі, няцяжка было зрабіць выснову, што наша літаратура для дзяцей і падлеткаў апошнім часам перажывае своеасаблівы ўзлёт. І тут у многім трэба аддаць належнае менавіта нашай установе, якая вельмі актыўна працуе ў гэтым напрамку. Выданні толькі адной нашай серыі «Пераходны ўзрост» разыходзяцца літаральна за некалькі месяцаў. Прыкладам таму — кніга Валерыя Гапеева «Урокі першага кахання».*

*Нехта магчыма схоча паспрабаваць аспрэчыць мяне, маўляў, вы ж былі ў замежжы, дзе, натуральна, можа быць цікавасць да нашай літаратуры! Але нічога аспрэчваць не трэба. У Вільнюсе мы былі ў беларускамоўнай школе, дзе многія вучні нашу мову лічаць сваёй, адпаведна, і любяць творы на ёй, як, дарэчы, і нашы, беларускія, школьнікі. Ужо вярнуўшыся з Літвы, атрымала цудоўны ліст ад адзінаццацікласніц з Віцебска Юлі Беразоўскай і Паліны Малахавай, якія пішуць у ім: «...Мы ўжо шосты год займаемся ў школьным навуковым таварыстве «Пошук». Разам са сваім кіраўніком Валянцінай Аляксандраўнай Рыдлінскай мы вучымся даследаваць культуралагічныя і літаратурныя творы. Нашы даследаванні мы дэманструем на канферэнцыях у сваёй школе і школах Віцебска. Нам прыемна, што яны выклікаюць цікавасць»... Пагадзіцеся, цікавасць можа выклікаць толькі цікавае!*

*У нас ёсць таленавітая літаратура для падлеткаў, якая па-сапраўднаму захапляе. І на старонках «Маладосці» друкаваўся не адзін такі твор. Гэты напрамак рэдакцыя будзе працягваць. Ужо ў летніх нумарах з'явіцца некалькі новых твораў для падлеткаў, што яшчэ раз сцвердзіць: наш часопіс застаецца сучасным і шырокавядомым сярод моладзі выданнем.*

*З найлепшымі пажаданнямі—* Ф. Баравікова



*Сяргей Сакума нарадзіўся ў 1985 годзе ў Оршы. Скончыў гістарычны факультэт БДУ (2008), вучыцца ў аспірантуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.*

Сяргей САКУМА

# ДОЖДЖ ЗБІРАЮ Ў ДАЛОНІ

* * *

Калі ўсе сыходзяць,
Пакой становіцца вузкім,
Ты для мяне як квецень садоў,
У шкле адлюстраваная.
Хай вецер праз шчыліны
Пранізвае наскрозь,
Не чую холаду,
А чую водар вішняў.

* * *

Я і маці
На старым фотаздымку,
Як Дзева Марыя і
яе дзіця Езус,
Толькі мяч выпадае
з канонаў,
Ды чорна-белы колер,
Нібы час не праходзіў,
Нібы сюжэт паўтараецца:
Маці і дзіця,
Якое можа стаць Езусам,
А можа і не стаць,
Толькі мяч застанецца мячом
Ды чорна-белы колер.

* * *

Прага да Прагі
Ў гэты вясновы дзень,
Да пражскіх пляцаў,
Кляштараў, Кафкі,
Да пражскага піва,

Прага паставіць стаўкі,
Патопаць па пражскім замку,
Па Карлавым універсітэце,
Напіцца пражскай кавы,
Пазбавіцца смагі
Ў пражскай кавярні.
Слава падману В. Ганкі*,
Які падарыў мне прагу да Прагі
Ў гэты вясновы дзень.

* * *

Усё, больш у вершах маіх
Цябе ніколі не будзе.
Усё сплывае ў вырай,
Знікае ў нябыт,
Дык чым жа ты лепей?
На вуліцах гарадоў,
Што забыліся на дождж,
Я цябе не ўбачу,
Бо буду глядзець убок,
На шкляныя вітрыны,
Што гавораць на мовах
з запазычаных слоў,
Ці паеду ў тыя краіны,
Дзе ты не жывеш,
Дзе ты не смяешся,
Як вандроўнік, што йдзе,
Каб ісці — усё далей ад цябе,
Вырву сэрца не каб асвятляць,
А каб не балела,
Калі я не сціраю з памяці,
Тады памяць сцірае мяне,
Толькі, можа, раз на год
Буду зорку шукаць, як раней…

* * *

Мне цябе не хапае,
Як не хапае жанчын
У племені Янамама,
Што жыве на памежжы
Бразіліі й Венесуэлы,
У дрымучых лясах,
Ведучы бясконцыя войны
Паміж сабою,
Дзе на кожнага мужчыну
Па статыстыцы
Толькі палова жанчыны,
Да таго ж ваяўнічым шчасліўцам
Дастаецца больш за адну.
Вось яны і сядзяць
У сваіх лясах,
Ледзь трываючы злобу,
І зрываюць яе
На заблукалых выпадкова
У лес антраполагах.

* * *

Таксоўка едзе і спіць
І спіць у ёй пасажыр
Чырвоныя светлафоры
Яго не стануць будзіць
У вечаровым паўсне
У цьмяна-жоўтай імгле
Адзін кіроўца сядзіць
Матляцца будзе круціць
Пакуль і сам не засне

І сэнсу няма куды
Бо час спыніўся не йдзе
Падчас святочнай нэндзы
Няма прыпынку нідзе
У вечаровым паўсне
І радыё толькі сабе
Працягвае гаварыць
Таксоўка ціха ляціць
Як прывідны карабель

* * *

Што за дзіва?
Я чуў, што бываюць
Незвычайныя дажджы,
Што з неба падаюць рыбы,
А часам і залатыя ключы,
Але каб заміж усяго гэтага…ты.

* Вацлаў Ганка падрабіў Краледворскі рукапіс, які стаў спасылкай для чэшскіх «будзіцеляў».

У гэты дождж —
Хаджу без парасона,
Гэты дождж лаўлю вуснамі,
Гэты дождж збіраю ў далоні,
Пад гэтым дажджом хачу прамокнуць
наскрозь,
Хачу знікнуць назаўсёды,
Хачу страціць рацыю,
Каб на наступны дзень
Загалоўкі ў газетах:
«It's a raining man».
Побач з артыкулам пра сублімацыю.

* * *

Гэты ліст,
ён не мог прыйсці ў іншы дзень:
Ён спецыяльна затрымліваўся
на кожнай паштовай станцыі,
Вёў доўгія размовы з паштальёнамі
Пра Элюара і Караткевіча,
і тыя станавіліся фанатамі
Першага і апошняга.
Слухаў уважліва тое, што
гавораць панурыя людзі з усходу
Пра надвор'е
(толькі вочы ў іх былі жывыя).
І калі трапляўся тэлевізар,
глядзеў выключна метэазводкі
І яшчэ старыя фільмы,
дзе яшчэ пішуць папяровыя лісты,
Пакуль нехта ўвесь час не пераключаў
На футбол.
І тады ліст злаваўся, але не лаяўся,
Бо не меў у сабе кепскіх слоў.
І калі трэба было адпраўляцца далей,
Заміж самалётаў і цягнікоў
Чамусьці абіраў птушак,
якія вярталіся з выраю.
Каб з'явіцца аднагасова з вясной
і сонцам,
Як яго пачатак і працяг,
Як прамень,
Як рука, якая і праз тысячу кіламетраў
Можа дакрануцца
Да сэрца.

* * *

Мне здаецца,
Бачу ў Вашых вачах Кракаў.
Не маўчыце. Кажыце што-небудзь.
Насяляйце яго словамі
З вашых вуснаў:
«Ягелонка. Трубач. Вэнджаны сыр».
Нібы сапраўдны шпацыр
Па вулках горада.
Горада, якога не існуе.
Горад у Вашай і маёй галаве.
Горад не Кракаў, ужо не.
Горад N (ann).

Кацярына ФЯДОТАВА



*Кацярына Фядотава нарадзілася ў 1984 годзе ў вёсцы Сапегі Сенненскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла Наваполацкае музычнае вучылішча. Цяпер працуе ў Палацы культуры ААТ «Нафтан» загадчыкам аддзела па арганізацыі мастацкай творчасці. Друкавалася ў наваполацкай газеце «Хімік». У «Маладосці» — упершыню.*

# НЯСПРАЎДЖАНАЕ

## *Апавяданне*

***Усё атрымалася не так,*** як хацела і марыла. Неяк блытана і скамечана. Вольга ўжо каторы дзень не магла знайсці сабе месца. Ці восень яе так устрывожыла, ці проста прыйшоў момант асэнсавання і падвядзення рахунку за пражытыя гады, яна не ведала. Але неспакой жыў у сэрцы, хваляваў і прымушаў яго біцца хутчэй.

Глядзела на мокры, халодны ад восеньскага подыху горад і ўспаміната тое даўняе, што ўжо колькі год не хвалявала, не трывожыла душу. А сёння ўлезла ў галаву і навязліва стукала, не давала спакою.

Успаміната. Таксама восень, але іншая — цёплая, сонечная, з палаючымі клёнамі і глыбокім блакітным небам. Іншы горад, іншы час і бязмежнае шчасце. Здавалася, што ўвесь свет увасобіўся ў адным чалавеку. Ён адзін мог падымаць яе да неба і трымаць там доўга, пакуль хапала дыхання… Ён пачынаў, а яна працягвала, ён удыхаў, а яна выдыхала… Адным словам, як ва ўсіх закаханых. Але скончылася ўсё, на жаль, банальна. Яе не хапіла надалей. Кінулася, як матылёк на сонца. Шмат спакусы. Яна лётала, а ён не трымаў як след. І вось вынік — абое не ўбачылі, як сталі чужымі адно аднаму. І хоць падтрымлівалі нейкія адносіны, тыя хутка сканалі, не змаглі існаваць без кахання.

Ішоў час. Яна пасталела, вызначыла жыццёвыя мэты і пайшла да іх, а ён… Ён так і застаўся жыць у залатой цёплай восені яе ўспамінаў.

На гэтым можна было б ставіць кропку, каб не адзін выпадак, не адно слова.

Седзячы за кубкам кавы, Вольга з сяброўкай каторы раз бавілі час за размовамі. Пра што? Пра што можа быць размова дзвюх маладых, даволі прыемных жанчын, не пазбаўленых розуму, акрамя рэдкіх выпадкаў.

— Я не магу пазбавіцца адчування, што жыццё пралятае міма, не затрымліваецца, не звяртае ўвагі на мяне. А я быццам у нейкім жалезным карабе — няма ні эмоцый, ні пачуццяў… Што гэта? — Вольга камечыла ў руках сурвэтку.

— Я не ведаю, не магу ведаць. Гэта твая душа. Але мне здаецца, што ты толькі дарэмна дурыш галаву сабе.

Прасцей трэба ставіцца да ўсяго! Бяры прыклад з мяне, — другая дзяўчына шырока ўсміхнулася.

— Ага, з цябе! А хто колькі дзён таму спяваў мне: «Я нікому не патрэбная, мяне ніхто не разумее, я не хачу так жыць, і гэты свет не для мяне!» Было такое, ці гэта мне прысніліся?

— Было, было… Толькі ў мяне прасцей, чым у цябе…

— Марына, я не прашу рабіць аналіз! Тваё-маё! Якая розніца? Дрэнна мне, разумееш? Відаць, я падышла да таго моманту, калі патрэбна падвесці вынік нейкай частцы жыцця. Вось я падвяла, і што?

— Нічога…

— Вось у тым справа, што нічога! Пуста, гола, а туды ж — «душа», «дрэнна»… А што я зрабіла для таго, каб было добра? Што?!

Марына ўважліва паглядзела на сяброўку:

— Мне здалося, або ты і сапраўды гаварыла пра штосьці пэўнае?

— Ведаеш, шмат год назад я пакрыўдзіла столькі людзей, што цяпер страшна. І сярод іх быў адзін, які па-сапраўднаму разумеў мяне, а я…

— Так нельга, нельга караць сябе за тое, што было. Ты нічога ўжо не вернеш.

— Так, не вярну, — на хвіліну Вольга задумалася. Потым твар паяснеў, і яна прамовіла з нейкай садысцкай упэўненасцю і радасцю:

— Вярну, Марыначка, вярну!..

Вярнуць мінулае, парослае быльнягом, узварушыць сэрца… Тады адзіная думка свідравала: «Вярнуць, чаго б гэта не каштавала, тую цёплую восень, зноў адчуць пачуццё важнасці і значнасці, стаць такой, як дзесяць год назад, быццам і не было іх, гэтых дзесяці год».

«Толькі б знайсці яго!» — гэтая думка не давала спакою і ўвесь наступны дзень. Уяўляла, як яны сустрэнуцца, што скажуць адно аднаму… Зноў з'явіўся сэнс у жыцці, Вольга лётала на крылах. Але сама з сабою на адзіноце хавала смутак і трывогу, думкі: «Нашто мне гэта?» далей, глыбей у сэрца. У размовах з сяброўкамі пераконвала іх, а больш сябе, у тым, што ёй дрэнна без яго, што яна заўсёды кахала яго. Але сама ведала, што гэта не так. І шукае Вольга яго зусім па іншай прычыне. Больш для таго, каб зноў адчуць сваю жаночую моц, прыгажосць і адвечную ўладу над усімі мужчынамі. Бо сапраўды, за дзесяць год шмат памянялася, і Вольга таксама. З цыбатага падлетка яна ператварылася ў дзіўную кветку. Яе не назавеш прыгажуняй, але было ў ёй нешта, што прымушала затрымаць позірк на твары. Некалі адзін з яе каханкаў сказаў: «Ведаеш, цябе можна або кахаць, або ненавідзець, іншае немагчыма!» Яна не раз успаміпала гэтыя словы і думала, што той, хто іх казаў, меў рацыю. А ўвогуле, яна была сапраўднаю жанчынай, ні больш, ні менш, таму і шукала…

Халодная кватэра. На вуліцы дождж. Цішыня. Вольга зрабіла каву, залезла з нагамі пад коўдру і ўключыла тэлевізар. Навіны. Глядзела, абы заняць галаву. Сумна ўсё ж такі кожны дзень вяртацца ў пустую кватэру. Сябры раілі завесці ката або сабаку. Але катоў Вольга не любіла, а для сабакі была лянівай. І лічыла, што гэта толькі старыя дзяўчкі заводзяць нейкую жывёлу дома. Адзінымі жывымі істотамі ў Вольгі былі кнігі. Яны былі паўсюль. Стаялі ў кніжнай шафе, ляжалі стосам на стале… З імі Вольга магла «размаўляць» гадзінамі. Некаторыя з іх былі скрозь спісаныя, падкрэслены кожны радок, які меў для яе асаблівы сэнс. Вось і цяпер Вольга ўзяла ў рукі невялічкі томік паэзіі, разгарнула:

«У вашым голасе квітнеюць астры…»

Кава даўно прастыла. Раптам зазваніў тэлефон. Гэта было так нечакана, што рука здрыганулася і большая палова кавы вылілася на коўдру. Вольга падскочыла і подбегам кінулася да тэлефона:

— Я вас слухаю.

— Дзень добры. Гэта Вольга?

— Так, Вольга.

— Ты будзеш здзіўлена, але гэта я.

Нешта знаёмае здалося ёй у голасе. Яшчэ не верачы да канца, Вольга зразумела — ён.

— Ты?..

— Так, Волечка, я. Некалькі нечакана… Я, можа, адрываю цябе ад спраў?

— Не, не, не адрываеш. Ты здзівішся, але я думала, збіралася адшукаць цябе, толькі ты зрабіў гэта першы.

— Вось бачыш, мы і думаем аднолькава.

— Як ты мяне адшукаў? Столькі год прайшло…

— Выпадкова, зусім. Ды і якая розніца, галоўнае, што знайшоў. Але мне здаецца, што па тэлефоне ўсяго не скажаш. Я прапаную сустрэцца.

— Я з радасцю, канечне…

— Ну, тады давай заўтра. Ты маеш час?

— Так, канечне. Толькі дзе?

— Дзе? — голас на тым канцы провада памаўчаў, а потым назваў месца і час. — Падыходзіць?

— Падыходзіць. Я прыйду.

— Ну, тады да сустрэчы, званочак.

— Да сустрэчы, — рэхам адазвалася Вольга. З трубкі данесліся гудкі, а яна ўсё гэтак жа стаяла і нават не магла зварухнуцца. «Званочак»… ён памятае, як называў яе дзесяць год назад.

Дзіўныя рэчы здараюцца ў жыцці. Думала пра яго, марыла знайсці і вось, калі ласка, звоніць сам. З’яўляецца ледзь не з нябёс, інакш і не назавеш. Усё ж такі ёсць нешта, што кіруе ўчынкамі людзей, можна называць гэта як заўгодна — лёс, выпадак ці яшчэ што, але ёсць. Нарэшце, нібы прачнуўшыся, Вольга паклала слухаўку і, яшчэ хвіліну павагаўшыся, прайшла на кухню. Адчыніла халадзільнік, доўга нешта шукала, але, так нічога і не ўзяўшы, зачыніла яго. Паставіла на пліту чайнік, дастала каву, цукар. Знайшла і пачак цыгарэт, вагалася колькі хвілін, а потым разарвала ўпакоўку і выцягнула цыгарэту. Вольга не курыла ўжо год пяць. Паспрачалася з сяброўкай, што вытрымае тры месяцы без цыгарэт. Вытрымала і трымалася да сённяшняга вечара. Але цыгарэты былі ў яе заўсёды. Бо той, хто калі-нікалі збягаў ад жонкі да яе нанач або на гадзіну, пакурваў. Дарэчы, пры жонцы — не, а пры Вользе…

Нагрэўся чайнік. А Вольга стаяла ля халоднага вакна, уцягвала дым і адчувала, як лягчэй становіцца дыхаць, думкі прыходзяць да ладу і перастае вырывацца з грудзей сэрца.

Радасці не было. Можа, нешта падобнае да яе, але не яна.

Гадзіннік мерна адлічваў хвіліны. Была палова дзясятай, і Вольга адзначыла сама сабе, што пара класціся спаць. Заўтра панядзелак, трэба раней уставаць, ісці на працу. Працу сваю Вольга любіла. Гэта быў той рэдкі выпадак, калі інтарэсы духоўныя супадаюць з матэрыяльнымі. У свае дваццаць сем год яна ўжо мела і кватэру, і машыну… Амаль усё, пра што можна марыць. Каб жа стан чалавечай душы вымяраўся толькі матэрыяльнымі каштоўнасцямі, яна была б самай шчаслівай на свеце. Але немагчыма атрымаць усё адразу — і спакойную душу, і кватэру, поўную дабра.

Усё. Спаць. Спаць і больш ні пра што не думаць. Ужо лежачы ў ложку, Вольга на хвіліну ўявіла заўтрашняе спатканне, але сон мружыў павекі і хутка звёў іх.

Пасля ўчарашняй навалачы ранак здаўся казкай. Гэта і была сапраўдная казка. Сярод напаўабляцелых дрэў ззяла сонца і аблюбоўвала апошнія лісточкі. Ветру амаль не было. І неба, бязмежнае, восеньскае неба імчала над галавой… Над цёмнай юрлівай вадой лёталі птушкі, іх белыя крылы рассякалі паветра, і здавалася нават, што яны пакідаюць след. Цягучае густое паветра было напоена мноствам пахаў: мяккім — свежага хлеба, рэзкім — бензіну, звонкім — восені.

Вольга вельмі рэдка карысталася машынай, калі была магчымасць, яна заўсёды хадзіла пешшу. Тым больш, што шлях да працы быццам бы зрабіў для сябе Бог. Так было прыгожа. Звычайна яны сустракаліся з сяброўкай і, не спяшаючыся, ішлі. Але сёння Марына патэлефанавала і сказала, што захварэла. І хоць Вользе карцела пагаварыць пра ўсё з сяброўкай, больш хацелася пабыць на адзіноце.

Зазваніў тэлефон. На экране высвеціўся знаёмы нумар. Каго-каго, а таго, хто званіў, яна хацела чуць меней за ўсё, але ж трубку падняла.

— Волечка, сонейка маё, добрага ранку! — здалося, яна не пачула, а ўбачыла прыгожы твар і крыху нахабную ўсмешку. Нечакана ўзлавалася:

— Каму добры, а каму і не!

— Сонейка маё, што здарылася? Хто пакрыўдзіў майго коціка?

— Колькі я прасіла цябе — не трэба мяне так называць! І гаварыць са мною ў такім тоне не трэба! Я не дзіця!

— Добра, добра, але адкажы, хто ўжо з самай раніцы сапсаваў табе настрой?

— Ніхто мне яго не псаваў, проста ў мяне сёння цяжкі дзень, і я крыху хвалююся.

— Паслухай, Оля, я сёння забяру цябе з працы. З’ездзім куды-небудзь, павячэраем, а потым да цябе…

Вольга разгубілася. Сёння не магла. Але і адмовіцца ад запрашэння было цяжка, бо за апошнія тры гады прывыкла да гэтага чалавека. Ёй падабалася яго ўпэўненасць, весялосць. Ён увогуле быў нядрэнны па ўсіх параметрах, і таму яна асцярожна запытала:

— А што ты сказаў жонцы?

— Для жонкі я з сённяшняй раніцы на тыдзень з’ехаў у камандзіроўку.

— Ты мне прабач, але дзе ты быў учора, чаму не патэлефанаваў? Я ўжо распланавала дзень.

— Ну, па-першае, учора была нядзеля, а гэта, як ты ведаеш, святое, сямейны дзень, а па-другое, чаму я не ўваходжу ў твае планы сёння, калі тры гады ўваходзіў у іх у любы момант?

«Слушна спытаў», — падумала Вольга, але не адказала.

— Ну, не крыўдуй, я сапраўды не ведаю, як складзецца дзень. Я табе патэлефаную.

— У цябе нешта здарылася?

— Ды не, усё добра, да сустрэчы.

Вольга кінула тэлефон у сумку. Надзела на змерзлыя ўжо рукі пальчаткі. Трэба было зрабіць выбар, зразумела, што сустрэцца з абодвума немагчыма. Дык хто? Той, што заўсёды побач, або той, каго не бачыла дзесяць год і невядома, які ён цяпер…

Што б ні рабіла, чым бы ні займалася днём, думкі неадступна ішлі за ёй. Але, змучыўшы сябе, за нейкую гадзіну да канца працоўнага дня, прыняла рашэнне.

Падыходзячы да месца сустрэчы, пачала выглядваць знаёмую постаць. Яго пакуль не было. «Вось і добра», — яна падумала, што мае час справіцца з хваляваннем. Але гэта слаба атрымоўвалася. Яна стаяла на холадзе, вецер пранізваў, але яна не чула гэтага. Было неяк нязручна і страшна.

Нарэшце Вольга ўбачыла яго. Ён выйшаў з метро і, азіраючыся па баках, набліжаўся. Вольга, падпарадкоўваючыся ўнутранаму парыву, пайшла насустрач. Але ён нават не зірнуў на яе і збіраўся прайсці міма, калі б Вольга не гукнула яго. Непаразуменне ў вачах, у рухах… Ён разгубіўся, быццам хлапчук. Некалькі хвілін яны проста стаялі і глядзелі адно на аднаго, убіралі ў сябе ўсе рысы да драбнічкі і не маглі зварухнуцца. Нарэшце Вольга спытала:

— Ты не пазнаў мяне?

— Не…

— Эх ты… А я цябе пазнала адразу…

— Я нават уявіць сабе не мог, што ты так змянілася.

— Так, змянілася. Людзям уласціва мяняцца. Тым больш, за такі час.

— Ну, куды пойдзем?

— Гэта ты вырашай сам. Але мне хацелася б прагуляцца. Надвор'е такое цудоўнае. — І сядзець адно насупраць другога Вольга не была гатова.

Гуляць дык гуляць.

Некаторы час ішлі моўчкі. І адзін, і другі былі ўзрушаны, таму патрэбны быў нейкі час, каб утаймаваць пачуцці. Ён зрэдку паглядаў на яе з нейкай уважлівасцю, а яна ўсміхалася, і за ўсмешкай хавалася няёмкасць, таіла нялоўкасць.

Сонца садзілася. Нарэшце ён спытаў:

— Як ты жывеш? Што цікавага ў тваім жыцці?

— Усё цікава і ў той жа час нічога. Жыву, працую. А так усё як і ва ўсіх.

— Ты замужам?

— Не.. Пакуль ніхто не хоча быць шчаслівым… — Вольга сумна ўсміхнулася. — А ты?

— Я жаніўся. Сыну ўжо два гады.

— Ты шчаслівы?

— Не магу сказаць, што так, і не магу сказаць, што не. Няма… Нечага не хапае нам, каб да канца зразумець адно аднаго.

Нейкі час маўчалі. Яна ўважліва разглядвала яго. Звычайна, нават бедна, апрануты, але не гэта яе ўсхвалявала. Не было відаць на ім цёплай жаночай рукі, ён увесь быў нейкі разгублены і нявыказаная туга ў вялікіх прыгожых вачах. Яна ўжо зразумела, што, на жаль, нічога не вернеш. Столькі вады сцякло за дзесяць год, што яны сталі зусім чужымі. Ужо надакучыла цягацца без мэты, ды і не бачыла яна сэнсу. Ён, відаць, таксама адчуў гэта:

— Ну, будзем развітвацца?

— Так, будзем.

— Я пазваню.

— Звані.

На тым і разышліся. У адну і тую ж раку двойчы не ўвайсці.

Вярнулася Вольга дадому, і стала так цяжка, што не выказаць. Яшчэ адна мара знікла, рассыпалася на дробныя кавалачкі. Слёзы каціліся па шчоках, буйныя кроплі, салёныя і празрыстыя. Каб крышку меней было іх у жыцці.

Узяла тэлефон, набрала знаёмы нумар і, давячыся слязьмі, прашаптала:

— Планы змяніліся. Я чакаю цябе…

— Еду, маё сонейка, еду…



*Ганна Аўчыннікава нарадзілася ў 1986 годзе ў Гродне. Скончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы, цяпер вучыцца ў аспірантуры гэтага ж універсітэта. Працуе лабарантам на кафедры беларускай мовы. Аўтар публікацый у часопісе «Дзеяслоў», у калектыўных зборніках.*

Ганна АЎЧЫННІКАВА

# АБДЫМКІ ЛЁСУ

* * *

Па табою пакінутых кнігах
Я чытала сваё дзяцінства:
Пра сады, дзе сыплецца лісце,
Нібы пер'е параненых птушак,
Пра людскія светлыя душы...
Пра людзей, што страцілі веру,
Пра душу, што падае ў цемру...
Мы жылі па законах страху,
Уцякалі з абдымкаў лёсу:
Хоць прайшлі па рабрынах дахаў,
Не патрапілі на нябёсы...

**КАФКА**

Падарожны да самага ранку
У гатэлі спачне між снягоў.
Цела К. падыходзіць да Замка
І не можа прайсці праз яго.
І не можа, не можа да Клама
Даляцець яго голас праз двор.
Дапіваю астылую каву
І чытаю няскончаны твор.

* * *

Ты глядзіш на вільготную шыбу —
Я гляджуся ў сябе, як заўсёды.
Тут да рання застацца маглі б мы,
Ды забрала цябе адзінота.
Мне здаецца, я права не маю
На цябе, на сябе, на кагосьці.
І ў напой восень мне далівае
Кроплі роспачы, стомы і злосці.
Я з віном выпіваю бяссонне.
Ты ўсё паліш свае цыгарэты...
Ну, давай пацалуемся сёння
Хоць яшчэ раз... І скончым на гэтым.

## ЭЛАІДА*

Адышла каляровая восень,
А зімы ў гэтым годзе не будзе.
Па Гародні плыве адгалоссе,
Ад якога хаваюцца людзі.
Я выходжу адна на сустрэчу.
Як забытая мара, як выдых,
У паветры праз стомлены вечар
Мне насустрач ляціць Элаіда.
Так пяшчотна багіня смяецца:
«Я суцешу цябе, калі хочаш».
І чытаюць жаданні праз сэрца
Серабрыста-блакітныя вочы.
«Табе зорачкі будуць за дзетак,
тваім суджаным зробіцца вецер...»
Я багіні сказала на гэта:
«Так і здарыцца ў лепшым Сусвеце».

## АБЯЦАНАЯ ЗЯМЛЯ

Мы апынуліся на свяце ў зале,
Калі прайшлі апошнюю з дарог.
Дык дзе Зямля, якую абяцалі? —
Але й падлога выбіта з-пад ног!
Вакол агні, чырвоныя напоі...
Ды слёзы на вачах тваіх ізноў.
Размова пачынаецца з табою,
Але паўзмрок не прапускае слоў.
Ужо заслала твары сінім дымам,
І сябра прашаптаў табе: «Бывай!»
А ты глядзіш бліскучымі вачыма
І сустракаеш Абяцаны Край.

## ТРЫЯЛЕТ

Дзверы зачынены. Скончыўся вечар.
Ноч атуляе цябе і мяне.
Хто ў апусцелы наш свет зазірне?
Дзверы зачынены, скончыўся вечар.
Толькі сняжынкі звіняць у вакне —
Цемра вакол. Пасля нашай сустрэчы
Дзверы зачынены. Скончыўся вечар.
Ноч атуляе цябе і мяне.

* Багіня кахання, якой наканавана памерці.

## МЕЛАНХОЛІЯ

У самай цудоўнай кавярні
За перасалоджанай кавай
Гляджу праз вялікія вокны
На вуліцу і на людзей.
Ніхто не пытае, чаму я
Прыходжу сюды ў адзіноце,
Ды кожную раніцу нейкі
Завязваецца дыялог.
Мне, пэўна, ў жыцці не хапае
Абыякавасці
Далікатнай,
Што ўсе называюць свабодай,
Ды гожай аддаленай мары,
Якая не страціць мяне.

* * *

Песні твае паляцяць да аблокаў,
Словы мае разаб'юцца аб вецер.
Я не зракаюся мары далёкай
І не кідаю цябе ў гэтым свеце.
Я застаюся дажджу лёгкім дотыкам,
Рэхам, якое блукае між часу,
Пад вітражамі высокае готыкі
Ціхай малітваю і дысанансам.
Песняй, напоўненай слёзнай трывогай,
Смехам, які не згасае ў журбе.
Бог паяднаў нас адною дарогай.
Свет чалавечы і Боскі — ў табе.

* * *

Не пякельны агонь,
не агонь ачышчальны —
Проста вокны гараць развітальным
агнём.
Успаміны свае я па кроплях збіраю,
Але ўсё ж пакідаю зачынены дом.
Гэты свет зразумелы, бо зменены намі.
Тут любая дарога як шлях у палон,
І ні замкаў няма, ні адчыненых храмаў,
Толькі роспач на сэрцы
І сцішаны звон.
Летуценні забытыя сёння збяруцца
Не судзіць, а нагадваць пра ўсё, што было.
Ды пакіну я ўсё, каб назаўтра вярнуцца,
І калі не праз браму —
Тады праз святло.

# ВЯРТАННЕ ГРАФІНІ-ЛІТВІНКІ



*Імя графіні Габрыэлі з Гюнтэраў Пузыні (1815—1869) сёння амаль невядома беларускаму чытачу. А ў XIX стагоддзі гэта была прызнаная пісьменніца. З-пад яе пяра выходзілі вершы, апавяданні, п'есы, успаміны. Пісала графіня Габрыэля на польскай мове, бо ў тыя часы гэта была пісьмовая мова нашага краю. Яна была адной з трох дачок графа Адама Гюнтэра і Аляксандры з Тызенгаўзаў. Неўзабаве па нараджэнні Альбіны Габрыэлі бацька набыў палац Дабраўляны ў Ашмянскім павеце, аднавіў яго, пачаўшы адбудову з капліцы, і сям'я асталявалася там на сталае жыхарства. Мелі таксама дом у Вільні, дзе звычайна праводзілі зімы. Дабраўлянскі палац Гюнтэраў быў адным з культурных асяродкаў краю, там збіралася творчая інтэлігенцыя: пісьменнікі, мастакі, кампазітары, навукоўцы. Тэрытарыяльна Дабраўляны належалі да той часткі Беларусі, што ў тыя часы называлася Літвой. Жывой народнай мовай на гэтых землях была мова беларуская. Габрыэля з дзяцінства ўвабрала ў сябе любоў да роднай зямлі, — любоў, якая ў яе творчасці яскрава выявілася як «літвінскі» (а насамрэч беларускі!) патрыятызм. Таксама з увагай адносілася яна да жыцця і гаворкі простага люду — сялян сваіх вёсак.*

*У 1851 г. Адам Гюнтэр падзяліў маёмасць паміж сваімі дочкамі: Габрыэлі дасталіся Заблоць і Нястанішкі ў Свянцянскім павеце, дзе яна пабудавала двор, названы Патуліным, а таксама Ігуменава ў павеце Дзісенскім. У 1851 г. Габрыэля пабралася шлюбам з Тадэвушам Пузыням, і з таго часу месцам яе сталага жыхарства стаў маёнтак мужа Гарадзілава. Менавіта гэтыя «літоўскія двары», жыццё ў іх апісвала графіня-пісьменніца ў сваіх славутых успамінах «W Wilnie i dworach litewskich» (выдадзеныя ў 1928). У 1843 г. у Вільні выйшаў з друку першы паэтычны зборнік Габрыэлі Гюнтэр «W imie Boże» («У імя Божае»), куды ўвайшлі вершы хрысціянскай тэматыкі, што сведчылі*

*пра глыбокую духоўнасць яго аўтаркі. Назва кнігі і вершы ў ёй былі выражэннем першай біблейскай запаведзі — любові да Бога, прысвячэння Богу свайго жыцця. Габрыэля вырасла ў атмасферы глыбокай хрысціянскай духоўнасці, з дзяцінства ўвабраўшы ў сваю свядомасць ісціну, што ўсякую справу трэба пачынаць ад Бога і з Богам, — так, як і яе бацька, граф Адам Гюнтэр, які пачаў адбудову сямейнага палаца з капліцы, выразна разумеючы парадак рэчаў у свеце, узаемадачыненні боскага і чалавечага.*

*Другая запаведзь — любоў да бліжняга — вынікала з першай, абумоўлівалася ёю, спараджала тую асаблівую пачцівасць у адносінах да сваіх родных, знаёмых, сяброў і, як ужо згадвалася, — да простага люду ў даручаных пад апеку вёсках. Такой любоўю да бліжняга, спагадай і чуласцю быў напоўнены другі паэтычны зборнік Габрыэлі «Dalej w świat!» («Далей у свет!»), выдадзены таксама ў Вільні ў 1846 г. У сваёй літаратурнай дзейнасці Габрыэля часта выкарыстоўвала назву першай кнігі ў якасці псеўданіма: «pszez autorką «W imie Boże». У 1859 г. абедзве кнігі, дапоўненыя новымі творамі, былі перавыдадзеныя пад адной вокладкай: «W imie Boże — Dalej w świat!». За знешняй літаратурнай «дамскасцю», камернасцю матываў і «прыватнасцю» вобразаў бачацца два выразныя складнікі светапогляду Габрыэлі Пузыні, якія вызначаюць ідэйнамастацкую сутнасць і змястоўную напоўненасць яе твораў, а таксама робяць іх актуальнымі для сучаснасці: гэта хрысціянская духоўнасць і «літвінскі» (беларускі) патрыятызм. Імі прасякнута ўся яе творчасць. Не выключана, што Габрыэля Пузыня пісала таксама па-беларуску.*

*Адметным фактам яе творчай біяграфіі стаў верш-прысвячэнне Адаму Міцкевічу, які быў пасланы паэту ў Парыж разам з нёманскай вадой і кветкамі з ковенскай даліны. Гэта быў сімвалічны дар з радзімы: «Не пагардзіш маім дарам, Літвіне, бо ў ім таемная ўлада ўспамінаў /... / Нёман, удзячны табе за песні хвалы, ад імя Літвы цябе ён вітае /... / Я таксама Літвінка, звяртаюся да цябе з гонарам, імя тваёй зямлячкі надае мне пяснярскую адвагу», — пісала яна ў сваім вершы. У 1850-я гады Габрыэля становіцца вядомая як празаік, а затым і як драматург. Асаблівую літаратурную каштоўнасць маюць успаміны Габрыэлі Пузыні «W Wilnie i dworach litewskich», над якімі яна працавала да канца свайго жыцця. Пераклад успамінаў на беларускую мову рыхтуецца зараз намі да друку.*

*Прадстаўляем на суд чытачоў два апавяданні Габрыэлі Пузыні ў нашым перакладзе: «Помста літвінкі» («Zemsta Litwinki») і «Слоўцы люду» («Słówka ludu»), — у якіх найбольш яскрава выявіўся «літвінскі» патрыятызм графіні і яе асаблівая ўвага да жыцця беларускага сялянства. Абодва апавяданні напісаны ў 1856 г., першае — без пазначэння месца, а другое — у фальварку Пузыняў Гарадзілава. Першае апавяданне мела падзагаловак «праўдзівае здарэнне» і было напісана з тонкім гумарам. Яно прасякнута шчырым мясцовым патрыятызмам. «Літвінская» адметнасць і адрознасць ад «польскасці» абараняецца тут з гонарам, лёгкай іроніяй і арыстакратычнай дасціпнасцю. Аўтарка акцэнтуе ўвагу на тым, што ў варшаўскіх салонах Літву і літвінаў чамусьці ўспрымалі з пагардай як грубую і змрочную правінцыю. З віртуозным апавядальным майстэрствам яна разгортвае сюжэт, у якім можна заўважыць біяграфічныя рысы. Гэта гісторыя аб тым, як у асобе варшаўскага кузена была правучана ўся варшаўская (польская) арыстакратыя, што пагардліва ставілася да Літвы яшчэ, бадай, з часоў Боны Сфорцы.*

*Цыкл апавядальных мініяцюр графіні Габрыэлі «Слоўцы люду» — гэта абразкі з жыцця беларускіх сялян, напісаныя з ужываннем беларускай мовы. Пісьменніца выкарыстоўвае метафару сяўбы і зярнят: свае апавяданні-карацелькі яна называе «зярнятамі» (усяго іх у творы адзінаццаць). Пузыня нібы адкрывае для сябе і свайго саслоўя высакародства душы, «шляхетныя ўчынкі», годнасць і дасціпнасць сялян. Да таго ж яна пільна прыслухоўваецца да мовы простага люду (а гэта, заўважым зноў, мова беларуская) і ўводзіць асобныя словы з яе ў свае апавяданні: напрыклад, «krzyż budzie, і horoszeńki». У сваёй паэтызацыі народа Пузыня звяртае ўвагу на такія годныя чалавечыя якасці сялян, як іх набожнасць, маральная неразбэшчанасць, чуласць. Ім уласцівы высокія чалавечыя пачуцці (каханне, вернасць, мацярынская самаахвярнасць), а таксама здольнасць да духоўнага подзвігу. Досыць скупымі рэалістычнымі сродкамі яна стварае запамінальныя жывыя вобразы простых людзей. Гэта селянін Вінцэнт Кальчынскі, які ставіць вялізны крыж каля вёскі, таму што прысніў прарочы сон, праз які Бог даручыў яму гэтую справу. Гэта і вясковая жанчына-маці, якая не згаджаецца ні дзеля якіх выгод і раскошы кінуць сваю сям'ю і стаць карміцелькай панскага дзіцяці. Але даведаўшыся, што тое дзіця хутка можа памерці, яна тут жа збіраецца і едзе, каб выратаваць яго ад смерці. Запамінальныя таксама вобразы стогадовай старой, якая захоўвала сябе ў поўным посце па тры дні на тыдзень, жабрачкі, якая шукала згубленыя грошы. Стрыжнем некаторых замалёвак-«зярнят» з'яўляюцца падслуханыя ў народа афарызмы і дасціпы. Бачым тут сапраўды шчырую зацікаўленасць і ўвагу да жыцця, учынкаў, складу мыслення і мовы простых людзей. Апавяданні ў цэлым сведчылі аб глыбокіх патрыятычных пачуццях, любові да чалавека працы і аб хрысціянскім гуманізме пісьменніцы.*

*Наша публікацыя — гэта вяртанне пісьменніцы-патрыёткі ў родны край — на Беларусь, якую яна тады называла Літвой. Гэта вяртанне ў літаратуру графіні-арыстакраткі, якая ўмела бачыць і паважаць асобу ў простым чалавеку. Сярод «краёвых» пісьменніц сярэдзіны XIX стагоддзя таленту Габрыэлі Пузыні, на нашу думку, належыць першае месца, і яго можна параўнаць з талентам Сыракомлі і Дуніна-Марцінкевіча.*

*Пераклад апавяданняў зроблены з выдання: Puzynina G. Małe a prawdziwe opowiadania. — Wilno, 1857.*

***Ірына БАГДАНОВІЧ***

Габрыэля ПУЗЫНЯ

# ПОМСТА ЛІТВІНКІ

## ПРАЎДЗІВАЕ ЗДАРЭННЕ

*Мы не ведаем, чаму прыпісаць,* што з нейкай пары панове варшавяне сталі менш даймаць літвінаў *бацвіннем* і казаць, што ў Літве *цёмна, халодна, нудна і брудна*? У дзяцінстве, будучы ў Варшаве, надарылася мне чуць падобныя жарты, якія для сэрца літвінкі (што ўспрымала ўсё даслоўна) былі дужа балючымі! І толькі цяпер з-за перамены думкі варшавян той боль крыху ўлагодзіўся.

Літва для Варшавы доўга была тым, чым дагэтуль ёсць Гасконія для парыжан і чым, на жаль, Жмудзь была для літвінаў: гэта значыць, аб'ектам кпінаў альбо здзіўлення, калі хто-небудзь з той гучна вядомай і дзікай правінцыі аказваўся разумнейшым за таго, хто яго высмейваў.

Княгіня О*, з вуснаў якой я і пачула наступнае здарэнне з часу яе маладосці, была літвінка, але шмат крэўных, асабліва з боку мужа, мела ў Варшаве. Раскошная рэзідэнцыя князёў О*, што месцілася ў самым цэнтры іх уладанняў на Літве, славілася на ўсю ваколіцу сваёй пышнасцю і гасціннасцю. Яны прывыклі праводзіць у ёй большую частку года, але таксама часта бывалі ў Варшаве. Іхнія крэўныя, не маючы з чаго высмейваць кузынку, выхаванне і вопратка якой патыхалі Парыжам, скіроўвалі дзіды сваіх досціпаў на правінцыю, адкуль яна была родам, — кажучы, што яна пахавае сябе *ў той цёмнай, халоднай і бруднай Літве*. А калі княгіня О*, абараняючы сваю зямлю, апісвала жыццё, якое вялі тамтэйшыя жыхары, замест таго, каб яе слухаць і ёй верыць, захапляліся яе талентам імправізацыі, цешыліся з яе гатоўнасці прысвяціць сябе мужу і абавязкам, не даючы рады, дзеля чаго столькі розуму і абаяльнасці яна закопвае ў снезе, сярод мядзведзяў; а пад гэтым разумелі не толькі слаўных вучняў Смаргонскай акадэміі, але і саміх суайчыннікаў князёўны.

— Што ты нам там пляцеш пра палацы і сады, — усклікалі зацятыя ў сваім перакананні варшавяне. — Ці ж мы не ведаем, якое ў паноў літоўскіх на вёсцы жыццё? Ваша жытло — гэта курная хата, седзіцё вы на гарохавай саломе, ясцё што Бог даў, бацвінне або рэдзьку са смятанай. Адзенне — суцэльны парад французскіх строяў! Каб даглядаць птушку і грады, маеце даматканыя паўсалопікі, а вы, гаспадары ў белых балахонах, пячэцеся на сонцы з ранку да вечара пры пакосах. Хіба не так? Віншуем вас, але не зайздросцім!

«Добра, добра, — думала сабе пачцівая літвінка, слухаючы тую бязглуздзіцу, — гаварыце сабе на здароўе, знайду я спосаб адпомсціць за зневажэнне гонару майго краю». …І нядоўга чакала, бо найбліжэйшы з крэўных яе мужа, граф Л., які найбольш сабе дазваляў кпіць з літвінаў, аселы ў Варшаве і гарачы паклоннік сваёй любімай Варшаўкі, заявіў кузенству, што наўмысна збярэцца ў Літву, каб абавязкова наведаць іх на вёсцы. Калі ж ён тое прамаўляў, здавалася, што здзяйсняў нейкі поўны гераізму ўчынак. Не ходзіць тут аб тым, каб панове варшавяне так кепска думалі пра Літву, як дазвалялі сабе з яе кпіць. Усё-ткі з геаграфіі і статыстыкі яны добра ведалі пра малую розніцу клімату паміж Каралеўствам і Літвой. Вільня ж наогул славілася ўніверсітэтам, да якога Валынь, Падолле і Украіна, нават Каралеўства выпраўлялі сваю моладзь па навуку. Ужо і голас песняра з-над Нёмана і

Віліі сцвердзіў перавагу шаляў рамантызму над класіцызмам, а стырно Варшаўскага ўрада хто ж трымаў, як ні Літвін?.. Пляткарылі, аднак, супраць Літвы абы пляткарыць, бо так было модна, бо хтосьці гэтаму пляскваў; а, можа, і таму, што самаўпэўненыя літвіны слаба бараніліся.

Але я адхілілася ад тэмы. Князі О*, выязджаючы з Варшавы, упэўніліся, што неўзабаве іх мае чакаць прыезд графа Л., і вярнуліся ў Літву, у свае чароўныя С… Зараз жа па прыездзе княгіня напісала лісты да яе ўласных крэўных, запрашаючы іх да сябе на пару тыдняў. Усё ішло паводле яе плана. Паштовы тракт быў недалёка ад двара, а знаёмы паштмайстар, загадзя папярэджаны, як мае паступіць з падарожным такога-та імя і звання, забяспечыў княгіні па прыбыцці госця негатоўнасць яго сустрэць.

Калі аднойчы ранкам у найлепшым гуморы (бо была ўпэўнена ў добрых выніках задуманай ёй помсты) княгіня О* давала ўказанні сваім паннам, на дзядзінец конна ўляцеў паштальён з апошняй паштовай станцыі і паведаміў, што граф Л. прыехаў.

— Але коней не дастане да вечара, хіба не так? — запытвае княгіня.

— Так, яснаасвячоная пані, зараз усе ў *разгоне*[1], няма ніводнага ў стайні, пакуль сонца не сядзе.

— Гэта добра, дык жа памятай, каб роўненька ў змроку прыбыў сюды граф Л. А ці ведаеш, адкуль пад’ехаць?

— Ведаю, і няхай яснаасвячоная пані не турбуецца, сам яго прывязу і здалёку буду трубіць.

А тым часам, усяго за мілю ад мэты свайго падарожжа, граф Л. хадзіў злосны і галодны па цесным будынку паштовай станцыі, штохвіліны пазіраючы то ў левы, то ў правы бок тракту, ці не вяртаюцца коні, што меліся яго завезці да кузенаў.

— Але ж гэта ўсё ашуканства! Вы мяне падманваеце, — нарэшце залямантаваў ён, стукаючы нагой па падлозе. — Няма коней…, што за лухта? Тракт пусценькі, я нікога на ім не сустрэў. Пакажыце кнігу, я ўпэўнены, што ніхто не ехаў. Я буду скардзіцца ўраду! Што гэта за адносіны да падарожных?

Але дарэмна ён так абураўся. Паштмайстар, нявінны ва ўсёй той справе, у зручны момант выслізнуў са станцыі. Бедны граф Л. выйшаў на ганак і пытаўся ў кожнага сустрэчнага:

— А ці далёка адсюль да С…?

— Міля будзе ў бок тракту.

— Ну то я пехатою хутчэй дайду!

— Наўрад ці, пане: тут багна і пяскі.

— Якая праклятая краіна! Яшчэ горшая, чым я сабе ўяўляў; на ліха мне было гэтае падарожжа!

І зноўку хадзіў надзьмуты, аж пакуль сонца не пачало апускацца на захад. А паштмайстар зметкаваў, што самы час, каб коні ўрэшце знайшліся, і прыйшоў паведаміць гэтую радасную навіну графу.

Не прайшло і паўгадзіны, як зняможаны варшавяк пад гукі вясёлага рога пыліў па дарозе да С… Насамрэч ён не думаў ані знайсці сваіх кузенаў у курнай хаце, ані пра крупнік на стале. Ён забыўся нават на свае кпіны, цешачыся надзеяй адпачыць у прыгожых салонах і смачна павячэраць пасля цалюсенькага дня посту.

— Ці далёка яшчэ? — пытаўся ён ледзь ні штохвіліны ў паштальёна.

— Зараз, — адказваў літвін, — вось ужо і двор відаць.

Варшавяк высоўваўся з вазка, каб толькі як найхутчэй убачыць доўгачаканы

---

[1] Беларускае слова, ужытае аўтаркай у тэксце арыгінала (заўвага перакладчыка).

палац. Але, як на злосць, змрок ахутваў усё навокал, і, нібы ў змове з княгіняй, імгла асядала на ўсенькія будынкі вялізнага дзядзінца, куды тым часам уязджалі.

Вазок раптам спыніўся.

— Няўжо прыехалі? — спытаў здзіўлены граф, бачачы, што нізкі дом, перад якім спыніліся, і ганак на трох з паловай драўляных падпорах зусім не быў падобны на княскую рэзідэнцыю. На ганку паказаліся гаспадары, якіх граф пазнаў па галасах. Гэта былі самі князі О*.

— Каго гэта Бог прывёў пад нашую страху? — пачуўся першым голас князя.

— Гэта я, — адазваўся падарожны.

— Няўжо гэта ты, Генрык? Які мілы сюрпрыз! А мы ўжо зусім страцілі надзею ўбачыць цябе.

— І трэба ж было так доўга прымушаць нас чакаць? — дадала кузынка.

— Дык я зранку ўжо сядзеў на вашай праклятай станцыі! — адказаў граф Л., выходзячы з вазка. — Не было коней ці не жадалі мне іх падаваць. Занудзіўся я страшэнна і згаладаўся.

— Ай-я-яй! — адказваў князь. — Трэба ж было нам паведаміць, мы б табе прыслалі і калымажку, і пляшку.

Увайшлі ў сені. Там пры бляску лучыны, запаленай і ўваткнутай у сцяну, убачыў госць павывернутыя кублы і вядзерцы, кадушкі з буракамі і паўсонных курэй. Пры дапамозе таго ж свяцільніка ўбачыў ён і саміх гаспадароў у выключна вясковых строях. На князю была ўжо добра паношаная тарататка, палёныя боты і кнут за поясам. Княгіня — у вялізным паркалёвым каптуры, які аж спадаў ёй на вочы, і ў блузе з грубага палатна, завязанай на шнурок пад шыяй. Хацеў гжэчны кузен пацалаваць ёй ручку, але вусны яго трапілі на слой чарназёму і пяску, якім былі запэцканы рукі парыжанкі.

— Выбачай, кузене, — гаварыла яна, аціраючы далоні аб вялізны фартух, — палола грады і з радасці, што ты прыехаў, не паспела памыцца.

— Ты казаў, што галодны, — перарваў князь. — Можа, падаць закуску і гарэлачку?

— Зараз будзе гарбата, — перарвала кузынка і зашаптала штосьці на вуха растрапанай і босай дзяўчыне, дастаючы з-пад фартуха вялізную звязку ключоў.

— Давай прысядзем, — сказаў князь госцю, які, уражаны задухай цеснага і нізкага памяшкання з малымі вокнамі і дробнымі шыбамі, хацеў прапанаваць вярнуцца на ганак, але не асмеліўся.

— Прашу прабачыць, — сказала кузынка, паказваючы госцю на вялізны мех з гарохавай саломай як на крэсла. — Тут будзе выгодней, чым на зэдліку.

Стол, перад якім уселіся, нагадваў хутчэй кухонную дошку, на якой былі бачныя свежыя сляды ад сечаных буракоў. Нягледзячы на спёку, у каміне гарэў моцны агонь.

— Літвіны не могуць жыць без агню, — сказала княгіня, заўважыўшы здзіўленне кузена. — Але запалім і свечкі.

І зноў пачаліся шэпты з растрапанай Касяй, якая праз паўгадзіны прынесла два падсвечнікі: адзін срэбны з туалетнага століка самой пані, а другі латунны, скляпаны волавам. Гарэлі ў іх сальныя свечкі рознага памеру. Дзяўчына паставіла адзін свяцільнік на стале, а другі на шафе і выйшла.

Граф Л., здагадваючыся аб нечым, гатовы быў голасна засмяяцца. Зірнуў на кузынку, але, перахапіўшы яе ўпрашальны і сарамяжлівы погляд, не пасмеў больш яе бянтэжыць і зрабіў выгляд, што ўсяго гэтага бязладдзя не бачыць. Хто ведае? Падумаў сабе, можа, яны сапраўды жывуць у такой нястачы. Усяк жа мой прыезд быў для іх неспадзяваным…

Кася ўнесла тайстру з гарбатай. Фаянсавы імбрык у блакітныя кветкі меў толькі палову носіка, а накрыўка была прывязана да ручкі шнурком; філіжанкі і сподкі былі з іншага, чым кубкі, сервіза, лыжачкі таксама. Сухарыкі былі цвёрдыя, як камень, вяршкі добрыя, але затое сама гарбата некалькі дзён пражылася ў печы, а замест цукру быў мёд… Да ўсяго гэтага ў якасці далікатэсу дадавалася варэнне з мёдам… Адвага і самаахвярнасць, з якімі наш варшавяк рыхтаваўся да спаўнення абавязку, выглядалі настолькі камічна, што калі б не яго суцэльная занятасць філіжанкай, дна якой ён ніяк не мог дачакацца, граф Л. заўважыў бы ўсмешку на вуснах кузынкі. Але хвіліннае забыццё сваёй ролі знікла гэтак жа хутка, як і прыйшло. Зноў яна бразгала ключамі і аддавала загады дзяўчыне.

Размова тым часам ішла аб Варшаве і Парыжы. Пан Л. запытваў кузынку, ці не мае яна пры сабе пляменніц, якія звычайна праводзяць у яе вакацыі?

— А як жа, маю! Яны тут, — адказвала княгіня. — Але цяпер яны перабіраюць гарох на вячэру і прыбудуць пазней.

Князь увайшоў з бутэлькай самагону ў адной руцэ і вялізным кілішкам у другой і аб'явіў, што супніца на стале.

— Супніца? Ці ў вас так позна абед? — спытаў граф Л., адсоўваючыся крыху ад келіха.

— Гэта вячэра. Мы а дзявятай ядзім і адразу ў ложак.

Перайшлі ў суседні пакой, дзе ў такой жа гармоніі, што і гарбатны сервіз, была накрыта вячэра на грубым брудным абрусе са шчарбатымі талеркамі і жалезнымі сталовымі прыборамі. Ад крупніка з супніцы ўзнімалася пара.

Бедны граф Л., які заявіў па прыездзе, што галодны, вымушаны быў спажыць цэлую міску крупніку! Другой стравай была верашчака са свіным хвастом, далей гарох з морквай, што плаваў у вадзе, нарэшце варэнікі з салёным сырам.

— Выбачайце, але гэта ўсё, — сказаў гаспадар. — У нас вячэра кароткая і лёгкая, каб не абцяжарваць страўніка перад сном. А на тым і дабранач! Ложак брата-дабрадзея пасцелены ў адрыне на пахучым сене, толькі прабач, што пойдзем туды без свечкі, каб не нарабіць пажару.

— Мне вельмі шкада, што з такой мілай гасціннасці не магу больш карыстацца, — сказаў граф Л., беручы (але ўжо не цалуючы) руку кузынкі.

— Як гэта? — усклікнулі разам князь і княгіня.

— Пільны інтарэс кажа мне пасяшаць далей.

— Але ж ты абяцаў прабыць у нас цэлы месяц?

— Я ў дарозе атрымаў тэрміновы ліст; будзьце ласкавы адаслаць мяне на першую ж станцыю.

Дарэмнымі былі просьбы гаспадароў. Граф Л. быў няўмольны. Ягоны інтарэс не цярпеў ніякай адтэрміноўкі.

— Калі так, — гаворыць княгіня, — было б дрэнным тонам даўжэй затрымліваць кузена; мы ўжо і за тое павінны быць яму ўдзячныя, што ён ахвяраваў нам некалькі гадзін.

Гаворачы так, падала яму руку, і яны выйшлі на ганак.

Ноч была само хараство, а насупраць ганка на фоне чорнага, як аксаміт, неба вымалёўваліся агністыя рысы нібыта паветранага замка, вокны якога былі ярка асветлены, а здалёк лілася музыка, расплываючыся ў паветры, як нябесная мелодыя.

— Што гэта? — спытаў здзіўлены граф.

— Гэта дзеля твайго прыезду, каб на хвілінку даўжэй цябе ў нас затрымаць, — адказала княгіня О*, сыходзячы з ганка і праводзячы ўжо паслухмянага кузена

доўгай алеяй са старых ліп да замка, адкуль святло і музыка, здавалася, выходзілі на спатканне з імі.

Увайшлі ў прасторны прыгожы пярэдні пакой, адкуль вяла наверх каменная лесвіца.

— Прашу, — сказала княгіня ўражанаму кузену. А калі падняліся наверх, адкрылася велікапышная зала, светлая, як сонечны дзень. Яны ўбачылі купку дам і дзяўчат, упрыгожаных кветкамі, а на хорах музыкі гралі паланэз Агінскага.

— Што гэта? Дзе я? Можа, я сплю… Што тут праўда, а што ілюзія? — усклікнуў у захапленні граф, звяртаючыся да княгіні. Але замест яе, дакладней замест упэцканай зямлёю бабы з ключамі, ён убачыў сваю кузынку, але такой, якой бачыў яе раней, апранутай, як парыжанка. Начны змрок і ачмурэнне кузена далі ёй магчымасць перамяніць той маскарад, які быў толькі знешнім.

Граф Л. апусціўся на калена перад княгіняй.

— Варажбітка! Каралева! Гавары, дзе я цяпер?

— Цяпер ты ў Літве, — адказала з акцэнтам княгіня О*. — У доме літвінаў, якія прывыклі так жыць, калі Бог ім дае з чаго.

— Але ж тая хата? Тая гарохавая салома? Тая небарака-верашчака?..

— І тое Літва, але такая, якая існуе ва ўяўленні варшавякаў, — дадала з усмешкай княгіня.

— Ах, я заслужыў на гэтую містыфікацыю! — весела ўсклікнуў граф Л. — А зараз, дарагая кузынка, — сказаў ён, цалуючы яе руку, — дазволь мне адмовіцца ад няшчырых папярэдніх слоў і згадаць сваё даўняе абяцанне: я адсюль не паеду!

— Мы прадбачылі гэта, — прамовіў князь, — твой экіпаж у вазоўні, а валізка ў апартаменце.

— Дзякуй вам, дзякуй! — адказаў граф Л., паціскаючы руку гаспадара. — Цяпер можаце пасяліць мяне хоць у адрыне.

Зараз жа кузена-варшавяка пачалі прадстаўляць і знаёміць з літвінкамі. Гожыя пляменніцы княгіні О* дасціпнай размовай і талентамі давяршылі навяртанне недаверка. Панны В. гралі і спявалі цэлы вечар. Назаўтра быў аматарскі тэатр, а танцы штодзённа.

Граф Л. ужо не адзін месяц, але шэсць правёў у зачараваным замку; а калі вярнуўся да Варшавы, то, чуючы кпіны з Літвы, станавіўся на яе абарону і расказваў пра помсту літвінкі.

*1856 г.*

# СЛОЎЦЫ ЛЮДУ

Шмат маем цяпер друкаваных *песень люду* і *апавяданняў для люду,* але амаль нідзе няма слоўцаў і ўчынкаў таго Божага люду, якія б нам найлепей яго апісалі, бо да такога кшталту не належаць змешчаныя ў зборніках анекдотаў хітрыя ўлоўкі растаропных мазураў, як, напрыклад, заўвага аднаго з іх: «Што ж нас абароніць ад панскага розуму, як не наша хітрасць?» Хоць часта тое, што яны называюць розумам, ёсць толькі злоўжыванне ўладай, якая розуму не даказвае. Але не аб гэтым жадаем тут распавесці, нашым цяперашнім заданнем ёсць збіранне ў адно дасціпных слоўцаў і шляхетных учынкаў, рассеяных па загонах нашай Літвы і ўзыходзячых нясмела, як рунь на бедным грунце. Жывучы на вёсцы, здаралася не раз знайсці поўнае зерне сярод многіх і многіх пустых, аднак жа старанна сабраныя і кінутыя ва ўрадлівую зямлю, яны маглі б выдаць шчодры плён найперш на сноп, далей на капу, а далей… далей было б хлеба для ўсіх на цэлае жыццё. І гэта з адной горшчы незмарнаванага зерня!

## ПЕРШАЕ ЗЕРНЕ

**1.**

Пані М*, упраўляючы сама карыёлькай, нетаропка пад'язджала да адной з улюбёных сваіх вёсак, дзе яе бытнасць была частай, а дзеці яе чакалі і, убачыўшы карыёльку, весела беглі за ёй, добра ведаючы, што па экзамене катэхізму наступіць раздаванне абразкоў, абаранкаў і яблыкаў. Маткі стаялі каля варот хат пасля доўгага працоўнага дня, ківаннем галавы і ўсмешкай віталі сваю пані альбо неслі да яе найменшых сваіх дзетак, якія не маглі ўласнымі сіламі дабрацца да карэты.

— А дзе твой муж? — запытала пані М* адну з кабет.

— А, там! — адказала жанчына, паказваючы ў канец вёскі. Пані М* заўважыла там нейкі нязвыклы рух, злёгку тарганула лейцамі, і коні паспяшалі наперад. Адразу за вёскай, на павароце дарогі, некалькі чалавек капалі глыбокую яму.

— Божа, дапамажы! — сказала пані. — А што вы капаеце?

— Гэта для крыжа, — адказалі ўсе разам, перапыняючы працу.

— Вы хочаце тут паставіць крыж? Гэта вельмі пахвальна, мае дзеткі.

— Не, пані, гэта не мы — гэта Вінцэнт Кальчынскі (быў такі селянін гэтай вёскі). Ён будзе ставіць крыж, і яшчэ павінен быць каменны слуп.

— А дзе сам Кальчынскі? Папрасіце яго да мяне.

Падышоў пяцідзесяцігадовы гаспадар і пакланіўся сваёй пані, а тая яму сказала:

— Будзеш ставіць крыж, — а на знак чаго?

— Бо так захацеў Бог, — адказаў селянін.

— А як жа сваю волю Бог табе аб'явіў, каханку?

— У сне, — адказаў, — снілася мне два тыдні таму, што нёс я крыж — такі цяжкі, што аж мне плечы адрываў. Клічу жонку, каб дапамагла мне, яшчэ горш! Клічу дзяцей, — а крыж як быў цяжкі, так і застаўся! Прашу суседзяў, і яны мне дапамагаюць, але крыж, якім быў, такім і ёсць! Прачнуўся я, пот па мне кроплямі, як дождж, а кашуля хоць выціскай. Тут жонка абудзілася, я ёй кажу, што мне снілася, а жонка мне на тое: «Ат, сон — мара, Бог — вяра!». Тады я перажагнаўся і зноў заснуў. І зноў у мяне той крыж на плячах! І зноў я прашу маю бабу, дзяцей і суседзяў, каб мне дапамаглі, але чым тыя бліжэй, тым мне яшчэ цяжэй. І вось сам пан Бог сваёй рукою як прыцісне крыж да мяне, то я аж паваліўся на зямлю!..

— Сам Бог! — здзівілася пані М*. — І ты бачыў Бога?

Селянін задумаўся.

— Не, — адказаў, — Бога я не бачыў, але чуў і ведаў, *што* гэта Бог мяне прыціснуў! А мая баба зноў заладзіла сваё, так я перажагнаўся, на другі бок павярнуўся і зноў заснуў, а крыж за мною бяжыць! Ну, я і сказаў сам сабе, што сон такі — невыпадковы, што гэта Божая воля! Бог, відаць, хоча, каб я ўласнымі сіламі і на свае грошы паставіў крыж на Яго хвалу. І як Ён казаў, так я зрабіў: крыж будзе і *харашэнькі*! — дадаў, цалуючы сваю ўласную руку. Ды будзе каштаваць на ліхі гадок, але што рабіць? Бог казаў, трэба яго слухаць, бо гэта на Яго хвалу!

Пачцівы селянін гаварыў на адным дыханні, як звычайна гавораць сяляне. Яго апавяданне было нашмат даўжэйшым, бо яны не прывыклі выкідваць нават найменшай дэталі, хоць бы тая не мела ніякага дачынення да галоўнага прадмета апавядання. Пачцівы Кальчынскі тлумачыў усё на сваёй гаворцы, з якой мы, мала прывычныя да сялянскай мовы, захавалі некалькі аўтэнтычных слоў.

І каменны слуп з крыжам усярэдзіне ўзнёсся за вёскай той самай восенню. Каштаваў ён р.[ублёў] с.[рэбных] 20, не лічачы гарэлкі і хлеба, якімі трактаваў сваіх падзельнікаў. І сталася гэта ўласным стараннем пачцівага селяніна, вера якога, прышчэпленая ў чыстым сэрцы, давяла, якім чынам павінны мы свае сны тлумачыць.

**2.**

І зноў тая самая пані М* пагодным асеннім ранкам сядзела на ганку свайго белага дамка пасярод галубоў, што скублі гарох каля яе ног, а доўгі шэраг фурманак, што цягнуўся ад вёскі, спыніўся перад свірнам каля фальваркавага дзядзінца, яны прывозілі збожжа да запаснога складу. Пані М* устала з ганка і пайшла да свірна, каб прывітаць сялянаў і пагутарыць з імі, але падышоўшы да таго абозу, яна ўсю сваю ўвагу звярнула на старую кабету, што сядзела на прыступках складу, — такую жоўтую, згорбленую, зморшчаную і худую, што толькі аповесці пра вядзьмарак малююць падобных старэчаў, якія потым перамяняюцца ў чароўную, як зорка, князёўну. Ах, гэта і была ў сваім родзе вядзьмарка, бо — надзвычайная! Прыкмеціўшы, з якой увагаю прыглядалася пані да той кабеты, іншыя сялянкі падышлі, кажучы: «Гэта стогадовая Ганна».

— Як гэта? Ёй ужо сто гадоў? — з недаверам усклікнула пані М*. — Не можа такога быць.

Бо яна ведала, што пачцівыя сялянкі мяркуюць пра рух часу па сваёй цяжкай працы, прывыкшы лічыць свае гады ўдвая, нібы гэта магло прыспешыць канец іхняй бядоты. Пані М*, цікаўная даведацца праўды, уселася каля векавечнай кабеты, запытваючы яе лагодна, але гучна (бо тая была глухой), як далёка сягае яе памяць і ці была яна на свеце падчас першага забору краю?..

— Хто, я? — гаварыла, падымаючы галаву, бабулька. — Ці я была на свеце? Я тады ўжо мужа майго пахавала і першую дачку выдала замуж. Ці я была на свеце?!. — і ківала галавой, гледзячы прыгаслымі вачыма на пані, можа, нават і ўсміхалася, але якая ж то ўсмешка стогадовай кабеты! А пані М* глядзела на яе з тым пачуццём, з якім глядзяць на збуцвелы штандар, які ператрываў усе буры і змены лёсу.

— Навошта ты сама сюды прыехала? — спытала ў яе пані. — Няўжо не было каму цябе заступіць?

— Маладзейшыя працуюць у полі, — адказвала, — а я ўжо не здатная да працы, дык хоць у гэтым хацела быць карыснай.

Заўважыўшы, што яе рукі дрыжаць, а ранак быў халодны, пані М* сказала ёй: «Ці хочаш пайсці са мной? Загадаю даць табе чаго-небудзь цёплага на сняданак». А калі старая пакруціла галавой у знак таго, што не згаджаецца, сказала, што загадае прынесці сюды.

— Але яна не будзе есці, бо сёння пятніца, — прамовіла адна з сялянак.

— І мы сёння мяса не ядзім, — адказала пані. — Я загадаю прынесці кашы.

— І кашы не будзе есці, — перарвала сялянка.

— Дык, можа, рыбы?

— І рыбы не будзе.

— Тады кавы з вяршкамі?

— Таксама не.

— Ну дык гарбаты? Гэта ўжо будзе шчырым постам, але ўсё-ткі штосьці цёплае.

— І гарбаты не будзе, — зноў адказала сялянка.—Яна сёння нічога не есць.

— Як гэта? Зусім нічога?

— Нічога, ані нават хлеба, ані *каплі* вады, ах! Пані дзівіцца, а мы ўжо да гэтага прывыклі. І так не толькі па пятніцах, але па суботах і серадах таксама, а мяса яна не есць нават і ў нядзелю.

— І так гадоў з шасцідзесяці, — прамовіў вясковец, што назіраў за гэтай сцэнай здалёк.

— З гадоў шасцідзесяці, — паўтарыла пані М*, не верачы сваім вушам. Тады, звярнуўшыся да незвычайнай старой, яна спытала яе са здзіўленнем: «Як жа ты жывеш, нічога не еўшы?»

— Як? — старая падняла свае запалыя павекі на паню М*, і ў яе мёртвых вачах штосьці бліснула, а ў голасе гучала наймацнейшая вера. — Як? — паўтарыла яшчэ раз, — *Хрыстус дзержыт!*

Пані М* схіліла галаву пры гэтым святым слове.

О! колькі ж на свеце беднякоў, трывалых у цярпеннях і ў спадзяваннях на цуды, маглі б за стогадовай кабетай паўтарыць: *Хрыстус успамагае*!..[1] Але людзі не зважаюць на такія штодзённыя цуды. Магчыма, кожная воласць мае падобны цуд, але быў патрэбны выпадак, каб пра адзін з іх даведалася пані той воласці, дзе цуд паўтараўся з шасцідзесяці гадоў. Дык жа аднойчы знайшоўшы такую пярліну, пані М* не дала ёй загінуць. Векавечная старая была ўзята ў двор, паселена ў ціхім і цёплым пакойчыку, забяспечана здаровай стравай у вольныя ад добраахвотнага посту дні. Пані М* наведвала яе штодзённа, адчуваючы, што блізкасць да такой праведнай душы спрыяе выхаванню дабрачыннасці. Штодня яна запытвала старую, чаго тая жадае: можа, якой выгоды ці якога адзення? На што бабулька заўсёды адказвала, што ёй усяго хапае. Нарэшце аднойчы, неспадзявана для пані, папрасіла *новы ўбор на смерць*. Такім было адзінае жаданне гэтай ужо напалову злучанай з Небам істоты.

**3.**

Падчас Юбілею[2] ў 1826 г. адну сялянку запыталі яе паны, ці чула яна ў касцёле навуку ксяндза-місіянера? Тая ўсклікнула ўсхвалявана: «Ах! Як жа прыгожа ён гаварыў, бо і разумна, і ў той жа час мы яго маглі зразумець!»

Ці ж гэтыя словы не павінны быць навукай і дэвізам для ўсіх тых, хто прамаўляе і піша для народу?..

**4.**

Калі ў памятныя гады неўраджаю, 1845—1846, настаў голад, адна простая кабета прамовіла наступныя незабыўныя словы:

— Не дзівіся, што Бог карае чалавека, бо людзі ўжо не лічаць людзей за людзей, ані хлеба за хлеб!

**5.**

Не бракуе люду і трапнага дасціпнага слоўца, здольнага раззброіць нават пыху. Адна дама на працэсіі Божага Цела ў горадзе, занепакоеная раптоўным дажджом, раскрыла свой гожы парасон і ўбачыла з неахвотай, што пад той апякунскі дах цісneцца вясковая кабета:

— Дазволь, каханка, — звярнулася да яе гжэчна, але халодна, — каб мой лёкай падышоў.

— Калі я твая *каханка*, — адказала з усмешкай кабета, — то дазволь мне застацца.

---

[1] У арыгінале тут пададзены курсівам па-польску выраз: *«Chrystus dźwiga»* , які супадае па сэнсе з папярэднім беларускім выразам «*Хрыстус дзержыт!»* (Заўвага перакладчыка).

[2] У каталіцкай традыцыі перыядычна адзначаецца прызначаная на пэўны год урачыстасць, якая называецца таксама Святы год. Упершыню адзначаўся ў 1300 г. па пастанове Папы Баніфацыя VIII. Юбілейны Год павінен быў адзначацца кожныя 100 гадоў, але пазней тэрмін быў зменены на 25 гадоў, каб кожнае пакаленне вернікаў змагло паўдзельнічаць у гэтай хрысціянскай урачыстасці. Па традыцыі Юбілейны год аб'яўляўся Рымскім Папам. (Заўвага перакладчыка).

Абяззброеная пані С* ужо не толькі не адпіхвала яе, але, узяўшы пад руку *сваю каханку*, сумленна падзялілася парасонам.

**6.**

Малады селянін, які ўмеў чытаць і нават спрабаваў сачыняць польскія вершы, тлумачыў сваім панам, што добра ведае, у чым хібы ягоных твораў, бо ён не валодаў польскай граматыкай. — Мая пальшчызна з мякінай, — у гаспадарчым стылі дадаваў ён, вельмі трапна характарызуючы ўласную малапісьменнасць.

**7.**

А маткі? Папытайце матак, што за невычэрпная крыніца любові ў іхніх простых сэрцах. З такіх сэрцаў выплываюць высакародныя і святыя выразы, аб прыгажосці якіх яны самі не здагадваюцца, бо за іх прамаўляе пачуццё. Адна сялянка прасіла за сына, якога бралі ў жаўнеры, а, калі мясцовы пробашч яе суцяшаў, кажучы, што тая мае яшчэ трох дома, адказвала: «Ах, дабрадзею! Сэрца маткі для кожнага дзіцёнка асобна б'ецца!»

**8.**

Адна сялянка, сынок якой быў узяты ў двор і якая сама яго выправіла, знаходзячы слушным, што з трох яе сыноў выбраны наймалодшы, праз некалькі дзён вярнулася ў двор, просячы, каб ёй аддалі сына. Калі здзіўленыя паны запыталіся, якая была на тое прычына, яна пачала, як звычайна сялянкі, доўга і манатонна, але ж так пяшчотна і вобразна апавядаць пра ўсё, што страціла разам з тым сынком. Як ён яе выручаў у працы і як за яе мыў бялізну, паклаўшы спачатку матулю спаць ды спяваючы над ёй штораз цішэй, каб спакойна заснула. «Думала спачатку, — казала пачцівая маці, — што без яго абыдуся, але ці то палю, ці то мыю, ці то есці гатую, увесь час ён перада мною стаіць. Кладуся спаць у ложак — ані прымружыць вока, узлязаю на печ, але і там ён стаіць перада мной! Відаць жа, без яго жыць мне цяжка і таму прыйшла ў двор прасіць, каб яго мне назад аддалі».

— Але ж ты маеш двух старэйшых, хіба яны не дапамагаюць у доме?

— Маю, ды я і не кажу, што мне ўчынена крыўда, але што ж калі тыя сыны *не па маёй мыслі*!

Чым болей растаропны і працавіты Ігнашка аказваўся здатным да дворскай службы, тым лягчэй паны зразумелі, як тужліва мусіла быць матцы без такога дзіцяці. О, з якой жа радасцю сынок, падмятаючы аднойчы стайню, пачуў дазвол вярнуцца дахаты. Як радасна бег да маці, як чулліва яны абдымаліся! Дай жа Божа, такой любові кожнаму слою грамадства.

**9.**

Быўшы яшчэ дзіцёнкам, я чула, як мая маці з асаблівай пашанай апавядала аб адной сялянцы, якую запрашалі ў якасці мамкі ў заможны дом, але тая, як яе ні ўгаворвалі, не згаджалася. Ёй абяцалі, што будзе мець лепшы стол, прыгажэйшае адзенне, што выгадней будзе яе дзіцёнку, але яна мела на ўсё адзін адказ: ёй добра ў сваёй хаце з мужам і з дзецьмі, яна здарова і нічога больш не прагне. Калі парламенцёры, бачачы, што не здолеюць пераламаць непахіснай упартасці годнай кабеты, ужо меліся сыходзіць, адзін з іх сказаў другому:

— Што ж тут рабіць, няма як губляць часу, бо дзіця слабое.

— Што, — з жывасцю ўсклікнула сялянка, пачуўшы тыя словы, — дзіця ўжо ёсць на свеце і, кажаце, слабое? А чаму ж вы мне адразу аб гэтым не сказалі? Я думала, што, як звычайна, вялікія паны загадзя замаўляюць мамку, — і не даючы часу для адказу, пабегла ў камору, узяла невялікі клунак, забрала сваіх дзяцей, пажагнала мужа

і папрасіла, каб яе як найхутчэй павезлі да дзіцяці. Узрадаваныя з такой аказіі, угаворшчыкі распачалі перамовы, але пачцівая кабета не хацела ні аб чым слухаць.

— Я еду, бо іншай у вас няма, — адказвала яна, стоячы на сваім, — але не абяцаю надоўга застацца. Шукайце, панства, іншую, а я толькі да часу.

Усе лічылі, што яна, як толькі пабачыць горад, як яе прыгожа апрануць і смачна накормяць, адменіць сваё рашэнне, але дзе там! Да ўсяго яна была раўнадушнай, займалася толькі слабым дзіцяткам, паўтараючы сваё: «Шукайце іншую».

Паны П., якім тая добрая кабета здаровым малаком і пачцівасцю вельмі падабалася, не хацелі спачатку і думаць аб замене і рознымі спосабамі стараліся яе прымусіць і спакусіць. Апранулі сынка той кабеты ў прыгожыя строі і, як паніча, прывялі да яе. Маці ўсміхнулася з радасцю.

— Ці пазнаеш?— спыталі яе.

— А чаму б не пазнала я ўласнае дзіця?

— А праўда ж, цяпер прыгажэйшае?

— Яно для мяне заўсёды прыгожае, — з гонарам адказала матка. Зразумеўшы, што нічым яе не ўдаецца прывабіць, што заўжды з тугою ўспамінала сваю хату і мужа, мусілі пастарацца аб іншай мамцы, а тую з жалем і павагай адаслалі дадому.

Вельмі шкадую, што імені той кабеты пры мне не згадвалі, ведаю толькі, што была яна з-пад Вільні.

**10.**

Былі мы сведкамі кранальнай сцэны, якая яшчэ раз даводзіць, што сапраўднай убогасці заўсёды ўласціва сумленне. Ксёндз Севярын, рука якога была нязменна шчодрай на патрэбы бліжніх, седзячы раз пры адчыненым акне на ніжнім паверсе (было тое ў горадзе), убачыў, як бедная жабрачка шукае чагосьці на бруку.

— Чаго ты шукаеш? — спытаў святар.

— Ах, пане, — адказала тая тонам евангельскай жанчыны, што страціла свае драхмы. — Ідучы тут учора, згубіла дзясятку!

— То, мусіць быць, гэтую? — зноў спытаў ксёндз, падаючы ёй манету. — Хвіліну назад я знайшоў яе на вуліцы.

Жабрачка з радасцю кінулася да манеты, але, прыгледзеўшыся да яе, спахмурнела і, вяртаючы назад дзесятку, сказала з жалем:

— Гэта не мая!

Зразумела, што ксёндз Севярын, уражаны такой прастадушнасцю, з працэнтамі выплаціў доўг лёсу, а пачцівая жабрачка той добраахвотны дар з удзячнасцю прыняла.

**11.**

Калі гаварыць пра далікатнасць і бескарыслівасць, то як жа высока стане бедны закрыстыянін[1] вясковага касцёла!

Калі ў выніку нейкага непаразумення (па смерці або па звальненні старога пробашча) яму не заплацілі за 22 гады годнай і вернай службы каля касцёла, ён, упэўнены ў памылцы, узняў вочы і рукі ўгару, гаворачы:

— Дзякую Табе, Божа, за тое, што служба мая была адзіна дзеля Касцёла!

І з таго часу ні разу не ўспамінаў аб заплаце за свае паслугі, а яго жыццё як перад гэтым, так і цяпер, застаецца ўзорным і святым, бо пакорнае і працавітае. О, якім жа ён будзе багатым, калі ўвесь свой скарб панясе з сабою ў хвіліну смерці!

*1856 г.*

[1] Закрыстыянін – служыцель касцёла. (Заўвага перакладчыка).

***Пераклад з польскай мовы Ірыны БАГДАНОВІЧ.***

Людка СІЛЬНОВА

***1 студзеня 2011 г. споўнілася 150 гадоў з дня нараджэння вялікага вучонага-славіста, ураджэнца Беларусі Я. Ф. Карскага (1861—1931). Прапаную ўвазе чытачоў нізку лірычных вершаў, напісаных падчас працы з кніжнай калекцыяй «Бібліятэка Я. Ф. Карскага», якая захоўваецца сёння ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. З гэтай кніжнай калекцыяй і іншымі матэрыяламі, звязанымі з асобай Я. Ф. Карскага, можна азнаёміцца, наведаўшы Нацыянальную бібліятэку, а таксама дзякуючы нядаўняму электроннаму выданню «Спадчына акадэміка Яўхіма Карскага: да 150-годдзя з дня нараджэння». У выданні апошняга мне пашчасціла ўдзельнічаць як аўтарцы аднаго з артыкулаў пра гістарычны кнігазбор вучонага.***

Аўтар



Людка Сільнова нарадзілася ў Маладзечне. Скончыла філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працавала выхавацелькай, настаўніцай, бібліятэкарам. Аўтар паэтычных і эксперыментальных кніг «Крышталёвы сад», «Зачараваная краіна» і іншых. Жыве і працуе ў Мінску.

# МОЙ КАРСКІ

*Прысвячаецца патрыярху беларусазнаўства,*
*акадэміку Яўхіму Карскаму*

## Аснова асноў

Свет
скалануўся
і рушыў

Сёння
ў напрамку
балючых

З'яў,
і твораў,
і слоў...

Карскі ж — аснова асноў!

## Кнігазбор акадэміка Яўхіма Карскага

Вучоны Карскі
І яго бібліятэка —
Мне як лякарства,
Бабці зёлкі-лекі.

Яго партрэты,
Кнігі, канвалюты —
У стылі рэтра
Раман у век наш люты.

Не стэлажы,
А з кніг лабараторыя:
Літаратура, мова
І гісторыя...

Як галярэткі
Каштую ў панскім садзе,
А ў дрэвах — вецер,
Што ляціць на захад!

## Варшаўскі экспрэс

Сэрца
Ў мінулае тайным экспрэсам
нясецца!

Выйду ў Варшаве. Ступлю на перон.
Сонна пакіну цесны вагон...

**Крумкач на белым снезе**

На белым снезе
крумкач выглядае адзін,
як акадэмік самотны...

Як Карскі Яўхім.

**Яго партрэт**

Той, да каго пішу
Лісты і вершы
(Наўсцяж — сваю душу,
Спуск без парэнчы!..), —

Даўно пайшоў у свет,
Для нас мінулы.
Ўзіраюся ў партрэт:
Лоб, вочы, скулы, —

Усё нясе спакой,
Прыстойнасць, сілу.
(А я — была б такой?
Яго б — любіла?

Схілялася б, як ён,
Над «Рускай праўдай»?
Прыносіла б булён?
Лісты? параду?..)

Кахаць, каго хачу,
У дваццаць першым!
Той, пра каго пішу,
Ён пэўна лепшы!

**Этнаграфічная карта**

Я ў кнігасховішчы варту
з ранку нясу. Спіс гартаю.
«Этнаграфічную карту» —
Карскага плён — разглядаю.

На беларушчыны ніве
пад небам навукі суровай
Як ён збіраў-мілаваў
беларускія песні і словы!

Як беларускім студэнтам
Варшаўскага ўніверсітэта
Ён у навуцы спрыяў,
клапаціўся пра тое і гэта!

Быццам вялікая птушка,
нябёсаў шчаслівы абранец,
Бачыў далёка... і гушкаў
думку — схапіці свой шанец

І беларусам: адбыцца!
«Праўду» займеці наяве!
І на радзіме вучыцца...
Карту ствараў — як дзяржаву!..

У кнігасховішчы варту
з ранку нясу. Пазяхаю...
«Этнаграфічную карту»
раз і яшчэ раз складаю.

**Яго «Беларусы»**

Што я разбіраць
і крытыкаваць
не бяруся,
Дык гэта Фундамент
і Славу яго —
«Беларусаў»

(Шматтомны Статут,
альбо Метрыку,
Летапіс,
Веды)...
Падобнай не знойдзеш
у межах
Славянскай планеты!

Нам так шанцавала
і не шанцавала
па-царску!

У нас было ўсё:
у нас быў
светлы прыхадзень —
Карскі.

### «Сонца навукі»

Ён цытаваў —
не без дай бог прычыны! —
таленавітага
Янку Лучыну.

Так палюбіў
яго «сонца навукі»,
сэнсам звязанае
з «дзеці і ўнукі»,

што асвятляў ім тамы «Беларусаў»...
Што — ацалеюць
ва ўсіх
землятрусах.

### Трэбнік

Стары, трохсотгадовай сілы, «Трэбнік»
У Карскага калекцыі знайшлі...
З якой бяды, з якой такой патрэбы —
Старонкі ў ім паспісваны былі
Няўцямнымі значкамі... і малітвай,
Як перад Першай (ці Апошняй) бітвай?..

Спрабуе прачытаць іх і дазнацца
Малодшая калега-кнігазнаўца.
Я на яе гляджу замілавана:
«Тут будзе плён. Тут споўніцца Таццяна...»

### Асобныя адбіткі

Былі такія творы паліграфіі
І Карскага «цаглінкі біяграфіі»,
Навукі «незабудкі», «аксаміткі», —
Артыкулаў *асобныя адбіткі*.

Зжаўцелыя, танюткія і кволыя,
У пераплётах, вокладках і голыя
(Апошняе часцей за ўсё), — калекцыю
Іх бачылі мы ў Карскага, наверсе,

Калі ўзыходзілі ў яго «лабараторыю»,
Зямную памяняўшы траекторыю...

Мне падалося, гэта — не *адбіткі*,
А дробныя мензуркі і прабіркі.
У тыглі сваёй працы навуковай
Ён залатую веду выштукоўваў!

### Кнігазнаўца і паэт

У кнігазнаўцы не бывае пенсіі,
Як і ў паэта — заканчэння песень,

Ракі непадуладнай, вольнай, вечнай...
Хіба што стук суцішыцца сардэчны.

### Пра Карскага чытаю ў мегаполісе

Пра Карскага чытаю ў мегаполісе.
У спёку — быццам на Паўночным
полюсе
Сябе, у лёд умерзлай, адчуваю —
Аж халадок па спіне прабягае...

Пра Карскага чытаю ў мегаполісе.
Вішчыць рэклама мёда і праполіса!
А я ў метро, аўтобусе, трамваі
«Загадку Карскага» ніяк не разгадаю...

### Вада і хлеб

Карскі
цячэ,
як вада,
з усіх кранаў...

Кроіць
на лусты
бохан
Разанаў.

**Стаў нацыі малітваю**

У Ленінградзе, Піцеры, Санкт-Пецярбургу
Разгорнутаю прыпавесцю —
доўгай ніткай кужалю —

Жыве гісторыя Філолага вялікага.
Не святаром — стаў нацыі малітваю.

Акрэсліў пэўна
Ён межы Белай Русі:
Што ў снезе белым,
Дзе лён і белы бусел.

Дзе адмыслова цвёрда вымаўляюць
«Рака» і слова ў камень не сціскаюць.

Дзе два і тры — пераканаўча болей,
Чым меч адзін, калі ты ў полі воін.

**Веру**

Кнігі старыя гартаю;
Лёс, дарагі мне, чытаю...

Смешна? Ды што мне з таго!
Веру — адна я ў яго.

**Пушкінскі матыў**

«Да Вас пішу...» І што яшчэ?
Як сэрца тахкае, пячэ!

Адна, падобная Таццяне,
Сяджу я ў гукаў акіяне...

І без надзеі ліст свой шлю...
— Ах, няня, няня... Я люблю...

**Верабей**

«...Мой Карскі...», —
Баючыся, бабскі розум
Падсумаваў
Свой вечаровы роздум.

І верабей —
Успырхнуў ад вакна!
Нібыта знак,
Што ўсё мана, мана...

**Старэнькая, я стану ўспамінаць**

Старэнькая,
я стану ўспамінаць
Ранейшыя
прыгоды і штукарствы...
Усмешкі
будуць праўнукі хаваць
Ад «кашы» ў роце,
быццам бы: «Майкашскі»

«Хто ён такі
ў жыцці бабулі нашай?» —
«Хто ж яго знае!
Толькі вецер скажа...»

**Апошні прызыў**

Свет ведаў
Даглядаць па-гаспадарску,
Як даглядаў яго
Вучоны Карскі!

Не кайф лавіць
Ад веку і да веку —
Збіраць, каб падарыць,
Бібліятэку!

Любую, можна
Ў электронным выглядзе:
Усклікне мыш —
Са скрыні кнігі выпаўзуць.

Як хвалі, паплывуць
Радкі, радочкі...
Гэй, Карскага сыны!
Яўхіма дочкі!

Алена БРАВА

*Маёй сястры Наталлі*

# ДАРАВАННЕ

## *Аповесць*

*Ганс знік апоўдні.*

Перадусім яе «хэндзі» якраз зазваніў у самы нязручны момант, — яна толькі што ўвайшла ў дом і, калі ласка, натрапіла на старога, які ўладкаваўся ў гасцёўні як нічога і не было: наліў ліманаду ў іржавую каструлю для садовых угнаенняў (дзе толькі адшукаў!), размачыў там кардонку з-пад яек і ўжо старанна жуе яе. Выцвілыя вочкі рэдкага блакіту што тое эмалевае неба над вежамі старажытнага Кайзербурга, цурочак сліны сцякае па маршчыністым падбароддзі, — давялося апранаць гумовую пальчатку, каб выцягнуць у яго з рота кавалкі кардону, і на званок яна не адказала.

Мелодыя «Beethoven fantasy» хутка пачулася зноў; тэлефанавала яе суайчынніца Лада, родам з Віцебска, прапаноўвала паехаць на сеанс нейкай варажбіткі, нібыта ўнучкі сібірскага шамана, а верагодней за ўсё, чарговай аферысткі (бедныя немцы! панаехала ж *нас* на вашую галаву!): «Ты ж нарадзілася ў шэсцьдзесят шостым, табе кроў з носа патрэбна, у цябе лёс закрыты, дзве шасцёркі на канцы!» — карацей, калі Ларыса, адклаўшы нарэшце мабільнік, вярнулася ў гасцёўню, каб даць Гансу яго звычайную дозу мелперона, старога там ужо не было.

Зазірнула ў ягоны пакой, голы, нібыта бярлог айчыннага алкаголіка, а не апартаменты баварскага пенсіянера, там было пуста, толькі старое люстэрка з'едліва, як ёй падалося, мігцела вышчарбленай амальгамай; але тут напаўадчыненыя ўваходныя дзверы з прымацаваным да іх з унутранага боку небіткім люстэркам (па парадзе лекара і прымацавалі, маўляў, уласны адбітак адцягвае хворага ад намеру ўцячы з дому), — уваходныя дзверы, якія Ларыса забылася замкнуць, усё растлумачылі. Пакуль яна размаўляла па тэлефоне, стары збег!

Кінулася на адзіную вуліцу вёскі; як быццам бы ідучы на шпацыр (галоўнае — не прыцягваць увагі, адразу ж данясуць у бальнічную касу, што «гэтая руская» дрэнна даглядае хворага), але ўсё ж дастаткова шпаркай хадой прайшлася міма прыватных парадызаў з пунсовымі ды залатымі цюльпанамі, шыкоўнымі нарцысамі, падобных да дарагіх магазінаў свяцільняў, дзе ўзялі дый запалілі



*Алена Брава нарадзілася ў 1966 годзе ў горадзе Барысаве Мінскай вобласці. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Працуе ў барысаўскай раённай газеце «Адзінства». Аўтар кнігі прозы «Каменданцкі час для ластавак».*

ўсе лямпы адразу, вось толькі размешчаны яны па капрызе моднага дызайнера не ўверсе, а ўнізе. Суседкі старанна працавалі ў палісадніках; іх шыйныя хусткі, якія варушыліся ад ветру, нагадалі ёй уздымаючых галовы змей.

Старога на вуліцы не было.

Пакуль ішла назад, узгадвала ўчарашняе: вярнуўшыся з Эбенсфелда, знайшла Ганса ля люстэрка — стаяў, не запальваючы святла, худыя ногі ў перакручаных сподніках, майка нацягнута на швэдар (апранаўся сам), пух на цемені нібыта мох на камені-кругляшы, якіх багата ў наваколлі. Стаяў, утаропіўшыся ва ўласны адбітак. Што ён мог бачыць там, у цемры? Кранула за плячо — Ганс зірнуў на яе не пазнаючы і зноў звярнуўся да люстэрка, замшэлы правал рота манатонна, без усялякіх эмоцый, прашамкаў: «Тут халодна… няма ежы… няма запалак… нікога няма…» — менавіта так яна зразумела сэнс ягонага мармытання. Перад ёю стаяў вар'ят, які перакрэсліў ужо рэальнасць яе існавання, і яна стомлена ўсміхнулася: мо яе насамрэч няма? Вось было б цудоўна! А праз хвіліну пачуліся хрыплыя гукі, як быццам бы скрыгоча заезджаная кружэлка, гэта ён заспяваў: «Auf Wiedersehen... Auf Wiedersehen...», нават правай рукой паспрабаваў камусьці ў люстэрку памахаць, нібыта на развітанне, а потым выцягнуў гэтую руку перад сабой: «Sieg Heil!», але не ўтрымаў раўнавагі ды паваліўся б на падлогу кулём, калі б яна яго не падтрымала.

Яна тады адцягнула ўвагу хворага ад люстэрка, панадзіўшы яго цукровым пячэннем (безадмоўны сродак пераключэння рэальнасцей, які нязменна вяртае Ганса ў тут-і-цяпер), дапамагла ўкласціся ў ложак, скарміўшы яму разам з пячэннем двайную дозу мелперона. І задумалася — у які ўжо раз! — над тым, як вычварна блукае ў лабірынтах мінулага зацямнёная свядомасць. Для яе, зразумела, не адкрыццё, што няўхільнае сціранне ўсіх адбіткаў рэальнага свету — адметная рыса хваробы Ганса, у аснове якой працэс прагрэсіруючай гібелі нейронаў. Упершыню апісаны Альцгеймерам від бяспамяцтва даволі распаўсюджаны тут, у Германіі; паўгода таму памёр іх сусед Пауль, такі ж прыдуркаваты стары, да таго ж апантаны прагай да бадзяжніцтва, яго брату-пенсіянеру даводзілася з ім нялёгка. Ральфу таксама хапіла б клопатаў з уласным бацькам, калі б не яна, Ларыса. Час ад часу паміраючыя нейроны Ганса, штуршкамі прарываючы плеўку бяспамяцтва, — так рыба выкідваецца на бераг з атручанага вадаёма, — выносяць на паверхню тыя ці іншыя нябіткія аскепкі. «Зіг хайль…» Ну а ты чаго хацела — каб ён зацягнуў «Вставай, страна огромная»?

Пра тое, як усё пачыналася, яна ведае па расповедах Ральфа. Калі Ральф Крауз, другі яе законны муж, прывёз сюды яе са Светкай, якую вырашыў удачарыць, Гансаў маразм ужо пышна квітнеў, драпежна распроствыючы свае пялёсткі колеру змяркання, воўчай ягады. Яшчэ пяць год таму, казаў Ральф, Ганс быў усмешлівым дабрадушным старым з белым пухам на цемені ды па-дзіцячы ясным позіркам за шкельцамі акуляраў. Увесь вольны час ён праводзіў у куратніку: развядзенне кур было ягоным захапленнем. На сваім «фальксвагене» ездзіў у бліжэйшы горад, Эбенсфелд, дзе прадаваў яйкі нясушак знаёмым пенсіянеркам, з якімі бавіў ціхія вечары за кубкам кавы. Змярканне розуму пачалося досыць бяскрыўдна: стары стаў забываць дні нараджэння сваякоў і даты аплаты рахункаў. Увечары забываў, што ранкам стрыгся ў цырульні ці здаваў у лекара кроў на аналіз; бліжэйшыя дні хтосьці нібыта акуратна вымаў з ячэек, і лакуны памяці пусцелі. І пакуль Ральф апісваў ёй казусы, якія адбываліся з бацькам у банку ды супермаркеце, яна ўзгадала пра тое, што старажытнагрэчаскае слова «алетэйя», то бок «ісціна», літаральна азначае «адсутнасць забыцця». І насамрэч: страціўшы памяць, непазбежна губляеш ісціну. Прыкладам, той, хто пакутуе на хваробу Альцгеймера, імгненна забывае, што было ўчора, затое падзеі, якія адбываліся паўвека таму, паўстаюць перад ім як ніколі ярка.

Ён не можа больш напісаць ані слоўка, нават калі быў першым вучнем у школе, не ўсведамляе, калі да яго звяртаюцца, перастае пазнаваць знаёмыя твары; тканка быцця, што складаецца са звычак, расплятаецца, як прагнілы гамак, і чалавек правальваецца ў пустэчу. У фінале адбываецца распад усіх навыкаў, застаюцца адно прымітыўныя рэфлексы. Усё гэта растлумачыў ім псіхіятр, на прыём да якога яны з Ральфам вазілі Ганса; і яшчэ ёй запомнілася, што розныя праявы той хваробы носяць нечакана прыгожыя грэчаскія назвы: агнозія, афазія, апраксія — тры сястры, тры антыподы Мнемазіны.

Ральф заўважыў дзівацтвы ў паводзінах бацькі, калі той раптам забыў рэцэпт соусу, які гатаваў ужо гадоў сорак да нядзельных страў, — гатаваў на старой электраплітцы, бо новая пліта, занадта «нагорнутая», з панэлямі пукатых кнопак, якую Ральф купіў у крэдыт, у свае сорак пяць запланаваўшы, нарэшце, ажаніцца (тое, што нявесты яшчэ не было ў наяўнасці, яго не бянтэжыла), аказалася для старога занадта складанай. Потым высветлілася, што Ганс запамятаваў, як робіцца кава; аднойчы ён вырашыў закіпяціць на электраплітцы малако ў пластыкавым кубку — пах ва ўсім доме стаяў яшчэ той, але сам стары яго не адчуваў: якраз перад тым у яго раптоўна знік нюх. Калі ж ён стаў ездзіць па цэнтры дарогі, не прытрымліваючыся правай паласы і не рэагуючы на сігналы кіроўцаў, а потым пакінуў у Эбенсфелдзе «фальксваген» адкрытым насцеж і рушыў дадому пешшу, яго давялося адлучыць і ад машыны. Менавіта тады пачалася Вялікая Эпоха Ключоў: Ганс пераварочваў усё ў пошуках ключоў ад «фальксвагена», хаваў звязку ад уваходных дзвярэй і паштовай скрыні, пры гэтым, зразумела, імгненна забываючы, куды; цяпер ужо ключы пачынаў шукаць Ральф, і той пошукавы сверб, нібыта заразная бацыла, адразу ж перадаваўся кожнаму, хто ўваходзіў у дом. Ганс па дваццаць разоў на дні спускаўся ў гараж, каб паторгаць за ручку дзверцы машыны, але адным ранкам паглядзеў на свой «фальксваген» з адцягненай цікаўнасцю натураліста, нібыта гэта адноўлены для Мюнхенскага музея прыродазнаўства шкілет бронтазаўра. Пра існаванне агрэгата, што рэгулюе ступень абагравання дома газам, агрэгата, які сам жа і ўстанаўліваў чвэрць стагоддзя таму, ён неяк вельмі хутка забыўся, а вось пра печ і дровы помніў доўга, і паліў так, што ў доме стаяла сапраўдная Сахара. Гэта, натуральна, злавала Ральфа: яму нарыхтоўваць дровы. Калі раней Ганс штодня чытаў мясцовую газету, то цяпер праглядваў толькі калонку з некралогамі, а ў хуткім часе ўжо і не разумеў, навошта патрэбны той шматок паперы з жучкамі-літаркамі. А ў васьмідзясяты дзень свайго нараджэння (Ларыса якраз аформіла ў бальнічнай касе штомесячную дапамогу па доглядзе — цяпер яна лічылася афіцыйнай Kránkenpflegerin хворага, то бок сядзелкай) вельмі здзівіў суседку Аліцыю, якая зайшла на кубачак кавы, на яе ветлівае: «Колькі табе споўнілася, Ганс?» урачыста адказаўшы: «Сямнаццаць!» — «Дык табе вядома, як павярнуць час назад, Ганс!» — пляснула рукамі суседка, але ён, ужо забыўшыся пра яе, прагна жаваў пірог, спечаны новай сядзелкай, — штошто, а апетыт у яго заўжды быў выдатны, нават булачкі для сняданку яна пачала хаваць, бо ўсё, неабачліва выкладзенае на стол, ён з’ядаў уночы, а раніцай забываў і патрабаваў яшчэ.

Аліцыя! Магчыма, Ганс накіраваўся да яе — па інерцыі памяці, як у тыя гады, калі днямі прападаў у куратніку, а яйкі нясушак прадаваў суседцы па сходнай цане? Яна кінулася праз жывую агароджу да дома, паспела нават пазваніць у дзверы, калі ўзгадала (не, усё ж такі догляд за вар’ятам уплывае і на яе розум), што Аліцыя ўчора вылецела ў Вашынгтон на пахаванне адзінага сына, грамадзяніна ЗША, які падарваўся на міне ў Іраку. І калі ў дзверы высунуўся заспаны, але нават у такім выглядзе нязменна хітраваты твар Отта: «Што здарылася? Патрэбна дапамога?» — яна ўжо зразумела, што Ганса тут няма, але на ўсякі выпадак спытала, нават па прапано-

ве гаспадара разам з ім абышла дом ззаду і зазірнула ў сад. Отта лічыў неабходным рабіць сур'ёзны твар, напэўна, з-за Майка (а сам пры гэтым так і шнарыў вачыма па яе грудзях, нагах); зрэшты, было абсалютна відавочна, што яму пляваць на гэтага Майка, які так і не здолеў дараваць маці разводу з ягоным бацькам-амерыканцам, а калі Аліцыя вярнулася ў Германію, дзе другі раз пабралася шлюбам, назаўжды спыніў зносіны з ёю. Аб жыцці сына Аліцыя даведвалася праз прыватнае дэтэктыўнае агенцтва (якому, дарэчы, плаціла немалыя грошы): стаў ваенным псіхолагам, мяняў месцы службы, адправіўся ў Ірак, між іншым, добраахвотна. Недарэчная яго смерць мусіць пячы бессардэчную маці гарачым жалезам пажыццёва — вядома, з пункта гледжання нябожчыка (стоп, ці можа ў нябожчыка быць пункт гледжання?). Але яна, жонка Ральфа і сядзелка Ганса, даўно пасвячоная суседкай ва ўсе яе таямніцы, — яна дык ведала, аб чым насамрэч плакала Аліцыя за тры гадзіны да адлёту самалёта: хітраваты Отта ў час камандзіроўкі ў Прагу зблытаўся з маладзенькай чэшскай прастытуткай (якая ўзяла яго тым, што «галасавала» ля дарогі ў ботах-панчохах і даўгім норкавым футры на голае цела) і, па чутках, нават прыжыў з ёю дзіцёнка. Сына Аліцыя не бачыла каля пятнаццаці год — ці магла яна, калі ўдумацца, шчыра плакаць па незнаёмым барадатым мужчыне, які анітрохі не нагадваў дванаццацігадовага хлопчыка, пакінутага ёю ў Амерыцы? Гады ідуць, і нічыя смерць больш не становіцца доказам.

Як і нічыё жыццё. Яе, Ларысы Вашкевіч-Крауз, у тым ліку. Ды ці было яно ў яе, жыццё? Зразумела, было, досыць беспрасветнае, як на яе думку. Толькі вось у яе роднай краіне, дзе прызвычаіліся да звышдосведу болю, а чалавечая пакута вымяралася такімі маштабнымі катаклізмамі, як вайна, рэпрэсіі, Чарнобыль, яе асобна ўзятае няшчасце нікога не ўражвала, дый увогуле мала што значыла…

«Ты павінна насіць акуляры і сядзець на першай парце», — яна і сядзела за той першай партай у нязграбных акулярах з чорнай аправай, дзяўчынка Дай-Спісаць, але зрок усё роўна працягваў падаць… Ну а што там далей было, га? Ды вядома што: ВНУ, метры друкаванага тэксту, якія можна было разаслаць накшталт «дарожкі», — ага, дыван-самалёт, які транспартаваў іх, старанных зубрылак навуковага (быццам бы) камунізму ў краіну, якой насамрэч, натуральна, не існавала. Давучылася-такі да дыплома і пакойчыка ў інтэрнаце; у дадатак — мацюканне суседзяў за сценкай, а потым і шлюб, і хуткае развітанне з ілюзіяй, што ўсё ў яе зараз будзе «як у людзей». Зрок між тым зніжацца працягваў, нібыта яе вынаходлівы мозг імкнуўся хутчэй размыць карцінкі, што яму паказвалі, — каб выжыць самому, не абрынуцца ў істэрыку з рэзаннем вен (як суседка па інтэрнаце) альбо банальны псіхоз.

А карцінкі былі адныя і тыя ж, звыклыя, як штамп у пашпарце, як запаскуджаны павільёнчык пад акном з надпісам «Піва-Воды»: муж, які прапівае заробак разам з алкашамі менавіта з роднага завода; хваробы, яе і Светчыны. Смерць маці ад інсульту. Муж між тым дапіўся ўжо да таго, што прайграўся блатным (тады, у сярэдзіне дзевяностых, крымінальнікі пачуваліся досыць вольна), і змрочнага выгляду бугаі ў наколках моўчкі вынеслі з кватэры тэлевізар, мэблю, яе і Светчыны рэчы. І, нарэшце, фінал — муж, які павесіўся на дзязе на трубе батарэі ацяплення ў іх пустой, хоць у футбол гуляй, аднапакаёвай кватэры.

Вось тады, пасля другіх за год хаўтураў, лежачы начамі без сну, Ларыса і зразумела, што страта зроку выратоўвала яе ад страты розуму: яе «я» інстынктыўна хавалася ў кокан слепаты, каб *не бачыць*, а жыццё гвалтоўна расплюшчвала ёй вочы — не, адразала павекі! — і вось яна цяпер успрымае свет аголенай сятчаткай, як, напэўна, успрымалі Сонца будыйскія містыкі, якія самі рабілі над сабой тую бязлітасную аперацыю, каб сон не адцягваў іх ад пошукаў Абсалюту. Але містыкі, трэба аддаць ім належнае, рабілі гэта якраз дзеля таго, каб стаць відушчымі; яна ж, атрымліва-

ецца, стала *сляпой па ўласным жаданні* — вось дык адкрыццё! — і нават доўга, надта доўга закрывала вочы рукамі, каб захаваць свае ілюзіі. Аднак жыццё, як кат, што прымушае глядзець на пакуты роднай істоты, аддзірала яе рукі ад яе ж органаў зроку, — зусім не са шкоднасці, не са скрупулёзнага садызму, не з жадання заперці яе ў псіхушку з дыягназам «эндагенная дэпрэсія», а каб, наадварот, выратаваць. А можа, увогуле і не дзеля яе, трыццацітрохгадовай наіўнай дурышчы з тыповым комплексам рахманай шматпакутніцы-гаротніцы яно, жыццё, выкладвалася (каму мы, адпрацаваны біяматэрыял, цікавыя?), а, як водзіцца ў прыроды, пра «падрастаючае пакаленне» клапацілася. І, праз некалькі год знайшоўшы ў дачкі спадчынную міяпію, яна не стала чакаць горшага і па парадзе ўвішнай сяброўкі, ні на што асабліва не спадзеючыся, адправіла сваю анкету ў шлюбнае агенцтва. «Мы падбярэм вам заможнага (замежнага!) мужа», — вось і падабралі, і на што ёй, уласна кажучы, скардзіцца? Калі ж яна даведалася, што Ральф, клапоцячыся пра здароўе, робіць ранішнія прабежкі і *ўвогуле* не ўжывае алкаголю, гэты адзіны аргумент паставіў кропку на ўсіх яе ваганнях.

Аднойчы — было гэта неўзабаве пасля прыезду ў Германію — яна адправілася ў краму за парашком для ручнога мыцця бялізны. На паліцах стаялі дзясяткі пакункаў, слоікаў, бутляў любога памеру, колеру, кансістэнцыі ды паху, эпатуючы яркасцю фарбаў і характарыстыкамі змесціва — але ўсе, абсалютна ўсе прызначаліся для аўтаматычных пральных машын! Зразумела, была такая машынка і ў Ральфа, але… яна не ўмела карыстацца цуд-аўтаматам, баялася зламаць… І зламала-такі адразу, калі, нарэшце, адважылася пакласці туды сваю бялізну, да якой сама прымяняла дыпламатычны эўфемізм «са стажам», — было не да смеху, калі машына выплюнула шматкі, а металічная «костка» ад гарсэта трапіла ў барабан, і дзікі скрыгат, які раздаўся пасля гэтага, прымусіў нават Ральфа вывернуць кубак з гарачай гарбатай сабе на калені. Ларыса ніколі не забудзе твар майстра, які быў неадкладна выкліканы, гэтага ад нараджэння цывілізаванага нямецкага майстра, якому і ў галаву б не прыйшло падкоўваць блыху, затое свае прамыя абавязкі ён прывык выконваць з веданнем справы, — трымаючы ў руцэ выцягнуты з барабана пакамечаны абломак, ён ветліва і разам з тым разгублена пытаўся: «Што гэта можа быць?!» Вось у гэты момант яна і ўсвядоміла, што глыбіня бездані, якая раздзяляе — нават у дробязях, і ў першую чаргу менавіта ў дробязях! — дзве цывілізацыі, якія ўмудрыліся паралельна суіснаваць на рубяжы тысячагоддзяў на еўразійскім кантыненце, зводзіць да нуля любую магчымасць узаемаразумення. Ну што тут паробіш: ні ў яе маці, фабрычнай рабочай, ні ў яе самой ніколі не было пральнай машыны-аўтамата, таму і прыйшла яна ў краму па звычайны парашок… Прадавец, якому баязліва выказала сваю просьбу, вылупіў на яе вочы і развёў рукамі.

Выйшаўшы з крамы на брукаваную вуліцу — камяні пад нагамі былі такія чыстыя ды гладкія, як быццам бы іх вымылі найдалікатнейшым дзіцячым шампунем, — яна села на лаўку насупраць велічэзнага куста руж, якія глядзелі навокал з годнасцю каранаваных асоб, — кветкі на ўбогіх клумбах яе правінцыйнага гарадка прасякнуты страхам, што іх патопчуць, вырвуць з коранем, ліквідуюць як клас, і таму намагаюцца выглядаць драбнейшымі, непрыкметнейшымі, прыніжана сціснуцца ў камяк, як і людзі ў тым горадзе, — нават кветкі разумеюць, дзе ім выпала нарадзіцца! Хіба яе маці не магла пражыць зусім іншае жыццё? Паўдня яна тады праплакала аб маці, змардаванай катаржным бытам, і вырашыла, што дзеля Светкі, так, толькі дзеля дачкі яна, Ларыса Вашкевіч, з яе такім няўдалым (д'ябал ведае чаму!) жаночым лёсам будзе цярпець маразматычныя выхадкі Ганса, не больш страшныя, чым бяскрыўдныя нумары дзіцячага ранішніка ў спецгрупе для даўнаў у параўнанні з тым, што яна спазнала дома.

Зрэшты, бывалі ў Ганса і моманты яснасці, калі хвароба раптам пераставала навальвацца на яго мозг. Тады Ганс шчыра радаваўся яе прысутнасці ў доме і нават рабіў маленькія падарункі: прачнуўшыся раніцай, яна знаходзіла на тумбачцы сарамліва пакладзены з краю букецік маргарытак, або загорнутую ў танюткую духмяную паперу брошку, або залацістую круглую бляшанку з надпісам «Danish Butter Cookies», бляшанку, якая сама па сабе з'яўлялася шэдэўрам, а ўжо разнастайнае cookies, то бок печыва, якое ў ёй ляжала, па выгляду і смаку ўвогуле, на яе думку, не прызначалася для простых смяротных. Ён хваліў прыгатаваны ёю абед, распытваў пра дом, мясціны, дзе нарадзілася. Аднойчы назваў яе Зосяй… «Ганс, чаму — Зося?» Ён не пачуў або прыкінуўся, што не чуе, а потым спытаў, ці бывала яна ў… і назваў невялікі беларускі горад. Зразумела, бывала, адказала яна, там жыла яе бабуля. «О, бабуля!» А ці ведае яна такое месца за горадам, там ваенны аэрадром, а побач лес і яр… Зразумела, ведае. Аэрадрома даўно няма, там цяпер пабудавалі санаторый для ветэранаў вайны. «О, санаторый? Для ветэранаў?» — як быццам бы здзівіўся Ганс, і яна пацвердзіла: так, санаторый. І дадала, узгадаўшы: там побач мемарыял. На гэтым месцы ў час вайны былі расстраляны яўрэі, шмат яўрэяў, восем або дзесяць тысяч… і асяклася. Тут ён заплюшчыў вочы, паказваючы, што размова скончана, а праз хвіліну зацягнуў хрыплым фальцэтам: «Im Namen des Vaters, des Sohnes und des heiligen Geistes… Amen... Auf Wiedersehen... Auf Wiedersehen... Morgen um 9 Uhr gehen wir nach Hause, nach Hause, zu meiner Mutter…» [1] Зразумеўшы сэнс, яна вырашыла, што ён спрабуе ўзгадаць адну з тых песень, якія спявалі нямецкія салдаты на мінулай вайне, але пацвердзіць дакладнасць яе здагадкі не мог цяпер ніхто.

Раптоўная думка аб тым, што Ганс, магчыма, насамрэч вярнуўся дадому і хаваецца цяпер у куце за дровамі, прымусіла яе хутка ўзбегчы на ганак, зазірнуць у рабочую каморку, дзе захоўваюцца дровы, знаходзяцца печ і газавы агрэгат… Неўзабаве пасля размовы пра беларускі горад у яго і ПАЧАЛОСЯ. Стары прызвычаіўся ўночы перацягваць дровы з рабочай каморкі ў свой ложак. Але каб толькі дровы: не запальваючы святла, у поўнай цемры перасоўваў мэблю, вытрэсваў скрыні з тумбачак, выкідваў адзенне з шафы, здзіраў бялізну з ложкаў — свайго і нябожчыцы Эльзы, перакульваў крэслы, расчыняў наўсцяж вокны, так што ўсе гаршчкі Ральфа з геранямі аказваліся на падлозе. Працаваў моўчкі, агрэсіўна адштурхоўваў яе заспакойваючыя рукі. Іншым разам, учыніўшы вэрхал, клаўся спаць, а раніцай — ну проста нявіннік! — абураўся, што Ральф і суседка нібыта змовіліся і ўчынілі ў яго пакоі гэты «унорднунг» (*нойе орднунг, новы парадак* — выбурбольвала аднекуль з патрывожанай памяці, яна нават здзіўлялася сама сабе: трэба ж, для колькіх яшчэ пакаленняў нямецкая мова застанецца звязанай з тым акупацыйным neu Ordnung'ам?). Налілі вады ў яго ложак, працягваў свае бязглуздыя абвінавачанні Ганс, і было бессэнсоўна тлумачыць, што гэта ён пакутуе на нетрыманне; аднойчы, убачыўшы ў акно суседку, паведаміў той, што «ў наступны раз» заявіць на яе ў паліцыю. Давялося прыбраць з яго пакоя ўсё лішняе, ператварыўшы той у нешта накшталт карцэра або палаты для звар'яцелых, разабраць і вынесці ложак Эльзы, схаваць абрусы, пакрывалы, адмовіцца нават ад настольнай лямпы ў металічным корпусе, якую хворы з невытлумачальным раздражненнем рэгулярна кідаў на падлогу. «Вось акупант праклятьі», — напаўголасу лаялася яна, урэшце, без злосці, падбіраючы лямпу. Выкруцілі й ручку з аконнае рамы, але тое было пазней; а тады, у адну з тых вар'яцкіх начэй, стаміўшыся назіраць, як ён гародзіць клад дроў на падушцы, яна падышла, кранула

---

[1] «У імя Айца, Сына і Святога Духа… Амінь… Бывайце… Бывайце… Заўтра ў 9 гадзін пойдзем мы дамоў, дамоў, да маёй маці…» (*ням.*)

за плячо: «Ганс, што ты робіш?», але ён нават вухам не павёў, верагодна, таму, што ў дадатак да ўсяго быў амаль глухім, а карыстацца слыхавым апаратам не хацеў: той бесперапынна звінеў — парушэнне кантакту — і для таго, каб стары чуў, ёй прыйшлося б увесь час прытрымліваць у ягоным вуху апарат, — занятак, ад якога яна нарэшце адмовілася. Таму сваё пытанне ёй давялося паўтарыць некалькі разоў: «Што ты робіш?» Палец з паточаным грыбком пазногцем тыцнуў у люстэрка: «Яны наступаюць!» — «Хто, Ганс?» — «Рускія! Іх шмат! Трэба схавацца…» — «Гэта ж люстэрка, Ганс, а ў ім проста нашы адбіткі!» Але тлумачыць яму тое было ўсё адно, што пляваць супраць ветру.

Аднойчы ён уразіў яе тым, што ў час навальніцы, пачуўшы грукат грому, забіўся ў кут рабочай каморкі, накрыўся з галавой плеценым кашом для бялізны, і, калі яна прыйшла па яго, спрабаваў і яе пасадзіць пад кош, выкрыкваючы пры гэтым поўную бязглуздзіцу. Зазірнуўшы ў размоўнік, яна не знайшла нічога падобнага, і толькі ўвечары Ральф, які ўсё ж чытаў сёе-тое пра вайну, растлумачыў, што *сталінскім арганам* нямецкія салдаты называлі савецкія рэактыўныя ўстаноўкі, — яна, якая таксама сёе-тое чытала і мела па гісторыі, а як жа, пяцёрку, здагадалася, што гутарка ідзе пра знакамітыя «кацюшы». Вось так яна, сядзелка, вучылася разумець свайго хворага…

Менавіта тады ён пачаў размаўляць з люстэркам у сваім пакоі — на астатнія чамусьці не рэагаваў. Днём, узняўшыся па лесвіцы на другі паверх і не знайшоўшы яе там (хаця яна сядзела тут жа, з вязаннем альбо кнігай), ён адпраўляўся да сябе, да старога трумо з трыма люстэркамі, і неўзабаве адтуль ужо даносіліся рыпучыя гукі заезджанай кружэлкі. Прынамсі, у Ганса з’явіўся субяседнік, жартаваў Ральф, дый яна напачатку была задаволеная, што хворы не чапляецца да яе з размовамі. Ганс жа настойліва намагаўся запрасіць «старога з люстэрка» за абедзенны стол, употай адносіў яму то шклянку ліманаду, то яблык, а аднойчы абяззбройваюча выклаў на трумо ўсё капеечнае змесціва свайго кашалька. Вось тады да яе і дайшло: ён канчаткова страціў уяўленне пра ўласны ўзрост і лічыць сябе сямнаццацігадовым.

А неўзабаве — гэты дзень Ларыса памятае выдатна — яна заспела хворага, калі ён расказваў люстэрку пра вайну: Ганс быў салдатам, маладзенькім радавым, казаў ён пра сябе чамусьці ў трэцяй асобе, толькі паспеў прыбыць у рэйхскамісарыят Остланд, як пачалося адступленне, гэта была сапраўдная Hölle, менавіта — пекла, ён увесь час маліўся, каб яго паранілі, бо хацеў да мамы. А калі ён, перакручваючы, вымавіў назву з дзяцінства знаёмага ёй горада, яна не магла больш падманваць сябе: менавіта так усё і было — невыпадкова ён тады распытваў яе, і пра аэрадром дакладна ведаў… Унутры ў яе нібыта штосьці абарвалася. У той жа вечар яна прыступіла з роспытамі да Ральфа і атрымала адказ: так, неахвотна прызнаўся муж, бацьку забралі ў вермахт у маі сорак чацвёртага і накіравалі на Усход, не хацеў казаць табе раней, бо ведаў, што гэта будзе для цябе крыху непрыемна. «Крыху непрыемна?!» — паўтарыла яна. «Не варта драматызаваць, зразумей, ішла вайна. Бацька ўсяго два месяцы праслужыў у тылавым гарнізоне дзесьці недалёка ад Мінска, потым быў цяжкапаранены пры адступленні, і вайна для яго скончылася. Ты занадта ўражлівая, усе твае праблемы — ад камуністычнага выхавання!» Некалькі начэй пасля гэтага яна ляжала без сну, і патрабавальнае гуканне старога, гучнае, як баявая труба, выдатна чутнае нават на другім паверсе, гуканне, якое разносілася звычайна каля чатырох, апярэджваючы ўсе ранішнія гукі вёскі, заспявала яе з мокрым ад слёз тварам.

Крыўлянне Ганса перад люстэркам больш не здавалася ёй забаўным. А ў хуткім часе і Ральф перастаў усміхацца: калі ўдзень «стары з люстэрка» бачыўся Гансу міралюбным, дык уночы трансфармаваўся ў ворага, і хворы ставіў на вушы ўвесь

дом. Спрабаваў задрапіраваць нядаўняга «сябра» палатняным абрусам, які здзіраў са стала ў гасцёўні (пры гэтым увесь посуд аказваўся на падлозе); барыкадзіраваў праход да люстэрка перакуленымі крэсламі, кашамі з бялізнай, але часцей за ўсё прыцягваў усё тыя ж дровы з рабочай каморкі. Вось тут дык і надышоў час урэзаць новыя замкі ў кухні ды гасцёўні — ключы ад большасці пакояў былі даўно згубленыя — але дзверы ў каморку, прахадную ў прыбіральню, замкнуць было нельга.

…«Цішэй! Ступай асцярожна!» — Ганс хапае яе за руку, ледзь не выкручваючы запясце. — Каб не нарвацца на міны! Бачыш сляды?» — «Ганс, адпусці руку! Мне балюча!» — «Глядзі ж! — ён цягне яе да акна (жалюзі з боку вуліцы спушчаны, у шкле — яго і яе адбіткі: стары ў піжаме з ускудлачаным рэдкім пухам на цемені ды хударлявая дзяўчына з даўгімі светла-русымі валасамі, начное акно хавае ўзрост — яе, але не яго). — Яны там, там! О, ды ў іх кулямёт! Падай на зямлю! Шнэле! Зараз пачнуць страляць!» — «Ганс, спыніся!» — «Фельдфебель загадаў мне капаць акоп… Ведаеш, як было цяжка? У зямлі тут адны карані! Але я справіўся!» Ды ўжо ж, справіўся: праход да акна надзейна забарыкадзіраваны крэсламі з гасцёўні, двума матрацамі — усё перакулена і ссунута на сярэдзіну пакоя. Хворы раптам садзіцца на падлогу, яго настрой мяняецца. Па твары цякуць слёзы: «Я не хачу ваяваць! Я нікога не забіваў! Давай уцячэм адсюль разам…» Ледзь удаецца яго заспакоіць і ўладкаваць на канапе ў гасцёўні. Ральф напаўголасу лаецца: усё гэта яму надакучыла. Праз паўгадзіны зноў грукат, ляпанне дзвярэй; на гэты раз Ральф нават не выходзіць са спальні. Яна знаходзіць хворага ў ложку: ён «схаваўся» — нацягнуў на галаву прасціну. Ягоны твар, у размытых плямах старэчай пігментацыі, як размазаныя па талерцы грэцкія крупы, ажно ззяе ад усведамлення добра зробленай справы; ён жадае, каб яго пахвалілі, пагладзілі па рэдкім пуху на цемені, які цяпер стаіць дуба. «Хутка пачнецца бамбёжка! — запрашае ён яе падзяліць радасць. — Але я выкапаў надзейнае ўкрыццё! *Русішэ штука* нас не дастане!» На ложак навалена адзенне, зверху грувасціцца каток для прасавання пасцельнай бялізны, які з часоў Эльзы ржавеў у кладоўцы (а ён цяжэнны!), дровы… «Ганс, якое ўкрыццё?! Вайна даўно скончылася!!» — «Га? Скончылася?»

Толькі тады Ральфа па-сапраўднаму і зачапіла: будуючы ўночы свае «ўкрыцці», Ганс усюды запальваў святло — а за электрычнасць трэба плаціць! Яшчэ б, Ральф нават калядныя паштоўкі купляе летам, калі яны каштуюць усяго еўра, а не чатыры, як у снежні. «Трэба падлічыць страты! Баюся, у рэшце рэшт танней будзе здаць яго ў дом састарэлых!» Менавіта — здаць. Гэта было якраз тое, аб чым Ларыса цяпер марыла. Бо не жадала даглядаць былога нямецкага салдата, які ваяваў у яе дома. І яшчэ таму, што хацела, нарэшце, упэўніцца: іх з Ральфам шлюб — усё ж такі не суцэльная бухгалтэрыя. Бо ў хвіліны дэпрэсіі лічыла, што Ральф забяспечвае ёй дах над галавой і статус знаходжання ў краіне выключна з-за таго, што яна эканоміць ягоныя грошы, даглядаючы Ганса. Як высветлілася, ажаніўшыся з ёю, Ральф зрабіў дальнабачны крок: мець жонку-беларуску танней, чым плаціць хатняй работніцы і сядзелцы; прыкладам, сядзелка з Прыбалтыкі запатрабуе ад трохсот еўра (а з такім няпростым пацыентам — у паўтара раза больш). Аддаць жа Ганса ў дом састарэлых занадта дорага: давялося б развітацца з пенсіяй старога ды часткай уласнага прыбытку. Такім чынам, як усё ж такі жанчына, яна жадала атрымаць доказ таго, што іх саюз з Ральфам трымаецца не на вар'яцтве Ганса ў якасці адзінага фундамента.

Але куды, хацела б яна ведаць, падзеўся зараз гэты «фундамент»?

Ад таго, што недарэчнае сённяшняе здарэнне пачалося са званка Лады, яна не прыдумала нічога лепшага, як набраць яе нумар, загадзя раздражняючыся ад манеры Лады размаўляць, роблена-лянiва пазяхаючы, расцягваючы ненатуральна чырвоны рот (устойлівая айчынная звычка: мясцовыя не ўжываюць касметыку), але

ў слухаўцы прагучала «часова не даступна». Ага, Лада адправілася да той быццам бы ўнучкі сібірскага шамана і, вядома, адключыла мабільнік! Адразу ж ёй успомнілася другая гутарка з Ладай, пасля паездкі ў Кульмбах, у замак Пласенбург, дзе ім пашчасціла наведаць буйнейшы ў свеце музей алавяных фігур, — стаміўшыся ад аднастайнасці батальных сцэн, ад усіх гэтых старажытных кельтаў, рымскіх легіянераў, тэўтонскіх рыцараў, англійскіх мушкецёраў, вікінгаў, напалеонаўскіх гвардзейцаў ды іншых стрыечных братоў стойкага алавянага інваліда, яна запрасіла Ладу ў кавярню і пасля глытка «Чыба майлд» нечакана выклала тое, што мучыла: «Ганс ваяваў у Беларусі, уяўляеш?!» — «Ну дык і што з таго? — шчыра здзівілася Лада, натуральная бландзінка з зялёнымі вачыма, апранутая па-айчыннаму, то бок з выпакутаванай стараннасцю: блузка са стразамі, туфлі на высачэнных абцасах, кідкі макіяж, — ніякая, між іншым, не Лада, а ўсяго толькі Людка, якая з дапамогай цёткі, што працуе ў абласным загсе, памяняла адну літару імені, каб адразу зрабіцца вабна-таямнічай. — Дык гэта ж чорт ведае калі было!» — «Ён бачыць сябе салдатам, увесь час трызніць пра вайну!» — «А цябе тое хвалюе?» — перасмыкнула плечыкам Лада.

Людзе-Ладзе — удваенне, у якім Ларысе чамусьці чуецца «людаедства» (і яшчэ: «пралюбадзейства») — Людзе-Ладзе ўсяго трыццаць. Дзесяць год раздзяляюць іх — бездань, праз якую немагчыма перакінуць мост. Усё ж яна тады прызналася суайчынніцы, што, калі Ральф не здасць старога ў багадзельню, яна сыдзе, кіне ўсё да д’ябла, здыме кватэру, знойдзе іншую працу альбо ўвогуле вернецца дамоў — але як пакінуць тут Светку? Як быццам бы яна, Ларыса, не разумее, што за выбіральнасцю яе ўнутранага зроку, за хітрыкамі Мнемазіны, якая паварочвае калейдаскоп з каляровымі шкельцамі такім чынам, што перад вачыма заўжды аказваюцца самыя змрочныя ўспаміны, хаваецца туга па Радзіме! «У цябе ў самой дах паехаў, — спакойна канстатавала Лада, адпраўляючы ў рот кавалачак вішнёвага дэсерту. — Табе дзяржава плаціць за тое, што маразматыка даглядаеш?» — «Дык і што з таго?» — «Колькі?» — «Дзвесце еўра ў месяц». — «Мала. Падавай на другую ступень па доглядзе, раз ён у цябе такія фінты выдае. Калі ён уночы зноў усё разграміць або перад люстэркам «Хайль Гітлер» зробіць, хуценька хапай фотаапарат і здымай, потым аднясеш у бальнічную касу: так і так, паглядзіце, шаноўнае спадарства, што наш пацыент вырабляе. Можаш і на маральны ўрон спаслацца, гэта таксама добра прадаецца. Маўляў, ты беларуска, цябе ўсё гэта нервуе. У немцаў комплекс віны з-за той вайны, яны гатовыя ўсім на свеце кампенсацыю плаціць. Будзеш атрымліваць чатырыста еўра — вядома, не шыкоўна, але…» — « Ды справа не ў грашах…» — «А ў чым?»

Разумеючы ўжо, што дарэмна завяла тую размову, яна — хутчэй, не Ладзе, а самой сабе — паспрабавала растлумачыць: калі яе бабуля з трыма дзецьмі хавалася ў балоце, па пояс у ледзяной жыжцы, а паліцаі з айнзацгрупы і нямецкія салдаты, папярэдне запусціўшы ў вёску *чырвонага пеўня*, прачэсвалі лес, метр за метрам, і ў кожнага салдата на поясе вісеў кацялок (бабуля потым усё жыццё не магла чуць рытмічнае звяканне лыжкі аб металічны посуд), самы маленькі раптам заплакаў, і яна сунула яму ў рот смочку; але дзіцёнак працягваў пішчаць, а яна ўсё пхала і пхала яму ў рот грудзі, пакуль той не замаўчаў канчаткова, як высветлілася — задыхнуўся. «Затое мой бацька і ягоны брат дзякуючы гэтым пустым, без малака грудзям, што аказаліся ўсё ж дастаткова важкімі, каб абарваць дыханне двухмесячнай істоты, засталіся жывыя. Дакументы бацькі згарэлі ў хаце ў час той аблавы, а метрыкі памерлага немаўляці цудам захаваліся. Жывы пражыў жыццё па дакументах мёртвага. У маім імені па бацьку — імя нябожчыка, які не мог мець дзяцей, бо сам памёр ва ўзросце малечы. І цяпер, калі кармлю ды пераапранаю Ганса, я

ўвесь час думаю: а раптам ён быў у тым лесе?» — «Ты гэта што — сур'ёзна? Зусім ад'ехала? — Лада глядзела на яе не разумеючы. — Пры чым тут твая бабуля? Я ўвогуле не ўрубаюся, якога чорта загружаеш. Калі ўжо надумала кінуць Ральфа, так і скажы. Згодна з табой, бабла ў яго малавата… — Лада нахілілася да яе і панізіла голас. — Я тут з адным немчуронкам з Гановера ў Сеціве пазнаёмілася, кру-у-утызна! Пэўна, звалю я ад Эдвіна, але пакуль што — маўчок. Ужо дамовіліся з Германам разам кватэру пяціпакаёвую здымаць. Але ж я разумная — сваю частку кватэры буду аплачваць сама, каб не страціць аліменты, хе-хе, ад былога мужа!» Лада адкінулася на спінку крэсла, выцягнула ментолавую цыгарэтку. «Люблю марыць… эх, калі б раптам падваліла куча бабак… я купіла б сабе домік на грэчаскім востраве… а ты?» — «Я аплаціла б вучобу дачкі ва ўніверсітэце і… паставіла б на месцы той спаленай вёскі камень…»

Узгадаўшы выраз прыгожага тварыка Лады пасля тых яе, Ларысы, слоў — суайчынніца глядзела на яе з грэблівым спачуваннем, як на прыдуркаватую, — яна адкінула мабільнік убок. Ну давай жа, напруж розум, дзе можа быць стары, дзе? Пальцы дробна трымцелі. Пэўна, давядзецца, як ні круці, звяртацца ў паліцыю, хоць тутэйшая паліцыя выклікае ў яе проста такі генетычны страх. Раптам яна ўзгадала, што сёння — дзявятае мая, і адразу ж убачыла ў паштовай скрыні мясцовы часопіс на рускай мове: часопіс, які выдаваўся былымі аўтахтонамі СССР, прыходзіў з нямецкай дакладнасцю на дзявяты дзень месяца. Спачатку механічна, а потым з цікавасцю прынялася шукаць на старонках матэрыялы, прысвечаныя той вайне, але… нічога вартага не знайшла. Прагартаўшы хутка ўвесь дабраякасны глянец, зазірнула ў рубрыку «Май шмат год таму: хроніка месяца» (не можа быць! хаця б тут, адным радком!), адшукала сённяшнюю дату і з узрастаючым здзіўленнем прачытала, што 9 мая 1964 года на вяршыні амерыканскага хіт-параду апынуўся «вялікі Луі Армстронг з песняй «Hello, Dolly». І ўсё… У гэты дзень, з пункта гледжання рэдакцыі эмігранцкага часопіса, у свеце не адбылося больш НІЧОГА, вартага ўпамінання. Але ж вось нават карэнныя немчуракі на тую падзею не забыліся, бо цярпліва трываюць на гэтай цудоўнай зямлі спадароў-эмігрантаў, абароненых, нібыта даспехамі, добра фінансуемым статусам «ахвяр фашызму»…

Яна перагарнула старонку. Далей была выдрукавана гісторыя нашага суайчынніка, шчодра праілюстраваная ягонымі фотаздымкамі ў стылі «ню». «24-гадовы Аляксандр у выніку 35 аперацый, зробленых на працягу двух гадоў, ператварыўся ў Аляксандру, зрабіўшы поўную змену полу! Цяпер 9 мая, дзень свайго канчатковага «цудоўнага ператварэння», Шура святкуе як дзень народзінаў. Аляксандра паўстала супраць прыроды — і перамагла!» Ніжэй распавядалася пра тое, як на пару з іншым транссексуалам «рабяты – дзяўчаты» зараблялі грошы на аперацыю: тарыф на секспаслугі быў немалы — 500 еўра ў гадзіну. «Не дзіўна, што кліентамі Аляксандра з'яўляліся людзі вядомыя: палітыкі, адвакаты, тэлезоркі». З надрукаванага вынікала, што цяпер той Шурык-Шура дамагаецца разумення з боку грамадства да такіх, як ён, вязняў «душэўнага гета».

Вось такі цяпер змест у паняцця «гета»… Дый дзякуй Богу, што толькі такі! Час ідзе, і нават самы страшны боль пакрываецца скарынкай забыцця. Тут толькі яна заўважыла, што вымаўляе тыя словы ўголас, даводзіць іх свайму адбітку ў люстэрку — ну чыста як Ганс! — і апусцілася на крэсла, закрыўшы твар рукамі. Што ж паробіш, калі ўсякае новае пакаленне імкнецца пазбавіцца ад памяці пра мінулае, як ад старой рухлядзі, вось як яны з Ральфам вынеслі ў кладоўку няўклюдны, пасляваенны яшчэ каток для прасавання бялізны. Асабістая памяць, якая ёсць, па сутнасці, набор вопытаў, у маладых пустая, як незапоўнены лазерны дыск. Наколькі больш прадуктыўна чалавек пражываў бы сваё жыццё, калі б нараджаўся by defa-

ult — менавіта па змоўчанні! — з запісанымі ў розуме гатовымі копіямі файлаў з рэсурсу калектыўнай памяці. Калі б гэта было магчыма, чалавецтву хапіла б усяго адной вайны, якая стала б апошняй. На жаль, ніхто не можа пакарыстацца чужой памяццю. І не хоча. Нядаўна яна даведалася пра тое, што праз шэсць дзясяткаў год пасля Халакосту жыхары баварскага горада Дахау выступаюць за закрыццё мемарыяла, створанага на месцы былога нацысцкага канцлагера. А дамы, што размяшчаюцца ў непасрэднай блізкасці ад труб крэматорыя, што ў час вайны дымілі днём і ноччу, лічацца зараз першакласнай нерухомасцю, бо прылягаюць да ціхіх зялёных раёнаў. І тыя, хто жыве ў тых дамах, не пакутуюць ад начных жахаў. Дый сам горад Дахау ў мясцовай прэсе ўпамінаецца ў асноўным дзякуючы гарадскому бардэлю, дзе працуюць асабліва спачувальныя прастытуткі: пасля адмены дзяржаўнай датацыі пенсіянерам на Каляды жрыцы кахання ўручылі насельнікам дома састарэлых «Friedrich Meinzolt» па €25, паведамілі газеты. А яна, па ўсёй верагоднасці, насамрэч пакутуе на клінічную ўразлівасць… Як сказала Светка: «Маці, гісторыя поўная жахаў, узяць хоць старажытных ацтэкаў — вырывалі сэрца ў жывых палонных, каб прынесці яго ў ахвяру, гэта пакруцей Маутхаузэна. Між іншым, сэрца яны называлі каштоўным кактусавым плодам Арла, а паміраючага ў страшных пакутах палоннага — Арлiным чалавекам. І ўвогуле ў цябе замацаванне афекту». — «А ў цябе?» — хацела яна спытаць, маючы на ўвазе вядома што, але стрымалася, заўжды баялася пакрыўдзіць дачку (вырасла, лічы, без бацькі), якая, дарэчы, досыць удала ўпісалася ў тутэйшае жыццё: скончыла моўныя курсы, знайшла працу афіцыянткі, паступіла ва ўніверсітэт на псіхолага — усё сама, малайчынка! — зняла кватэру ўдваіх з перасяленцам з Казахстана. А як яна, маці, радавалася поспехам дачкі — ды дзеля гэтага гатова была трываць і не такое, што там выхадкі старога маразматыка ды дробязнасць Ральфа, скосыя позіркі суседзяў і тупасць эмігрантаў. Праз паўгода высветлілася, што Светчын Генрых, як тут кажуць, *швуль…* [1] І тое яшчэ паўбяды, а няшчасце ў тым, што дзяўчынка ўсё роўна кахае гэтага тыпуса і працягвае жыць з ім. І яна, маці, не можа анічога ёй параіць, бо на актуальную тэму «Як будаваць сямейнае жыццё з гомасексуалістам» ім не чыталі лекцый ні ў школе, ні ва ўніверсітэце…

Божачкі, яна сядзіць тут над блазенскім часопісам, а Ганс, магчыма, валяецца цяпер дзе-небудзь на трасе з размажджэранай галавой! Дрыготкімі рукамі Ларыса набрала нумар Светкі, і дачка, дзякуй Богу, адгукнулася адразу ж. Яе заўжды заспакойвала Светчына разважлівасць; і цяпер дзяўчынка, імгненна прасякнулася сітуацыяй, сказала: «Маці, не калаціся. Разважай лагічна. Ён уяўляе сябе маладым, так? Што ён тады рабіў? У сэнсе, пасля вайны?» — «Ажаніўся, гадаваў дзяцей». — «А пасля?» — «Пахаваў жонку. Пабудаваў дом для Анелізе». — «Вось і схадзі да Анелізе, можа, ён там». — «Няўжо ты думаеш, што Анелізе не прывяла б яго сама?» — «Хіба ты не ведаеш Анелізе?» — спытала Светка, і мела вох якую рацыю.

Анелізе, старэйшая сястра Ральфа — як, зрэшты, і малодшая, Барбара — даўно не падтрымлівалі з бацькам і братам ніякіх адносін, нават не віталіся. Сварка ў сям'і пачалася з падзелу маёмасці паміж бацькам і паўналетнімі дзецьмі; разгарэлася сапраўдная вайна за дом, у якім жыў цяпер Ральф, і хаця сёстры былі замужам і мелі ўласныя дамы, яны запатрабавалі, каб Ральф і Ганс выплацілі ім іхнюю частку, і атрымалі яе. Анелізе яшчэ і адхапіла палову ўчастка, дзе стаіць яе новы, пабудаваны з дапамогай Ганса дом, таму цяпер яны суседзі. Пры падпісанні дамовы

[1] Ад ням. разм. Schwul — гей.

прадбачлівыя сёстры ўвялі пункт, што за бацьку адказвае Ральф і нясе ўсе выдаткі, у тым ліку лячэнне, знаходжанне ў доме састарэлых, пахаванне й догляд за магілай. У дакуменце дакладна прапісаны межы сыноўняй любові: Ральф прадастаўляе бацьку гарачае харчаванне адзін раз на дзень. Спецыяльным пунктам агаворана, хто менавіта высаджвае кветкі на магіле маці: гэта прадпісвалася рабіць Ральфу, а калі кветкі раптам уздумаецца пасадзіць сёстрам, ён абавязаны аплаціць гэтую паслугу. Цяпер кветкі на магіле (а таксама іх кампазіцыі, прыкладам, на Вялікдзень) садзіць яна, жонка Ральфа. Анелізе, хатняя гаспадыня, наведвае бацьку адзін раз у год — на дзень яго нараджэння. Прыносіць пачак пячэння. Ва ўсе астатнія дні яна, пазбаўляючыся ад залішняе вагі, ходзіць на праменад, наразаючы кругі вакол вёскі, пры гэтым як мінімум тройчы праходзіць паўз бацькоўскі дом, але ніводнага разу не зайшла праведаць старога. А бяздзетная Барбара, якая жыве ў Эбенсфелдзе, удачарыла дзяўчынку з Румыніі ды актыўна займаецца дабрачыннасцю: кіруе грамадскай арганізацыяй, якая збірае адзенне для сірот з былых сацыялістычных краін, раздае інтэрв’ю газетам. Свайго бацьку яна не наведвае нават у дзень нараджэння. Вытанчанае, цывілізаванае, юрыдычна ўзаконенае свінства – у адрозненне ад вахлацкага ўсходнееўрапейскага.

Ларыса перабегла праз двор і ўжо зусім была сабралася пастукаць да Анелізе, але своечасова спыніла руку: тая можа напісаць скаргу, і тады за нядобрасумленны догляд хворага яе, бяспраўную, па сутнасці, эмігрантку, хоць і жонку нямецкага грамадзяніна, што пабралася з ім шлюбам у законным да апошняга вітража мясцовым Ратхаусе, могуць пазбавіць і тых 200 еўра, якія яна атрымлівае як сядзелка. І яна зрабіла выгляд, што проста разглядвае дрэўца магноліі з буйнымі ружовымі кветкамі — натуральна, дарагушчае (не, калі Ганс завітаў бы сюды, дык хутчэй памёр бы на ганку, чым трапіў у дом!), — а потым зноў кінулася бегчы па вуліцы, але апамятавалася: машына! Старэнькі «фальксваген» Ганса завёўся імгненна і літаральна завіляў радасным дымком, як сабака хвастом, — сабака, які выпраўляецца на пошукі гаспадара. Нібыта адчуваў, за якой-такой патрэбай яго выганяюць зараз з гаража. Павольна — а сэрца калацілася — яна пакаціла звыклым шляхам, які пераадольвала рэгулярна па суботах і нядзелях: у гэтыя дні працавала пасудамыйкай у адным з рэстаранаў Эбенсфелда (па выхадных Ральф сам у стане даглядаць свайго бацьку). Дарэчы, яе напарніцы па кухні — расіянка з дыпломам філолага ды ўкраінка, якая ў сваёй краіне была журналісткай, такая вось гуманітарная кампанія; у час працы яны абмяркоўваюць стыль Макса Фрыша і эстэтыку Пруста, не забываючы пры гэтым да бляску начышчаць грыль-патэльні мыйным сродкам. Тут, у баварскай глыбінцы (хоць і не менш, чым вялікія гарады, цывілізаванай ды дагледжанай — даўно і трывала), знайсці калі-небудзь працу па спецыяльнасці шанцаў няма ні ў адной з іх — вось дзяўчаты й адводзяць душу ў інтэлектуальных размовах. А што ім яшчэ застаецца: іхнія мужы, яна можа галаву даць на адрэз, і блізка не ведаюць, хто такі Макс Фрыш.

Квітнеючыя элізіумы палісаднікаў засталіся ззаду. Яна ехала цяпер уздоўж поля, на краі якога расло незвычайнае раскідзістае дрэва, якое так уразіла яе калісьці: плоская крона нібыта распадалася на дзве часткі й нагадвала гіганцкага трапяткога матыля, які вось-вось узляціць, а магутны ствол утвараў нешта накшталт сядзення. Потым, калі падышла бліжэй, яна зразумела, што кроне прыдадзена патрэбная форма нажніцамі майстра. Дрэвы тут злоўленыя ў палон цывілізацыяй — мажліва, таму яны не выпраменьваюць святла; там, у старым парку яе дзяцінства, засталося маўклівае ззянне, якое адчувала, бадай, толькі яна адна з крыклівага галаваногага лагернага натоўпу: нават далоні, якія яна любіла складваць купалам над някідкімі суквеццямі крываўніка, пачыналі ззяць цёплым, ружова-залатым… Яна прапусціла

паварот і рэзка затармазіла, успамін адляцеў успуджаным матылём. Ля таго дагледжанага (але ці шчаслівага?) дрэва яны са Светкай любілі адпачываць, калі гулялі па ваколіцах. Калі Ганс яшчэ не патрабаваў штохвіліннай яе прысутнасці…

Хто ведае, мажліва, стары зноў вырашыў, што яго хочуць адправіць на фронт, і схаваўся? Каля месяца таму, вярнуўшыся з Эбенсфелда, яна ўбачыла Ганса, які бегаў па дому з пенай на вуснах і пашыранымі ад жаху зрэнкамі, у кашулі палыннага колеру з дзвюма нагруднымі кішэнямі ды шырокім поясам, якая адразу ж нагадала ёй форму салдат вермахта. «Гарольд сказаў, што я павінен ісці на вайну! Ён прымусіў мяне апрануць Uniform! Казаў, калі я не пайду, маю маму адправяць у Дахау! А я не хачу на вайну! Не хачу! Я бачыў Vernichtungskrieg![1] Што будзе з маёй мамай?!»

І настойваў на сваім так пераканаўча, што яны з Ральфам, здаецца, таксама крыху крануўшыся розумам, патэлефанавалі Гарольду, пекару з суседняга гарадка, які па пятніцах прывозіў ім булачкі ды печыва (была якраз пятніца) і, пераадольваючы няёмкасць, спыталі наконт той кашулі, — вядома, усё аказалася трызненнем хворага. Пазней Ральф прыгадаў, што гэтую кашулю колеру фельдграу Ганс у маладосці выкарыстоўваў як рабочае адзенне; дзе ён умудрыўся адшукаць яе праз дзясяткі год, так і засталося таямніцай. Яна тады дала старому заспакаяльныя лекі і прыбрала кашулю з вачэй — ён адразу ж забыўся пра яе і прыняўся засяроджана інспектаваць шафы ды шуфлядкі на кухні: калі не «ваяваў», дык шукаў салодкае, перакопваючы ўсе даступныя яму месцы. (Тую кашулю яна потым ледзь паспела выхапіць з гуманітарнага каша, куды, не доўга думаючы, кінуў яе Ральф, — гэтыя кашы, прызначаныя для збору старых рэчаў, дабрачынныя арганізацыі ставяць проста пад дзверы. На кожным кашы маецца акуратная бірка з назвай краіны. На гэтым было напісана «Weiβrussland». Рэчы будуць перададзены ў беларускія дамы састарэлых, растлумачылі ёй, і Ларыса, міжволі ўявіўшы ў кашулі былога салдата вермахта свайго дзеда, які пабываў у акупацыі — і даўно памёр, але хіба ў гэтым справа? — пайшла раскладаць агонь у печы, каб спаліць чортаву анучу).

Што яшчэ ёй запомнілася з таго дня? Бліжэй да ночы дзеянне лекаў скончылася, і Ганса зноў апанавала бяспамяцтва: ён разварочваў ложак, штохвілінна адчыняў жалюзі на вокнах, хаваўся ад людзей-адбіткаў. Размаўляў з люстэркам — плынь малазразумелай лагарэі не сканчалася да рання: з-за таблетак дзень у хворага пераблытаўся з ноччу. Задрамаўшы а шостай гадзіне, праз некаторы час яна пачула крык і, спусціўшыся, убачыла яго ў калідоры: ён трымаўся рукамі за галаву і стагнаў. «Што здарылася, Ганс?» Ён прачнуўся ў цемры і вырашыў, што замкнёны ў пуні, поўнай трупаў: «Некаторыя былі скалечаныя… я не ведаў, як адтуль выйсці… за што іх расстралялі?! За што?!» Яе закалацілі дрыжыкі, а ён стаяў, пагрозліва паказваючы кулак свайму адбітку ў люстэрку: «Пачакай, вырадак, Ганс знойдзе, дзе ты хаваешся…» Ларыса адвяла старога ў ложак (прачнуўшыся раніцай, ён, як заўсёды, нічога не памятаў) і, накропаўшы ў чарку карвалолу, сказала сабе, што далей так працягвацца не можа, бо хутка і яна, як яе падапечны, з'едзе з глузду.

Ушчэнт выматаная ўсім гэтым, яна ўгаварыла Ральфа заказаць спецыяльны ложак з высокімі бартамі — суперложак, забяспечаны механізмам, каб прыўзнімаць пацыента для кармлення, і драўлянай рашоткай, выбрацца з-за якой хворы самастойна не здолее. «Усяго за пяць еўра!» — задаволена паціраў рукі Ральф, да той хвіліны, калі даведаўся: пасля смерці Ганса ложак будзе перададзены другому хвораму, і таму ў выпадку паломкі Ральфу прадпісваецца аплаціць поўны кошт

---

[1] *(Ням.)* — расавая вайна.

гэтага тэхнічнага цуду — больш за тысячу еўра. У тую ж ноч Ганс прадэманстраваў сваё грэбаванне законамі эканоміі: гвалтоўна пакладзены ў ложак, ён так торгаў драўляныя перакладзіны, што яны не вытрымалі. Ложак, дальні сваяк катафалка, прызначаны для спакойных хворых; яго пашкоджанне не прадугледжана медыцынскай страхоўкай. Зранку Ральф не ў сабе ад раздражнення сеў рамантаваць ложак, а Ганс, які ўжо забыўся на ўсё, што адбылося ноччу, з дзіцячай усмешкай шчасця аплятаў Гарольдавы булачкі з марцыпанам і распяваў сваё «Auf Wiedersehen... Auf Wiedersehen...» У яе ж дадалося клопатаў: уночы вартаваць ложак. Моцы ў старога было яшчэ дастаткова, гемаглабін выдатны, сэрца здаровае; калі б ён зноў стаў псаваць уласнасць бальнічнай касы, ёй давялося б клікаць на дапамогу Ральфа. Вось яна і сядзела ля хворага, а каб не заснуць, раздумвала над тым, хто ахоўвае ўладанні Мнемазіны, якія яны, вартавыя яе межаў, і чаму ніводнае пакаленне не жадае карыстацца крэдытам — беспрацэнтным! — з банка агульначалавечай памяці…

Зрэшты, ці можа чалавек пакарыстацца чужой памяццю? Рытм жыцця паскараецца, усе досведы імгненна робяцца састарэлымі; кожны з людзей самотны, нібыта рукавіца, згубленая ў снезе, мы хапаемся, як за абломкі ільдзін, за высновы аўтараў кніг, але яны ўжо не спатрэбяцца нам, бо свету, у якім жылі тыя, больш не існуе. Суцэльныя пласты рэальнасці адколваюцца ад нашага берага і касяком адыходзяць у нішто. Аднойчы, калі Ларыса ўсё ж такі задрамала на сваім пасту, ёй прымроілася: Мнемазіна, чамусьці ў кароткай джынсавай спадніцы, з татуіроўкай на сцягне, нібыта якая-небудзь дзяўчынка з дыскатэкі Эбенсфелда, куды Ральф дагэтуль ходзіць паслухаць музыку, таньчыць з люстэркам, нібыта на подыуме, на астраўку сушы, які катастрафічна змяншаецца, а ўнізе струменіцца Лета. Люстэрка тытаніды і зімовая вада Леты адлюстроўваюцца адно ў адным, памяць сцірае забыццё, забыццё змывае памяць… І сон быў такі жывы ды яркі, што яна, прачнуўшыся, доўга чамусьці не магла супакоіцца.

Леваруч паказаліся могілкі. Магчыма, хворага пацягнула на магілу жонкі? Зрэшты, асаблівага кахання да Эльзы яна ў Ганса не заўважала, стары нават ніколі не ўзгадваў яе. Прыпаркавала машыну і пайшла па дагледжанай сцяжынцы паміж мармуровых помнікаў, па тутэйшым звычаі пазбаўленых партрэтаў. Яшчэ год таму, адпраўляючыся высаджваць кветкі на магіле Эльзы, ахвотна брала з сабой старога; ён дапамагаў несці пакунак з зямлёй, а потым моўчкі стаяў побач, пакуль яна, у строгай адпаведнасці з сезонамі года, клапатліва ўладкоўвала на новым месцы жыхарства браткі ды нарцысы — вясной, чырвоную бягонію — летам, верас — восенню, галінкі хвоі — зімой. Мёртвыя непатрабавальныя. Яна і Эльза — аднагодкі, калі можна так казаць пра нябожчыцу: калі маці Ральфа патанула, плаваючы ў возеры, ёй было столькі ж год, колькі цяпер жонцы Ральфа. Ларысу нават радавала, што ў гэтых мясцінах у яе з’явілася *свая* магілка, якую можна даглядаць. У яе, іншаземкі, няма шанцаў абзавесціся тут такім вось элегантным помнікам: за месца на могілках трэба плаціць. Ходзіш ты ў кірху ці не, зрабі ласку пажыццёва выкладваць грошы царкве за тое, што табе калі-небудзь будзе забяспечаны пропуск у горад мёртвых (і ў рай па сумяшчальніцтве). За нябожчыка з задавальненнем бярэцца фірма, якая клапоціцца пра добрапрыстойную ўтылізацыю: цела пасля ўсіх неабходных маніпуляцый дастаўляюць на могілкі, аплачваюць кавярню, куды ахвотныя могуць пайсці пасля пахавання: гарачая кава, сандвічы з сырам і каўбасамі — сціплая ежа, якая дазваляе ўмацаваць цялесную абалонку, але не дае забыцца на яе тленнасць.

На магіле Эльзы Ганса не было. Яна раптам адчула, як стамілася за гэты моташны дзень, і прысела ля помніка, аглядаючы абсаджаныя нізкім стрыжаным ядлоўцам суседнія пліты. Кожная магіла — маленькі дагледжаны садзік з абавязковымі кустамі руж, ліхтарыкамі ды лампадкамі, з белымі фігуркамі анёлаў. Як гэта не падобна

да месцаў упакаення яе родных! Нават неба над тутэйшым некропалем эмалева-блакітнае, як на старажытных мазаіках у Эрмітажы Байройта; там, дзе пахавана яе маці, неба амаль заўжды дажджлівае, гнілое, яно давіць на плечы і спараджае ў жыхарах правінцыйнага гарадка libератанінавы голад і дэпрэсію, традыцыйны айчынны зыход з якой вядомы: п'янства. Але тутэйшая вытанчанасць не кожнаму па кішэні. Для Ганса месца побач з жонкай даўно аплачана; руплівая нямецкая зямля, патрабуючы выканання дамовы, прасела з аднаго боку магілы — там, дзе мусіць стаяць труна. Выплаты за месца пад ласкавым баварскім сонцам працягваюцца і пасля смерці: па новым законе сваякі нябожчыка аплачваюць арэнду зямлі на трыццаць год уперад, а не на дваццаць, як было раней, бо ў сучаснай экалогіі з-за змяненняў мікрафлоры глебы труп за такі кароткі тэрмін не паспявае згніць — і гэта падлічана з той халоднай дакладнасцю, ад якой у яе, Ларысы, пры ўсёй яе нянавісці да айчыннага бязладдзя, проста мароз па скуры. Адразу ж бярэцца плата за дэмантаж помніка: калі праз трыццаць год родзічы раптам уздумаюць нахабна змяніць месца жыхарства, не папярэдзіўшы царкву (чаго, зразумела, ніколі не здараецца), той не давядзецца адшукваць іх. Сёлета Ральф атрымаў ветлівы ліст-напамінак, што аплачаны час скончыўся, і трэба альбо плаціць далей, альбо знішчыць помнік маці ды прадаставіць месца больш заможным нябожчыкам: за 5 год 100 еўра, за 10 — 200 еўра і г. д.

Яна вярнулася ў вёску і прыпаркавала машыну ля ганка. Што ж, напэўна, не застаецца нічога іншага, як тэлефанаваць у паліцыю. Калі Пауль, які жыў па суседстве, знік у ноч на Хэлоуін (яна гэта дакладна запомніла, бо дзеці ў касцюмах вядзьмарак стукаліся ў дамы, збіралі ў мех ласункі), справа таксама скончылася паліцыяй. Ноччу выпаў першы снег, а раніцай паліцэйскія знайшлі скарчанелы труп Пауля. Увечары яго брат, таксама досыць пажылы спадар, замкнуў дзверы і лёг спаць. Хто мог уявіць, што хворы вылезе праз французскае акно! Гэтыя вар'яты часам такія хітрыя і вынаходлівыя, калі хочуць выслізнуць з хаты, узяць хаця б сённяшняе здарэнне з Гансам. Зрэшты, Пауля шукаць доўга не прыйшлося: на краі вёскі стаяў пусты дом ягоных бацькоў. Праз вядомы яму лаз уцякач пралез унутр і заснуў на сваім ложку, дзе спаў у юнацтве, — пэўна, як і Ганс, уявіў сябе хлапчуком, а тэмпература на вуліцы між тым знізілася да мінус васьмі. Тым ранкам, занятая, як і ўся вёска, мітуснёй вакол сумнай падзеі (паліцыянты заходзілі ў дом, задавалі пытанні), Ларыса не адразу ўсвядоміла нязвыклую цішыню: Ганс чамусьці не крычаў, гукаючы яе. Дзверы пакоя паддаліся з цяжкасцю: стары ляжаў ля парога непрытомны. У паўзмроку (жалюзі былі зачыненыя) ёй удалося разгледзець рану на ілбе і парваную мочку вуха. Ральф паспеў з'ехаць на працу, і ёй прыйшлося бегчы за Аліцыяй і Отта; утрох яны паднялі Ганса, паклалі на ложак. Аліцыя толькі вохкала, разглядаючы плямы крыві на светлым (калісьці) дывановым пакрыцці. Ад страты крыві стары тады абяссілеў настолькі, што ляжаў ціха, нават драўляная рашотка ложка не абуджала ў ім звычайнай агрэсіі.

Можа, і зараз Ганс ляжыць дзе-небудзь, разбіўшы галаву аб камні, сцякаючы крывёю? А мо прагаладаўся, пачаў жаваць якое-небудзь вулічнае смецце і, канечне, паспеў ім падавіцца: ежу хапае прагна, а пра тое, што трэба пражоўваць, забывае. Нядаўна падавіўся кавалкам мяса, не мог дыхаць і быў ужо непрытомны, верталёт — тутэйшая «хуткая дапамога» — ляцеў з Эбенсфелда, чакалі ўсяго хвілін сем, верталёт прызямліўся за вёскай, урачы беглі праз поле бягом, спартовага выгляду маладыя мужчыны з сумкамі, напічканымі апаратурай, трыста метраў прабеглі й нават не запыхаліся (ёй адразу ж успомніліся працуючыя ў «неадложцы» яе гарадка квактухі з камодападобнымі постацямі, як яны нетаропка вывальваюцца з раздзяўбанага РАФа). Стары ляжаў на баку і хрыпеў; горла яму прачысцілі, але ў лякарню

ўсё-ткі забралі — баяліся пнеўманіі. Калі ж яны з Ральфам наведалі яго праз дзень, Ганс іх не пазнаў і нёс поўную лухту, бо пры ягонай хваробе любая перамена толькі згушчае туман у галаве.

Дарэчы, там, у лякарні, ён быў прывязаны да ложка спецыяльным поясам, каб не ўставаў, — своечасовая мера, улічваючы хаця б і сённяшняе здарэнне. Усё яму трэба кудысьці ісці, спатыкаецца аб парогі-прыступкі, падае і ляжыць бервяно бервяном, увесь у сіняках-крывападцёках, а ўсё роўна, варта паставіць на ногі, зноў пускаецца шкандыбаць, нібыта дзіцянё, якое вучыцца хадзіць. І сённяшні яго дэмарш трэба было, вядома, прадбачыць, аднойчы ён ужо зрабіў падобнае, хаця менавіта тады ніхто гэтага і не чакаў.

Перадусім яна, даведзеная няспаннем амаль да галюцынацый, па парадзе ўрача павялічыла хвораму дозу мелперона; як высветлілася потым, доза была для гіпапатама, не меней. Ганс неахвотна прадзіраў вочы апоўдні, расслаблена ляжаў у ложку гадзінамі; карміць трэба было толькі адзін раз, сняданак і вячэра прападалі. На навакольны свет амаль не рэагаваў, драмаў і днём на канапе ў гасцёўні, а пасля месяца такіх доз зусім саслабеў: ногі раз’язджаліся, што ў таго нованароджанага цяляці, колькі разоў падаў — Ларыса і не лічыла, амаль не еў і спраўляў патрэбы, натуральна, пад сябе. Выглядаў ён так дрэнна, што яна забіла трывогу і выклікала ўрача ўзяць кроў на аналіз. Яго даб’е найменшая прастуда, сказаў урач, лейкацыты ўпалі ніжэй няма куды; яна скончыла даваць тыя пілюлі, хутала яго ў шалікі ды цёплыя вязаныя кофты, як калісьці Светку пасля чарговай ангіны, і міжволі шкадавала, а ён зрабіўся пакорлівым і бездапаможным, пазіраў на яе выцвілымі згусткамі эмалі ды шаптаў сваё «данке шён». Неўзабаве крыху акрыяў, але быў яшчэ кволы і пастаянна падаў — а падаў жудасна: аднойчы так грымнуўся ўсім целам на спіну, што яна думала — усё, канец, але абышлося. Страшны, як гогалеўскі мярцвяк, увесь у барвовых і чорных плямах (сінякі з-за дрэннага кровазвароту не сыходзілі), ён увесь час ірваўся кудысьці бегчы, зноў падаў і разбіваўся ў кроў. І яна змучылася канчаткова, бо падняць яго адна не магла: цяжкі, як мех з мукой, і, як мех жа, бездапаможны, сам ён анікольві ёй не дапамагаў. Потым ужо здагадалася крэсла падстаўляць, каб ён мог рукамі ўхапіцца, а яна ў гэты час яго прыўзнімала, так і перасоўваліся па дому двухспіннай істотай з крэслам у галавах.

А пазней ён адужаў ужо настолькі, што ўсё намагаўся выслізнуць на вуліцу, вось тады і адбыўся той выпадак, генеральная, так бы мовіць, рэпетыцыя сённяшняга. З яе дапамогай ён уставаў, дапаўзаў да сваёй канапкі ў гасцёўні, там яна яго пакідала, а сама завіхалася па гаспадарцы, абсалютна ўпэўненая ў тым, што ён занадта слабы, каб куды-небудзь ісці. Пралічылася. Яна прыбіралася на другім паверсе, Ральф адправіўся ў лес па дровы і забыў замкнуць дзверы; была ранняя вясна, пачынала цямнець. Тады Ганс, згубіўшы па дарозе чаравік, здолеў дайсці да канца вёскі, дзе зваліўся ў калюжыну на абочыне, ну а падняцца самастойна, зразумела, не мог. Па гэтым чаравіку, што валяўся пасярод вуліцы, Ларыса яго і знайшла, а з дапамогай шляхетнага спадара, што праязджаў міма, паставіла на ногі; дарэчы, ёй каштавала немалых высілкаў расціснуць пальцы яго правай рукі, у якой ён трымаў кол, верагодна, вырваны з чыёйсьці агароджы. Усё гэта яна расказала тады ўрачу ў лякарні, не забыўшы дадаць, што ў іх пабывалі судовыя медыкі ды адвакат, якія пацвердзілі неабходнасць апякунства над Гансам; у выніку Ральфу выдалі пашпарт апекуна і таўсценны даведнік. Між іншым, да гэтага Ральф і яна не мелі права перашкаджаць старому выходзіць з дому, а таксама чытаць пошту, якая прыходзіла на яго імя: нічога не паробіш — правы чалавека! Але пасля ўступлення ў сілу рашэння суда ніхто не абавязаны больш звяртаць увагу на дзівацтвы хворага. Ці можна зараз і дома, а не толькі ў лякарні, прывязваць Ганса поясам да ложка, пацікавілася яна. Так,

адказала доктарка, цяпер можна. І паспяшайцеся, калі вы па-ранейшаму жадаеце аддаць яго ў дом састарэлых, там яшчэ засталіся свабодныя месцы, можаце спачатку ўладкаваць яго часова, праўда, кароткатэрміновае знаходжанне каштуе даражэй, заўважыла медычка.

А ёй, Ларысе, пасля тых слоў доктаркі ўспомніўся яшчэ адзін «унук сібірскага шамана», псіхолаг з эмігрантаў, паслухаць якога яе запрасілі ў жаночы крызісны цэнтр, і яна з цікаўнасці схадзіла. Пажылы мужчына падкрэслена еўрапейскага выгляду — у модным швэдары, з маладзёжным вожыкам сівых валасоў — усміхаючыся на ўсе трыццаць два ненатуральна белыя зубы, філасофстваваў пра тое, што паміраць — гэта смешна. І яна, хаця і не зразумела, што ў тым смешнага, падзівілася альтэрнатыўнасці падыходу. Мы яшчэ не прынялі канчатковага рашэння, сказаў Ральф. Я разумею, адказала ўрач, гэта нялёгка, але, у рэшце рэшт, давядзецца змірыцца. Пакутуючых на хваробу Альцгеймера ў Германіі ўсё болей, а маладым трэба жыць і працаваць.

Усвядоміўшы цяпер справядлівасць тых слоў урача, яна адчула, як сціснула сэрца ад нервовага напружання і страху за Ганса, дзесьці зараз паміраючага (што зусім не смешна), і тут жа раздалося раздражняючае папіскванне мабільніка. Ларыса пачула жаночы голас, які гаварыў па-нямецку з дзікунскім акцэнтам, хутчэй за ўсё, усходнеславянскім: «Гэта не ёсць фраў Краўз? Я ехай мая машына і знаходзіць тут у брудзе ляжаць дзядуля з запіскай вашага тэлефона на карман…» і закрычала паруску: «Да, это мой, вы где?! Я уже еду!!»

* * *

Давай-ка, дружа, здымай швэдар, цяпер кашулю, вось так, Ганс у нас малайчына, цяпер штаны і шкарпэткі, хадзем мыцца, Гансік, ну давай жа, чаго ты ўпіраешся, дурненькі, зараз будзеш у нас жаніх хоць куды, заўтра цябе чакаюць у адным цудоўным месцы, там знойдзеш сабе сімпатычную бабулю з манікюрам і прычоскай ад моднага парыкмахера, яны тут усе ў семдзесят год яшчэ ў гольф гуляюць, вось прыступка, асцярожна, не бойся, я трымаю цябе, цяпер па адной назе ў ванну, цішэй, не паслізніся. Усё гэта яна гаворыць старому па-беларуску; даўно засвоіла манеру размаўляць з хворым на роднай мове. Яна дагэтуль не можа з дакладнасцю сказаць, ці разумее яе Ганс; ён не выяўляе ні здзіўлення, ні раздражнення, а паслухмяна садзіцца за стол, варта ёй паклікаць: «Ганс, абедаць!» і сам пачынае распранацца, як толькі яна скамандуе: «Мыцца!» Цяпер, Гансушка, па адной назе асцярожна на падлогу, ды не спяшайся ты, гора маё, паспееш злопаць сваё пічыва, і да чаго ж, Божухна, можа дайсці чалавек. Ну паглядзі ж на сябе, эх, калі б ты хоць памятаў, дзе зарабіў вось гэта ўпрыгожанне! На сцягне Ганса цямнее вялізны лілова-чорны сінячышча — вынік адзінокай прагулкі.

Прыляцеўшы ўмомант на месца, дзе ён ляжаў на зямлі (усяго некалькіх метраў не дайшоў да глыбокага яра), — там яго знайшла нечаканая выратавальніца, якая аказалася этнічнай немкай з Сібіры, — Ларыса звярнула ўвагу на тое, што ў правай руцэ Ганс моцна сціскае драўляную калодку для абутку. Ну раскажы, навошта табе тыя палкі, калодкі? Навошта выламваеш перакладзіны з ложка? Куды ўвесь час уцякаеш? Чым табе дрэнна дома, з намі? Пачакай, вось заўтра адвязём цябе туды, адкуль так проста не збяжыш… Яна нацягвае на жоўтую зношаную скуру трусы-памперсы (цяпер ужо і днём: пасля тыдня ў лякарні Ганс канчаткова забыў, дзе ў доме прыбіральня, і вось зараз, у сувязі з павелічэннем нагрузкі па доглядзе хворага, ёй, напэўна, далі б другую групу, у якой адмовілі раней). Апранае старому шкарпэткі, споднікі, спартовыя штаны (ад штроксавых, якія насіў да лякарні і якіх

прыкупілі некалькі пар новых — дарагія, заразы, — ад штроксаў давялося адмовіцца: ён развучыўся спраўляцца з маланкай і гузікам, так і выходзіў з клазета з расшпіленым прарэхам, добра яшчэ, калі зморшчаны адростак не вывальваўся пры гэтым вонкі), кашулю, швэдар — ну вось і справіліся. Ральф пагаліў бацьку, а яе знаёмая з Эбенсфелда падстрыгла яму пазногці спецыяльнай машынкай: з-за шматгадовага грыбка нажніцы іх не бяруць. І, агледзеўшы пасвяжэлага і быццам бы нават памаладзелага Ганса, яна прынялася збіраць яго рэчы.

Тыдзень таму яны з Ральфам прынялі рашэнне змясціць хворага ў дом састарэлых — пасля падзей 9 мая гэта паўстала з усёй незваротнасцю. Пакуль што на дваццаць адзін дзень: тэрмін яе штогадовага адпачынку з захаваннем аплаты, які прадастаўляе нямецкая дзяржава таму, хто даглядае цяжкахворага. А потым, калі адпачынак скончыцца, хутчэй за ўсё, яны назаўжды афармяць старога ў багадзельню. «Вось бачыш, як добра, што табе не далі другую групу па доглядзе, з ёй і аплата ва ўстанове вышэй!» — задаволена казаў Ральф, і яна ў які ўжо раз падзівілася таму, як лёгка яны знаходзяць падставы для шчасця: сэканоміў 100 еўра — вось табе і свята! А Ральф так разышоўся, што павёў яе ў кавярню і нават заказаў шампанскае, — зразумела, тое, што пад гэтым разумеюць яе суайчыннікі, бо сапраўднае шампанскае (Champagner) робіцца толькі ў Шампані ды каштуе шалёных грошай (усё астатняе — віно ігрыстае, тут яго называюць Sekt; па няведанні яна калісьці казала немцам, што ў Беларусі п’юць па святах Champagner, і ў тых вочы на лоб лезлі ад здзіўлення ды жаху перад дурным марнатраўствам людзей, якія не грэбуюць паношаным адзеннем). І калі яна выпіла свой бакал Sekt’a, Ральф паведаміў, што заўтра ніяк не можа адпрасіцца з працы, тэрміновы заказ, і таму везці Ганса ў багадзельню давядзецца ёй.

…Дом састарэлых — Pflegeheim або Seniorenheim, як ён тут называецца, атачаны англійскім газонам з падстрыжанымі ў выглядзе правільных конусаў кустамі. Жывая агароджа таксама падстрыжана нібы па лінейцы, ля ганка разбіты клумбы. Ружы ў такім месцы здаюцца штучнымі: шыкоўнымі ды бяздушнымі. У фае таксама шмат кветак, ёсць нават дэкаратыўная пальма ў вазоне, засунутая ў вугал, як бедная сваячка. Іх з Гансам сустракае дзяжурны ўрач, і можна не сумнявацца ў тым, што ён шчыра рады іх бачыць: за кароткатэрміновае знаходжанне старога ва ўстанове Ральф заплаціць каля дзвюх тысяч еўра (палавіну з іх кампенсуе страхоўка). Пры медыцынскім аглядзе Ганс паводзіць сябе як паінька: на пытанні адказвае разумна, увесь ажно свеціцца добразычлівасцю ды прыязнасцю (дакладна так было, калі прыходзіў сямейны ўрач), і яна зноў здзіўляецца двум абсалютна розным аблiччам хворага: дзённаму і начному. «Які прыемны пажылы спадар!» — гаворыць урач, афармляючы паперы (ага, цікава, што ты запяеш, калі ён апоўначы пачне акопы капаць?), і ўрачыста паведамляе, што яны з Ральфам нарэшце прынялі правільнае рашэнне. Вы і так надта доўга цярпелі, большасць не вытрымлівае і года: увогуле, гэта пытанне часу і нерваў, кажа ён. У суправаджэнні лекара Ларыса праходзіць па этажах Phflegeheim’a. У холе мноства жывых кветак — як у сапраўднай пахавальнай канторы; сярод кветак сядзяць і прагульваюцца тутэйшыя насельнікі, некаторыя ў інвалідных калясках, самі падобныя да акультураных вечназялёных кусцікаў у вазонах. Тут жывуць звычайныя адзінокія людзі, тлумачыць урач, кожны мае асобны пакойчык, можна прывезці ўласную мэблю, можна карыстацца казённай; хто жадае, сам гатуе ежу на агульнай кухні, але большасць аддаюць перавагу ўжо прыгатаваным стравам або заказваюць іх згодна меню ў рэстаране. Божа мой, заказваюць у рэстаране! Нашаму дык трэба паднесці да рота шклянку і гвалтам уліць змесціва ці хаця б прасачыць, каб выпіў: у такіх, як Ганс, вельмі хутка наступае абязводжванне. (Няўжо яна цяпер сказала — «нашаму»?) Тут на адну медсястру дзесяць

пацыентаў, паціскае плячыма ўрач, абед па чвэрці гадзіны на кожнага, калі хворы не спраўляецца, арганізуем штучнае харчаванне. Дык што, Ганса намераны карміць тут унутрывеннымі растворамі? І ці будзе хто-небудзь дзяжурыць ля яго па начах? Справа вось у чым, гер доктар: ён баіцца заставацца адзін у цемры. Яму здаецца, што вайна ўсё яшчэ працягваецца. Вы разумееце? Яго пагналі сямнаццацігадовым у акупацыйную зону… (Ці яна гэта гаворыць?) Ну што ж, павялічым дозу мелперону, ветліва-раўнадушна кажа ўрач. Але ён і так прымае тры таблеткі штодня, больш не вытрымае печань! Урач глядзіць на яе са здзіўленнем. Рана ці позна гэта ўсё роўна здарыцца, фраў Краўз.

І сапраўды, ёй дык што за справа да гэтага старога, былога нямецкага ваяра? Ці не яна яшчэ нядаўна хацела кінуць мужа, каб ніколі больш не бачыць Ганса бегаючым па доме ў мілітарысцкай кашулі, не чуць яго «Auf Wiedersehen... Auf Wiedersehen…»? Яна ж марыла здаць яго ў багадзельню! Няўжо яна даравала яму, быламу акупанту? Насустрач Ларысе лядашчы стары старанна круціць рукамі колы інваліднай каляскі. Бачна, што намаганне даецца яму з цяжкасцю: маршчыністая скура на шыі боўтаецца, як пустыя трыбухі, на руках успухлі жылы, па падбароддзі сцякае цурок сліны… Можа, дарэмна яны з Ральфам пасняшаліся? Трэба было для пачатку паспрабаваць прывязваць Ганса на ноч да ложка поясам. Бо яны ж купілі пояс, прызначаны спецыяльна для такіх хворых. Паварочвацца з боку на бок ён зможа, нават сесці, калі вельмі пастараецца, але ўстаць — ні ў якім выпадку, сказаў уладальнік магазіна. Можна, дарэчы, зрабіць і так, каб хворы ляжаў і не мог варухнуцца, пояс прадугледжвае і гэтую магчымасць. Крычаць, вядома, пояс яму не перашкодзіць, але на гэты выпадак у нас ёсць цудоўныя берушы — зразумела, не для яго, а для вас, ці жадаеце зірнуць? Не, не трэба, сказала яна тады, а ўяўленне (яе клінічна абвостраная ўразлівасць) адразу ж намалявала ёй гэты пояс як прадукт удасканалення традыцыйных прылад катавання. Хвароба Альцгеймера цяпер вельмі распаўсюджана, уздыхнуў уладальнік магазіна, мае бацькі — абодва, і маці маёй жонкі таксама… зразумела, усе яны ў дамах састарэлых, іх там добра даглядаюць.

Узгадаўшы тую размову (вось, немцы аддаюць сваіх блізкіх, а ён табе хто?), яна крыху супакоілася і ўпэўнена ўвайшла ў маленькі пакойчык з драўляным ложкам і стракатымі фіранкамі на вокнах. Цяпер гэта будзе Гансаў пакой. Магчыма, апошні ў яго жыцці. Іншага ён не ўбачыць. Яна ўзяла старога за руку і павяла, і ён паслухмяна пацягнуўся следам, шоргаючы тапкамі. Перад дзвярыма спыніўся, зірнуў на яе запытальна, а яна, схаваўшы збянтэжанасць, усміхнулася яму падбадзёрваючы — навошта ж палохаць хворага? Ну вось, Гансік. Уладкоўвайся, адчувай сябе, як дома. Тут ты будзеш цяпер жыць. Тут добра. Цябе будуць даглядаць. Бачыш, які прыгожы краявід за акном? Ты зможаш любавацца кветкамі, вось толькі за агароджу выходзіць табе нельга. Ніякіх далёкіх прагулак! Мы з Ральфам будзем часта цябе наведваць. Не сумуй! І яна абняла і пацалавала старога ў вялую прахалодную шчаку — упершыню за час іх жыцця пад адным дахам. І адчула на губах вільготны след. Дзіўна: сляза Ганса не была салёнай. Яна ўвогуле не мела смаку, як дыстыляваная вада. Пакінуўшы хворага пад наглядам медсястры, якая ўжо сюсюкала з новым жыхаром, як з дзіцёнкам, Ларыса выйшла з пакоя, міжволі адзначыўшы, што ў ім няма люстэрка, так што размаўляць Гансу не будзе з кім. У дзвярах азірнулася, каб яшчэ раз усміхнуцца і памахаць яму рукой.

— Не пакідай мяне! — раптам сказаў Ганс, абсалютна разумна гледзячы на яе, і ад яго позірку адчуўшы ў горле камяк (ну ты даеш! каго шкадуеш?), яна збегла ўніз па лесвіцы, села ў машыну і ўключыла матор, каб сагрэцца. А потым зразумела, што калоціць яе не ад холаду, а ад адчування віны — канечне ж, абсалютна недарэчнага.

Дом набіты нязвыклай цішынёй, як ватай. Цішыня абкладае думкі, нібыта яе мозг — крохкая ёлачная цацка, надзейна ўпакаваная да наступных Калядаў. У яе чарапную каробку напхалі мяккай задушлівай ваты. Гансава таблетка мелперона, якую Ларыса выпіла гадзіну таму, каб заснуць, зрабіла вату цяжкай, набухлай вільгаццю, і толькі… Як ён там? Учора скардзіўся на галаўны боль. Пакармілі яго або ўвагналі ў вену раствор? Напэўна, ляжыць мокры, прышпілены поясам да ложка, і кліча яе, ён жа не разумее, дзе знаходзіцца… Або разумее? Ці дайшло да яго, што яго пакінулі паміраць? Чаму ён плакаў? А яна, аказваецца, паспела прывязацца да гэтага нямоглага, абсалютна чужога ёй старога. А раптам — гэтая думка прымусіла яе сесці на ложку — раптам ён перахітрыў персанал і збег?

Светлячок электроннага табло паказваў дзве гадзіны з чвэрцю; не запальваючы святла, яна знайшла пантофлі, нацягнула джынсы і швэдар і, сама не ведаючы, навошта, спусцілася ў пакой хворага, — пэўна, каб прыбраць там. Але прыбіраць, уласна кажучы, не было патрэбы: люстэрка стаяла на сваім месцы, ложак быў акуратна засцелены ёю яшчэ ўчора. І яна прынялася сцягваць з падушкі навалачку, здымаць прасціну, каб сёння ж усё перамыць, рэзкім рухам ссунула матрац… На падлогу ўпаў сшытак у скураным пераплёце. Яна адкрыла вокладку з залатым гатычным цісненнем і пачала чытаць, з цяжкасцю разбіраючы почырк.

*«**12 снежня 2003 года.***

*Сёння так і не змог успомніць, як завуць прадаўшчыцу з мясной лаўкі, а я ж шмат гадоў тут пастаянны кліент. Затое перажытае калісьці ў той краіне паміж Польшчай і Расіяй усё часцей прыходзіць у снах і бачыцца так яскрава, як быццам бы адбылося ўчора. Вось і хачу ўсё запісаць, пакуль мая памяць не здрадзіла мне канчаткова.*

*Мне было 17 год, калі я атрымаў позву з'явіцца ў ваенную камендатуру з усімі дакументамі для праходжання службы па абароне Рэйха ад ворагаў. Так, у сорак чацвёртым пачалі ўжо прызываць сямнаццацігадовых. Мой аднакласнік Эрхард атрымаў такую ж позву двума месяцамі раней. Ён не пайшоў у камендатуру, і быў затрыманы супрацоўнікамі службы Імперскай Бяспекі. Яго абвінавацілі ў здрадзе Рэйху. Больш Эрхарда ніхто не бачыў. Зніклі таксама ягоныя бацькі. Я вельмі любіў сваю маці, таму пайшоў у камендатуру.*

*Падрыхтоўка да фронту не была доўгай. Бянтэжыла, што нават страляць я як след не ўмеў: патронаў на стрэльбы амаль не давалі. Затое маршыраваў выдатна. Фельдфебель, які выдаваў мне форму, уздыхаў: «Надышоў час, калі ў войска прымаюць такіх, як ты, недаробкаў».*

*12 мая 1944 года я прыбыў у мотапяхотную дывізію, дыслацыраваную ў рэйхскамісарыяце Остланд. Ехаў туды ў асветленым свячамі вагоне, электрычнасці не было. Мае новыя сябры добра ігралі на губным гармоніку. Вывучыў песню «Вахта на Рэйне»…»*

Яна села на ложак Ганса, бо не толькі мазгі, але і ногі раптам зрабіліся ватныя. Стала чытаць далей.

«***5 сакавіка 2004 года***.

*Мой сын Ральф нарэшце ажаніўся. Прывёз жанчыну з той самай краіны. Калі я ўбачыў яе, аслупянеў: яна проста неверагодна падобная да Зосі! Цяпер успаміны наведваюць мяне амаль кожную ноч. Спазмы сціскаюць горла, не даюць дыхаць. Зося, першае і адзінае маё каханне...*

*...Які страшны тут лес! Чорны, пахмурны. Мне расказалі: восенню 1941-га на гэтым месцы, у двух кіламетрах ад бліжэйшага горада, за ваенным аэрадромам расстрэльвалі яўрэяў. Пра гэта мне паведаміў радавы Фішар, даўні ўдзельнік Vernichtungskrieg. Як гэта адбывалася? Яўрэяў дастаўлялі з гета на машынах і пешшу. Ля краю ямы яны мусілі распранацца. Усяго тут ляжалі некалькі тысяч «расава непрымальных». Паўгода таму яр раскапалі, трупы спалілі. Фішар лічыць, што фюрэр праявіў незразумелую слабасць, прымусіўшы іх корпацца «ў гэтым смярдзючым дзярме», як ён выказаўся: смурод над раскапаным могільнікам стаяў страшэнны. Трупы палілі па начах на вялізных вогнішчах. Калі яўрэяў знішчылі па загадзе фюрэра, пытаўся я сам у сябе, дык чаму ліквідацыя могільніка адбывалася ўночы? Ці значыць гэта, што мы — злачынцы? Але задаваць такія пытанні ўголас недапушчальна...»*

Адчыніла акно — ёй раптам перастала хапаць паветра. Наступны запіс быў зроблены іншымі чарніламі, почырк яшчэ менш разборлівы.

***«19 верасня 2004 года*.**

*І вось я вяртаюся ў свой гарнізон, раскватараваны ў вёсцы за два дзясяткі кіламетраў ад горада. Вяртаюся да Зосі. «Я кахаю цябе», — сказаў я ёй. Завучыў гэтую фразу на яе роднай, вельмі прыгожай мове. Яна нічога не адказала. У яе вялізныя веі ды шэрыя вочы. Даўгія светлыя валасы. Яна лёгка чырванее. Яе ногі ў драпінах, бо ходзіць яна звычайна без абутку. На правай лытцы вялізная радзімка. Усё гэта кранае мяне да слёз. «Я хачу ажаніцца з табой». Пахітала галавой і адвярнулася. «Варум ніхт? Вайна хутка скончыцца. Тут будзе Рэйх». Увайшла яе маці з маленькім Зосіным братам на руках, і я замаўчаў».*

Многія з напісаных сказаў былі закрэслены, і таму на наступнай старонцы тэкст удалося разабраць толькі часткова:

*«...у лесе мне паказалі сляды партызанскага лагера: папялішчы, крэпасці з бярвення. Раніцай бачыў у вёсцы павешанага партызана. На грудзях у яго дошчачка з надпісам: «Я забіваў нямецкіх салдат». Навошта мы прыйшлі на гэтую зямлю? Каб забіваць і быць забітымі?*

*У лесе за вёскай знайшлі труп радавога Фішара. Да грудзей прымацаваны шматок паперы, на якім яго рукою напісана: «Im Namen des Vaters, des Sohnes und des heiligen Geistes... Amen... Auf Wiedersehen... Auf Wiedersehen... Morgen um 9 Uhr gehen wir nach Hause, nach Hause, zu meiner Mutter...» ... «Яны хочуць заўтра ў дзевяць? Што ж, цудоўна! Заўтра сюды прыбудзе паліцэйскі батальён, каб адправіць іх да прабабуляў дакладна па графіку!» — пачуў я праз адчыненае акно камендатуры.*

*Заўтра ў дзевяць гадзін вёска мусіць быць ліквідавана. З усімі жыхарамі.*

*Не адразу знайшоў патрэбныя словы. «Заўтра тут будзе... айнзацгрупе». Зося зразумела. Твар яе пабялеў. «Давай уцячэм... разам... туды, дзе не ваююць... яшчэ засталіся такія краіны...» Пахітала галавой. — «Варум?» — «Цябе заб’юць.» Я ўхапіўся за гэтыя словы: «Ты клапоцішся пра маё жыццё. Значыць, ты мяне ўсё ж такі кахаеш?» Зноў маўчанне ў адказ. Тады я знайшоў у кішэні запальнічку, паднёс язычок полымя да свайго левага пляча. Зося ўскрыкнула. «Я цябе ка-ха-ю, — паўтарыў я, зноў на яе мове, і не ўстрымаўся, застагнаў ад болю. — А ты?» Не прымаў агонь, пакуль яна не хістнула як быццам бы сцвярджальна — усё так жа моўчкі, апусціўшы вочы.*

*Раніца. У вёсцы ніводнага жыхара. Ноччу ўсе сышлі. У лес. І Зося з імі. Камандзір айнзацгрупы ірваў на сябе валасы ад злосці. Калі б ён ведаў, што гэта я іх папярэдзіў, мяне, напэўна, чакаў бы трыбунал».*

Галава цяпер па-сапраўднаму балела — пэўна, ад снатворнага, ад намаганняў разабраць незнаёмы почырк на чужой мове. Далей у дзённіку была вырвана старонка, а на наступнай ішлі кароткія адрывістыя фразы, напісаныя каравымі літарамі:

*«...трупы ляжалі ля пуні з расчыненымі насцеж дзвярыма... там, дзе іх расстралялі... так я ў апошні раз убачыў Зосю... і яе маці, і маленькага брата... вочы Зосі былі шырока адкрытыя... і абсалютна пустыя... як неба, якое ў іх адлюстроўвалася... чорнае ад дыму... напэўна, яна нават не паспела спалохацца... або штонебудзь успомніць... мне сказалі, тое заслуга паліцэйскага з мясцовых, бо ён ведаў, як прабрацца на востраў у балоце, дзе жыхары вёскі звычайна хаваліся... потым я яго ўбачыў... увішны, з прылізанымі валасамі і маленькімі вусікамі, пукатымі вочкамі колеру рэдкае кавы... паліваў бензінам сцены пуні... ён і сёння стаіць перад вачыма... я пакляўся сабе, што высачу яго... я не мог пакараць іх усіх, сваіх і чужых… але я мог забіць аднаго… калі б не адступленне...»*

Яна вярнулася ў спальню і затрэсла Ральфа за плячо: «Слухай, я зразумела, чаму Ганс увесь час уцякаў з дому! Твой бацька… давай забярэм яго! Зараз жа! Я буду даглядаць яго сама!» Ральф, спрасонку вельмі падобны да бацькі, такі ж ускудлачаны, з памятым тварам, ледзь разляпіў павекі: «Навошта так спяшацца? Вечарам наведаем яго, о’кей?» — і зноў правалі́ўся ў сон. І яна, пастаяўшы хвіліну ля ложка, пабегла ў гараж. Стары «фальксваген» Ганса завёўся адразу. Яна паехала скрозь попельную імглу, паехала насустрач дажджу, і раптам узгадала, што забыла ўставіць кантактныя лінзы, — ай, як гэта нядобра, улічваючы, што машыну яна водзіць усяго толькі два гады, кіроўца з яе пакуль няважны, ну нічога, як-небудзь абыдзецца… Дождж ліў усё мацней і мацней, дворнікі не паспявалі за ім… Паварот, зноў паварот, а цяпер уверх… асцярожна, не спяшайся… І раптам адчула, як задняе кола слізганула кудысьці ўбок, усю машыну пацягнула ўправа, да абрывістага схілу. Павольна, вельмі павольна, па сантыметру выварочваючы руль, яна вярнулася на шашу, пастаяла крыху і, аблізаўшы перасмяглыя вусны, рушыла наперад.

…Насустрач Ларысе выкацілася рабацiністая і цёмнавокая, падобная да каляднай булкі з разынкамі ды карыцай, медсястра. «Я прыехала да Ганса Краўза». — «Зараз час не для наведванняў, фраў Краўз. Вы можаце пабачыць спадара ўдзень, і ўрач павінен…» — «Я мушу ўпэўніцца, што з ім усё добра! Прапусціце мяне!» — «Руская эмацыянальнасць…» — «Я з Беларусі! Гэта не тое ж самае!» — «Прабачэнні…»

Па калідоры ўжо ішоў дзяжурны ўрач з маскай ветлівага здзіўлення на твары.

Зараз ён выслухае яе і не стане пярэчыць. Удваіх яны падымуцца да старога — у гэты час ён звычайна не спіць. «Паедзем дамоў», — скажа яна Гансу, скажа на сваёй мове.

Ала ВОЙЛАКАВА



*Ала Войлакава нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Гарадзішча Магілёўскага раёна. Скончыла Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум імя А. С. Пушкіна. Працавала ва ўстановах культуры Бялыніцкага раёна. Жыве ў Бялынічах.*

# ЗА СВЕТЛАЙ СМУГОЙ

## КРЫНКІ

Бялыніцкі-Біруля...
У прыдруцкіх Крынках,
Дзе кожны краявід
Сугучны з цішынёй,
Адчуеш сэрцам,
Кожнаю крывінкай
Святую еднасць
З роднаю зямлёй.

Сюды, толькі сюды
З далёкае Удомлі
Душа ляцела
Кнігаўкай заўжды,
Каб толькі тут
З крыніцы жыватворнай
Глыток зрабіць
Гаючае вады.

І над мальбертам
Схіленая постаць
Перш, чым аддаць
Свой талент палатну,
Згадае Крынкі:
Зацвітае лотаць,
Вітаючы
Блакітную вясну.

## ПА ЗБОРНІКАХ ВЕРШАЎ ЗМІТРАКА МАРОЗАВА

Пад небам буслiным
Хлебны верасень
нездарма

Прадчуваннем
жыў:
Хлеб і памяць — заслона верная
Апакаліпсісу душы.
І святым
Ачышчэннем сяўбой
прайсці
Сын чалавечы
мусіў,
Залатую кнігу беднага
знайшоў,
каб сказаць:
Баліць душа па Беларусі...

## ПАРАДОКС

Між барацьбы адвечнай
цемры і святла
Шукаеш шлях свой
ды адчуеш раптам:
Чым больш ты маеш
рыс духоўных ад Хрыста,
Тым большае і шанц
быць распятым.

## ЖАРТ

— Ты падобна на Ганну Ахматаву, —
Ён на ўвазе меў нос той з гарбінкаю.
Я ж, здзівіўшыся нават сама таму,
Прачытала свой верш з запінкаю.
Ён употай свой нос пакратаў,
Уздыхнуў і сказаў у прозе:
— У цябе атрымалася складна...
Вось што значыць гарбінка на носе!

## ЛЕБЕДЗІ

Ляціць неяк пара лебедзяў
Над нашай «пяціэтажкаю».
Сенсацыі ў тым не ўгледзелі,
Але ж уражвае.
Унукам кажу: — Скрадуць,
Калі вы будзеце дрэннымі.
А дзецям кажу: — Нясуць
На крылах каханне вернае.
Мяне не ўкрадзе ўжо ніхто,
І вернасці пройдзены ўрокі...
Знікае за светлай смугой
Кахання палёт высокі.

## БЕЛАНІЧКА

Беларусь,
Бялынічы,
родная зямля...
І дачка малая
радасна сцвярджае:
беланічка я!
Вырастай, дачушка,
да бялынічанкі
і да беларускі,
адчувай сваёй
сябе сярод рамонкаў,
бяроз, снягоў, аблокаў,
каб светласцю пачуццяў
быць з імі заадно.

## ЛЯСНАЯ ЗГАДКА

Каб рукі карысную справу знайшлі,
Утаймаваўшы гарэзу,
Прыводзіў з сабой мяне бацька-ляснік
У царства чароўнае лесу.

Хоць мела зусім яшчэ мала гадкоў,
Але працавала старанна —
Саджала сасонкі радок за радком
На долах пустэч і прагалін.

Хоць дрэва адно за жыццё пасадзіць
Жыццёвая мудрасць нам раіць.
А лес мой ужо паўстагоддзя шуміць
І мне, і ўсім людзям на радасць.

Андрэй ЖВАЛЕЎСКІ,
Яўгенія ПАСТАРНАК

# ГІМНАЗІЯ № 13*

***Раман-казка***

ЧАСТКА 1

## КЛЮЧ З ЧАТЫРОХ ЧАСТАК

Глава 4

### МІТУСНЯ ВАКОЛ КАТА

* * *

*У гэты час на першым паверсе гімназіі* разгортвалася сапраўднае шоу. Кот Васька сядзеў у калідоры і з цікавасцю слухаў, што яму расказвае Люба.

— Васечка, сонейка, ну ідзі да мяне, я табе за вушкам пачухаю, смятанкі дам, кіць-кіць-кіць...

Лёля з міскаю смятаны ў руках рабіла крок у бок ката. Кот адсоўваўся ад яе на такую ж самую адлегласць. Такім чынам яны прайшлі ўжо большую частку калідора і спадзяваліся на тое, што ён не бясконцы, і што рана ці позна кот уварэцца ў сценку і адыходзіць яму будзе няма куды.

— Васечка, разумны коцік, харошы коцік...

— Мраў!

— Галодненькі коцік! Хадзі сюды...

Калідор закончыўся, Васька агледзеўся, а потым імгненна сігануў на шторкі, з іх на карніз... І пачаў разглядваць загоншчыцу з вышыні свайго новага становішча.

Люба расстроена кінула міску са смятанаю на падлогу.

— Вось зараза... Столькі часу згубілі! Як яго адтуль даставаць?

— Я магу залезці, — сказаў Мішка.

Лёля параўнала магутную Мішкаву постаць з нетрывалым на выгляд карнізам.

— Толькі карніз абарвеш.

— Затое і кот зваліцца, — не збянтэжыўся Мішка.

— Усё роўна збяжыць, — махнула рукою Люба, — калідор жа не зачыніш. Давайце яго заманім у які-небудзь кабінет, там хоць дзверы зачыніць можна.

Які-небудзь кабінет аказаўся зусім побач. Адчынілі дзверы, у метры ад парога пакінулі міску са смятанай, пачалі чакаць.

Мішка стаяў каля дзвярэй, гатовы ў любы момант іх зачыніць, дзяўчынкі сядзелі ўнутры кабінета. Пасля доўгага і пакутлівага чакання Васька ўсё-ткі з'явіўся. Ён сеў якраз на парозе і ўтаропіўся ў сярэдзіну кабінета.

— Ну заходзь жа, — зашаптала Люба, — ну што ж ты сядзіш...

* Працяг. Пачатак у № 1, 2 г. г.

Кот на імгненне задумаўся, падняў лапу і толькі збіраўся пераступіць парог... Як тут жа пачуўся віск.

— Ды што ж гэта такое? Ды колькі ж можна! Аааа-пчхі! Я ж прасіла, я ж папярэджвала! Ааааа-пчхі! Прыбярыце жывёліну! Пчхі! Пчхі! Пчхі!

Ваську зараз жа як ветрам здзьмула, а на сярэдзіну кабінета, рукі ў бокі, выйшла настаўніца геаграфіі Клаўдзія Пятроўна. Як і ўсе папярэднія паменшаныя копіі настаўнікаў, гэтая знешне таксама была вельмі падобная да свайго арыгінала. У руках яна трымала вялізную насовачку і безупынна чхала і смаркалася.

— Каб духу гэтай жывёліны тут не было! Я ж прасіла, я ж маліла...

Лёля з Любаю ў першы момант спалохаліся ад нечаканасці, але цяпер ужо амаль расслабіліся і з цікавасцю глядзелі, як Клаўдзія Пятроўна крычыць у бок уваходных дзвярэй.

— Цікава, — спыталася Люба, — за што яна так не любіць катоў?

— У яе, відаць, алергія, — сцяміла Лёля. — Памятаеце, Ірка Міронава калісьці ў школу касцюм лісіцы прынесла? Такі, з хвастом? Дык тады ж у нас урок геаграфіі сарваўся, нават дзверы закленіла. Вось ужо не ведала, што ў дамавікоў бывае алергія!

— А што ты ўвогуле ведала? — пакрыўдзілася Клаўдзія Пятроўна. — Прыходзяць тут, нязваныя, няпрошаныя, ні табе добры дзень, ні слова якога добрага...

— Даруй, дамавік-бацюхна, — сказала Лёля. — Добры дзень табе, і мір твайму дому!

— Вось гэтак ужо лепш, — падабрэла настаўніца. — Толькі не дамавік я. Кабінетавік. Вой, смятанка! Дзякуй, госці дарагія.

У руцэ дамавіка зараз жа з'явілася лыжка, і смятана пачала імкліва змяншацца ў аб'ёме.

— Гэта ж Ва... — памкнулася сказаць Люба, але атрымала штурхаля ў бок.

— Частуйся, дама..., даруй, кабінетавік-бацюхна, а мы пойдзем паціху, — сказала Лёля.

— Ідзіце, ідзіце, — пачулася чвяканне ім услед. — Калі што спатрэбіцца — прыходзьце, дапамагу. У мяне тут карты ўсялякія, компасы, глобус вунь ёсць. Толькі катоў не вадзіць!

— Не будзем, Клаўдзія Пятроўна.

Дзяўчынкі выйшлі з кабінета і замаркоціліся. Кот знік. Мішка таксама. У які момант яны пазнікалі, Лёля з Любаю так і не прыкмецілі. Затое вельмі добра разгледзелі, як знікла смятана.

* * *

У гэты час Сеўка з Антонам, ададраўшы ланцуг ад слупкоў, на якіх ён трымаўся, расклалі яго ў калідоры трэцяга паверха.

— Можа, будзе добра і не залаты? — запытаў Сеўка.

— Можа, і будзе добра, — няўпэўнена сказаў Антон. — А нельга яго зверху пазалаціць?

— Тэарэтычна можна, — пачухаў патыліцу Сеўка, — метадам гальванапластыкі. Але, баюся, затрата золата ўсё роўна будзе вельмі вялікай...

— А фарба падыдзе?

Хлопчыкі ўздрыгнулі і азірнуліся. У калідоры стаяла Маша.

— Мне страшна адной, я за вамі хаджу.

— Хадзі, толькі моўчкі, — нявеліва адказаў Сеўка.

— Я і хадзіла моўчкі.

— Вось і далей маўчы, — агрызнуўся Сеўка яшчэ раз.

— Пачакай, — зацікавіўся Антон, — ты пра якую фарбу гаварыла?

— Пра залатую, — сказала Маша, — у балончыку.

— Дзе?

— Ды тут побач, у Ірачкі ў пакоі. Мы калі да Новага года зоркі малявалі, мы яе выкарыстоўвалі. Толькі я ў кабінет не пайду, там стра-ашна.

— Добра, не ідзі, скажы, дзе шукаць.

— У скрынцы. Пад сталом. Там шмат усяго накідана. Ты выцягні яе ўсю сюды, тут знойдзем.

Антон заскочыў у кабінет педагога-арганізатара, навобмацак выцягнуў з-пад стала скрынку і вярнуўся з ёю. Там, на дне, сапраўды яшчэ з Новага года валяўся балон залатой фарбы, і літаральна праз пятнаццаць хвілін залаты ланцуг быў гатовы. Трэба было толькі даць яму высахнуць. Хлопчыкі любаваліся сваім тварэннем, і Сеўка задаволена сказаў:

— Ну, Маш, залік. Трэба ж, нават ад выдатніц карысць бывае!

Антон засмяяўся:

— Сам жа што — двоечнік?

— Ну, дык то я, а то яна, — запярэчыў Сеўка. — Добра, мы ўсе малайцы! Пайшлі ката лавіць.

* * *

Васька сядзеў на падаконніку ў сталоўцы і, здавалася, з асалодаю пазіраў на траіх змучаных паляўнічых. Толькі што яны за ім бадзёрым трушком аббеглі паўшколы і цяпер спрабавалі аддыхацца. Кот абыякава пазіраў, кот быў спакойны.

— Ён здзекуецца з нас, ага? — прапыхцеў Мішка.

— Падобна на тое, — сказала Люба і ўлеглася на лаўку.

— Цяжка злавіць чорнага ката ў цёмным пакоі, — незразумела прамовіла Лёля.

— Асабліва калі кот — такая зараза! — дадаў Мішка.

Васька паглядзеў на Мішку, як на здохлую мыш — з цікавасцю, але без азарту.

— Можа, з ім неяк па-іншаму трэба сябе паводзіць? — прапанавала Люба. — Можа, па-добраму?

— Ды куды ўжо лепш, — агрызнуўся Мішка і зглынуў сліну. — Смятану зжэр...

— Я, здаецца, зразумела, — раптам сказала Лёля. — Нам з ім дамовіцца трэба.

— Як? — запыталася Люба.

— Зараз паспрабую...

Лёля трошкі наблізілася да ката, села насупраць яго на лавачку і загаварыла:

— Вась, нам вельмі патрэбна твая дапамога. Разумееш, мы завязлі тут, у школе. Мы, вядома, глупства хацелі зрабіць, мы разумеем, што самі вінаватыя... Але... Нас жа дома бацькі чакаюць, ды і ўвогуле... Не сядзець жа тут усё жыццё!

Лёля ўздыхнула. Васька ўважліва слухаў яе.

— Вась, калі ласка, дапамажы нам. Мы думаем, што калі ты апынешся на залатым ланцугу, каля дуба, дык зможаш размаўляць і, магчыма, дапаможаш нам адсюль выбрацца. Мы зробім усё, што ты папросіш. Калі ласка! Мы пашукаем ежу.

— Мр... — сказаў кот.

— Ён згодны? — прашаптала Люба.

— Не, гэта ён адрэагаваў на слова «ежа», — змрочна сказаў Мішка.

А Лёля паднялася і павольна падышла да Ваські. Ён не збягаў, а спакойна глядзеў, як яна падыходзіць.

— Можна я цябе на рукі вазьму? — запыталася Лёля.

— Мр...

Лёля падняла ката і ціхенька войкнула, такі ён быў цяжкі. Васька зараз жа як мага больш зручна ўладкаваўся і пачаў вуркатаць як трактар, падстаўляючы ёй пад руку па чарзе абодва вухі.

— Дзякуй, Васька, — прашаптала дзяўчынка.

Калі высах ланцуг, усе сабраліся каля дуба. Ланцуг прымацавалі да яго, з вялікім намаганнем начапіўшы крайняе звяно на ніжні сук, на другім канцы зрабілі штосьці накшталт ашыйніка з Мішкавага рэменя ( штаны з яго і так не звальваліся ). Выцягнулі ў двор цалкам разамлелага і задаволенага Ваську. Ён нават не прачнуўся, калі на яго начапілі ланцуг, толькі салодка пацягнуўся і перавярнуўся на другі бок. Таму давялося яшчэ амаль гадзіну чакаць, пакуль ён з асалодаю адпачне.

І вось Васька расплюшчыў вочы, крутануў галавой, незадаволена скасавурыўся на ланцуг... Потым стаў старанна вылізвацца. Метадычна, пачаўшы з морды і закончыўшы кончыкам хваста. Пасля павольна абвёў прысутных позіркам, пачухаў лапай за вухам, уздыхнуў...

— Дык што наконт ежы? — запытаўся кот.

Глава 5

## БЯЗГЛУЗДЗІЦА КАШЭЧАЯ І ДЫРЭКТАРСКАЯ

Падлеткі стаялі ў цэнтры сталоўкі і сумна глядзелі на парожнія буфетныя паліцы.

— Можа, што-небудзь за шафу завалілася? — з надзеяй запытала Люба.

— Яшчэ трошкі, я з’ем і самую шафу, — заявіў Мішка.

— Гаспадар-бацюхна, дамавік... Не, даруй, Сталавік, — паклікала Лёля. — Пакажыся, будзь сябрам!

Сталавік узнік у тым жа самым месцы, дзе надоечы растаў. Мішка ўздрыгнуў, Люба інстынктыўна прыкрыла яго сабою.

— Паказацца — пакажуся, — хітра адказаў фальшывы загадчык сталоўкі. — А вось ці быць сябрам яшчэ падумаю!

І тут Лёля выкінула форталь, якога ад яе ніхто не чакаў. Яна павольна, з пачуццём пакланілася Сталавіку ў ногі, ды так і застыла ў гэтай нязручнай позе. Той расчуліўся.

— Добра-добра, — сказаў ён. — Чаго ты ўжо гэтак? Паднімайся, дзяўчына!

Хоць Лёлі было і цяжка, яна адказала:

— Прашу цябе, гаспадар, накармі, напаі, не дай прапасці!

Сталавік, канчаткова збянтэжаны, саскочыў са стала і дапамог Лёлі выпрастацца.

— Вось моладзь!.. — прамармытаў ён. — З павагаю... А яшчэ лаяць вас... Вы пачакайце, я зараз!

І ён кінуўся да буфета, які раптам аказаўся запоўненым ежаю так, што дзверцы з цяжкасцю вытрымлівалі яе напор.

* * *

— І тут падыходзіць Пярун да Вялеса і яяяк жахне яму па мазгаўні! — вяшчаў Васька, велічна ступаючы крок за крокам на ланцугу. — А Вялес гэткі, здзіўляецца... Кхе-кхе...

Тут ланцуг, нарэшце, скончыўся, нацягнуўся і злёгку прыдушыў ката.

Васька адкашляўся, потым вылізаўся і запытаўся ў Машы:

— Гэта я зараз налева хадзіў?

Маша стомлена кіўнула. Яна ўжо ў соты раз адказвала на гэтае пытанне.

— Значыцца, — аб'явіў Васька, — цяпер направа пайду.

Ён развярнуўся і гэткай жа ўрачыстай хадою рушыў да дуба.

Усе адразу зморшчыліся і прыкрылі вушы.

— «Ооой ты гооой есиии!» — загаласіў кот на працяжны матыў, які ніяк не гарманіраваў з яго прагулачным крокам.

Антоха злосна скасавурыўся на Машу, як быццам гэта яна асабіста прымусіла вялікага рускага паэта напісаць «Идет направо — песнь заводит, налево — сказку говорит». Маша ўздыхнула.

— «Не есиии меняааа! — дадаў гучнасці кот. — Твоего котааа!»

Люба дакорліва паківала галавой. Мішка сціснуў кулакі і зрабіў крок да немузычнай жывёліны. Лёля яго прытрымала — яна адзіная з усіх уважліва прыслухоўвалася да той бязглуздзіцы, якую нёс кот апошнія паўгадзіны. Ну яшчэ і Маша прыслухоўвалася па даўняй звычцы закаранелай зубрылкі.

Тым часам кот зацягнуў поўную абракадабру:

— «У тебя, Мокооошь! Уууродиииться роообжь!»

Антон зразумеў, што больш гэтага не вытрымае.

— Гаў! — раўнуў ён нечакана для ўсіх і для сябе ў першую чаргу.

Выступленне мела поспех. Маша ікнула. Мішка закашляўся. Лёля і Люба са здзіўленнем павярнуліся да Антохі. А самае галоўнае — кот перапыніўся на паўноце. Толькі Сеўка не адрэагаваў. Ён усё-ткі ўмудрыўся сперці з кабінета фізікі недаразабраную жалязяку, разабраў яе канчаткова і цяпер збіраў — мяркуючы па ўсім, штосьці зусім іншае.

— Паважаны кот! — сказаў Антон ветліва, але цвёрда. — Кажыце, калі ласка, па сутнасці.

— Я па сутнасці, — заявіў кот горда.

— Калі б мы ведалі, што вы такую лухту гнаць пачняце, мы б вас не на ланцуг пасадзілі, а ў клетку.

Кот маргнуў.

— У парожнюю клетку, — дадаў Антон.

Кот маргнуў.

— У выключна парожнюю клетку. Без усялякай ежы!

— Звяр'ё, — з задавальненнем зрабіў вывад Васька. — Дарэчы, на ланцуг вы мяне дарэмна саджалі. Я і так размаўляць умею.

— А чаго ж не прызнаўся? — абурыўся Мішка. — Навошта мы за табою ўсю раніцу ганяліся?

— Ну, — сказаў кот, — па-першае, калі б вы мяне на ланцуг не пасадзілі, я збег бы. І нічога б вы ад мяне не пачулі. Па-другое, ёсць ланцуг — ёсць сістэма. Цяпер я дакладна разумею, калі трэба песню заводзіць, а калі казку казаць. Ну, а па-трэцяе...

Васька сеў і зажмурыўся са шчаслівай усмешкаю. Выгляд у яго стаў як у ката, які наноў перажывае вельмі прыемныя падзеі сваёй кацінай біяграфіі.

— А па-трэцяе, прыкольна пабегалі!

І зноўку толькі ўмяшанне Лёлі пазбавіла Ваську ад пакутлівай смерці ў выніку ўдушэння ланцугом Мішкавымі рукамі.

— Так, — Васька не звярнуў ніякай увагі на Мішку і пачаў круціць галавой. — Я штосьці збіўся. Я павінен направа зараз ісці ці налева?

— Налева! — паспешліва сказала Люба.

Кот з недаверам скасавурыўся на яе, але пайшоў налева.

— Альбо вось Кікімара, калі хочаце Мара, — пачаў ён разважліва, — цярпець не можа Мокашы, а чаго? Яна ёй што, у суп плявала? Не, не плявала!..

Антоха тузануў Лёлю за рукаў.

— Слухай, — сказаў ён, — толку з гэтага ката ніякага. Давай ты па кабінетах паходзіш, з гэтымі... кабінетавікамі пагутарыш. Можа, яны што-небудзь больш талковае падкажуць?

Лёля хітра прыжмурылася, пры гэтым на момант здалося, што вочы ў яе гэткія ж самыя, як і ў Ваські — жоўтыя і палымнеючыя.

— А сам чаго не паразмаўляеш?

— У цябе лепш атрымліваецца, — прызнаў Антон. — Ты ім вершы нейкія мармычаш — яны цябе слухаюць.

— Ну ты ж дамовіўся з Залавіком! — у Лёліных вачах зноўку бліснула іскрынка.

Антоха сціснуў губы. Ну чаго гэтая нахабніца ўвесь час спрачаецца. Ён ужо збіраўся развярнуцца і горда пайсці сам на перамовы з кабінетавікамі, але раптам іскрынкі ў Лёліных вачах зніклі і яна прамовіла амаль жаласна:

— Я пайшла б, але кот... Ён жа гаворыць... І гаворыць, што распавядае нешта вартае!

Тут кот якраз дабраўся да канца ланцуга, усхрыпнуў, нацягнуўшы яго, і развярнуўся.

— Зараз заспявае! — хрыпла сказаў Мішка. — І я яго прыб’ю.

Гэта была не пагроза, а проста папярэджанне. Кот гэта зразумеў, зараз жа сеў і пачаў умывацца.

Усе, акрамя захопленага жалязякаю Сеўкі, чакальна паглядзелі на Антоху.

— Значыцца, так, — аб’явіў ён. — Я, Лёля і Мішка адпраўляемся па кабінетах. Астатнія чакаюць тут.

— А калі раптам Васька нешта важнае скажа? — запыталася Лёля.

«Ну не можа не спрачацца!» — падумаў Антон. Але быў у Лёліных словах і рэзон.

— Машка! — загадаў Антон. — Бярэш паперу і будзеш запісваць усё, што скажа кот! Лічы, што гэта настаўнік. Чытае новую тэму. А заўтра — тэсты!

Маша падцягнулася і хуценька кіўнула вострым носікам. Нарэшце ў яе з’явілася простая і звычная задача. Люба адразу ж палезла ў рукзак за сшыткам і ручкаю.

— Песні запісваць? — пацікавілася Маша.

— Толькі словы!

Маша кіўнула. «Цікава, — падумаў Антон, — а калі ёй і ноты загадаць запісаць, што яна рабіць стане?» Але ён тут жа адагнаў ад сябе дурныя думкі, не да таго зараз. І на месца дурных думак прыйшла разумная: «А ў нас жа каманда атрымліваецца... Усе на сваіх месцах, усе на агульную карысць працуюць».

І тут Васька захіхікаў.

— Вой... не магу! Каманда! Чорна-бела-шэрая! Ды яшчэ з Берам і Дрэўняю ў прыдачу! Я зараз загаўкаю!

Антон ажно скрыгатнуў зубамі. Увогуле, гэта жудаснае відовішча — кот, які хіхікае, а ўжо кот, які хіхікае над падслуханымі ў цябе думкамі...

— Пайшлі! — скамандаваў Антоха і рашуча накіраваўся ў будынак школы.

Спінай адчуў, што Лёля з Мішкаю рушылі за ім.

— Не крыўдуй! — прамяўкаў яму Васька праз хіхіканне. — Параду дам! Шукай замкнёнае!

Адчыняючы дзверы ў школу, Антон пачуў:

— Гатовая запісваць? Я запаволена буду, каб ты паспявала... А-а-у-у-а-у-а-у-аааа!

* * *

Антоха моўчкі ішоў і торгаў кожныя дзверы. Усе яны лёгка адчыняліся — і Антон ішоў далей.

— Замкнёнае шукаеш? — запытаўся Мішка.

Антон змоўчаў. Сказаў бы «так», давялося б тлумачыць, чаму ён вырашыў прыслухацца да парады бесталковага ката.

Лёля таксама не стала адказваць. Каля кожнага парога яна кланялася і нешта мармытала — ці то сабе пад нос, ці то нябачным гаспадарам кабінетаў. Калі-нікалі, урэшце, гаспадары адказвалі: «І табе таго ж, дзетачка!», «Вось дзякуй!» альбо «Заходзь, заходзь, харошая, пагамонім!». Але Лёля толькі ўсміхалася і ішла далей, за нястомным Антонам.

Мішка ў дзверы стараўся нават не заглядваць. Ён увогуле адчуваў сябе ў гэтай экспедыцыі трошкі лішнім і нават пачаў падазраваць, што Волкаў проста звёў яго як мага далей ад ката. А то ж бы яшчэ некалькі хвілін — і Мішка гэтага Ваську ператварыў бы ў баксёрскую грушу. Ну альбо ў футбольны мячык. Адным словам, у спартыўны інвентар, па якім б'юць.

Каля дырэктарскага кабінета Антоха прытармазіў. Нават для яго гэта было занадта — вось гэтак папросту ўламвацца ў дзверы, ад якіх любы гімназіст імкнуўся адысці як мага далей. Не тое, каб дырэктар, Мікалай Іванавіч, быў такім ужо кепскім педагогам. Не, на ўроках гісторыі яго слухалі з непадробнай цікавасцю нават тыя, хто лічыў гэты прадмет мутным і ў жыцці непатрэбным. Але ў гневе ён бываў страшным. Не крычаў, не пагражаў, не размахваў рукамі — наадварот, заціхаў і пачынаў пільна глядзець у вочы вучню, які правініўся. Адвесці вочы ад гэтага позірку было немагчыма, быццам Мікалай Іванавіч на нейкі час ператвараўся ва ўдава... Добра яшчэ, што ён ( не інакш як з меркавання гуманнасці ) вёў гісторыю толькі ў старэйшых класах, з астатнімі меў справу толькі ў выпадку вялікай правіннасці.

Нават Антоха, які ўжо разоў пяць выклікаўся да дырэктара на дыван (дакладней, на голую падлогу, таму што дываноў Мікалай Іванавіч не любіў), — нават ён затрымаў дыханне, узяўшыся за ручку дырэктарскага кабінета.

Але не стаў яе адчыняць.

— Слухайце, — сказаў ён не сваім голасам, — а сапраўды, дзіўна... Чаму гэта ўсе дзверы адчыненыя?

— Вахцёр адчыніў? — выказаў меркаванне Мішка, які таксама не спяшаўся дазнацца, што адбываецца за дзвярыма ў дырэктарскім кабінеце ў гэту дзіўную ноч.

— Навошта?

Мішка пацiснуў плячамі. Маўляў, я версію даў, а далей вы самі дадумвайце.

— Можа, — працягнуў Антон, — таму і знадворныя дзверы так моцна зачынены, што ўсе ўнутраныя адамкнутыя? Тады можна паспрабаваць замкнуць...

— Волкаў, — не вельмі ветліва перабіла яго Лёля, — калі баішся, давай я адчыню.

Антоха засоп і павярнуў ручку. Тая лёгка паддалася.

— І гэтыя нам не падыходзяць! — з палёгкаю сказаў Мішка і зрабіў крок далей па калідоры.

Але Антоха з Лёляю засталіся стаяць каля дзвярэй. Волкаў адчуваў, што дзверы трэба адчыніць абавязкова, нешта за імі ёсць такое важнае... А яшчэ ён адчуваў, што Лёля яго падтрымлівае. Хоць і баіцца. Цяжка сказаць, што болей натхніла Антоху, Лёліна падтрымка ці яе страх, але ён рэзка адчыніў дзверы.

У кабінеце сядзеў Мікалай Іванавіч. Не паменшаны дамавік-кабінетавік, а дырэктар у поўную велічыню.

— Так, — сказаў ён з выглядам пітона, які дачакаўся здабычы, — Волкаў, Сонцава і Беркін...

Антоха з Мішкам не паспелі нават як след спалохацца, як раптам загаварыла Лёля:

— Іду, іду, вяду, вяду, завяду, заблытаю, у малітвы захутаю, вочы адвяду, ад сябе адганю, любой дарогай прайду і абміну бяду. Амінь!

Замова прагучала з хуткасцю кулямётнай чаргі і эфект мела прыкладна такі ж самы — «Мікалай Іванавіч» паваліўся як падкошаны і тут жа пачаў здзімацца. Пакуль хлапчукі прамаргаліся, ён сціснуўся да памераў звычайнага кабінетавіка: метр росту ці каля таго.

— Крута, — сказаў Антоха, каб хоць нешта сказаць. — А сапраўднага дырэктара так можаш?

— Магу, — проста адказала Лёля, — калі ён марочыць пачне.

— Галаву марочыць? — запытаўся Мішка.

— Не, — прасіпеў павалены Кабінетавік, устаючы на карачкі, — проста марочыць. Мароку напускаць. А ты, дзяўчына, спрытная!

Лёля толькі адмахнулася і пачала ўважліва аглядваць кабінет.

— А ці няма ў цябе тут чаго замкнёнага, гаспадар-бацюхна?

— Як жа не быць... — хітра ўздыхнуў Кабінетавік.

— А чаго ўздыхаеш? — запытаўся Антоха, адчуваючы падвох.

— Ды бяда здарылася лютая, даверылі мне ахоўваць скарбы каштоўнасці надзвычайнай — сейф дырэктарскі...

Кабінетавік са скрухай уздыхнуў.

— Ну?! — усклікнуў Антон.

— Спёрлі? — запытаўся Мішка, выглядваючы з-за спіны Антона.

— Горш... — шморгнуў носам кабінетавік.

— Згарэў? Узарвалі?

— Не... — Кабінетавік вытрымаў тэатральную паўзу, зноў шморгнуў носам і паведаміў: — Ключ згубіў.

— Вуф... — усе ўздыхнулі з палёгкай.

— І ніякае не «вуф»! — пакрыўдзіўся Кабінетавік і загаласіў: — Вой ды прыйшлі ноччу цёмнаю ворагі процьмай незлічонаю адкуль ні вазьміся, вой ды падманулі-замарочылі добрага малайца; вой ды пабачыўшы бяду немінучую, узяў добры маладзец ключ ад сейфа, павярнуўся на ўсе чатыры бакі і сказаў: «Вой, ты вецер-ветрычак, павяваеш ты па ўсёй зямлі, дапамажы ты мне ў маім горачку, і ты, вада-вадзіца, цячэш ты паўсюль, усюды бываеш, усё ведаеш, дапамажы мне ў маім горачку, і ты, маці-зямля, ты апора наша, ты жыццё нашае, дапамажы мне ў маім горачку, і ты агонь, гарачы, страшны, дапамажы мне; вы, стыхіі магутныя, першабытныя, схавайце ключ ад ворагаў!»

Кабінетавік сутаргава ўздыхнуў, быццам яго ахапілі горкія ўспаміны.

— Ну? — не вытрымаў Антон. — А далей жа што?

— Але было ворагаў болей чым процьма, было іх цемра неймаверная, ды былі яны хітрасці незвычайнай і сілы нябачанай... Карацей, страціў я пільнасць на хвіліначку... і ўсё...

— Што «ўсё»? Дзе ключ?

— Не ведаю... — у голасе пакутніка пачуліся несумненныя слёзы. — Я ж кажу, страціў я пільнасць на хвіліначку, а ключа і няма. Развеяла па белым свеце, разнесла па розных куточках. Цяпер толькі той, хто душою смелы, сэрцам чысты і розумам дужы, зможа здабыць яго.

Кабінетавік выцягнуў з кішэні бялюткую хусцінку і пачаў выціраць гарачыя слёзы. Слёзы былі насамрэч гарачыя, пры сутыкненні з хусцінкай успыхвалі.

— Усё, я не магу больш, — сказаў Антон, — у мяне ад гэтых казак дах едзе. Ката нам было мала... Ты можаш па-людску сказаць, што з ключом сталася?

— Магу, — пагадзіўся Кабінетавік. — Разламала на чатыры часткі і развеяла на ўсе чатыры бакі.

Ён з горыччу паглядзеў на абвугленую і прапаленую ў шмат якіх месцах хусцінку і сунуў яе ў кішэню.

Антон моўчкі сціснуў кулакі.

І тут Кабінетавік раптам змяніў тон і загаварыў па-дырэктарску, а дакладней — як дырэктар на ўроку.

— А што гэта ты, Волкаў, злуешся, га? Матэрыял выкладзены ў адпаведнасці з праграмай. Зусім, разумееш, расслабіліся, усё ім разжуй ды ў рот пакладзі. Што ты, Беркін, панура глядзіш?

— Дык быццам жа не ў цацкі гуляем, Мікалай Ясна-Іванавіч, — сказала Лёля.

— У цацкі, у цацкі, Сонцава, толькі няпростыя. А што вы думалі, у казку трапілі? Дык тут у нас так: направа пойдзеш — галаву з плячэй, налева — каня страціш. Усё, урок закончаны, усе вольныя.

І Кабінетавік, імкліва змяншаючыся ў памерах, пайшоў пад стол.

— Што будзем рабіць? — запытаўся Мішка.

— Пойдзем да астатніх, — уздыхнула Лёля. — Трэба разам падумаць.

* * *

— Аб'яўляю ўсеагульны мазгавы штурм, — паведаміў Антон пасля кароткага пераказу сустрэчы з маленькім дырэктарам. — Што мы маем на сённяшні дзень? Мы маем бязглуздзіцу ката...

Маша горда патрэсла спісаным сшыткам, а кот Васька, які драмаў пад дубам, пратэстна варухнуў вухам.

— ... і бязглуздзіцу дырэктарскага Кабінетавіка.

— Ну, не зусім бязглуздзіца, — заўважыла Лёля.

— Ты можаш мяне не перапыняць? — сказаў Антон строга.

— Не, — спакойна адказала Лёля, пазіраючы яму ў вочы.

— А ўжо калі перапыніла, дык, можа, растлумачыш, што ён меў на ўвазе?

Лёля паціснула плячамі.

— Пастараюся. Мяркуючы па тым, што Мікалай Іванавіч увесь час паўтараў пра чатыры часткі і чатыры бакі, нам трэба знайсці чатыры часткі ключа, якія раскідала па школе.

— Нічога сабе задачка! — абурыўся Мішка. — Хоць бы падказкі даў.

— Ён, відаць, даў, — задумліва сказала Лёля. — Толькі мы іх зразумець не можам... Давайце ўспомнім, што ён расказваў.

— Ды муць нейкую былінную нёс, — адмахнуўся Антон. — Пра ворагаў, агонь, ваду...

— О! — сказала Лёля. — Гэта і ёсць падказка! Ён прасіў стыхіі схаваць ключ, яны і схавалі! Стыхіяў чатыры: вада, паветра, зямля і агонь, вось яны і разарвалі ключ на чатыры часткі! Усё сыходзіцца!

— Выдатна! — прабурчаў Мішка, засунуўшы рукі ў кішэні. — Нам дык што ад гэтага? Можа, лягчэй стала шукаць?!

— Дык ніхто і не казаў, што будзе лёгка, — прамармытаў Антон. — Лёля, у цябе ёсць ідэі?

— Шчыра кажучы, мала, — уздыхнула Лёля, падпершы шчаку кулаком. — Але калі стыхіі ахоўваюць кожная сваю частку ключа... Давайце падумаем, дзе ў нас у школе многа, напрыклад, вады...

— У басейне! — тут жа адказала Люба.

— Вось я пачала б шукаць адтуль, — сказала Лёля. — А далей будзем глядзець.

— Добра! — сказаў Антон. — А што ў нас з катом?

Усе паглядзелі на жывёліну, якая сапла, толькі Сеўка працягваў штосьці падкручваць у механічнай штуковіне, якую прыхапіў у кабінеце фізікі. Кот не адрэагаваў. Тады Антон патрабавальна павярнуўся да Машы. Тая з гатоўнасцю адкрыла канспект і пачала чытаць.

Праз некалькі фраз ужо стала незразумела: смяяцца ці плакаць. Гэта была песня пра адважнага ката, які ў адзіночку ішоў грамiць страшнага дракона, што жыў у сутарэннях. Дракон быў хвастаты, гучна пішчаў на ўсё наваколле і харчаваўся выключна сырам...

— Так, дастаткова! — не вытрымаў Антон. — Ты можаш коратка пераказаць сутнасць?

Машка заматала галавой.

— Не магу. Сутнасці няма. Ён увесь час мяняе тэму.

— Добра, але, можа, у яго гісторыях ёсць нешта агульнае? Ён жа не ўвесь час бязглуздзіцу нясе, падказаў нам, што трэба замкнёныя дзверы шукаць...

— Яшчэ невядома навошта. Можа, лепш не падказваў бы... — запярэчыў Мішка.

— Ён увесь час згадвае Вялеса нейкага. І Макошу якуюсьці, — сказаў Сеўка. — Я штосьці пра іх недзе чуў, але цяпер не магу скеміць дзе і што...

Усе цяжка задумаліся. Першай скеміла Маша.

— Гісторыя! Шосты клас! Параграф нумар чатыры! — адрапартавала яна. — «Язычніцкія вераванні і абрады»! Вялес — адзін з багоў язычніцкага мнагабожжа!

Усе ацанілі Машыну эрудыцыю. Нават Сеўка ад свайго агрэгата на момант адарваўся, каб пахвальна хмыкнуць.

— Тааак, — задумаўся Антон, — значыцца ў нас не проста кот, а старажытнаславянскі кот, ды яшчэ і веруючы...

— Кот Баюн, — раптам паведаміў Мішка.

Усе паглядзелі на яго з такім шчырым здзіўленнем, што ён сарамліва патлумачыў:

— Гэта лякарства такое... супакойлівае. Мы яго нашай кошцы даем, калі яна раўці пачынае.

— Навошта раўці? — здзівілася Любка, і Мішка засаромеўся яшчэ болей.

— Ну... — прамямліў ён. — Калі да ката хоча... Але гэта я так, не ведаю чаму ўспомніў.

Васька скрозь сон забурчаў.

— А я ведаю! Я ведаю! — Машы так хацелася замацаваць поспех пасля свайго першага выступлення, што яна пачала цягнуць руку, як на ўроку. — Не Баюн, а Баян! «Не лепо ли ны бяшет, братие, начяти старыми словесы трудных повестий о полку Игореве, Игоря Святославлича! Начати же ся той песни по былинамъ сего времени, а не по замышлению Бояню! Боян бо вещий, аще кому хотяше песнь творити, то растекашется мысию по древу, серым волком по земли, шизым орлом под облакы»… Вось…

Павісла цішыня, пасля якой у тэатры звычайна пачынаюцца бурныя і працяглыя апладысменты. Але апладысменты не пачуліся — усе вытарашчыліся на Машу з

крыху разяўленымі ратамі. Маша абвяла слухачоў пераможным позіркам, у якім чыталася: « Ну што, зразумелі цяпер, хто самы разумны?»

— Ух ты! — нарэшце змог вымавіць Сеўка. — Крута. А навошта ты гэта ўсё ведаеш?

Маша трошкі пакрыўдзілася. На яе думку, пытанне павінна было быць іншым: «А як ты змагла ўсё гэта вывучыць?» Але яна адказала:

— Гэта я да алімпіяды па літаратуры рыхтавалася!

— А перакласці зможаш? — працягваў чапляцца Сеўка.

Маша пагардліва хмыкнула, тарганула плечуком і вывудзіла з памяці другі ўрывак:

— «Не начать ли нам, братья…»

— Стоп-стоп-стоп! — нахабны Сеўка, здаецца, намерыўся канчаткова дастаць Машу. — Мінулы раз ты пачынала... э-э-э... «Нелепо»...

— «Не лепо ли ны бяшет, братие»…

І зноўку Сеўка замахаў рукамі:

— Вось іменна! Атрымліваецца, што «нелепо» — гэта «не пачаць»?

Маша спахмурнела. Раней ёй не прыходзіла ў галаву нейкім чынам параўноўваць два тэксты, якія яна зубрыла некалькі тыдняў.

— Відаць гэтак, — няўпэўнена сказала яна.

На дапамогу ёй прыйшоў Антоха.

— Няважна, а што там было пра Баяна? Толькі давай адразу ў перакладзе.

Маша падбадзёрылася.

— М-м-м... зараз... «Ведь Боян вещий, когда песнь кому сложить хотел, то белкою скакал по дереву, серым волком по земле, сизым орлом кружил под облаками».

Усе ізноў задумаліся. Кот перавярнуўся на другі бок, усім сваім выглядам паказваючы, што не збіраецца дапамагаць у разгадванні яго таямнічай сутнасці.

— Лухта нейкая, — сказаў Мішка. — Калі наш Васька — кот Баян, дык ён павінен вавёркай па дрэве скакаць? І пад аблокамі кружыць?

Маша сярдзіта паціснула плячамі.

— Слухай, — запыталася Лёля, — а там далей у «Слове аб палку Ігаравым» яшчэ што-небудзь пра Баяна ёсць?

Настрой у Машы рэзка сапсаваўся.

— Я не ведаю, — буркнула Маша. — Нам для алімпіяды патрэбна было толькі пачатак вывучыць...

— Ты, Машка, — з дакорам сказаў Сеўка, — як Інтэрнэт. Інфармацыі шмат, а карысці ніякай!

І вярнуўся да сваіх жалязяк.

— Чаму ніякай? — Антон падняўся і агледзеў сваё войска. — Накірунак зададзены, трэба толькі тэкст «Слова аб палку Ігаравым» знайсці...

— У бібліятэцы! — Маша ўзрадавалася магчымасці рэабілітавацца. — Там дакладна ёсць.

— Тады так, — Антон зразумеў, што пара завязваць з мазгавымі штурмамі, трэба справай заняцца. — Я, Люба і Мішка ідзём у басейн. Паспрабуем на месцы разабрацца са стыхіямі. А Лёля, Маша і Сеўка — у бібліятэку.

Сеўка кінуў на Машу незадаволены позірк:

— А давайце я лепш з вамі, чым з гэтым... Інтэрнэтам!

— Не! — адрэзаў Антоха. — Ты лепш за ўсіх умееш з гэтага Інтэрнэта атрымліваць карысць!

Глава 6

## КЛЮЧ. ВАДА

Антон і Люба ішлі па школе ўпэўненай хадою, іхнія вочы ўжо прывыклі да вечнай цемры. Мішка хінуўся да іх, азіраючыся на цёмныя куткі, і ўздрыгваў ад кожнага шоргату.

— Як вы думаеце, што мы знойдзем у басейне? — запыталася Люба.

— Басейнавіка, напэўна, — адказаў Антон.

Мішка ўздрыгнуў.

— Ды не бойся ты іх, Мішка, вунь Сталавік даволі дружалюбным аказаўся. Галоўнае, з імі па-чалавечы, як Лёля. «Дабрыдзень» сказаць, «дзякуй», «да пабачэння»...

— Усё роўна жудасна, — сказаў Мішка. — Гэта яны выгляд робяць, што добрыя, а потым як выскачаць...

— Ды ну цябе, — засмяялася Люба. — Яны харошыя.

Люба акуратна адчыніла дзверы і зайшла ў басейн.

— Добры дзень, дамавік-бацюхна, — гучна сказала яна.

А ў адказ цішыня. Дзесьці зводдаль нешта капала, і гэта быў адзіны гук, які чуўся ў вялікім і гулкім памяшканні.

— Пппойдземце адддсюль, стттрашна, — прастукаў зубамі Мішка.

— Ды чаго ж табе страшна? — запыталася Люба.

— Тттут нікога няма...

— Ды што ты на самай справе, Мішка, — сказаў Антон. — Ёсць дамавік — страшна, няма дамавіка — усё роўна страшна... Вой, а ў басейне вады няма!

Усе падышлі да краю басейна і спрабавалі разгледзець што-небудзь на дне. Дно патанала ў змроку.

— Трэба туды б залезці... — задумліва сказала Люба.

— Ннне трэба, пппойдзем адсюль, — зноў прастукаў зубамі Мішка.

— Ды хопіць табе, — сказала Люба, — я гэты басейн як свае пяць пальцаў ведаю, трэба спусціцца вунь па той лесвіцы, там зусім плытка.

Люба ўжо стала на лесвіцу, але Антон яе спыніў.

— Пачакай, не спускайся!

Ён сам не вельмі разумеў, навошта чакаць і чаму не спускацца, але быў упэўнены, што дзейнічае правільна.

— Давайце пасвецім, нешта мне тут не падабаецца. Надта ціха...

Антон запаліў свечку, акуратна звесіўся з ёю з борціка.

— Вой! — завішчала Люба і заціснула сабе рот.

Мішка збялеў і адпоўз да сценкі. Антон, сціскаючы ў руцэ свечку, у думках дзякаваў сваю інтуіцыю. Дна ў басейне не было. Дакладней яно было, але жывое. Дно варушылася і поўзала. Яно цалкам складалася з самых разнастайных, вялікіх і маленькіх, featзнакаляровых і аднаколерных, яркіх і цьмяных змей.

— Тааак, — працягнуў Антон, — пакупаліся.

— Глядзі, Антон, — прашаптала Люба, — а можа, гэта тое, што нам патрэбна?

Антон падняў свечку вышэй, і мігатлівае святло выхапіла з цемры невялікую лужыну вады ў цэнтры басейна. У лужыне штосьці ляжала. Разгледзець, што там, аказалася складана, але было бачна, што змеі ў ваду не запаўзаюць.

— Так, — сказаў Антон, — нам трэба болей святла. Пайшлі за Сеўкаю. Заадно і Мішку ў бібліятэку адвядзем, а то тут яму зусім кепска.

Мішка змучана кіўнуў.

За Сеўкаю нават не давялося ісці, ён прыбег сам, размахваючы незразумелай штуковінай і мыкаючы ад шчасця.

— О! Бачылі! Рэч!

Сеўка націснуў на кнопачку, і ў яго ў руках успыхнуў ліхтарык.

— Крута! — выдыхнуў Антон. — Ты што, батарэйкі знайшоў?

— Не! — Сеўка сам свяціўся як ліхтарык. — Не знайшоў, а зрабіў! І гэта больш крута, чым батарэйкі! Гэта вечны рухавік! І я яго вынайшаў!

Сеўка размахваў рукамі і танцаваў штосьці сярэдняе паміж ламбадай і рускай прысядкай, ад паўнаты пачуццяў перайшоўшы на народны рэчытатыў.

— Вой ды мы ды з Лё-ляю, вой ды пася-дзелі, вой ды пася-дзелі і прыду-малі! Што калі вой ды ў гэтым свеце другі закон тэрмадынамікі не працуе, дык вой ды чаму б першы таксама не забыць! Вой ды мы па-я-лі! Вой ды мы па-я-лі!

Сеўка ў знямозе спыніўся, а затым працягнуў ужо нармальна:

— А потым Лёлька гукнула нейкага дамавіка і яны пра штосьці там дамовіліся з электрычнасцю. Карацей, яна працуе! Цяпер я магу кожнаму такі зрабіць! Хочаце, пасвячу?

Сеўка скіраваў ліхтар на дно. Змеі занерваваліся. Сеўка ледзь ліхтарык не ўпусціў.

— Ух! Крута...

Антон моўчкі перанакіраваў прамень у лужыну з незразумелым прадметам у цэнтры. Цяпер стала бачна, што гэта дзеравяшка мудрагелістай формы.

— Ты думаеш, нам гэта трэба дастаць? — запытаўся Сеўка.

Антон кіўнуў. Змеі засыкалі. Усе падаліся назад.

— Ну, — няўпэўнена сказаў Сеўка, — можа, яны неядавітыя? Бываюць жа неядавітыя змеі. Вужы, напрыклад.

Параўнанне з вужамі змеям відавочна не спадабалася. Некалькі бліжэйшых да борціка гадаў узнялі галовы і засыкалі яшчэ больш раз’юшана. Раты пры гэтым яны трымалі шырока разяўленымі, каб няпрошаныя госці змаглі ў промні ліхтарыка як мага лепш разгледзець ядавіты зуб.

— Гэта не вужы, — сказаў Мішка нечакана спакойным голасам. — Гэта гадзюкі. І некалькі кобраў. І вунь гюрза.

— Ух ты! — узрадавалася Любка. — Ты што, перастаў баяцца?

— А чаго іх баяцца? — пацiснуў плячамі Мішка. — Звычайныя змеі. Я ж думаў, гэта зноў вашы... нячысцікі.

І Мішка падышоў ушчыльную да борціка так хутка, што ніхто не паспеў яго спыніць. Але змеі, як ні дзіўна, не сталі на яго кідацца. І нават сыкаць сталі як быццам цішэй.

— Ого, — хрыплым голасам сказаў Антоха.

— Ды мяне ўсе звяры любяць! — паведаміў Мішка.

— А чаго ж ты тады за Васькаю ўсю раніцу ганяўся? — не ўтрымаўся ад яхіднасці Сеўка. — Ён што, не звер?

— Ён не звер, — цвёрда сказаў Мішка. — Ён жывёліна. Каты... яны... каты, адным словам.

Люба паімкнулася падысці да борціка следам за Мішкаю, але яе змеі сустрэлі дружным сыканнем і відавочна не збіраліся цярпець побач з сабою. Люба ўздыхнула і адступіла.

— Гэта ўсё вельмі здорава, — сказаў Антон, — але нам трэба дастаць ву-у-унь тую дзеравяшку.

Сеўка тут жа зрабіў стойку. Ён вельмі любіў лагічныя задачы.

— Калі б дзеравяшка была жалезнай, — пачаў ён думаць услых, — мы б яе хутка прыцягнулі магнітам.

— Дзеравяшкі жалезнымі не бываюць, — заўважыў Мішка, які ўсё гэтак жа стаяў побач з басейнам, рассеяна пазіраючы на змей, што там кішэлі.

Здавалася, што яшчэ трошкі — і ён пачне іх пагладжваць па галоўках.

— Не бываюць, — пагадзіўся Сеўка. — Але ў іх могуць узнікнуць феррамагнітныя ўласцівасці. Ці хоць бы парамагнітныя... Трэба дамагчыся звышправоднасці! Задача вырашана!

— Пачакай, — Антоха не зразумеў большасці доўгіх слоў, але яму вельмі спадабалася, што праблема вырашана. — А што канкрэтна рабіць трэба?

— Элементарна! — Сеўка пачаў расхаджваць уздоўж сцяны, памахваючы сваім вечным ліхтарыкам. — Звышправоднасць узнікае ў любым рэчыве, калі яно ахаладжана амаль да абсалютнага нуля.

— Шкада, што зараз не зіма, — пацёр падбародак Антоха. — Адчынілі б вокны...

Сеўка абурана замахаў ліхтарыкам. Змеям гэта не спадабалася і яны зноў павялічылі гучнасць свайго сykання. Сеўка спалохана замёр і патлумачыў амаль шэптам:

— Абсалютны нуль — гэта мінус 273 па Цэльсію! У нас такіх зім, на шчасце, не бывае. Такіх зім увогуле нідзе не бывае.

— Іншымі словамі, — удакладніў Антон, — рашэнне ты знайшоў чыста тэарэтычнае?

Сеўка кіўнуў. Антон сеў на падлогу і стомлена паглядзеў на столь.

— Але ідэя ж добрая, — жаласна сказаў Сеўка. — Калі б удалося ахаладзіць...

— Дык усе змеі замерзлі б, — сярдзіта перабіў яго Мішка, — і мы б спакойна пайшлі ў цэнтр басейна і ўзялі б гэтую штуковіну.

Па яго тону было зразумела, што ён асуджае людзей, якія гатовы дзеля нейкай дзеравяшкі забіць сотні бязвінных гадзюк, кобр і гюрз.

— Слухайце, — раптам падала голас Люба, — а давайце яе струменем падсунем!

Пераход ад поўнай замарозкі да нейкага «струменя» гэтак усіх здзівіў, што ніхто нават не стаў пытацца, пра што гэта Люба. Усе проста вельмі ўважліва паглядзелі на яе. Люба збянтэжылася:

— Ну... тут ёсць... Давайце я вам пакажу!

Яна кінулася кудысьці ў цемру, каб тут жа вярнуцца з доўгім чорным пітонам у руках. Усе абмерлі.

— Сева! — папрасіла яна. — Пасвяці сюды, калі ласка!

Сеўка навёў на Любу агністую пляму свайго ліхтарыка, і прысутныя змаглі з палёгкай выдыхнуць — у руках у плаўчыхі аказаўся не пітон, а доўгі чорны шланг. Яна трошкі пакамандавала Сеўкаю і з яго дапамогай знайшла на сцяне кран. Затым вельмі хутка насадзіла шланг на кран і павярнула вентыль.

Са шланга нічога не палілося.

Люба падняла шланг, зазірнула ў яго і тоненька папрасіла:

— Бацюхна-вадзянік! Не жартуй са мной! Дай вадзіцы памыцца і напіцца!

Вадзянік адазваўся імгненна — Люба нават не паспела адхіліцца ад струменя, які хлынуў са шланга. Вымаклая, але задаволеная, яна накіравала струмень на дзеравяшку. Змеі гэтаму не ўзрадаваліся і пачалі разпаўзацца ў розныя бакі, імкнучыся ўкусіць агідную ваду. Струмень упёрся ў дзеравяшку, тая паварушылася... ды так і засталася ляжаць.

— Нічога не атрымаецца, — Сеўка сказаў гэта так аўтарытэтна, што Люба, не спрачаючыся, закрыла вентыль. — Нават калі ты гэтую штуку даштурхаеш да краю басейна, яна ж усё роўна на дне застанецца! Ды і не зрушыш ты яе, таму што сухое трэнне...

Тут Сеўкіна думка кудысьці вільнула, ён збіўся і пачаў паўтараць:
— Сухое трэнне... сухое... сухое...
І раптам радасна закрычаў:
— Адкрывай вентыль, Любка! Зараз мы яе здабудзем!
Люба паслухмяна адкрыла вентыль і ў басейн хлынула вада. Як высветлілася, змеі не любяць ваду. Але гэтыя змеі не любілі яе неяк асабліва. Яны нейкім цудам працягвалі плаваць па паверхні вады, высоўваючы галовы і раз’юшана сыкаючы.
Калі, нарэшце, вада заліла ўсё дно, дык стала зразумела, што задумаў Сеўка — дзеравяшка адліпла ад дна і паднімалася разам з узроўнем вады.
— Такімі тэмпамі мы яе суткі чакаць будзем, — прабурчаў Мішка.
— Нам трэба, каб яна паднялася хоць бы трошкі, а потым мы яе да борта струменем падсунем, — сказаў Сеўка.
Вада набіралася, усе чакалі. Потым пачалі рухаць дзеравяшку струменем. Змеі абурыліся і актывізаваліся. Было бачна, што яны ўсяляк імкнуцца не пусціць дзеравяшку да борціка. Каб яна хоць неяк рухалася наперад, давялося максімальна павялічыць напор вады.
Усе стаміліся, прамоклі і замерзлі. А калі дзеравяшка апынулася каля борта, стала зразумела, што дастаць яе нельга, вакол яе ўсё сыкала і вілося.
— Трэба шчыпцы нейкія прыдумаць доўгія, альбо сетку знайсці, — сказаў Сеўка.
А Мішка проста нахіліўся, апусціў руку ў ваду і дастаў дзеравяшку. Усё гэта ён зрабіў так хутка, што ніхто нават пікнуць не паспеў. Нават змеі.
— Ты што? — закрычаў Антон. — А калі б яны цябе пакусалі?
— Не, — спакойна адказаў Мішка, — не пакусалі б. Тут галоўнае не тармазіць. І не палохацца. Так, каб яны не паспелі твае думкі прачытаць. Прыйшоў — узяў. А вы надта падрабязна думаеце. І залішне загадзя.
— А ты філосаф, — заўважыў Сеўка ці то насмешліва, ці то з павагай.
Антоха пачаў разглядваць, што ж яны такое дасталі. Гэта аказалася дзеравянная скрыначка дзіўнай формы — як адзінка, толькі носік загнуты ў другі бок.
— І што ўсярэдзіне? — пацікавілася Люба.
— Не ведаю, не адчыняецца, — сказаў Антон, спрабуючы падкалупнуць вечка пазногцямі.
— Чуеце, — умяшаўся Сеўка, — пойдзем дзе-небудзь пасушымся, а то мокрыя ўсе!
— Добра, сапраўды, што мы тут затрымліваемся, пойдзем адсюль хутчэй, — прыспешыла ўсіх Люба і стала падштурхоўваць да выхаду.
Сеўка з Мішкаю пайшлі ўперад. Ужо на выхадзе Люба трошкі прыпыніла Антона.
— Змеі зніклі, — прашаптала яна.
Антон рэзка азірнуўся і ўтаропіўся ў басейн. Там было пуста.
— Калі зніклі?
— Як толькі Мішка скрыначку дастаў. Значыцца, яны ўсё-ткі зачараваныя былі.
— Ты малайчына, што Мішку не сказала. Дзякуй, — прамовіў Антон і з пачуццём пацiснуў Любе руку.

* * *

Яны сядзелі ў пакойчыку вартаўніка, прыхінуўшыся да абагравальніка, які працаваў па зразумелым толькі Сеўку прынцыпе, і абсыхалі. Тэмпература была ідэальная: і адзенне сохла, і не абпальвала.

Калі ў пакой зазірнулі Маша з Лёляю, Антон горда працягнуў ім трафей.

— Вой, якая прыгожая! — сказала Лёля і адчыніла скрыначку.

— Як ты гэта зрабіла? — здзівіўся Антон.

— Не ведаю, — адказала Лёля. — Яна сама.

У скрыначцы ляжала, як у чахле, маленькая «няправільная» адзінка.

— Сярэбраная? — запыталася Маша.

— Адкуль мне ведаць, — адказала Лёля, — але прыгожая... Тут нават пяцелька ёсць для ланцужка. Антон, можна, я пакуль яе ў сябе пакіну?

Антоху вельмі хацелася ўзяць гэтую цікавую штучку сабе. Але... урэшце, Лёля ж адчыніла гэтую скрыначку... і не забрала адразу, у яго запыталася. Значыцца прызнала яго за галоўнага...

— Бяры, — буркнуў ён і памацаў штаны рукой, ці не высахлі. — Ну, чвэртку справы зрабілі, засталіся... агонь, зямля і паветра. Ёсць у каго ідэі, дзе іх шукаць?

Ніхто не адказаў. Стомленасць ад прыгодаў апошніх гадзін дагнала ўсіх. Толькі Маша знайшла сілы сказаць:

— Я «Слова аб палку Ігаравым» прынесла.

— Добра, — сказаў Антоха пасля хвіліннага роздуму, — давай пачытаем. Раптам там штосьці карыснае.

Маша дастала з рукзака кніжку, раскрыла яе, пазяхнула і пачала чытаць:

— «Ці не пачаць нам, браточкі, па-старадаўняму скрушны расповед...»

Заснуў Антоха ганебна хутка, нават не даслухаўшы першага сказа.

І адразу апынуўся на лузе, па якім бег ноччу. Праўда, цяпер наўкол стаяў ясны дзень, а трава чамусьці паднімалася вышэй галавы. Няўжо яна паспела так хутка вымахаць? Антоха зрабіў крок і зразумеў, у чым справа — ён быў у целе воўка.

Дакладней, не гэтак — ён быў воўкам. У гэтым не было нічога страшнага, гэта было звычайна і нават прыемна. Трава закрывала ад яго навакольны свет, але Антоха і без зроку цудоўна арыентаваўся — значна лепш, чым раней, калі быў чалавекам. Ён падняў морду і прынюхаўся. Навокал кіпела жыццё, але жыццё бяспечнае. Нават не нюхам, а звярыным чуццём Антон-воўк разумеў — гэта ўсё ці дробязь, не вартая яго ўвагі, ці магчымая здабыча. Дробязь займалася сваімі дробнымі справункамі, а здабыча затаілася, гатовая сарвацца з месца, калі раптам ён, воўк, рушыць у яе бок.

А яшчэ злева стаяў сябар. Не воўк, чалавек, але ўсё роўна сапраўдны сябар. Ён мог за Антона перагрызці горла ці падставіць бок. І Антон за яго мог зрабіць тое ж самае.

— Ты як? — запытаўся сябар. — Не стаміўся?

Антон-воўк ашчэрыўся. Ён не стаміўся. Ён нават есці не збіраўся, хоць жывот ужо злёгку падводзіла пасля доўгага бегу. Пад’ясі — потым спаць захочацца. А спаць нельга.

Дзесьці наперадзе, там, за межамі яго тонкага нюху, на самой мяжы яго звярынага чуцця, стаяла штосьці... Небяспечнае? Нязвычнае? Так, нязвычнае, і таму небяспечнае.

Антон з месца ірвануў рыссю, сябар злева рассмяяўся і пабег услед, амаль не адстаючы. Антону раптам схацелася жудасна завыць, але пасярод дня, пад пякучым сонцам — гэта было няправільна, і ён з усіх сіл сціснуў пашчу. Выццё ўсё роўна ірвалася з яго, воўк зразумеў, што зараз сарвецца...

І Антоха прачнуўся. Наўкол, паваліўшыся на сталы, спалі астатнія. Яго зграя. Ён павінен яе пільнаваць.

Антон паматаў галавой, каб вытрасці з яе рэшткі воўчых думак — і краем вока заўважыў, як ад Машы кінуўся нейкі невыразны цень. Відаць, нешта воўчае яшчэ заставалася ў Антоху, таму што ён у адно імгненне падкраўся і загыркаў.

На гырканне прыбег дамавік — двайнік вартаўніка.

Ён, як ні дзіўна, адразу зразумеў, у чым справа, кінуўся да Машы і загаласіў:

— Авой-авой, не даглядзеў, паналазілі праклятыя, — і пачаў нейкай анучкай абмахваць Машу, якая так і не прачнулася.

— Хто? — запытаўся Антон.

— Ды, — дамавік паціснуў плячамі, — усялякія... Ты ўжо даруй, даўно яны не лезлі, гэта пасля...

І тут ён стаў яшчэ меншым, замітусіўся.

— Ты гэта... А чаго ж прачнуўся, — замармытаў дамавік з фальшывай бадзёрасцю. — Спаў бы! Стаміўся ж...

— Я выспаўся! — скрозь зубы сказаў Антон. — Хто гэта былі і адкуль?

Дамавік рушыў убок выхаду, але Антон ухапіў яго за каўнер.

— Гэтыя «ўсялякія», — запытаўся ён жалезным голасам, — пасля выбуху вылезлі, так?

Бедалага больш не імкнуўся загаварыць яму зубы, толькі трапятаўся, імкнучыся вырвацца. І тут ззаду пачуўся голас Лёлі:

— Адпусці яго.

Голас быў ціхі, але інтанацыяй нагадаў сыканне змей, якое Антон нядаўна чуў у басейне. Ён азірнуўся.

Лёля глядзела на яго спадылба спакойна і злосна. Гэта Антоху не спадабалася. Так не глядзяць на таго, каго лічаць галоўным.

— Не адпушчу, пакуль толкам не раскажа.

Ён збіраўся трымацца да апошняга, але Лёля раптам расслабілася і заўсміхалася.

— Ды ён бы расказаў, — прамовіла яна амаль жаласна. — Толькі ж не можа, хіба не праўда?

Дамавіка прарвала:

— Ды ўжо ж зразумела! Мне што, шкада? Толькі я не магу, вось жа штука якая! Нельга мне! А то давядзецца той ці іншы бок прымаць? Ты б адпусціў мяне, га?..

Антон расціснуў руку. Дамавік растаў вельмі хутка, нават бахнула, быццам нехта стрэліў. І ад гэтага гуку прачнулася Маша.

На яе шчацэ красаваліся тры свежыя драпіны.

Маша заўважыла, што ўсе глядзяць на яе шчоку, перасмыкнулася, правяла рукою па твары.

— Васька — гад! — усхвалявана сказала яна і прыкрыла драпіны рукой.

— Васька? — здзівіўся Антон, — хіба яны ў цябе не толькі што з’явіліся?

— Не, я іх валасамі прыкрывала...

— Навошта?

— Баялася, вы сварыцца будзеце, што я над коцікам здзекавалася.

— А ты здзекавалася?

— Гэта ён нада мной здзекаваўся! — усклікнула Маша. — Ведае ж, жывёліна, што я за ім запісваю, вось і нясе ўсялякую дурасць! Я ў яго пра вешчага Алега пытаюся, а ён мне ў адказ нейкія рэбусы загадвае.

— Якія рэбусы? — насцярожылася Лёля.

— Ды глупства нейкае нёс... — Маша адвяла вочы.

— Трэба было яго трэснуць! — адазваўся Мішка, які таксама прачнуўся.

Маша канчаткова збянтэжылася і зноў прыкрыла валасамі драпіны.

— Добра, — сказала Лёля, — пайду-ткі я прагуляюся.

— Куды? — звузіўшы вочы, запытаўся Антон.

— Зайду ў сталоўку за ежаю, — праспявала Лёля. — Ваську карміць пара, — і хутка выйшла.

— Толькі Ваську? — жаласна запытаўся Мішка.

Глава 7

## КЛЮЧ. АГОНЬ

Васька сядзеў каля дуба і засяроджана вылізваўся. Выгляд у яго быў ускалмачаны і пакрыўджаны.

— А, прыйшла... — мяўкнуў ён, прыўзняўшы галаву. — А я ўжо думаў, усе мяне кінулі, так і буду з гэтай дурніцай мець справу.

— Ніхто цябе не кідаў, — сказала Лёля, паставіўшы перад катом поўную міску смакаты. — І Маша не дурніца.

Кот прынюхаўся, абышоў наўкола міскі...

— Ды я, зрэшты, не галодны, — сказаў ён, і з апетытам пачаў есці.

Лёля не спрачалася.

— Ты зразумей, — працягнуў Васька пасля стараннага вылізвання міскі, — я ж не звычайны кот, я ж не магу проста так усё прамым тэкстам сказаць, я альбо казку кажу, альбо спяваю.

— Але зараз жа размаўляеш!

— Зараз я за жыццё, а не па справе.

— А Маша прасіла па справе?

— Ды яна далей свайго носа не бачыць! Прычапілася да свайго палка Ігарава, а падумаць галавою не можа.

Кот выразна пастукаў кіпцюром па лбе.

— Значыцца, Маша нешта ад цябе даведалася... але не зразумела гэтага... — задумліва сказала Лёля.

Кот уздыхнуў, паправіў ашыйнік і пайшоў абыходзіць дуб налева.

— Літары мяў розныя ў сшытак пісаць тонкім пёркам вучаць у школе, вучаць у школе, вучаць у МЯЎЎЎ!

Тут ужо Лёля ўздыхнула, пачухала ката за вухам:

— Добра, Вась, я пайшла думаць. Пасля вячэры яшчэ прыйду.

— Да мяне прыходзь, Глафіра!!! — нема закрычаў кот.

Лёля заткнула вушы і збегла.

***Працяг у наступным нумары.***

***Пераклад з рускай Р. БАРАВІКОВАЙ.***

Ян РАДВАН

# РАДЗІВІЛІЯДА,*

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга першая*

Шпарка крыніца бяжыць, па ўзбярэжжы салодкагалосым
Лебедзі ходзяць, здалёк, упрыгожаны лаўрам, бліз водаў, —
Ксіста[1] духмяны намёт амарантамі вечнымі ззяе.
Там у палацы сваім валадарыць спрадвечная Мудрасць,
Вопыт, ссівелы айцец, разам з ім — маці Памяць. А побач
Музы з чысцейшай душой уздымаюць салодкія спевы
Блізу свяшчэннай ракі. І Мусэй, і Арфей з захапленнем
Слухалі Музаў — яны ж аянійскі напой ім давалі,
Голас адна за другой заплятаючы ў дзіўную песню
Шпарка сюды Радзівіл пасьпяшаўся з душэўным натхненнем.
Вось атачаюць яго вешчуны[2], іх вялікая слава
Крочыць праз мноства вякоў, не баіцца ссівелага часу.
Потым сустрэла яго Тэрпсіхора і шлях паказала
Аж да Аонскай гары. Жыватворнай вадой Гіпакрэны
Вусны яму Палігімнія кропіць, а Кліо вянчае
Стужкай парнаскай чало. Вось выходзіць у шатах святарскіх
Годны й паважны Мусэй, пачынае ўрачыста прамову:
«Светач Сарматкай зямлі! Суайчыннікаў многіх надзея!
Сыне абраны! Цяпер ты прыйшоў да Узвышняга Бога.
Бачу: не вабіць цябе сваёй слодыччу зманнай амбітнасць,
Сэрца не рвецца тваё да распусных ганебных учынкаў.
Хочаш пабачыць стальцы блаславёных высокіх нябёсаў?
Воляй магутнай сваёй толькі Ён над усім валадарыць,
Неба і нетры марэй, і журботнае царства памерлых
Цалкам адкрыты Яму, бачыць лёсы людскія, правіны,
Можа за грэх пакараць Ён не толькі дзяцей, а і ўнукаў!
Буду цябе я вучыць, настаўляючы словам праўдзівым:
Станься падобным багам, ды не толькі душы несмяротнай —
Целу настолькі ж спрыяй, развівай — хай смяротныя! — члены!

---

* Працяг. Пачатак у № 1, 2 г. г.

[1] Ксіст — невялікая пляцоўка перад домам у выглядзе плоскага, разбітага на квадраты або прастакутнікі сада.

[2] У арыгінале — *vates.* Так у старажытнарымскай і рэнесанснай літаратуры называлі паэтаў.

Праведнік можа чакаць блаславёную радасць па смерці.
Добра! Аднак я хвалю і суровую радасць адважных —
Тых, хто карае забойцаў. І гэта не грэх — справядлівасць![1]
Хай не хвалюе цябе гэты свет крывадушны; не зводзіць
Нізкіх ліслівіўцаў хвала. Калі ж хочаш ты сутнасць спасцігнуць
Гэтага свету наўкол, то ўзыдзі на вяршыні Алімпа,
Выйдзі на горы Афона, ды згэтуль зірні на Эладу…
Што ад яе засталося? Дзе сёння карміцелька Спарта,
Маці магутных мужоў? Дзе Афіны нябеснай Палады?
Слоем высокім зямлі алімпійскі пясочак пакрыты…
Дзе старажытныя порты? Цяпер гэта — прыстань благая.
Што — сямібрамныя Фівы?.. Ат, край безназоўны, і толькі.
Гэта вось — месца Платэяў, а там — Марафона… Ды сёння
Землі былых гарадоў чырванеюць крывёю чужынцаў…
Там, дзе кіпела жыццё, — край забыты… Аддай жа мне Крыта
Сто гарадоў, дай Карынф, што вадой двух марэй абмываўся,
Шчасную гавань аддай і тэатр з мармуровага камня!..
Я праклінаю вайну! Праз цябе найвялікшыя людзі
Трупамі сталі даўно, гарады без мяшканцаў здзічэлі.
Тое, што неба і Бог надзяляюць жыццёваю сілай,
З кволай сцяблінкі расце, хоча жыць, прагна цягнецца ўгору…
Рушыцца ў час навальніцы… Жыццё — толькі момант, імгненне.
Тое, што людзі ўспрымаюць як дар — на вадзе і на сушы —
Помні, адмерана ўсё даўжынёй чалавечага лёсу!
Так што і ты, Радзівіл, калі хочаш дазнацца сусвету,
Розум у неба скіруй, дзе для душаў выдатных і гожых
Млечны раскінуўся Шлях, сваім ззяннем бялюткім прывабны.
Шар наш зямны — наш сусвет, атачаецца ён Акіянам
(Морам вялікім яго вы завеце). Скажыце, той шар наш —
Ці ж не маленькі ён востраў, які сам сабою з'явіўся?
Частка яго саграваецца сонцам, а частка — пад снегам
Мёрзне, ва ўлонні сваім ён трымае шматлікія кшталты
Розных істотаў, і род чалавечы, і нашы сядзібы.
Толькі які ж гэты шар невялікі, ці бачыш ты гэта?
Што яму вышняя ўлада над пэўнаю частачкай свету!..
Марная пыха людзей! О бязбожныя грэшныя душы!
Колькі пустога ўсяго выяўляецца ў думках і ў справах!
Людзі, бясслаўныя вы! Што за сорам! Ніякай вам славы!
Гэй! Падыміся з зямлі да дабротаў нябеснай айчыны.
Бачыш — для годных мужоў тут прызначана ўсё; і нязменна
Ў згодзе вялікай яны сярод спеваў анёльскіх, пры Богу

[1] З аднаго боку, Ян Радван развівае тут ідэі Анэя Луцыя Сенэкі, які пісаў: *Finges te dignum deo autem non auro vel argento; non potest ex hac materiā imāgo deo exprĭmi simĭlis* («Учыні сябе годным бога, але не з золата або срэбра; з гэтага матэрыялу не можа быць зроблена падобнае да бога аблічча»). З другога боку, ён яўна крытыкуе хрысціянскую ідэю пра бяссмерце душы, пра што сведчыць аўтарская глоса пры адпаведных радках: *Immortalitas animi, magnus ad virtutem illex* (Бяссмерце душы — вялікая спакуса для адвагі). Тым самым аўтар яшчэ раз падкрэслівае ўвасобленую ў тэксце паэмы думку пра тое, што абаронца суайчыннікаў, які жорстка карае ворага-нападніка, заслугоўвае не меншай узнагароды нябёсаў, чым міралюбны і праведны чалавек.

Шчасна жывуць. А табе даспадобы такая выява?
Значыць, каб трапіць туды, выпраўляйся ўжо сёння ў дарогу:
Пойдзеш па цяжкіх шляхах, па спічастых сцяжынах Алкіда,
Іншых герояў сляды там убачыш, ды слухайся бацькі
(Ён для цябе — правадыр), прывучайся з настаўнікам гэткім
Мужна пры Марсе трываць. Твайму бацьку стае надзвычайна
Годных аздобаў душы; і цябе перш як грамадзяніна
Ён нарадзіў для людзей і для мілай Айчыны. Хай сёння
Хлопчыкам бачу цябе — заўтра ўбачу ў юнацкім узросце,
Потым мужчынам! Але ЧАС ДЛЯ СПРАВЫ НАСТАЎ УЖО СЁННЯ.
Воды бурлівай Улы, старажытнага Полацка дахі
Вельмі чакаюць цябе, заняпалая сёння дзяржава
Прагне ўспамогі тваёй. Будзе час — ты свой подзвіг учыніш,
Так радавое імя перамогамі гучна праславіш,
Бо НЕДАСТОЙНАЯ РЭЧ — ПРЫХІЛЯЦЦА ДА СЛАВЫ ДРУГОГА.
Дзень той настане, калі старадаўняй рэлігіі праўда
Вернецца зноў на зямлю. Расступіся, бязмежная цемра!
Вера былая прыйшла. Ты ж запомні цяпер, Радзівіле:
Трэба з магутнай душой забяспечыць ахову для веры.
Гідра ж — няўрымслівы гнеў — непрыязна рычыць, супраціўна
Зброю падняўшы сваю (бо за гідраю — сіла багацця!).[1]
Значыць, не варта табе далучацца да гэтага руху…
Смела й рашуча за мір выступай, супраць звады, заганаў!
Будзь абаронцам Айчыны і носьбітам высакародства!
Хай Дасканаласць цябе дабрачыннай аздобнасцю вабіць,
Будзь годны продкаў сваіх мужнай справай, набожнасцю чыстай.
Нават калі б табе лёс дaручыў над мідзянамі ўладу,
Што ж — радавітасць твая і кляйноты дазволілі б гэта.
Толькі ў сенаце Літвы — іншы звычай і іншы крытэрый:
Цнота вышэй за радство, а адвага — паважней за тытул,
Подзвігам, а не казной можна продкаў сваіх перавысіць.
Ты ж Фаэтонам[2] не будзь: дбай найперш пра падданых — літвінаў,
Дбай пра Айчыну сваю, ды не толькі ў прыгожых прамовах.
Хай падкрадзецца бяда: запануюць лянота ці пыха, —
Будзь для Айчыны абранцам, і бацькам, і грамадзянінам.
Будзеш чыніць так — тады твая слава агорне ўсе землі,
Дойдзе да ўсходніх дзяржаў, да ўзбярэжжа ружовага сонца,
Краю народжаных хмарай[3], вышэй за аблокі. Дзівіся
З гетманаў даўніх часоў, а вучыся айчынным законам,
Веды імкніся здабыць, задавай ад маленства пытанні, —
Век састарэлых гадоў для спазнання навук непрыдатны, —
Так што спяшайся чытаць старадаўніх аналаў старонкі,

---

[1] У гэтых двух радках — намёк на супрацьстаянне з боку каталіцкага касцёла ў адносінах да пратэстанцкіх веравучэнняў.

[2] *Фаэтон* — сын антычнага бога сонца Геліоса. Паводле міфа, ён выпрасіў у свайго бацькі дазвол кіраваць сонечнай калясніцай, аднак гэта пагубіла юнака: коні нявопытнага кучара адхіліліся ад правільнага кірунку і наблізіліся да зямлі, праз што калясніца загарэлася, а Фаэтон загінуў.

[3] *Народжаныя хмарай* — кентаўры.

Творы паэтаў, — у іх каралі, валадарствы і войны…
Гэтак пелейскі ваяр[1] сярод тысячаў выбраў Гамера,
Прагна чытаў[2]… Спасцігай, мой абранец, паэтаў, а з імі
Тых, хто са Свадай[3] самой красамоўствам зраўняўся, — пачуеш
Нестара мудры расказ, сівізну Ітакійца[4] пабачыш…
Вось што цяпер, Радзівіл, я заўважу табе для навукі,
Словам адкрытым сваім прыгадаю яшчэ і яшчэ раз.
Божа цябе барані ад пажады ліхой ухваленняў,
Пільна не пніся, не лезь на вяршыні напышлівай славы:
Міру больш прагна жадай, чым трыумфаў любой перамогі.
Марса, юнача, не кліч, бо пракляцце спрадвечнае — войны —
Прыйдуць і самі; цяпер я прадбачу крывавыя воды
Дуны-ракі і Улы. Набліжаюцца новыя беды —
Бітвы, што меддзю блішчаць. Ты трымаць будзеш ратныя лейцы,
Змусіш ты шмат гарадоў перайсці пад уладу літвінаў,
З Марсам магутным сваім пераможаш варожыя раці.
Мае той дзень надысці, калі ты афарбуеш крывёю
Войска маскоўцаў — хутчэй надыдзі, гэты дзень! — але сёння
Больш не трымаю цябе: праслаўляй жа літвінаў адвагай!»
Скончыў прамову Мусэй. Затрымцела юначае сэрца,
Словы такія пачуўшы, любоўю да славы спрадвечнай.
Звычай сівы старадаўні падняўся з высокага трона,
Даў юнаку падарунак, сказаўшы: «Шаноўны юнача!
З гэтых пенатаў маіх неадораным госцем не выйдзеш.
Шаты прымі ад мяне, разнастайным сатканыя кшталтам».
Так ён сказаў, і тады вельмі годныя сонмы герояў
Разам яго павялі праз чысцейшы струмень Гіпакрэны.
О Прага Славы, Хвала, над якой не ўладарыць ніводзін —
Нават вышэйшы — закон, вы ўздымаеце ў сэрцы турботы.
Чым так узрушылі вы Мікалая ў юначым узросце,
Моцна працяўшы душу вашым джалам пякуча-салодкім?
Марыла ноччу і днём яго сэрца пра годную славу.
Чуючы згадкі пра вас, ён маркоціўся… Што ж, натуральна:
Мноства смяротных спрадвек, пагарджаючы болем і смерцю,
Следам за вамі ішлі, каб прыгожа з жыццём развітацца.
З верай у вас сам Алцыд нападаў на жахлівых пачвараў,
Сёння ж, як кажуць, ён стаў найславуцейшым з даўніх герояў.
Курцый, успомніўшы вас, без загаду людзей, без прынукі

[1] *Пелейскі* — македонскі; тут маецца на ўвазе Аляксандр Вялікі.

[2] *Гамера… прагна чытаў…* Шматлікія сведчанні пра выключную павагу Аляксандра Македонскага да твораў Гамера пакінулі многія пісьменнікі 16—17 стагоддзяў: Даніэль Герман, Мацей Стрыйкоўскі, Мялецій Сматрыцкі і многія іншыя.

[3] *Свада* — багіня пераканання, красамоўнасці.

[4] *Ітакійца* — Адысея (Уліса).

***Пераклад з лацінскай Жанны НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЙ.***

***Працяг у наступным нумары.***

Янка СІПАКОЎ

# МАЯ БІБЛІЯТЭКА*

## *Кніга пра кнігі*

**ЭСЭ**

## ПАЛІЦА ПЕРШАЯ

### 6

*Каб набыць кнігу Анатолія Вінаградава* «Аповесць пра братоў Тургеневых. Асуджэнне Паганіні» (аповесць і раман у адным томе), мне давялося здаць аж 60 кілаграмаў макулатуры. Бо томік быў „макулатурны" і ў ім, на апошняй старонцы, пісалася:

«Каб захаваць лясныя багацці нашай краіны, з 1974 года арганізаваны збор макулатуры ў абмен на мастацкую літаратуру, для чаго пашыраны выпуск папулярных кніг айчынных і замежных аўтараў.

Збор і здача другаснай папяровай сыравіны — важная дзяржаўная справа. Бо 60 кг макулатуры захоўвае ад высякання адно дрэва, якое вырастае 50—80 гадоў»…

Значыць, я захаваў ад высечкі адно дрэва. На ўсёй, здавалася б, бязмежнай тэрыторыі вялізнага тады Савецкага Саюза. Адзін раз і адно дрэва. І больш гэтага ніколі не рабіў. Не здаваў ніякай макулатуры!

Бо што такое макулатура? Гэта старыя кнігі. А кніга ж, чым больш яна старэе, тым большай робіцца яе каштоўнасць. Яна, старэючы, становіцца рарытэтам. Рарытэтам! А не макулатурай.

Да таго, як упершыню сабраў макулатуру, пра Нікало Паганіні я многае ведаў. На той час, за два гады да выхаду кнігі Вінаградава, я меў ужо біяграфію гэтага выдатнага італьянскага скрыпача і кампазітара, віртуоза і Майстра, напісаную Марыя Цібальдзі-К'еза.

Ведаў, што, калі зласліўцы абрывалі струны на ягонай скрыпцы, вялікі маг музыкі мог іграць і на адной ацалелай струне, і даваў гэтак цэлыя канцэрты, і ніводзін слухач нават не здагадваўся, што скрыпач іграе, па сутнасці, на сапсаваным інструменце, хоць ён і працы слыннага Страдзівары ці Гварнеры дэль Джэзу.

Ведаў, што некаторыя ягоныя творы, якія ён сам і запісваў, і да сёння не могуць зразумець і нават прачытаць высокакваліфікаваныя спецыялісты.

Ведаў, што ў яго было вельмі шмат каханак, прыхільніц, але яшчэ болей — хваробаў і ворагаў.

Любіў усяго яго, але найперш — капрычыо «Кампанела»: як толькі даходзілі да мяне знаёмыя, нібыта напраўду жывыя, гукі, я адкладваў убок усё і, як зачараваны, — у каторы раз! — слухаў гэты шэдэўр. І мне заўсёды здавалася, што так апантана іграць чалавек не можа! Так можа выкарыстоўваць скрыпку, калі слухачу здаецца, што скрыпка тая жывая, што ў яе ёсць душа і што гэта менавіта яна, а не

* Заканчэнне. Пачатак у № 1, 2 г. г.

музыкант, гаворыць, — не, так можа іграць толькі чалавек выключны, фенаменальны, незямны.

Дзіўна, аднак менавіта за гэта і ўчапіліся незычліўцы Паганіні. Яны на ўсе лады пачалі крычаць, што ён, геній, звязаўся з д’яблам і што, калі цудоўна іграе ён на адной струне, яму дапамагае сам нячысцік, які, прыхінуўшыся да другой ад скрыпкі шчакі, нашэптвае яму на вуха дасканалыя, непаўторныя гукі. Ён таму і геній, што сябруе з д’яблам!

Да гэтага цкавання Майстра, на вялікі жаль, далучыліся і каталіцкія святары, якія, як звычайныя, прымітыўныя зайздроснікі, таксама асуджалі яго за сувязь з д’яблам. «Не можа чалавек стварыць такога! — былі катэгарычныя яны. — Гэта вышэй за чалавечыя магчымасці!»

А ўзнімацца за свае магчымасці — чалавеку не дадзена: нельга!

Так геніяльнасць чалавека ўступіла ў супярэчнасць з самім жыццём. Здавалася б, выключнасць павінна была дапамагаць Паганіні жыць, ствараць і радавацца жыццю, а яна наадварот блыталася пад нагамі і толькі шкодзіла, мазоліла ўсім вочы.

Яго геніяльнасць была яму ворагам! Яна замінала Паганіні жыць пры жыцці і яшчэ больш пачала перашкаджаць яму пасля смерці.

Чаму ж пасля жэзээлаўскай кнігі «Паганіні», напісанай італьянцам Марыя Цібальдзі-К’еза, мне так захацелася мець яшчэ і біяграфію слыннага скрыпача, створаную Анатолем Вінаградавым? А таму, што ў анатацыі да к’езаўскага выдання было напісана, што кніга друкуецца ў скарочаным выглядзе, а мне вельмі хацелася ведаць пра гэтага віртуоза як найболей і як найпаўней.

Таму, што на той час прачытаў ужо гісторыка-біяграфічную кнігу Вінагарадава «Три цвета времени» пра жыццё і творчасць Стэндаля, і яна, белетрызаваная, мне вельмі спадабалася.

Анатолій Карнелевіч, сын настаўніка, дырэктар Румянцаўскага музея ў Маскве, а потым — дырэктар Дзяржаўнай бібліятэкі СССР, быў выдатным біёграфам. Ён пісаў і навукова, і займальна. Яго цікава было чытаць!

Па чытэльнасці ён быў падобны да француза Андрэ Маруа. Дарэчы, як і той — да Анатолія Вінаградава.

Яны — амаль аднагодкі. Свае славутыя біяграфіі пісалі прыкладна ў адзін і той жа час: «Асуджэнне Паганіні» Вінаградаў закончыў у 1936 годзе. У тым жа годзе ў перакладзе на рускую мову выходзіць толькі што створаны раман Маруа «Байран».

Таму і немагчыма нам сказаць, хто з іх і ў каго вучыўся…

Слава, сусветная слава цяжкаю хваляю накрывала генія. Паганіні гастраліруе па Еўропе. Рым, Вена, Прага, Дрэздэн, Парыж. Яго слухаюць Гётэ, Шуман, Гейнэ, Крэйцар, Стэндаль, Байран. Тэатры «Ла Скала», «Сант-Агасціна». І, нарэшце, Парыж, «Гранд-опера». Грандыёзная і шыкоўная зала.

На сцэне ўдваіх — Ён і Скрыпка. А яшчэ смычок, які, не дакрануўшыся нават да струн, ужо трымае ў палоне слухачоў.

І канцэрт, і саната выконваліся ў суправаджэнні аркестра. Але трэцюю частку — варыяцыю — Паганіні выконвае сола, акампаніруючы сам сабе. За ўвесь аркестр! На скрыпцы! Ага, усяго толькі на скрыпцы. Неверагодная віртуознасць скрыпача праявілася тады ва ўсім бляску.

А калі ён санату на тэму «Вяселле Фігара» Моцарта сыграў толькі на адной, чацвёртай, струне, зала ўзарвалася і напраўду вар’яцкімі воплескамі.

Нейкая дама, нічога не разумеючы, няўпэўнена пыталася: «Як гэта — толькі на адной струне? Я ж выразна чула ўсе чатыры!» На што ёй хтосьці адказаў: «Ах, сіньёра, гэта і сапраўды неверагодна, але ж у яго манеры іграць ёсць нешта такое, ад чаго можна звар’яцець».

Эмацыянальныя падхопліваліся з месцаў, стрыманыя, седзячы, крычалі: «Чараўнік! Дзіва! Цуд! Чарадзей!»

Потым была славутая «Кампанела»…

«Зірніце, што ён робіць са звычайным кавалкам дрэва!» — дзівіліся слухачы, маючы на ўвазе яго скрыпку.

«Будзем жа радавацца, — пісалі назаўтра газеты, — што гэты чарадзей — наш сучаснік!»

А меламаны Булоні прачыталі ў сваёй газеце вось такое:

«Можа, тое толькі сон? Хто гэта істота, гэта стварэнне, якое толькі адным сваім з’яўленнем выклікае самае бурлівае захапленне? Каму належыць яно — зямлі ці небу? Ці, можа, невядомым нам сусветам?»

Чым далей усе яго хваляць, тым болей многія пазбягаюць яго, баяцца: вядзьмак!

На канцэрце маладая, узнёслая дзяўчына ўся аж свеціцца ад музыкі Паганіні, а пасля, убачыўшы Маэстра, — яна ўжо іншая, злая і незадаволеная ўсім. Яна ўжо другая! То ж трэба! Дзяўчына толькі што са слязамі на вачах захаплялася яго музыкаю і тут жа раздражнёна адварочваецца ад генія: яна, шчырая каталічка, — грэх! грэх! грэх! — заслухалася музыкаю Паганіні, які, разам з чортам, ачмурыў яе…

Нікало Паганіні ўсё гэта ведаў, бачыў і адчуваў. Вось як пра тое расказвае ён сам:

«У Вене я быў сведкам яшчэ больш дзіўнага здарэння. Што гэта, шаноўныя спадары? Кур’ёз легкавернасці, падагрэты энтузіязмам маёй ігры, ці нешта зламыснае? У Вене я іграў скрыпічныя варыяцыі пад назваю «Вядзьмаркі». Яны зрабілі незвычайнае ўражанне. Але я ўбачыў маладога чалавека з бледным тварам, з бародкаю, з гарбатым носам, з блукаючым позіркам, ненатуральна ўзбуджаным выглядам. Ён глядзеў на мяне і гучна запэўніваў суседку у тым, што ён ніколі не здзіўляецца маёй ігры, бо выразна бачыць за маёю спінаю самога чорта, які стаіць ля мяне і кіруе рухамі маіх рук і напружаннем майго смычка.

«Глядзіце, — казаў малады чалавек, — гэта незвычайнае падабенства з самім Паганіні. Чорт і Паганіні — гэта адзін і той жа твар, толькі раздвоены. Гэта двайнікі — адзін апрануты ў чорнае, другі — у чырвонае. Зірніце за спіну Паганіні, вы ўбачыце істоту ў чырвоным апрананні з рагамі, з казлінаю барадою, з выпучанай ніжняй губою, з усмешкаю і хрыпатым смехам. Яго чырвоны хвост шлёпае па чаравіках сіньёра Паганіні».

І тут жа Маэстра як не крычыць:

«Літасцівыя спадары! Пасля гэтага выпадку нават я сам як быццам не сумняваўся ў праўдзівасці гэтых слоў. І вось адсюль узнікае вялікая колькасць людзей, якія тлумачаць сакрэт майго майстэрства маім саюзам з д’ябальскай, грэшнай, зламыснай, каварнай сілаю».

Езуіты настойліва патрабуюць асвячаць ягоныя скрыпкі ў святой вадзе.

Вялікі і тонкі музыкант, Паганіні, разумее, што гэта значыць — ён шануе ўсе свае скрыпкі, ад каго б яны ні былі, і ведае, што, памочаныя ў ваду — няхай сабе і ў святую! — далікатныя інструменты набрыняюць і зробяцца ні на што не здатнымі.

І ў гневе адмаўляецца.

«Маэстра, вам неабходна памірыцца з царквою», — раяць яму зычліўцы.

Некаторыя завуць яго проста: «Д’яблаў Паганіні».

Маленькі сынок яго Ахіліна нічога не разумее. Ён пытаецца ў маці: «Чаму яны завуць бацьку праклятым?»

Маці, спявачка Антонія Б’янкі, якая гастраліравала з Паганіні і лічыла, што кампазітар павінен толькі акампаніраваць ёй, а не выражаць сябе, з-за чаго яны ўвесь час сварыліся, таксама ўжо была супраць мужа.

Яна, прававерная каталічка, сціснуўшы кулакі, наступала на Паганіні.

«Мне ўсе кажуць, — лямантавала гэтая жанчына, — што вы бязбожнік, мне сказалі, што вы карбанарый, мне сказалі, што вы не выканалі патрабаванне святара, які прапанаваў вам акунуць скрыпку ў святую ваду, каб даказаць несправядлівасць абвінавачванняў у тым, што ваша скрыпка пасвечана д’яблу. Вы — вораг Хрыстовай царквы!»

«Вядома ж! — закрычаў і Паганіні. — Хіба для таго чароўны Гварнеры рабіў гэту скрыпку, каб вашы паны размачылі яе ў вадзе… Ага, я сапраўды звязаны з д’яблам, ага, я сапраўды знаходжуся ў руках нячыстай сілы, але гэтая брудная сіла — папы, а д’ябал — гэта вы, сіньёра».

Прачнуўся Ахіліна, заплакаў, працягнуў ручкі да маці. Але Антонія, замест таго, каб прылашчыць сына, дала яму звонкую аплявуху. Дарэчы, яна і самога Паганіні ўжо біла па шчоках.

Антонія кінулася да гітары. Адным скокам! Сарвала футляр з петляў і ўчапілася ў скрыпку…

Ахіліна да канца дзён сваіх памятаў той малюнак: знявечаная, пашматаная скрыпка з паабрыванымі струнамі ляжыць на падлозе…

Ён сам тады зваліўся з пасцелькі. І вывіхнуў плячо. Маці нават не падышла да яго, каб падняць.

Калі бацька развёўся з Антоніяй Б’янкі, Ахілінка застаўся з ім. Паганіні гаварыў сыну:

«А ты ведаеш, яна не вартая таго, каб сумаваць па ёй. Яна ж прадала мне цябе! За грошы!»

Антонія Б’янкі ўжо была любоўніцай прэфекта, ёй трэба былі грошы, і паліцыя дапамагла ёй перанесці залатыя мяшкі са спальні мужа…

Паганіні паміраў. А святая царква ўсё хацела вярнуць Генія ў сваё лона. Антоніё Гальвані, епіскап Ніцы, прыслаў свайго вікарыя. Маўляў, святая царква, напалоханая вашым нездароўем, хочучы прынесці вам палягчэнне, прапаноўвае вам споведзь, дараванне грахоў ды святое прычасце. Аднак Паганіні, які ўжо не мог нават гаварыць, рашуча і ўпэўнена — адмоўна! — круціць галавою.

А потым у жыцці яго адбыўся яшчэ адзін нечаканы канфуз: акурат у дзень смерці да Паганіні з’явіўся прэфект паліцыі, каб выканаць прыгавор Каралеўскага суда — прывезці асуджанага Музыку ў Парыж, каб там пасадзіць яго ў турму на дзесяць гадоў…

Смерць уратавала Маэстра ад турмы.

Але і пасля смерці для спакутаванага цела Генія выпрабаванні не канчаюцца.

Абражаныя адмоваю ад прычасця святары, не дазваляюць хаваць Маэстра ў зямлю. Ніхто — нават радзіма! —не хоча прымаць да сабе мёртвага Чарадзея.

«Уночы, — піша Анатоль Вінаградаў, — труну Паганіні, па загадзе капітана невядомага карабля, перавозяць на востраў Сен-Ферэоль. Калі хто-небудзь быў у гэтым месцы Міжземнамор’я, то, высаджваючыся на маленькім адзінокім востраве, мусібыць, бачыў у пячоры, нібыта знарок зробленай над морам, месца, дзе вісела труна Паганіні».

Менавіта вісела, бо ёй нельга было нават дакранацца да зямлі.

Аднак улады ўсё ж дазналіся, што Ахіліна пахаваў бацьку на востраве.

Нікало Паганіні нарадзіўся ў Генуі, памёр у Ніцы і вось цяпер ягоная труна вісела ў гроце на ланцугах на невялічкім закінутым востраве.

Яго цела тройчы закопвалі ў зямлю і тройчы выкопвалі зноў, каб разлучыць з ёю.

Нарэшце, Папа Рымскі дазваляе сіньёру Ахіла пахаваць бацьку, аддаць яго цела роднай зямлі, змяшацца з ёю, ласкавай.

Але гэта ўжо адбылося аж праз пяцьдзесят шэсць гадоў пасля смерці Паганіні.

«Сівавалосы, жаўтатвары, велізарнага росту, слабы старэча, з апухлымі векамі і навіслымі бровамі — кавалер ордэна Святога Георгія, маркіз Ахіла Паганіні стаіць са свечкаю ў руках між кіпарысаў. У маленькай агароджы ўзвышаюцца восем калон. Над архітравам узнімаецца лёгкі купал, на франтоне якога — вялікі надпіс : «Нікало Паганіні».

Быў ужо 1896 год, калі ўладальнік вілы Гаёна ў цынкавай труне ўпершыню і назаўсёды ўехаў у свой маёнтак. Маркіз Ахіла ўсё ж дамогся свайго — з неверагоднай упартасцю! — яго бацька нарэшце пахаваны і ягоны прах змяшаўся з роднай зямлёю.

«Маркіз Ахіла ціха прыкладае хустачку да вачэй, а калі высыхаюць слёзы замілавання, ён падлічвае грошы, якія засталіся, і з жахам думае пра тое, як дорага абыходзіцца людзям уз’яднанне з каталіцкай царквою і як цяжка кладуцца на дзяцей грахі бацькоў».

Якія гэта грахі? У Маэстра грахоў не было! Біёграф жа сам крыху вышэй пісаў пра тое, калі расказваў нам, чытачам, як Маэстра нечакана для ўсіх зрабілі Кавалерам ордэна Залатой шпоры:

«Вынесены на руках на авансцэну, з брыльянтамі і золатам на раскрытай далоні Паганіні збянтэжана кланяўся публіцы. Ён кланяўся нізка, горбячыся ў тры пагібелі і прыкладаючы правую руку да сэрца ў знак поўнага недаўмення з выпадку ўвагі рымскага першасвяшчэнніка і ў знак таго, што ён прыніжана просіць рымскі натоўп прабачыць яму яго велізарны талент, які прыгнятае іх. Ён прасіў людзей прабачыць яму яго натхненне. У нягоднікаў і жандараў, у злодзеяў і чыноўнікаў, у цырульнікаў і зводніц, у рымскіх банкіраў ён прасіў прабачэння за тое, што ён бясконца вышэй за іх і высакародней, за тое, што ён спальвае штохвілінна сваё жыццё на агні вялікага мастацтва, якое не згасае».

Ён, бязгрэшны, прасіў прабачэння у іх, грэшных!

Ферэнц Ліст у некралогу пісаў пра Майстра:

«Паганіні памёр. З ім згас магутны дух, адзін з тых, якія прырода нібыта спяшаецца вярнуць сабе. З ім знікнуў унікальны феномен мастацтва. Яго геній , які не ведаў ні настаўнікаў, ні роўных сабе, быў такі вялікі, што не мог мець нават пераймальнікаў. Па ягоным следзе не зможа прайсці ніхто і ніколі. З ягонай славаю не зраўняецца ніякая іншая слава. Яго імя з тых, якія вымаўляюцца асобна».

Пасля смерці Паганіні засталося восем ягоных скрыпак. Працы Амаці, Гварнеры, Страдзівары. Інструменты з сусветнымі пашпартамі! І ў сваім завяшчанні ён падараваў іх сябрам, знаёмым. І, як ні дзіўна, ворагам. Ага, і ворагам! Скрыпачу Шпору, да прыкладу, які знішчаў і самога Маэстра, і ягоную творчасць.

Але скрыпкі, якія памяталі рукі Генія, так па-сапраўднаму і не загаварылі.

Ні ў кога.

Праўду казаў Ліст — ніколі не будзе на свеце другога Паганіні!

Яшчэ лёс аднаго Генія, таксама музычнага, таксама вялікага, таксама віртуоза і імправізатара — кампазітара Вольфганга Амадэя Моцарта быў чымсьці подобны да лёсу Паганіні.

Кампазітара, які пражыў усяго толькі 35 гадоў і за гэты час напісаў 17 опер, 2 араторыі, 4 кантаты, 50 сімфоній, 70 вакальна-сімфанічных твораў, 40 інструментальных канцэртаў, 50 камерных ансамбляў і гэтак далей, і гэтак далей.

Кампазітар, якога і сёння любяць слухаць не толькі людзі, але і ўсё жывое, што ёсць на зямлі: да яго музыкі горнуцца кветкі, пры ёй добра растуць трава і жыта, каровы даюць болей малака, а ў пчол здараецца тады больш узятак.

Чалавек жа лечыцца музыкай Моцарта. У ёй — радасць і аптымізм жыцця. І ў ёй — гармонія і ўцешнае трыумфаванне, светлыя і чыстыя летуценні ды мроі. Тое, што трэба чалавеку, траве, жыту, пчале…

З яго, як дыханне, выходзіла, спяшаючыся, вылятала музыка, ды так, што ён не паспяваў нават запісваць яе.

«Вяселле Фігара», «Дон Жуан», «Чарадзейная флейта».

Хто ў нашым вялікім і высокаадукаваным Савецкім Саюзе не ведаў гэтых опер?!

І раптам, у самым росквіце жыцця — смерць.

Наша «БелСЭ» пра гэта піша: «Пастаянная нястача падарвала здароўе кампазітара, і ён рана памёр». Нястача, нястача… І памёр? Наіўна!

«Малая савецкая энцыклапедыя» гаворыць: «Кампазітар, смела адстойваючы сваю незалежнасць, быў вымушаны весці знясільваючую барацьбу за існаванне, якая падарвала яго сілы і прывяла да ранняй смерці».

Гэта ўжо лепей. Тут ёсць канцэпцыя.

Пушкін паверыў, што Моцарта атруціў зайздроснік Сальеры:

<u>Сальери</u>

Ты думаешь?
(Бросает яд в стакан Моцарта.)

<u>Моцарт</u>

За твое
Здоровье, друг, за искренний союз,
Связующий Моцарта и Сальери,
Двух сыновей гармонии.
(Пьет)

Гэтую версію прыняў і Дэвід Вейс, аўтар рамана «Узвышанае і зямное», у якім расказаў аб жыцці Моцарта і пра яго час. Дарэчы, яму ж належаць і раманы «Голым прыйшоў я» пра Агюста Радэна, і «Дух і плоць» — пра Айседору Дункан.

Вось як убачыў гэтую трагедыю Вейс:

«Праз тыдзень, даведаўшыся, што Сальеры жадае паслухаць яго оперу, Вольфганг запрасіў кампазітара ў тэатр…

І хоць Вольфганг загадзя вырашыў быць з Сальеры крайне ветлівым, яго ўразіла захапленне, з якім Сальеры адносіўся да «Чарадзейнай флейты»… Ён слухаў музыку як заварожаны і пасля кожнага нумара крычаў «Брава»…

Пасля спектакля Сальеры падзякаваў Моцарту за запрашэнне і папрасіў аказаць ім са спадарыняй Кавальеры гонар і павячэраць разам з імі…

Сальеры ўзяўся прыгатаваць вячэру — ён ганарыўся сваімі кулінарнымі здольнасцямі, — але сам амаль ні да адной стравы не дакранаўся, хоць усё глядзелася вельмі апетытна, і толькі ўгаворваў Моцарта абавязкова ўсяго паспытаць. Пані Кавальеры, як і гаспадар, ледзь дакраналася да ежы і больш назірала, чым ела…

Вольфганг вярнуўся на Раухенштэйнгасэ вельмі позна ў прыўзнятым настроі. Вечар прайшоў цудоўна, — можа, Сальеры не такі ўжо і злодзей, як здаецца…

І раптам Вольфгангу стала дрэнна: закружылася галава, пачало нудзіць. Ці не пераеў ён? Усчалася рвота. Усю ноч ён не мог заснуць, рэзі ў страўніку не сціхалі…»

Па Вейсу, здаецца, усе ведаюць, што адбылося, але Моцарту ніхто пра гэта не гаворыць.

Яму робіцца ўсё горш, а доктар Клосет кажа: «Ператамленне».

Ён траціць прытомнасць. Клічуць доктара, а той у тэатры. Клосет не спяшаецца да хворага, не хоча ісці, пакуль не закончыцца опера.

Доктар вельмі асцерагаецца хворага. Часта мые рукі — «баіцца сам падчапіць якую-небудзь заразу»…

І, урэшце, фінал жыццёвым пакутам. Апошнімі яго словамі, якія пачула сястра Сафі, былі: «Што робіць свет са сваімі дзецьмі».

І пачатак новых мучэнняў — зноў пасля смерці.

Ніхто не дае грошы на пахаванне Моцарта.

Самы блізкі сябра Вольфганга — барон ван Світэн згадзіўся заплаціць за пахаванне Моцарта па самым нізкім трэцім разрадзе. І ўручыў Сафі роўна восем гульдэнаў пяцьдзесят шэсць крэйцэраў за само пахаванне і яшчэ накінуў тры гульдэны на пахавальныя дрогі-калёсы.

Меней, чым ён патраціў на пахаванне свайго ўлюбёнца — шпака.

За труною ішло ўсяго сем чалавек: барон Світэн, які адшкадаваў на развітанне з сябрам гульдэнаў, Сальеры, які частаваў сябра атрутнаю вячэраю, сястра Сафі ды яшчэ чацвёра.

І то ўсе яны дайшлі толькі да сабора святога Стэфана, дзе адбылося адпяванне. Пасля адпявання труну зноў паставілі на каламажку, і вазак павярнуў іх у бок загарадных могілак — за труною ўжо за горад ніхто не пайшоў.

На могілках быў толькі адзін магільшчык. Вазак скінуў труну на зямлю і магільшчык спіхнуў цела Моцарта ў агульную яму для беднякоў — на тры рады ўжо складзеных там трупаў…

Спіхнуў Маэстра!

Генія!

І праўду ж кажуць: «Талентам зайздросцяць, а Геніяў — ненавідзяць»…

А, можа, з гэтай нялёгкай кнігі пачаць?

**7**

У гэты ж том Анатолія Вінаградава, які я набыў за макулатуру, уваходзіла яшчэ і «Аповесць пра братоў Тургеневых».

Мікалай Іванавіч Тургенеў, адзін з трох братоў, сакратар Дзяржаўнага савета пры цары Аляксандры І, быў членам тайнага таварыства, разам з будучымі дзекабрыстамі рыхтаваў дзяржаўны пераварот, у сябе на кватэры сустракаўся з Пестэлем, Рылеевым, Пушчыным, Луніным, Мураўёвым (двое з іх неўзабаве будуць павешаны), рэдагаваў абедзве канстытуцыі — і пестэлеўскую «Рускую праўду», і мураўёўскую «Канстытуцыю».

Дарэчы, пасля няўдачы паўстання і яго самога, сакратара Дзяржаўнага савета, да каго меў ласку і быў прыхільны імператар Аляксандр І (а Тургенеў: «не люблю цара, які ўсміхаецца»), і хацеў яго назначыць міністрам фінансаў, новы цар, Мікалай І, што ўжо не ўсміхаўся, завочна прыгаварыў да бестэрміновай катаргі.

А спачатку ён нават быў асуджаны да пакарання смерцю праз павешанне. Як дзекабрыст першага разраду. Як ці не галоўны натхняльнік, ідэйны правадыр дзекабрыстаў і непрымірымы абвінаваўца самадзяржаўя. Мікалай Іванавіч перабраўся ў Англію, і браты з хваляваннем чакалі, выдасць ці не выдасць рэвалюцыянера англійскі ўрад Мікалаю І. Так што ён мог аказацца на вісельні шостым. Ці нават першым…

Мікалай I паведамляў свайму брату, які адрокся ад прастолу: «Я загадаў напісаць Метэрніху, каб ён распарадзіўся арыштаваць і прыслаць Мікалая Тургенева— сакратара Дзяржаўнага савета, які падарожнічае з двума братамі ў Італіі». Але Метэрніх Мікалая Іванавіча не выдаў.

Вінаградаў у прадмове да аповесці разважае:

«Паўстанне на Сенацкай плошчы 14 снежня 1825 года, якое дало такую яркую карціну гісторыі, ні ў якой меры не было справаю рук Мікалая Тургенева, тым меней Аляксандра. Цяжка сказаць, як скларіся б падзеі, каб Мікалай Тургенеў быў у Расіі. Пры яго жорсткай прамалінейнасці, вялікай і выразнай планамернасці дзеянняў, «14 снежня» ці не было б зусім, ці дынастыя Раманавых магла б знайсці сабе канец».

Вось якую вялікую ролю ў паўстанні дзекабрыстаў вызначаў біёграф Мікалаю Іванавічу Тургеневу. Сыну старога Івана Пятровіча Тургенева, выхаванага на ідэях гуманнасці масонаў, сябра Радзішчава (памятаеце, прысуд пісьменніку дадзены Кацярынай II: «Бунтаўшчык, горшы за Пугачова»), і маці — Кацярыны Сямёнаўны, бязлітаснай прыгонніцы, бізунабойкі, прыгажуні з арапнікам, якая шкадавала ўдарыць сабаку і паласавала плёткаю спіны малых дзяцей…

Аляксандр — самы старэйшы з братоў Тургеневых. Ён быў блізкім сябрам другога Аляксандра — Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. Старэйшы і верны сябра паэта.

Пасля таго, як Пушкін загінуў, яго бацька, Сяргей Львовіч пісаў пра Тургенева: «Я б жадаў, каб на заканчэнне запісак біяграфічных пра нябожчыка Аляксандра сказана было што Аляксандр Іванавіч Тургенеў быў адзіным клапатліўцам уладкавання яго ў Ліцэй і што праз 25 гадоў ён жа праводзіў цела яго на апошняе жытло. Няхай ведае Расія, што яна Тургеневу абавязана любімым яго паэтам». «Я глыбока крануты словамі беднага бацькі», — адказаў на гэта Тургенеў.

Гэтую цытату я ўзяў з двухтомніка «Сябры Пушкіна», дзе Тургеневу адведзена больш за сорак старонак. Ягоныя ўспаміны змешчаны паміж згадкамі пра вялікага паэта Вяземскага і Чаадаева.

Аляксандр Іванавіч Тургенеў і сапраўды паспрыяў, як бы цяпер сказалі, ягонаму паступленню ў Царскасельскі ліцэй. Ён быў 8 студзеня 1815 года на тым экзамене, дзе Пушкін у прысутнасці Дзяржавіна чытаў свае «Успаміны ў Царскім Сяле», калі ўсе надзеі і спадзяванні паэта былі яшчэ наперадзе.

І вось ужо іншыя ўспаміны. Самога Тургенева:

«3 лютага ў поўнач мы з Канюшаннай царквы накіраваліся з целам Пушкіна ў дарогу; я з паштальёнам у кібітцы ззаду цела; жандарскі капітан паперадзе яго. Дзядзька нябожчыка пажадаў таксама праводзіць астанкі свайго добрага барына да апошняга ягонага жытла, куды нядаўна вазіў ён жа і цела яго маці; ён стаў на дрогах, якія вязлі скрынку з целам, і не пакідаў яго да самай магілы. Уночы праехалі мы Сафію, Гатчыну, а да раніцы 4-га лютага былі ўжо ў Лузе, за 140 вёрстаў ад Пецярбурга, а да 9-ці гадзін вечара таго ж дня ўжо ў Пскове… Я накіраваўся ў ноч, зноў з труною і з жандарам, спярша ў гарадок Востраў, дзе спраўнік і гараднічы нас сустрэлі (за 54 вярсты ад Пскова) і паслалі з намі чыноўніка далей; за 55 вёрст ад Вострава мы заехалі, пакінуўшы труну на апошняй станцыі з паштальёнам і дзядзькам, да спадарыні Осіпавай, у тры гадзіны апоўдні; яна суседка Пушкіна, чыя вёсачка ў вярсце ад яе сяла, і любіла П. як маці; у яе праводзіў ён больш за ўсё час ссылкі сваёй (і за сувязь з імі, Тургеневымі!), і ўся сям'я яе шчыра аплаквала паэта і добрага суседа… Яна паслала сваіх сялян капаць магілу для П. у манастыр, які знаходзіўся за 4 вярсты, у гарах… Магілу было цяжка капаць у мёрзлай зямлі і трэба было чакаць да раніцы… Мы вярнуліся ў Трыгорскае… На другі дзень, 5 лютага, на

світанні, паехалі мы зноў у Святагорскі манастыр; магілу яшчэ капалі; маім далакопам дапамагалі сяляне Пушкіна, якія даведаліся, што труна прыбыла туды; між тым як мы пелі апошнюю паніхіду ў царкве, магіла была гатовая для прыняцця скрынкі з труною — і гадзін у 7 раніцы мы апусцілі яго ў зямлю»…

І ніхто? І ні слова? Моўчкі?

Божа, няўжо толькі такое пахаванне заслужыў самы найвялікшы паэт Расіі?!

І ён — ахвяра паўстання дзекабрыстаў. Ён жа сябраваў з многімі дзекабрыстамі. Потым пасля задушэння паўстання, у ягоных рукапісах мы часам знаходзім нервовы накід вісельні з пяццю павешанымі. Ён нават намаляваў пакаранага смерцю Рылеева.

Дык што ж усё-ткі адбылося тады на Сенацкай плошчы ў Пецярбургу? 14 снежня 1825 года?

У Таганрогу нечакана памірае імператар Аляксандр I.

Нашчадак, князь Канстанцін, якому прысягнула ўжо войска, адракаецца ад прастола на карысць Мікалая.

Імператарам становіцца Мікалай I.

Менавіта ў дзень прысягі новага імператара лейб-гвардыі Маскоўскі, Грэнадзёрскі палкі і Гвардзейскі марскі экіпаж, паднятыя афіцэрамі-дзекабрыстамі, каб сарваць каранацыю, выйшлі на плошчу і пастроіліся ў карэ вакол помніка Пятру I.

Каля 3 тысяч салдат! Пры 30 страявых кіраўніках паўстання!

Ага, гэта подзвіг. Ага, гэта сіла волі — яна мацней за ўсё. Ага, яны адкрыта, не хаваючыся, выказалі сваю нянавісць да самадзяржаўя і самадзержцаў. Але які ж гэта подзвіг? Няма дзеянняў, а таму няма і сэнсу ў гэтым паўстанні. Выйшлі на плошчу, пастроіліся і стаяць. Новы цар ужо сцягнуў да пляцу паслухмяныя яму войскі. Па іх ужо страляюць карцеччу, а яны — стаяць.

«Кучка багацеяў вываліла на Сенацкую плошчу абараняць народ», — пацяшаліся з іх уладалюбцы.

І праўда, а як бы яны абаранялі той народ?

Сярод дзекабрыстаў — тры генералы, восем палкоўнікаў, чатыры падпалкоўнікі. Пятнаццаць чалавек адносіліся да вышэйшага афіцэрства! Трое мелі княскія тытулы, удзельнічалі ў паўстанні і бароны. Дваране многія — былі блізкія да царскага двара. І ўсе мелі багацці: адны — велізарныя, іншыя — крыху меншыя. Але ж мелі!

І што б яны сказалі народу? «Мы аддадзім вам тое, што вы далі нам?» А ці паверыў бы ў гэта народ? Ці спакусіўся б абяцанкамі?

Яны не ведалі пакуль народ, а народ — не ведаў іх.

Атрымліваецца нейкая бравада, прабачце, нават нейкая нібыта гульня: «Ды мы вам пакажам»… Што, каму, як вы пакажаце? Пакажаце — дык паказвайце! Вы ж ужо стаіце на плошчы. Узброеныя…

Прабачце мне за гэтую эмацыянальную рэфлексію. Вядома ж, лёгка рэфлексаваць праз дзвесце гадоў пра тое, што адбылося ў той, незнаёмы табе, час. А жыві ты тады… Столькі ж нечаканасцей з’яўляецца! Як ва ўсім і заўсёды.

Адмовіўся ўзначаліць паўстанне Аляксандр Тургенеў — ён нават не прыехаў у Расію з Еўропы. Хоць на яго спадзяваліся.

Паспешліва абраны новы дыктатар паўстанцаў — палкоўнік Трубяцкі. Яго жонка, графіня Лаваль, францужанка, ужо, кажуць, вышывала яму сцяг для паўстанцаў. Аднак гэты сцяг князю Сяргею не спатрэбіўся — замест таго, каб ісці на Сенацкую плошчу, ён пайшоў да сваякоў, да Лаваляў, дзе яго і арыштавалі. Не пайшоў на плошчу — застаўся жывы, а каб пайшоў, — быў бы сёмым на вісельні:

яму спачатку абвясцілі смяротны прыгавор, які потым замянілі бестэрміноваю катаргай.

Нават страшна выказваць такую думку, але ж, здаецца, некаторыя з дзекабрыстаў, не верачы ў поспех свайго выхаду на плошчу, не хацелі, каб паўстанне ўдалося. Яны не ведалі, што ім рабіць з уладаю, калі яна раптам упадзе на іх рукі. Не разумелі, што рабіць з краінаю, каб падняць яе, зрабіць шчасліваю.

Паўстанне — такім, як задумана, — не атрымалася. Дэманстрацыя сілы маладымі стала дэманстрацыяй іхняй слабасці.

На плошчы ўжо нельга маўчаць! На плошчы ўжо трэба нешта гаварыць. Але найперш — нешта рабіць. Выйшлі — рабіце, працуйце! Абараняцца на плошчы— гэтага ўжо мала. Там трэба наступаць.

На Сенацкай плошчы мітусіўся толькі паэт Кандрацій Рылееў. Па сутнасці, ён адзіны кіраваў тады паўстаннем.

Не, у яго ўжо былі і сапраўдныя планы: захоп Зімняга палаца, а на выпадак неабходнасці — і знішчэнне царскай сям'і. І ўжо быў вядомы той, хто павінен застрэліць цара — Кахоўскі. Кахоўскі, які смяротна параніў потым Міларадавіча.

Рылееў то знікаў з плошчы, то зноў з'яўляўся на ёй. Шукаў «дыктатара» Трубяцкога. Хадзіў у казармы, каб вывесці на плошчу новыя палкі.

Аднак апошні раз, вяртаючыся на плошчу, ён нават не змог прайсці праз царскія кардоны і загароды, і ўжо сам расстрэл паўстанцаў карцеччу назіраў з натоўпу…

Не, ён ведаў, што рабіць!

Ва ўспамінах Мікалая Бястужава ёсць размова Рылеева са сваёй маці, якая ад'язджала ў вёску ўлетку 1824 года, дзе яна неўзабаве, не дажыўшы да паўстання, і памерла.

— Паберажы сябе, — казала яна, — ты неасцярожны ў словах і ва ўчынках; урад падазроны; шпіёны яго ўсюды падслухоўваюць…

На што сын адказаў:

— Не палохайцеся, мілая матуля, выслухайце, і вы супакоіцеся. Ага, намеры нашы страшныя для таго, хто глядзіць на іх збоку і, засяроджваючыся, не бачачы прыгожай іхняй мэты, заўважае адны толькі жахі, якія пагражаюць кожнаму з нас; але вы мне маці — вы можаце, вы павінны бліжэй разглядаць свайго сына. Калі вы аддалі мяне ў ваенную службу на ахвяру ўсім яе цяжкасцям, небяспекам, самой смерці, якая магла мяне падсцерагчы на кожным кроку, — ці мог я шукаць таго і іншага, бесперапынна не сустракаючы смерці? Не, але вы тады столькі не баяліся, як цяпер… Цяпер настаў век грамадзянскай мужнасці, я адчуваю, што маё прызначэнне вышэй — я буду ліць кроў сваю, але за волю Айчыны, за шчасце суайчыннікаў, дзеля адбору з рук самаўладдзя жалезнага скіпетра, для набыцця законных правоў прыгнечанаму чалавецтву — вось якімі будуць мае дзеянні. Калі я паспею, вы не можаце сумнявацца ва ўзнагародзе за іх: шчасце расіян будзе лепшаю для мяне ўзнагародаю. Калі ж загіну ў барацьбе законнага права з уладаю, калі сучаснікі не змогуць зразумець і ацаніць мяне — вы будзеце ведаць чысціню і святасць маіх намераў; можа быць нашчадкі аддадуць мне належнае, а гісторыя запіша імя маё разам з імёнамі вялікіх людзей, якія памерлі за Айчыну.

Маці, зноў жа па Бястужаву, спалатнела ўся — «жаль і пачуццё ўнутранага задавальнення змешвалася на твары яе», — аднак яна знайшла ў сабе сілы, каб благаславіць сына, які прызнаўся ёй, што з'яўляецца членам тайнага таварыства.

І вось раніца 14 снежня. Той жа Бястужаў успамінае, як Наталля Міхайлаўна, жонка Кандрація Фёдаравіча, залiваючыся слязамі, прасіла яго не хадзіць на плошчу. Убачыўшы, што муж не слухае яе, у роспачы закрычала да дачушкі:

— Насценька, прасі бацьку за сябе і за мяне!

«Маленькая дзяўчынка, — піша Бястужаў, — выбегла, рыдаючы, абняла калені бацькі, а маці амаль у непрытомнасці ўпала яму на грудзі. Рылееў паклаў яе на канапу, вырваўся з яе і даччыных абдымкаў і пабег».

Тую ж ноч Рылеева арыштавалі. Ужо дома, ужо ў ложку. Па загадзе самога імператара прыехаў па яго флігель-ад'ютант Дурнаво. Цар загадаў прывезці Рылеева жывого ці мёртвага і ў кайданах.»

Цяпер, пасля здрады Якубовіча і Трубяцкога, ён быў галоўны вораг Мікалая І.

А ўжо 15 снежня пачаліся масавыя арышты.

Бунтаўшчыкоў везлі з палкоў і сядзіб.

Нікіту Мураўёва, аўтара новай канстытуцыі, арыштавалі ў сядзібе цесця — на вачах у цяжарнай жонкі.

У цудоўным палацы Лавалей усю ноч, пасля арышту там Трубяцкога, па загадзе цара і пад аховай дваццаці салдат Паўлаўскага палка штыхамі ўзломвалі ўсе шафы, капаліся ў скрынках пісьмовых сталоў.

Кюхельбекер збег. Яго, калежскага асэсара, настойліва шукалі ў Смаленскай губерні, у маёнтку маці. Пецярбургскі генерал-губернатар пісаў Смаленскаму «зусім сакрэтна»:

«І калі ён там будзе знойдзены, то загадайце яго ўзяць пад моцны нагляд, накіраваць сюды з маім пасланцом, дадаўшы да каравула другога чыноўніка». І пасля роспісу — прыпіска генерал-губернатара: «Калі будзе злоўлены, то везці скаванага».

Ахвяр было многа. Іх везлі з Масквы, Кіева, Кішынёва, Тыфліса, Бярдзічава, з Белай Царквы і нават з нашага Бабруйска — пра бабруйскае адгалінаванне дзекабрыстаў у маёй бібліятэцы ёсць кніжка Сямёна Букчына: «К мечам рванулись наши руки»…

Амаль усім, каго прывозілі ў Петрапаўлаўскую крэпасць, абавязкова задавалі нечаканае і непазбежнае пытанне: «Растлумачце, што, калі і ад каго вядома было вам пра намер зрабіць замах на жыццё нябожчыка гасудара імператара ў 1823 годзе падчас яго знаходжання ў Бабруйску?»

Гэтае пытанне задавалі Рылееву, Аляксандру Мураўёву, Абаленскаму, Івану Якушкіну, Міхаілу Фанвізіну, Муханаву, Пестэлю, Аляксандру Бястужаву-Руміну, Павала-Швяйкоўскаму, Тызенгаўзену, Нораву…

Аказваецца, у дзекабрыстаў быў свой «бабруйскі план», паводле якога імператара Аляксандра І павінны былі арыштаваць у Бабруйскай крэпасці і там жа патрабаваць ад яго Канстытуцыю…

Аднак гэта чамусьці не здарылася. У ноч з 12 на 13 верасня была пастаўлена рота Норава, карабінеры якой стаялі ля ўваходу ў царскія пакоі. Але раніцою імператар вярхом на кані выехаў з цэнтральных варот, і перад ім ва ўзорным парадку, гвардзейскім строем прамаршыравалі ўсе палкі крэпасці.

Усяго да следства было далучана 579 чалавек.

Допыт вялі следчая камісія, барон дэ Толь, Бенкендорф. І сам імператар. Без адпачынку і без сну ён вёў допыт амаль усіх «злачынцаў» — за выключэннем вельмі нямногіх. Дапытваў людзей у кайданах і без іх у сваім шыкоўным, ярка асветленым — аж сляпіла вочы — кабінеце ў Зімнім палацы. А калі не дапытваў, то ўсё роўна стаяў за шырмаю і слухаў як гэта рабілі іншыя.

І вось — Кранверкская курціна, берагавое збудаванне, казематы, куды іх, пасля абвяшчэння смяротнага прысуду, прывозяць, — ужо не ў Аляксееўскі рэвелін, а ў гэты змрочны каземат.

І вось 13 ліпеня 1826 г. Глыбокая ноч. За вокнамі стукаюць сякеры цесляроў — гэта ім рыхтуюць вісельню. Адну на пяцёх. Вялізную — яна відаць нават з другога берага Нявы.

Звіняць у апошні раз ланцугі асуджаных на смерць — каб лягчэй ісці, Рылееў падтрымлівае свае кайданы за насоўку, прадзетую праз звяно ланцуга.

Не па сабе робіцца, калі чытаеш, як яны, ужо ў рове Кранверкскай курціны, дзе збудавана вісельня, чакаючы, калі прывязуць з Вучылішча гандлёвага мараплавання лаўкі — вельмі высокую вісельню збудавалі! — якія выб’юць потым у іх з-пад ног, як яны, седзячы на траве, нарваўшы травінак, цягнуць жэрабя, каму першым, каму другім, трэцім ісці на эшафот і потым на дзіва строга прытрымліваюцца гэтай чаргі.

І яшчэ жахлівей уявіць сабе, як трое павешаных — Мураўёў-Апостал, Бястужаў-Румін і Рылееў — зрываюцца з вісельні жывымі… вяроўкі няякасныя, рознага памеру, ірвуцца. А ахвяры са звязанымі рукамі — сам жа Рылееў падказаў кату звязаць ім рукі…

Хтосьці з салдат заўважыў: «Пэўна, бог не хоча іхняй смерці».

Ва ўсім свеце ёсць такі няпісаны звычай: сарваўся з вісельні — яго шчасце, бо ў другі раз вісельніка не вешалі.

А іх паднялі на вісельню і ў другі раз.

— Вешайце, вешайце іх хутчэй! — як вар’ят крычаў Галянішчаў-Кутузаў.

Бенкендорф не вытрымаў — упаў нічком на шыю каня, заплюшчыў вочы.

— Чаму ж вы не глядзіце, генерал, як мы паміраем у пакутах? — спакойна спытаўся ў яго Рылееў.

А Мураўёў-Апостал толькі ўздыхнуў:

— Бедная краіна, нават павесіць тут не ўмеюць.

На іх зноўку накінулі петлі…

Праз два тыдні жонка паэта Наталля Міхайлаўна Рылеева атрымала паведамленне ад каменданта Петрапаўлаўскай крэпасці: «Выконваючы паведомлены мне князем Аляксандрам Мікалаевічам Галіцыным найвысачэйшы наказ, пасылаючы пры гэтым грошы пяцьсот трыццаць пяць рублёў асігнацыямі, якія засталіся пасля Кандрація Фёдаравіча Рылеева, маю гонар быць са шчырым шанаваннем, мілая спадарыня, ваш пакорны слуга А. Сукін».

Ён і праўда, гэты А. Я. Сукін, генерал ад інфантэрыі, аднаногі стары служака, да ўсіх вязняў адносіўся з аднолькавай і нязменнай павагаю.

А дзе пахаваны паэт Рылееў і да гэтага часу невядома.

Жорстка? Ага, жорстка.

Бесчалавечна? І праўда — бесчалавечна.

Акрутна? Ды яшчэ як!

А скажыце, калі такое адбываецца ў нейкай іншай краіне свету, яно бывае неяк па-іншаму? Не! Тыя ж самыя ахвяры, тая ж самая жорсткасць. З таго боку, хто пераможа.

Улада — любая! — яна таму і ўлада, каб найперш абараняцца. Каб абараняць самую сябе. Гэта ж — ісціна!

Дыба, чацвертаванне, калесаванне, адсячэнне галавы, вісельня, расстрэл, электрычны стул, атручэнне. Раздзіранне ахвяры, прывязанай да дзвюх сагнутых і адпушчаных раптам бярозак. Навязванне да двух коней, якіх паганялі потым у розныя бакі… Кайданы. Катарга. Атамная бомба.

Божа мой, колькі ж ты, чалавек, напрыдумляў сам — на самога сябе! — рознага жуду і страхоцця!

Ты вар'ят, чалавеча!

Кажуць, Гітлер панічна баяўся нават кроплі любой крыві. А праліў, не задумваючыся, мора чалавечай.

Нават Мікалай I быў далікатны, уважлівы і ўражлівы. Памятаеце, як ён пісаў маці 25 красавіка, абураючыся дзекабрыстамі, — маўляў, ты ўяўляеш, любая матулька, гэты ж зладзей «Рылееў раскрыў учора ўвесь свой план адносна 14-га і прызнаўся, што ён сапраўды намерваўся ўсіх нас забіць».

Імператар дапытваў Рылеева з хітрасцю — іезуіт, ён, каб выведаць усё, прыкідваўся ледзь не ягоным аднадумцам, сябрам, дабрадзеем.

«Трэцяга дня, — піша Наталля Міхайлаўна мужу, — парадаваў мяне бог: імператар прыслаў тваю запіску і ўслед за гэтым 2 000 р. і дазвол пасылаць табе бялізну… Пры гэтым пасылаю табе дзве сарочкі, двое панчох, дзве хустачкі, ручнік».

І праз некалькі дзён: «Дабрачынная імператрыца Аляксандра Фёдараўна прыслала мне 22 чысла, гэта значыць у імяніны Насценькі, тысячу рублёў».

Грошы жонцы свайго ворага… Аляксандра Фёдараўна не ведала, навошта яна тое робіць, але ж пасылала.

А для імператара гэта была ўсяго толькі следчая хітрасць. Рылееў паверыў у шчырасць і раскрыўся. Поўнасцю!

Бог ведае, што тады рабілася ў Пецярбургу!

Бацька дзекабрыста Н. В. Шарамецьева, стары служака, адмаўляецца ад сына і просіць цара пакараць яго як найстражэй.

Маці Сяргея Валконскага, як і да арышту сына, усё роўна выконвае абавязкі першай статс-дамы, жыве ў царскім палацы і абедае за адным сталом з Мікалаем I.

Брат Пестэля адначасова з загадам пра павешаннне пяці дзекабрыстаў, сярод якіх быў і Павел Пестэль, атрымлівае ад цара флігель-ад'ютанцкія аксельбанты.

Але ж, не зважаючы на гэта, цар быў бязлітасны.

Імператар вырашыў не толькі самаму быць жорсткім, а і Еўропу, увесь свет навучыць жорсткасці: «Я буду няўмольны; я павінен даць урок Расіі і Еўропе». Мікалаю I здавалася, што Еўропа ў расправе з паўстанцамі «слишком плохо держит себя».

Мусіць, сяму-таму ў Мікалая-вешальніка, амаль праз пяцьдзесят гадоў пасля задушэння ім паўстання дзекабрыстаў, вучыліся і французскія ворагі Парыжскай Камуны, якая праіснавала ў гісторыі чалавецтва ўсяго толькі 72 дні.

Чакайце, у мяне ж недзе была кніга, што так і называлася «Парыжская Камуна» — п'еса Жуля Валеса, якая выйшла ў свет у «Літаратурных помніках» у 1974 годзе ў Маскве.

Французскі пісьменнік Жуль Валес быў відным камунарам, удзельнічаў у паўстанні 31 кастрычніка 1870 года, быў членам ЦК дваццаці акруг Парыжа, членам Парыжскай камуны, удзельнічаў падчас «Крывавага тыдня» ў барыкаднай барацьбе, быў асуджаны на смяротную кару і ўратаваўся толькі эмігрыраваўшы ў Бельгію, потым — у Швейцарыю.

Вось як ён у сваім творы падае фрагмент пасля задушэння Камуны, у якім нібыта і сам здзіўляецца, калі раптам дабро нечакана нараджае зло…

«Баналь. Вас выклікалі, спадарыня, як сведку падзеі, пра якую вы, вядома, не забыліся. Вы ж ледзь не страцілі дачку падчас пажару, калі быў падпалены ваш дом ля перакрыжавання Чырвонага Крыжа.

Дама. Цяжка ўспамінаць пра тое, васпан. Калі б не смяльчак, які з рызыкаю для жыцця выратаваў маю дачку Луізу, яна загінула б… а між тым гэты чалавек — федэрат…

Баналь. Ці не той гэта капрал, які быў адным з падпальшчыкаў дома?

Дама. Ага, спадар, як гэта не дзіўна… Федэраты лічылі, што гэта іх абавязак…

Баналь. Скажыце, вы пазналі б гэтага чалавека?

Дама (пасля хвіліннага роздуму). Наўрад ці… У гэтай сумятні я зусім страціла галаву. Прыпамінаю закурадымлены твар, абгарэлую бараду — гэты добры чалавек ледзь не загінуў, васпан, — ды яшчэ грубы голас, які сказаў мне: «Вось яна, вазьміце сваю дзяўчынку!».

Дзяўчынка. А я, мама, добра помню чорнага чалавека, які загарнуў мяне ў коўдру. Я яго адразу ж пазнаю… Як бы мне хацелася яго ўбачыць, пацалаваць.

Баналь (аддае шэптам нейкі загад пісару… Неўзабаве жандар уводзіць у залу пасяджэння чалавек дзесяць…). Зірні на гэтых людзей, дзіця, ці ведаеш ты каго-небудзь з іх?

Дзяўчынка (шукае вачыма знаёмы твар і нарэшце радасна кідаецца на шыю Піту). Вось хто ўратаваў мяне!.. Ён загарнуў мяне ў коўдру і вынес з агню. Ага, гэта ён, не рабіце яму зла, спадар афіцэр, адпусціце яго з намі…

Баналь (звяртаючыся да Піта). Вы ўсё яшчэ будзеце адмаўляцца?

Капрал Піту. Не, прызнаюся! (Цалуючы дзяўчынку). Бедны анёлачак, ты загубіла мяне… Цяпер мне не мінаваць смяротнага прысуду. І аднак жа, калі б я даў табе згарэць… (Расчулена). Але ж у мяне ў самога ёсць жонка і дачка! (Выходзіць. Па знаку Баналя жандары выводзяць астатніх камунараў).

Уражвае! Як усё неадназначна ў любой рэвалюцыі!

А вось побач з «Парыжскай Камунай» Жуля Валеса на маёй кніжнай паліцы стаіць таксама просценькая, здавалася б, непрыкметная, амаль брашурка, кніжачка «У добраахвотным выгнанні» Элеаноры Паўлючэнкі.

На мой погляд, дзекабрыстыка ў мяне сабрана, здаецца, няблага: двухтомнік «Пісьменнікі-дзекабрысты ва ўспамінах сучаснікаў» у «Серыі літаратурных мемуараў», томікі і тамы, двухтомнікі выбраных твораў дзекабрыстаў Кандрація Рылеева, Аляксандра Адоеўскага, Вільгельма Кюхельбекера, Аляксандра Бястужава (Марлінскага), першага дзекабрыста Уладзіміра Раеўскага, у «ЖЗЛ» — біяграфіі Рылеева і Адоеўскага, успаміны найлепшага сябра Пушкіна — Івана Іванавіча Пушчына, акварэлі Мікалая Бястужава, на якіх — Чыцінскі астрог і жыццё катаржан.

Вядома, самым прыкметным і папулярным паэтам сярод катаржан быў князь Аляксандр Адоеўскі. Гэта ён напісаў адказ на пасланне Пушкіна ў Сібір:

Струн вещих пламенные звуки
До сердца нашего дошли.
К мечам рванулись наши руки,
Но лишь оковы обрели.

Потым, калі яго па загадзе цара адправілі радавым у Каўказскі корпус, ён пасябраваў там з Міхаілам Лермантавым, які прысвяціў яму свой верш «Памяці А. І. Адоеўскага».

Аляксандр Бястужаў-Марлінскі быў крыху ў ценю сваіх сяброў — Рылеева і Адоеўскага. Ён — паплечнік Рылеева, з якім яны разам выдавалі «Полярную звезду», ён сябра Пушкіна, які гаварыў пра яго як пра «чалавека ў вышэйшай ступені сімпатычнага, дасціпнага, але калючага», чалавека, які заўсёды выклікае спрэчкі. 14 снежня Бястужаў вывеў на Сенацкую плошчу Маскоўскі полк. Яго абвінавацілі ў тым, што ён «задумваў царазабойства і знішчэнне царскай сям'і», і прысудзілі да вышэйшай меры пакарання — да адсячэння галавы, якое заменена было потым катаргаю. Затым ён служыў радавым на Каўказе і загінуў у сутычцы з горцамі.

Старэйшы з братоў Бястужавых — Мікалай Аляксандравіч — прывёў на Сенацкую 1100 матросаў Гвардзейскага экіпажа. Адбываў катаргу на Нерчынскіх рудніках. А ў ссылцы ён адкрыў у сабе яшчэ адзін выключны талент і зрабіўся славутым сярод катаржан мастаком.

Мікалай Бястужаў стварыў цэлую галерэю выдатных жаночых партрэтаў!

Марыя Мікалаеўна Валконская, Кацярына Іванаўна Трубяцкая, Марыя Казіміраўна Юшнеўская, Аляксандра Іванаўна Давыдава, Каміла Пятроўна Іванова, Лізавета Пятроўна Нарышкіна, Ганна Васільеўна Розен, Аляксандра Рыгораўна Мураўёва, Наталля Дзмітрыеўна Фанвізіна, Паліна Ягораўна Аненкава…

Усе яны — графіні, княжны, баранесы, генеральшы, жонкі палкоўнікаў ды падпалкоўнікаў. Маладыя і прыгожыя, амаль дзяўчаткі — ім жа тады ў асноўным было ўсяго па 20—25 гадоў! Але ўсе ужо задумлівыя і зажураныя — хоць бы дзе адна ўсмешка…

Яны, шукаючы ў далёкай Сібіры, завеянай снягамі і скаванай марозамі, тыя Нерчынскія руднікі, той Чыцінскі астрог, той Пятроўскі завод, не па гадах пасталелі, зрабіліся дарослымі.

У Сібір на катаргу сасланы 23 жанатыя дзекабрысты. Яны ж — маладыя! Хтосьці толькі што ажаніўся, жонкі ж іншых ужо цяжарныя, чакаюць дзяцей. Словам, жонкі чакаюць дзяцей, а мужы — арышту. Пасля задушэння паўстання, нібы на зло ўсяму, у іх, катаржан, з'явілася на свет аж дзевяць немаўлятак!

І вось яны, гэтыя дзяўчынкі, вераніцаю, адна за адной паехалі за сваімі, закаванымі ў кайданы, мужамі. У турмы, у астрогі, абгароджаныя зацясаным уверсе коллем. У руднікі, «во глубину сибирских руд».

І праўда, подзвіг, вялікі, не зважаючы ні на што, подзвіг зрабілі дзекабрысты! Аднак яшчэ большы, здаецца, подзвіг, подзвіг-ахвяра, іхні, жонак дзекабрыстаў.

Яны, маладыя, прыгожыя, у самым росквіце жыцця, ім бы толькі радавацца гэтай сваёй маладосці і дзетароднасці. Ім бы толькі жыць і цешыцца жыццём. А яны ірвуцца ў добраахвотнае выгнанне, у астрожныя камеры сваіх каханых.

Яны адмаўляюцца ад самога жыцця, каб толькі быць побач са сваімі каханымі.

Салоны, балы, дастатак, бляск, уборы, свецкае кола такіх жа, як і яны самі, шчаслівых людзей, назаўсёды застаецца ў мінулым. Яны ведаюць і разумеюць, што і там шчаслівымі ўжо ніколі не будуць, аднак ўсё роўна едуць. Пакідаюць бацькам сваіх, народжаных на волі дзетак — малалетак, якіх цар не дазваляе браць з сабою ў Сібір, і едуць у няволю.

Там немагчыма быць шчаслівымі! Бо і мінулае, і будучыня несумненна будзе помсціць ім за іхніх мужоў, якіх не кінулі яны ў бядзе…

І назад ужо амаль ніхто з іх і ніколі не вернецца…

Першаю ў дарогу збіралася Кацярына Іванаўна Трубяцкая. Яна паехала ўслед за мужам, князем Сяргеем, на другі ж дзень пасля ягонага ад'езду. Яе суправаджаў бацькаў сакратар Карл Вашэ.

Мне чамусьці здаецца, што калі б быў жывы Рылееў, яго жонка Наталля Міхайлаўна паехала б у Сібір першаю — так пяшчотна і роспачна любіла яна свайго мужа! Памятаеце: «Няўжо ты можаш думаць, што я магу існаваць без цябе? Куды б лёс не павёў цябе, я заўсёды пайду за табой. Не, адна смерць можа разарваць святую повязь шлюбу».

Кацярына Іванаўна Трубяцкая, народжаная графіня Лаваль, француженка, таксама была мужная і настойлівая.

У Краснаярску зламалася карэта. Трубяцкая адна перасаджваецца ў тарантас.

У Іркуцку губернатар запалохвае яе, патрабуе зноў пісьмовага адрачэння ад усіх правоў (яна гэта падпісала ўжо ў Пецярбургу!). і Трубяцкая, не раздумваючы, усё падпісвае.

Праз колькі дзён той жа губернатар Цэйдлер аб'яўляе былой княгіні, што далейшы шлях яна прадоўжыць «па канату» — разам з крымінальнымі злачынцамі. Яна адразу ж згаджаецца і на гэта.

За ёю ўжо едуць Валконская і Мураўёва.

Мураўёва да самазабыцця кахала свайго Нікітушку. Калі ўжо на катарзе хтосьці, жартуючы, запытаўся, каго яна больш любіць, мужа ці бога, яна сур'ёзна адказала, «што сам бог не пакрыўдзіцца за тое, што яна Нікітушку любіць больш».

Аляксандра Рыгораўна, шчыра любячы свайго мужа, так і памерла ў Сібіры, на Пятроўскім заводзе, вельмі заўчасна — усяго ў 28 гадоў.

Крыху іншы шлях быў у Марыі Валконскай.

Дзевятнаццацігадовая, не пярэчачы волі бацькі, яна пакорна выходзіць замуж за генерала, князя Валконскага, немаладога (яму ўжо трыцаць сем гадоў!), непрыгожага, але знакамітага і багатага.

Ён удзельнік 58 бітваў, званне генерал-маёра яму прысвоілі ў дваццаць чатыры гады.

Іх вяселле супала з годам паўстання. Яны пражылі разам усяго толькі некалькі месяцаў. І яшчэ не паспелі як след разабрацца адно ў адным.

«Мае бацькі думалі, што забяспечылі мне бліскучую, на думку свету, будучыню», — горка ўсміхнецца ў канцы жыцця Марыя Мікалаеўна.

Вось яе партрэт з галерэі Бястужава. Іх аж два: на фоне Чыцінскага астрога — сцяна з востраколля, часавы з прымкнутым штыхом перад уваходам у астрог; і ўжо ў 1837 годзе ў Пятроўскім заводзе: смутак у яе вачах здаецца самым большым, чым ва ўсіх астатніх дзекабрыстак.

Але і яна: «Паеду!» Усе яе адгаворваюць, нават забараняюць ехаць. А яна — сваё: «Паеду!»

Цяжкае развітанне з сынам, якога змушана была пакінуць назаўсёды, і яна едзе шукаць той Благадатны руднік, дзе разжалаваны князь Сяргей Рыгоравіч Валконскі ўжо здабываў свінец.

Сем тысяч вёрстаў шляху, завеяных мяцеліцамі…

А ёй жа, захапляўся і, кажуць, нават кахаў яе Аляксандр Сяргеевіч Пушкін.

Нарэшце, Валконская прыязджае на руднік. Муж, бразгаючы кайданамі, бяжыць да жонкі…

«Выгляд яго кайданоў, — успамінала Марыя Мікалаеўна пазней, — так расхваляваў і расчуліў мяне, што я кінулася перад ім на калені і пацалавала спачатку яго кайданы, а потым і яго самога».

Але гэта яшчэ будзе потым, потым, потым.

А пакуль што яны едуць.

Валконская і Мураўёва дагналі Трубяцкую недзе каля Байкала.

«Трубяцкая, Валконская і Мураўёва паехалі за Байкал, — іх прымусілі падпісаць адрачэнні ад званняў сваіх, і я баюся, што іх становішча будзе цяжкім», — пісаў таксама з дарогі генерал-маёр Міхаіл Аляксандравіч Фанвізін.

А праз год на катаргу, у Чыцінскі астрог прыехала і ягоная жонка — Наталля Дзмітрыеўна Фанвізіна.

Зноў жа акварэлі Бястужава. Жонкі дзекабрыстаў перад Чыцінскім астрогам. Яны — маленькія-маленькія, а ён — вялікі, нават вялізны, аднак нейкі аселы —

як магіла. Толькі і відны сцены з тоўстых, зацясаных зверху, колляў. На фоне высокіх сопак.

А вось унутраны выгляд аднаго з аддзяленняў Пятроўскага астрога. Зноў жа адны сцены з колля. Аднак ужо з сярэдзіны. І тыя ж сопкі, што ўзвышаюцца за сценамі. Толькі ўжо з хмарамі за імі. А ў сярэдзіне астрога — пуста: як усё роўна павыміралі ўсе…

А гэта ўжо цесная, як труна, камера-адзіночка для дзекабрыстаў. Спачатку яны, гэтыя драўляныя цэлі, былі без вокан. На малюнку — ужо з невялічкім акенцам пад столлю: пасля вялікай валаводы іх усё ж, хоць і вельмі высока, аднак прарэзалі. У гэтых цэлях жылі катаржнікі, у іх яны сустракаліся і з жонкамі, якія прыехалі да іх у Сібір. Тут жа зачыналі і дзяцей, якія, нашчадкі князёў і графаў, адразу запісваліся ў дваровыя сяляне…

Нічога не паробіш — усе ж яны давалі вось такія падпіскі: «Имея желание жить в арестантской казарме вместе с мужем моим».

Разумееце, жаданне!

І да генерал-маёра, асуджанага па чацвёртым разрадзе (на пасяленне) — памятаеце, указанне «яго імператарскай вялікасці»: «крыху лягчэй, але строга»? — таксама прыехала жонка. Генеральша Наталля Дзмітрыеўна, з роду Апухціных, была цвёрдая, рашучая, энергічная, аднак і вельмі таварыская, вясёлая жанчына. Крыху дзівакаватая — любіла нечаканасці.

Ніхто не разумеў яе, калі яна ў 16 год спрабавала ўцячы ў манастыр.

Ніхто не зразумеў Наталлю і тады, калі яна, васемнаццацігадовая, здзівіўшы ўсіх, выскачыла замуж за Фанвізіна: стрыечны дзядзька, амаль саракагадовы генерал, на дваццаць гадоў старэйшы за яе…

Тады некаторыя ў гэтым замужжы ўбачылі высакародныя рысы ахвярнасці юнай пляменніцы — Міхаіл Аляксандравіч уратаваў яе бацьку ад немінучага разарэння.

Усе лічылі, што вобраз Таццяны Пушкін спісаў менавіта з яе, Наталлі Дзмітрыеўны. Гэтак жа думала і яна сама. У пісьме да сябра Пушкіна, Івана Іванавіча Пушчына, яна піша: «Ваш прыяцель Аляксандр Сяргеевіч, як паэт, выдатна і правільна схапіў мой характар, палкі, летуценны і засяроджаны ў сабе, і цудоўна апісаў першае яго праяўленне пры ўваходжанні ў жыццё свядомае».

І вось гэтая летуценная жанчына ўжо ў халоднай і падазронай Сібіры. Яна, не баючыся нікога і нічога, называе свайго мужа, «дзяржаўнага злачынцу», толькі «мой генерал-маёр».

Неўтаймоўная, не можа сядзець на месцы. Едзе ў Ялутараўск, каб наведаць тамтэйшую калонію дзекабрыстаў. Едзе без дазволу ўлады. І атрымлівае вымову. Ад генерал-губернатара Гарчакова. Дарэчы, свайго далёкага родзіча, які патрабуе даць падпіску аб нявыездзе. Фанвізіна абураецца, бунтуе, шле скаргу ў Пецярбург — маўляў, «мясцовае начальства робіць мне абмежаванні». І ў яе справу ўжо ўмешваецца сам імператар. Статс-сакратар яго імператарскай вялікасці князь Галіцын піша Наталлі Дзмітрыеўне:

«Сёння генерал-ад’ютант граф Арлоў паведаміў мне, што па ўсепадданейшым дакладзе яго ўпамянутага прашэння спадарыні Фон-Візінай гасудар імператар найвысачэйша загадаць пажадаў: аб’явіць ёй, што яна, на аснове існуючых пастаноў, павінна падлягаць усім тым абмежаванням, якім падпарадкаваны яе муж».

І ўсё ж маладая і дзейсная жанчына не супакойваецца.

Калі пасля дваццаці пяці гадоў пасля паўстання дзекабрыстаў, на катаргу везлі ў Сібір петрашэўцаў, яна, чым магла, імкнулася ім дапамагчы. Насуперак усім цяжка-

сцям, Наталля Дзмітрыеўна з іншымі дзекабрысткамі сустракаецца з петрашэўцамі ў астрозе.

Вось што Фанвізіна гаварыла пра самога Петрашэўскага:

«Божа мой, у якім жахлівым стане знайшла я няшчаснага. Увесь аблытаны жалезам, хворы, знясілены… Ён паспеў мне сказаць шмат пра што, але такое, што сэрца маё аблілося крывёю».

А вось як пра іх, дзекабрыстак, якія дамагліся гэтай тайнай сустрэчы, піша Дастаеўскі, які ў ліку петрашэўцаў быў у перасыльным астрозе:

«Мы ўбачылі гэтых вялікіх пакутніц, што добраахвотна паехалі за сваімі мужамі ў Сібір. Яны блаславілі нас у новы шлях, перахрысцілі і кожнаму падарылі Евангелле — адзіную кнігу, якая дазволена ў астрозе. Чатыры гады праляжала яна пад маёю падушкаю на катарзе». «Якія цудоўныя душы!» — усклікае ён у другім месцы.

Наталля Дзмітрыеўна, даведаўшыся, што Дастаеўскага і Дурава адпраўляюць у Омск, дамаўляецца з жандарамі і едзе за Іртыш, каб правесці іх. І гэта ў трыццаціградусны мароз! Чакаюць, доўга чакаюць у голым полі, калі арыштантаў будуць везці. І ўсё ж, хоць і баючыся, каб хтосьці з праезджых не ўбачыў яе разам з катаржнікамі — «кайданы бразгалі на іхніх нагах» — паспявае пажадаць ім шчаслівага шляху, перадаць сабранае ў дарогу.

Наталля Дзмітрыеўна перапісвалася з Дастаеўскім, а потым, пасля амністыі, калі яны з Міхаілам Аляксандравічам вярнуліся з Сібіры, у маёнтку Фанвізіных-Пушчыных у Мар'іна, што ў Падмаскоўі, доўга жыў петрашэвец Дураў.

А Евангелле, падараванае Наталляй Дзмітрыеўнай — і па яе ж задуме! — у сям'і Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага заўсёды бераглося як рэліквія.

Хапае ў Фанвізіных і сваіх клопатаў ды выпрабаванняў. Яны навечна разлучаны са сваімі дзецьмі. Ім таксама, як і ўсім дзекабрыстам, не дазволілі забраць дзяцей з сабою ў Сібір.

Калі мужа арыштавалі, маладая жонка засталася з двухгадовым Дзмітрыем і цяжарная другім сынам, які народзіцца, калі бацька ўжо будзе ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Маленькія Міця і Міша засталіся на руках і даглядзе бабулі Марыі Паўлаўны Апухцінай.

Маці, схільная да медытацызму, у адчаі. У сваіх пісьмах яна рыдае:

«Мець сына і не ведаць яго, страціць яго, неўведаўшы, не мець магчымасці захаваць пра яго нават успамін, не мець уяўлення пра пагляд яго, ні пра голас, ні пра фігуру, ні пра характар, і, кажуць, што гэта лягчэй!.. Ах, не! Я страціла сына навекі і зусім, і ў мінулым і ў будучым, страціла ўсё без астатку — гэта жахліва! Толькі маці, якая знаходзіцца ў маім становішчы, могуць зразумець маё гора, але і ў іх застаюцца хоць успаміны, а ў мяне і тых няма: гора, гора і гора!»

Міця і Міша, якія раслі ў бабулі шалапутамі, памерлі вельмі рана — адзін у дваццаць пяць, а другі — у дваццаць шэсць гадоў.

Наталля Дзмітрыеўна і ў Сібіры раджала двойчы, але дзеці паміралі.

Потым, пасля амністыі, ужо ў маёнтку Мар'іна Бронніцкага павета на Маскоўшчыне, памёр і муж Міхаіл Аляксандравіч Фанвізін.

І Наталля Дзмітрыеўна засумавала. Па чым вы думаеце? Па Сібіры, па катарзе!

«Прызнаюся Вам, што не хутка параднюся я з цяперашнім жыццём. Прывыкшы быць у Чыце і Пятроўскім нібыта ў коле родных столькі гадоў, не перастану шкадаваць пра ранейшы лад жыцця», — прызнаецца яна ў пісьмах.

Два гады Фанвізіна займаецца гаспадаркай, а потым таемна, пад выглядам паездкі ў свае далёкія маёнткі, едзе ў Сібір, да сяброў.

І там таксама, як заўсёды, Наталля Дзмітрыеўна зноў здзівіць усіх сваёй нечаканасцю: яна, 52-гадовая, выйдзе замуж, возьме шлюб з 59-ці гадовым дзекабрыстам. І хто, вы думаеце, быў гэты шчасліўчык?

Іван Іванавіч Пушчын! Той Пушчын, якога так любіў Аляксандр Сяргеевіч Пушкін. Памятаеце яго: «Товарищ милый, друг прямой», «Мой первый друг, мой друг бесценный!» Яны ж у Царскасельскім ліцэі жылі ў суседніх пакоях і вечарамі, кладучыся спаць, доўга перагаворваліся праз перагародку, якая да самай столі не даходзіла.

Вось кніга «Запіскі пра Пушкіна. Пісьмы» І. І. Пушчына. І ў ёй — лісты да А. С. Пушкіна і да Наталлі Дзмітрыеўны. Спачатку Фанвізінай, а потым — Пушчынай.

«Няцвёрдай рукою, — піша ён Фанвізінай перад яе другім, добраахвотным, прыездам у Сібір, — памаленьку, нарэшце, скажу, добры друг мой, што я ачуняў ад цяжкай хваробы, якая рашуча не давала мне магчымасці падаць голасу…

Да сустрэчы, да сустрэчы, да сустрэчы! Верны твой І. П.»

Здорава! Наталля Дзмітрыеўна, прататып пушкінскай Таццяны стала жонкаю Івана Іванавіча Пушчына — самага найбліжэйшага сябра Аляксандра Сяргеевіча!

Божа мой, якое багацце матэрыялу, найцікавейшага і найскладанейшага для рускіх пісьменнікаў дало гэтае паўстанне дзекабрыстаў!

У ім жа столькі характараў, столькі пераплеценых між сабою лёсаў, столькі болю і любві, столькі нечаканых паваротаў жыцця, столькі трагедый і адчаю, што ўсяго гэтага хапіла б на другі ў свеце геніяльны шэдэўр рускай літаратуры, які б стаў упоравень з «Вайной і светам» Л. М. Талстога.

Чаму ніхто не заўважыў гэтага? Не падняў матэрыял? Як след не зацікавіўся ім?

Не, зразумела ж, матэрыял і заўважылі, і паднімалі, і цікавіліся ім і шмат пісалі. Але я кажу не пра гэта, я маю на ўвазе толькі шэдэўр.

Чаму не паднялі вялікія? Не ўбачылі глыбу ці проста збаяліся яе?

А тут жа было ўжо ўсё для рамана. Трэба было толькі выбудаваць твор!

Ніхто не адважыўся? Ці не знайшлося яшчэ аднаго генія, каб з годнасцю падняць усё гэта.

А Леў Мікалаевіч? Мне здаецца, што недзе я чытаў, быццам бы Талстой збіраўся пісаць пра дзекабрыстаў. Ён жа сам з Валконскіх — па маці.

І збіраўся, і пачынаў ужо.

Знайшоў у «Кароткай літаратурнай энцыклапедыі», што «спроба звярнуцца да гісторыі для разумення сучаснасці (пачатак рамана «Дзекабрысты» (1860 — 61, апубл. 1884) — вяла яго да задумы рамана-эпапеі «Вайна і мір». І ўсяго толькі?

Мусіць, Леў Мікалаевіч лічыў, што двух шэдэўраў нават у вельмі таленавітых пісьменнікаў не можа быць. І ў геніяў павінен быць толькі адзін шэдэўр. Самысамы. Такі, як «Вайна і мір». Адзін, але назаўсёды…

Вось гэтая невялікая кніжачка, нават брашурка ў несамавітых папяровых вокладках, якая выклікала ў мяне такія вялікія эмоцыі: Э. А. Паўлючэнка. «В добровольном изгнании. О жёнах и сестрах декабристов.» Выдавецтва «Наука». Масква, 1976 г.

Я нават не шукаў яе, не бегаў за ёю, не выпрошваў ні ў кога. Проста яна сама торкнулася мне ў рукі на нейкім звычайным кніжным развале.

А вось за поўны тэкст «Біблії» я ўжо аддаў цэлы мяшок кніг са сваёй бібліятэкі.

Тады, памятаеце, вялася вельмі актыўная прапаганда і барацьба з усім, што было пра Бога. Самыя, так званыя, антырэлігійныя гады. Мытняў у нас яшчэ не было, аднак на мяжы адымалася ўсё, што з'яўлялася, як тады лічылася, «опиумом для народа».

Мне прапаноўвалі такую, канфіскаваную на мяжы, біблію. Я адмовіўся. Бо шукаў якраз кананічны, поўны збор усіх кніг і старога, і новага запавету.

І знайшоў яе!

Гэта «Библия. Книги священного писания ветхого и нового завета» Выданне Маскоўскай патрыярхіі. Па блаславенні Свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія. Масква. 1968 г. Зроблена з сінадальнага выдання 1912 года. Вялізны фаліянт на 1371 старонку…

Прабач, дарагі мой чытач, шаноўны мой дружа! Зноў я загаварыўся… А табе ж трэба даць трошкі перадыхнуць, адпачыць.

Ды і сама кніга — «Біблія»! — вымагае пашаноты і павагі да сабе. Пра яе нельга гаварыць мімаходзь, бо яна кніга кніг, адна з даўнавечных сведкаў старажытнай пісьменнасці, — перад ёю толькі, здаецца, самая першая на зямлі кніга «Махабхарата» ды гліняныя таблічкі з клінапісам…

Так што давай, дарагі мой дружа, пакуль перакурым… Калі ты курыш. А калі, як і я, не курыш — проста памаўчым… Паглядзім у акно. У наша з табой трэцяе тысячагоддзе.

А, можа, развітанне пачаць менавіта з яе, з «Бібліі»?

Якое развітанне? Ты ж не разбураеш сваю бібліятэку, ты ж ствараеш новую. А ў той, новай бібліятэцы, гэтая кніга кніг будзе ўпрыгажэннем любога кнігазбору.

***Янка СІПАКОЎ***

6 красавіка 2010 г.
Трэці дзень Вялікадня.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ЧУЕ СЭРЦАМ, АЦЭНЬВАЕ СЭРЦАМ

## МІЛАШОВА — ЖЫЦЦЯ АСНОВА



Даўно стала хрэстаматыйным выслоўе: «Усе мы родам з маленства». Аднак нельга не пагадзіцца і з Янкам Сіпаковым: «Усе мы з хат». У тым сэнсе, што пераважная большасць гараджан так званага першага пакалення нарадзіліся ў вёсцы. Гэта тычыцца і беларускіх пісьменнікаў. **Алена МАСЛА** — сярод іх не выключэнне. Калі чым яна і розніцца ад літаратараў свайго пакалення, дык тым, што піша толькі для дзяцей. Калі іншыя пісьменнікі — як празаікі, так і паэты, зарэкамендавалі сябе і ў «дарослай» літаратуры, то Алена Сцяпанаўна не здраджвала дзіцячай літаратуры, не здраджвае і, хутчэй за ўсё, ніколі гэтага не зробіць. Іначай і быць не можа, бо знайшла ў ёй сваё прызванне. Дый не ў якім-небудзь жанры, а даўнім, у тым, вытокі якога ў фальклоры — казцы.

Нарадзілася А. Масла ў вёсцы Мілашова, што ў Міёрскім раёне. «Возера, на беразе якога стаіць бацькоўскі дом, — прыгадвае яна, — падобна на знак бясконцасці. Два няправільных кругі, а ў самым вузкім месцы, на перашыйку — мост. На адным беразе Ідолта, ці, як называюць яго вяскоўцы, "цэнтра" мясцовай гаспадаркі, магазін і пошта. На другім — Мілашова, вёсачка меншая, але менавіта тут знаходзіцца школа і "новы", 1939 года пабудовы, касцёл... Калісьці і возера, і фальварак на яго берагах мелі двайную назву — Ідолта-Мілашова. Возера быццам акальцоўвала, аб'ядноўвала лёсы вяскоўцаў, якія жылі на супрацьлеглых берагах. А "бясконцасць" лёгка перадольвалася па скрыпучаму драўлянаму мастку».

Невялікая вёска Мілашова, але мае багатую гісторыю. Такую гісторыю, якой далёка не кожны раённы цэнтр можа пахваліцца. Прысутнасць даўніны тут адчувалася пастаянна. Пачынаючы з таго, што школа знаходзілася ў будынку, грошы на будаўніцтва якога ў свой час выдзеліў мясцовы пан Яўгеніюш Мілаш, якому належала не толькі Мілашова, а і некаторыя іншыя населеныя пункты.

Як Я. Мілаш стаў уладальнікам іх, даведалася пазней, калі інтарэс да мінуўшчыны кутка маленства выклікаў жаданне глыбей пранікаць у даўніну. Гэтая мясцовасць з 1725 года на працягу амаль ста гадоў была ўласнасцю Сапегаў. Калі Напалеон напаў на Расію, яны не ўспрынялі яго заваёўнікам. Меркавалі, што ўдасца аднавіць былую дзяржаву, сынамі якой сябе лічылі. Аднак спадзяванні гэтыя, як вядома, аказаліся марнымі. Расійскія ўлады пачалі праследаваць тых, хто падтрымліваў французскага імператара. Генерала артылерыі Вялікага Княства Літоўскага Францішка Сапегу ўра-



*Алена Масла — удзельніца паэтычнага тэатра АРТ. С, вядоўца і арганізатар многіх вечарын. Пасля прэзентацыі-конкурсу кнігі А. Масла «Першая Прыгажуня» з удзельнікамі і гасцямі тэатра. (2010 г.).*

тавала тое, што паспеў прыняць аўстрыйскае падданства і застаўся ў Галіцыі. Каб жа маёмасць і ўладанні не канфіскавалі, паспяшаўся прадаць свае землі. Ваколіцы Друі, у прыватнасці, купіў Іосіф Мілаш. Ягоны сын Яўгеніюш на беразе возера пабудаваў дом, летнюю рэзідэнцыю, плябанію, капліцу і школу. Дарэчы, род Мілашаў таксама пасвойму знакаміты. Блізкія родзічы Мілашаў, што валодалі некалі Мілашовам — французскі паэт Аскар Мілаш і польскі паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Чэслаў Мілаш.

Шмат цікавых гісторый з даўніны расказвала Алене і яе бабуля, якую таксама звалі Аленай — Аленай Мікалаеўнай. А яшчэ бабуля Алены мела немалыя задаткі таленту, па-майстэрску ткала дываны, стаўшы спрактыкаванай майстрыхай ужо ў 15-гадовым узросце. Гэтыя дываны яе бацька вазіў на кірмашы, дзе яны карысталіся вялікім попытам. Таму пакупнікі і не скупіліся. Надта не задумваючыся, плацілі за кожны дыван 50 злотых. Цана немалая, калі прыняць пад увагу, што на той час столькі каштаваў паўнюткі вазок жыта.

Слаўнай майстрыхай была і яшчэ адна Аленіна бабуля — Аміля Іосіфаўна. Такімі тонкімі і роўнымі ніткамі з воўны, як у яе, рэдка якая майстрыха магла пахваліцца. Да гэтай пары ў сям'і захоўваюцца карункавыя хусткі, цуда-швэдары з нітак бабкі Амілі. Стрыечная бабуля А. Масла Ада Станіславаўна — чалавек цікавейшага лёсу. Была шафёрам, у гады Вялікай Айчыннай вайны вадзіла грузавікі-трохтоннікі. Сама па сабе гэтая прафесія, не сказаць, каб надта жаночая. Да ўсяго ж тыя аўтамабілі працавалі на дровах. Неяк здарылася так, што дровы вось-вось скончацца, а ў кузаве параненыя. Не давязеш іх своечасова, могуць памерці. Выйсце знайшла ў тым, каб спаліць сваю ватоўку. Але ўсё ж даехалі...

Самыя светлыя згадкі засталіся ў А. Масла і пра дзеда па маці А. Цярэшку. Жыў ён, праўда, не ў Мілашове, а ў Лужках. Затое колькі радасці было, калі наведваліся да яго. Канечне, усім унукам разам сабрацца цяжка

было — як-ніяк, а іх Аўгуст Станіслававіч меў ажно 20. Затое той, хто наведваўся да яго, не шкадаваў. Межаў не было і дзедавай гасціннасці, і шчырасці. А якіх толькі гісторый ён не ведаў! Дый пра што б не расказваў, абавязкова так, што дух захапляла. Да ўсяго ад дзеда сыходзіла такая цеплыня, на якую здатны толькі чалавек, які па-сапраўднаму любіць дзяцей.

Безумоўна, блізкія людзі не маглі не аказваць дабратворнага ўплыву на выхаванне дзяўчынкі. Як і на яе сястру Наталлю, брата Васіля. Дарэчы, Наталля Сцяпанаўна таксама стала дзіцячай пісьменніцай. Многія дзеці з задавальненнем пазнаёміліся з кнігай Наталлі Бучынскай «Прыгоды Маленькай Машынкі». Бучынская — прозвішча Наталлі Сцяпанаўны па мужу.

Асабліва ж вялікая роля ў выхаванні як Алены, так і яе сястры з братам, канечне ж, належала бацькам — Юзэфе Аўгусцінаўне і Сцяпану Сцяпанавічу. Па адукацыі яны філолагі. Дый па прызванні — таксама, а таму і самі шмат чыталі, і дзяцей да гэтага заахвочвалі. А. Масла ўспамінае: «Любоў да слова прышчапілі мне бацькі. У нас у сям'і заўсёды куплялі шмат кніг, літаратурных пласцінак. Мы, дзеці, вельмі шмат чыталі, а калі я сама ўзялася за пяро, бацькі сталі першымі чытачамі і суддзямі. Яны падтрымлівалі маю творчасць».

Характэрна тое, што пачынала яна не з вершаў, чым звычайна захапляюцца ў маленстве нават тыя, хто ў далейшым так і не звязаў свой шлях з літаратурай, і не з замалёвак, апавяданняў, а ў дзесяцігадовым узросце ўзяла і напісала казку. Дэбют атрымаўся ўдалым. Спачатку надрукавалася ў раённай газеце, потым у часопісе «Бярозка».

Увогуле, у школьныя гады А. Масла з казкамі і артыкуламі даволі часта выступала ў перыёдыцы. Таму, у рэшце рэшт, і прывяла яе дарога на факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Падчас студэнцтва таксама нямала друкавалася, супрацоўнічала з многімі выданнямі. Але, пішучы ў розных жанрах, да казкі не звярталася. Атрымаўшы ў 1984 годзе дыплом аб вышэйшай адукацыі, працавала ў «Піянеры Беларусі» (сённяшняя газета «Раніца»), у часопісах. Была галоўным рэдактарам газеты «Переходной возраст», загадвала рэдакцыяй дзіцячай літаратуры ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — галоўны рэдактар часопіса «Бярозка».

## ПЕРАД КАЛЯДАМІ ЎСЁ МАГЧЫМА

Да казкі вярнулася толькі пасля таго, як упэўнілася, што гэта акурат той літаратурны жанр, да якога больш за іншыя ляжыць яе душа. Гаворачы пра гэта, удакладняе: «Хаця — шчыра! — не разумею, дзе тая мяжа, якая падзяляе душу чалавека на "дарослага" і "дзіця". Усім нам, самым сур'ёзным, адукаваным, разумным, шаноўным і паважаным, патрэбна спагада, дабрыня, шчырасць — і вера ў перамогу Дабра над Ліхам. Значыць, усім нам патрэбна і казка».

У першую чаргу казка неабходна, канечне ж, дзецям. А калі патрэбна яна ім, то чаму б казкі не пісаць. Ды не проста пісаць, а рабіць гэта як з усведамленнем той адказнасці, якую бярэш на сябе, так і з разуменнем самой спецыфікі дзіцячай літаратуры. А. Масла ўпэўнена: «Дзіцячае ж — гэта тое, што трэба чуць — сэрцам, ацэньваць — сэрцам. Бо яно прыходзіць у жыццё нашых з вамі дзяцей і здольнае спрычыніцца да іх лёсу, бо дзеці — даверлівыя, раскрытыя свету. З імі нельга крывадушнічаць, гуляць у літаратуру. У лепшым выпадку мы сапсуем ім густ. Найстрашней жа, калі "напісаннем" на "лёгкую" — дзіцячую тэматыку — мы ўзрасцім прывычных да фальшу людзей».

Уся творчасць яе, а гэта пяць кніг, а таксама шматлікія публікацыі ў часопісах «Вясёлка», «Пачатковая школа», «Полымя», «Качели», і іншых выданнях, адрасаваных дзецям, яскравае пацвярджэнне таму, што А. Масла з дзяцьмі, кажучы яе словамі, у літаратуру не гуляе. Пачынаючы са сваёй першай кнігі «Каляды ў хроснай» (2005), задумка напісання якой акурат і нарадзілася ў той час, калі ўсе — не толькі дзеці, а і дарослыя — жывуць прадчуваннем таго, што наперадзе абавязкова будзе штосьці такое, што падыме настрой, прынясе ў тваё жыццё нешта новае. Калі ж поруч няма блізкага і дарагога табе чалавека, то хочацца, каб ён хутчэй з'явіўся. Асабліва, калі гэта дзіця, якое вельмі любіш.

Алена Сцяпанаўна з задавальненнем дзеліцца тым, што падштурхнула яе да напісання гэтай каляднай казкі: «Я сумавала ў разлуцы са сваёй маленькай хросніцай і фантазіравала, як весела мы маглі б сустракаць навагоднія святы... Гісторыі з казачнай аповесці надараліся з рэальнымі людзьмі

ў рэальным жыцці, мне заставалася дадаць толькі крыху чараўніцтва... Калі я была маленькай, у нашым доме заўсёды з нецярпеннем чакалі Новы год, верылі ў Дзеда Мароза. Будучы студэнткай, я прыязджала дамоў на калядныя святы: мы пераапраналіся, хадзілі па вясковых хатах, а ўсе дзеці былі ўпэўнены, што менавіта ў нашым Мілашове — самы сапраўдны Дзед Мароз. Таксама і ў маёй сям'і на Новы год мы заўсёды ладзім вялікае свята».

Каб надаць твору большую шчырасць, непасрэднасць, пабудавала апавяданне ад імя дзяўчынкі Вікі, якая ў наступным годзе збіраецца ісці ў першы клас. Гэта ўжо само па сабе абяцае ёй шмат новага, невядомага і незнаёмага. А тут яшчэ магчымасць напярэдадні Новага года пабываць у хроснай. З таго моманту, як Віка прыехала да яе, і пачаліся для дзяўчынкі сапраўдныя цуды. Цуды, што нараджаюцца дзякуючы багатай творчай фантазіі, але паколькі апавядальніцай выступае сама Віка, то ўсё тое, пра што апавядаецца, набывае яшчэ большую загадкавасць, прыцягальнасць.

Скажам, тое, што хросная жыве ў самым высокім доме ў горадзе. Да таго ж — на апошнім паверсе. А яшчэ дом гэты стаіць на горцы. Не кожны адважыцца з такой вышыні паглядзець уніз, а зрабіць жа гэта так хочацца. Нягледзячы ні на што, у тым ліку і таму, што страшна. Хоць страх гэты як рукой зніме, калі папіць чаю, які хросная запарвае з мятай. Але ад гэтага прыгод не менее. Дзе яшчэ і калі, як не перад Новым годам, можна сустрэцца з лётчыкам, які, «калі яму даводзіцца заблудзіцца, адшуквае дом хроснай, які бачны адусюль, падымаецца на яе паверх і ўжо з яго вышыні можа вызначыць свой маршрут па горадзе»…

Сярод герояў кнігі — і іншыя персанажы: анёл з залатой трубой у руках, і строгі, нават спачатку крыху шкадлівы, а потым такі добры паставы міліцыянер. І, канечне ж, які Новы год без Дзеда Мароза. У яго так шмат падарункаў назбіралася, што адзін ніяк не можа разнесці іх. Таму просіць хросную і Віку дапамагчы яму. Аднак цуды на гэтым не заканчваюцца. Дзеці з вялікім задавальненнем катаюцца па небу на снегавіку ў выглядзе крылатага пегаса. Упэўніваюцца, што, аказваецца, не так і цяжка зрабіць здымак анёла. Дастаткова захацець, як без асаблівай цяжкасці можна лавіць сачком праз фортачку зоркі. А яшчэ катацца з верхняга паверха дома на санках, адкрыць курсы па вырабе кармушак для птушак, наладзіць у горадзе featurenакаляровы шарыкавы абвал.

Віка часта паўтарае запавет сапраўдных чараўнікоў: «Галоўнае не гаварыць, а рабіць», які і дапамагае з'яўленню цудаў там, дзе, як на першы погляд, іх ніколі не можа быць. У кнізе прыводзіцца нават некалькі рэцэптаў. Такіх, як напрыклад, «Чароўная сумесь для салодкіх сняжынак», «Сталоўка для птушак», «Як зрабіць штучныя зорныя каменьчыкі». Нават апошняе не так і складана, калі, зразумела, «не гаварыць, а рабіць». Вось ён, гэты рэцэпт цуда ад А. Масла:

«Калі вам у садок не трапіла ніводная зорачка, якая цацілася з неба, і ў вас няма незвычайных каменьчыкаў, зрабіце іх самі!

Для гэтага развядзіце ў вадзе фарбы — акварэльныя альбо гуашавыя. Каляровую вадзіцу разліце па формачках для лёду або ў формачкі з-пад цукерак у каробках. Зрабіце пяцелькі з нітак — як для ёлачных упрыгожванняў — і адным канцом апусціце ў кожную ячэйку з каляровай вадой. Формачкі выстаўце на мароз на двор, або змясціце ў лядоўню. Праз некалькі гадзін у вас будзе шмат рознакаляровых ледзяшоў. Развесьце іх у двары на дрэвах ці кустах. А тыя, што без нітачак, рассыпце проста на снег. Гэта вельмі прыгожа! Нібы зорачкі падалі — і ў галінках дрэва заблыталіся, прасыпаліся долу...»

Здорава, ці не праўда!

## КІМ АПЯКУЮЦЦА АНЁЛЫ

2005 годам пазначана і кніга А. Масла «Таямніцы закінутай хаты». У адрозненне ад першай, яна напісалася не адразу. Па словах Алены Сцяпанаўны, «многія казкі з гэтай кнігі нарадзіліся даўно, але іх, як дзяцей, трэба было вырасціць, выпеставаць. А некаторыя творы — зусім новыя. У той час як у юнацтве казачныя гісторыі быццам самі з'яўляліся і заставалася толькі запісваць, то цяпер збіраю іх быццам па крупінках». Затое, калі чытаеш казкі, то адразу заўважаеш, што крупінкі гэтыя — сапраўдныя залацінкі. Што ні гісторыя, якую расказвае маленькім А. Масла, абавязкова нешта такое, што не можа не выклікаць у іх здзіўлення, захап-



*Пісьменніца — частая госця ў бібліятэках і школах.*
*На сустрэчы з чытачамі дзіцячай бібліятэкі № 3 г. Мінска (2008 г.).*

лення, бо ўсё гэта тое, што можна напаткаць толькі ў казцы.

Дзе яшчэ, напрыклад, сустрэнеш казачніка — шчырага, даверлівага, як дзіця? Казкі самі яму ў мех сыпаліся. Праўда, аднойчы ў яго ўкралі казку... Аднак, вядома ж, не толькі пра гэта можна даведацца з кнігі, а і пра тое, хто навучыў грамаце галінкі вішанькі, што здарылася з воблачкам, якое, заганарыўшыся, уцякло ад Маці Хмары, чым скончылася спрэчка Будзільніка са стрэлкамі. А яшчэ пісьменніца дае магчымасць сваім чытачам паслухаць музыку крыштальнага сада. Кранальна-пяшчотнай атрымалася гісторыя пра Зорачку, што не пашкадавала свайго жыцця для выратавання хворай дзяўчынкі, якая жыла на планеце Зямля. Дзякуючы гэтаму дзяўчынка яшчэ жыла доўга і «махала рукой Зорачцы, якая для яе так і засталася жывой...» Дый традыцыйны лясны разбойнік-воўк у А. Масла зусім непадобны на драпежніка, таму казка так і называецца — «Лагодны воўк». Правілам для яго стала: «Людзей баяцца — у госці не хадзіць». Ён нават частуе дзеда мёдам.

Творы з гэтай кнігі ўражваюць багаццем прыказак, прымавак, фразеалагізмаў. Амаль ва ўсіх казках, а іх 15, гучыць заклапочанасць аб ахове прыроды, зберажэнні ўсяго жывога на зямлі. Гэтая тэма найперш прысутнічае ў творы «Дрэва, якое расказвае казкі»: «Збалелася ў яго душа, гледзячы, як нядбайна гаспадарыць на зямлі людзі, як перарабляюць яе згодна са сваімі жаданнямі. То рэкі выпрамляюць, то балоты асушаюць. А пройдзе час — агледзяцца, што нешта не тое зрабілі, пачынаюць рэкі ў старыя рэчышчы вяртаць, балоты аднаўляць... Але пакуль тое, гаруе ўсё жывое на зямлі. Многія расліны, птушкі ды жывёлы знікаюць — тады людзі запісваюць іх у спецыяльныя кнігі».

Адзін з маленькіх герояў гэтай казкі разважае пра Зямлю не па-дзіцячы сур'ёзна: «Яна самая галоўная мама ўсім людзям». Дрэўца, якое адчувае сябе хороша з-за такога ўважлівага стаўлення да сябе, пагаджаецца з ім: «А як зямля — усім нам маці, то людзі павінны любіць яе і паважаць, як кожны паважае і любіць сваю матулю, — і працягвае: — Як вы думаеце, што можа стаць з

чалавекам, які зневажае зямлю, брыдкасловіць на ёй, плюе ёй ў твар, кідае ёй у вочы смецце, агаркі ад цыгарэт?».

Адказ, як кажуць, на паверхні. Такі чалавек не можа называцца чалавекам. Каб жа гэткія — няхай гэта гучыць рэзка — нелюдзі не з'яўляліся, неабходна змалку выхоўваць чалавека ў чалавеку. Гэтая думка ў творы «Дрэва, якое расказвае казкі» мае дыдактычную скіраванасць, але такі накірунак вельмі да месца, бо ў ім вытокі той педагогікі, што называецца народнай, а яна будуецца на агульначалавечых прынцыпах, напоўнена глыбокай маральнасцю.

Казка «Пакінутае дзіця» стаіць у кнізе быццам крыху абасоблена. Ва ўсялякім разе яна мае іншую танальнасць, але выхаваўчае ўздзеянне яе нават большае. А. Масла разважае пра тое, як гэта важна, каб у сям'і існавалі згода і ўзаемаразуменне, а дзеці з боку дарослых адчувалі да сябе клопатнае стаўленне. Істотна і іншае: пісьменніца пасвойму падыходзіць і да адказу на пытанне, адкуль жа бяруцца хлопчыкі і дзяўчынкі, знаходзячы арыгінальнае вытлумачэнне: «Як ілгуць маленькім дзецям, калі кажуць, што іх скінулі ў двор, кружачы над хатай, буслы. Або што іх знайшлі ў капусце. Дзіця — не пустазелле, каб расці сярод качаноў на градах. І не жабка, каб яго ў дзюбе насіў бусел. Ведай, мой дарагі, што дзяцей на зямлю адпраўляе сам Бог. У чароўнай прыгожай краіне жывуць яны, пакуль не пакліча іх на зямлю каханне мамы і таты».

Гэтая незвычайная краіна знаходзіцца высока-высока ў небе, а называецца яна Даліна Шчасця. Там і жывуць маленькія дзеці. Перад тым, як яны трапяць на зямлю, імі апякуюцца анёлы, вучачы розным рамёствам і дабру. У кожнага дзіцяці на Зямлі будзе сваё прызначэнне. Кожны выбера сваю прафесію, кожны знойдзе свой занятак. У прызначаны час хлопчыкаў і дзяўчынак анёлы перадаюць мамам і татам. Чакала свайго часу і вельмі прыгожая дзяўчынка. Сэрца яна мела такое добрае і пяшчотнае, таму магла прынесці ў сям'ю толькі шчасце і радасць. На жаль, гэтага не атрымалася, таму што бацька пакінуў сям'ю. Маці ж палічыла ва ўсім віноўнай дзяўчынку і аддала яе ў прытулак. Праўда, праз некаторы час яе ўдачарылі, але і ў той сям'і яна не мела шчасця.

Падобнае не павінна адбывацца, таму і звяртаецца А. Масла непасрэдна да свайго чытача. Не толькі як пісьменніца, але і як маці. Дый як педагог, у якога свая педагогіка — тая, у аснове якой высокая маральнасць, без якой немагчыма сапраўдная літаратура. Дзіцячая — не ў апошнюю чаргу:

«Ты ж некалі вырасцеш, станеш дарослым, і ў тваё жыццё, і жыццё чалавека, абранага табой, пастукаецца адпраўленае небам на свет Божы дзіця. Любі яго і помні, што шанаваць даверанае табе Богам жыццё — найпершы абавязак. Колькі людзей на Зямлі ўспомняць пра гэта — столькі анёлаў на небе ўсміхнуцца.

Помні пра гэта. І няхай, калі ты вырасцеш, ніколі з-за цябе не льюць слёзы дзеці».

## БЕЗНАДЗЕЙНЫ ЛЕТУЦЕННІК У КРАІНЕ МАРАЎ

Такой педагогікай прасякнуты і іншыя творы А. Масла. Казачная аповесць «Вандроўкі з божымі кароўкамі» (2007) — з шэрагу іх. Сярод гэтых персанажаў хлапчук Данік, «восенню ён павінен стаць першакласнікам». Даніка часта называлі «безнадзейным летуценнікам. Галава яго была пад завязку набітая рознымі марамі. Таму пра хлопчыка яшчэ казалі, як кажуць пра ўсіх фантазёраў: будуе паветраныя замкі. Гэта было праўдай, і з гэтай нагоды Данік ніколі не чуў, пра што з ім гавораць дарослыя, што пытаюць. Калі хадзіў, глядзеў не пад ногі, а ў неба — таму часта падаў. Біў калені і рваў штонікі. Дарослыя толькі ўздыхалі і бясконца паўтаралі: «Спускайся з нябёсаў на зямлю!».

Аднак «Данік не проста марыў, а заўсёды стараўся зрабіць нешта, каб мары ажыццявіць». Калі ж чагосьці моцна-моцна захацець, то яно, вядома ж, абавязкова здзейсніцца. Канечне, пры ўмове, што для ажыццяўлення твайго, нават самага неверагоднага жадання, створаны адпаведныя ўмовы. Такія ўмовы для Даніка з'явіліся. Аднак ён не з нябёсаў спусціўся на зямлю, чаго ад яго пастаянна патрабавалі дарослыя, а ўзняўся на нябёсы, патрапіўшы ў Краіну Паветраных Замкаў. Па сутнасці, рана-позна, але такое абавязкова павінна было б адбыцца, бо малы Данік быў вялікім фантазёрам, а Краіна Паветраных Замкаў — «гэта ж Краіна, дзе жывуць самыя прыгожыя чалавечыя мары. Пра што б на зямлі людзі не марылі, якія б паветраныя

замкі не будавалі — усе яны траплялі ў гэту чароўную Краіну».

Трапіў жа Данік у Краіну Паветраных Замкаў, дзякуючы божым кароўкам. Адну з іх звалі Ірыска, другую — Хлебны Мякіш. Такія нечаканыя імёны з'явіліся невыпадкова. Хатка Ірыскі была з цукру, а Хлебны Мякіш меў «хатку з бісквітнага цеста, размаляваную living рознакаляровымі глазурамі і пакрытую марцыпанамі». Гэтыя божыя кароўкі любілі лётаць на неба. Дый як і не лётаць было, калі пра гэта неаднойчы іх прасілі самі дзеці, спяваючы:

Божая кароўка,
Паляці на неба,
Твае дзетачкі
Ядуць цукерачкі.
Сама паясі —
І нам прынясі.

Ці звярталіся да божых каровак з іншымі просьбамі. Дарэчы, гэтыя творы дзіцячага фальклору прыводзяцца не толькі ў тэксце казкі, але і змешчаны ў пачатку і ў канцы яе, адпаведна на другой і трэцяй старонках. Аўтарская задумка, нельга не адзначыць, удалая. Чытаючы твор, дзеці адначасова пашыраюць сваё ўяўленне і пра двух галоўных ягоных персанажаў. Гэта тым больш важна, беручы пад увагу тое, што далёка не ўсе цяперашнія хлопчыкі і дзяўчынкі знаёмы з фальклорам. Адначасова дзве божыя кароўкі становяцца і рэальнымі персанажамі, паводзячы сябе так, як паводзяць тыя дзеці, якія ахвотна выконваюць чыю-небудзь просьбу ці прыходзяць на дапамогу.

Сюжэт казкі такі, што ў ім дзейнічаюць як ўжо знаёмыя персанажы, так і народжаныя багатай творчай фантазіяй пісьменніцы. Пры гэтым А. Масла зноў жа ідзе ад фальклорных традыцый. Носьбітамі ліха, крывадушша, усяго благога ў казцы паўстаюць Куродым і яго памагаты Дзюрабой. Два боты, як кажуць, пара. Касмічны пірат Дзюрабой «мянушку сваю… атрымаў за тое, што заўсёды цягаў у руках даўжэзны пруток. І ва ўсё, што траплялася яму на вочы, гэтым прутком торкаў — так адбывалася яго знаёмства з навакольным светам». Прынцэса ж Чысцюля прасейвала думкі і мары, якія даходзілі ў яе краіну. Добрыя мары яна пакідала, а «злосныя, сквапныя, чорныя, а таксама дым ад заводаў і фабрык, ад цыгарэт і машын» пакавала ў вялікія торбы, якія завязвала. Усё гэта яе памочнікі выкідвалі ў чорныя касмічныя дзюркі. Натрапіўшы на гэтае «багацце», Дзюрабой пачаў сваім прутком пароць яго. Утварылася агромністая чорная хмара, з якой «палезлі тысячы даўжэзных шчупальцаў». Гэта і быў усёмагутны ліхі чараўнік Куродым.

З гэтымі нягоднікамі выпадае змагацца прынцэсе Чысцюлі, якую яны выкралі, каралеве Мары Сапраўднай, а таксама ўжо згаданым божым кароўкам і Даніку. Сярод персанажаў казкі і кароль Летуценнік Непапраўны XX, які, не сказаць, каб быў надта рашучы, але ў неабходных выпадках таксама мог пастаяць за сваіх суайчыннікаў і за сваю краіну. Сюжэт разгортваецца ў традыцыйным фальклорным рэчышчы: Ліху супрацьстаіць Дабро. Калі ж згуртоўваюцца сілы першага, то і другое не застаецца ўбаку, рабіць адэкватныя захады.

Уплыў фальклору відавочны і ў тым выпадку, калі А. Масла расказвае пра тое, як Данік узняўся на нябёсы, каб трапіць у Краіну Паветраных Замкаў. У народнай казцы, як вядома, дастаткова толькі чагосьці вельмі пажадаць, як усё здзяйсняецца. Дый кароўкі накармілі Даніка нябесным хлебам, які прынес на зямлю Хлебны Мякіш, а хлеб гэты валодае цудадзейнымі якасцямі. Але фальклорная традыцыя ў «Вандроўках з божымі кароўкамі» падмацоўваецца рэаліямі, што выходзяць з жыцця самога хлапчука. Ён «не проста марыў, а заўсёды стараўся зрабіць нешта, каб мары свае ажыццявіць». Цяпер жа акурат і надарыўся такі выпадак. Данік, калі ж пачуў, што прынцэса Чысцюля прапала і трэба яе ратаваць, рашуча прамовіў:

— Я знайду прынцэсу!

Як толькі Данік гэта сказаў, ён адразу паменшыўся, а божыя кароўкі пабольшалі. Хлеб з неба аказаўся цудадзейным: рашучасці хлопчыка і яго жадання дапамагчы прынцэсе аказалася дастаткова, каб падарожжа адбылося!

Ірыска пасадзіла Даніка сабе на плечы — няхай Хлебны Мякіш пакуль адпачне — і божыя кароўкі разам з хлопчыкам паляцелі за аблокі».

Нельга не адзначыць і такі момант. Як і ў народных казках, у «Вандроўках з божымі кароўкамі» пераможцы не прагнуць насілля. Прынамсі, Куродыма памылі, а «бруд, які сцякаў з Куродыма, прынцэса Чысцюля прапускала праз чароўнае рэшата. Прайшоўшы

праз яго, злосны Куродым ператварыўся ў чысцюткія ручаінкі і белыя пухнатыя хмаркі. Яны весела пабеглі па небе. І хутка голасу Куродыма зусім не стала чутно, бо ён проста знік». З Дзюрабоем зрабілі інакш, прапанаваўшы яму занятак, ад якога карысць: на ягонай лятаючай талерцы вывозіць адыходы на касмічныя сметнікі. Так Дзюрабой стаў …панам Дзьмухайлам.

Казка «Вандроўкі з божымі кароўкамі», як і іншыя творы А. Масла, адметная тым, што ў ёй паўстае само жыццё, далучаючыся да якога дзеці, бяруць для сябе сапраўдныя ўрокі дабра і справядлівасці, сумленнасці і прынцыповасці, упэўніваючыся, кажучы словамі паэта, «что такое хорошо, а что такое плохо».

## «ПЕРШАЯ ПРЫГАЖУНЯ» І ІНШЫЯ

Назва адной з А. Масла «Першая Прыгажуня»(2010) ужо сама па сабе заінтрыгоўвае.

Гэта кніга казак, якая яскрава сведчыць, што калі за пяро бярэцца таленавіты пісьменнік, то ён у самым, здавалася б, архаічным жанры можа сказаць сваё слова, узняць праблемы, якія ва ўсе часы не страчваюць свайго значэння, актуальнасці. Зразумела, калі пры гэтым увесці ў сюжэтную канву і пэўныя элементы сучаснасці, што акурат удала і зроблена ў казцы «Першая Прыгажуня».

Як гэта і бывае ў казках, падзеі, пра якія расказвае А. Масла, адбываліся вельмі даўно. Але паколькі яна напісала казку сучасную, то, калі ласка.... — «...прапрапрапрадзед таго караля, які і сёння правіць краінай, выдаў загад штогод праводзіць турнір прыгажосці. Турнір гэты нагадваў рыцарскі, толькі змагаліся на ім дзяўчаты, і не пры дапамозе зброі, а выключна хараством». Няцяжка заўважыць падабенства з сучаснымі конкурсамі, на якіх выбіраюцца розныя міс. У казцы «Першая Прыгажуня», аб чым сведчыць і назва твора, таксама вызначаюць самую вабную дзяўчыну. Ды не для таго, каб яе тытулаваць.

Турнір, пра які ідзе гаворка, у каралеўстве «самы значны за апошнія гады», бо «кароль з каралевай дачакаліся паўналецця сына», якога прыйшоў час ажаніць. Канечне, замежных прынцэс ставала, ды бацькі не бралі іх у разлік, таму што нявесты гэтыя «фанабэрыстыя, спешчаныя мамкамі-нянькамі дзеўкі». Калі ж узяць жонку з працейшых, то «такой камандаваць лягчэй і працей дагадзіць».

Гэткую простую, але разам з тым і вельмі прыгожую дзяўчыну і павінен вызначыць турнір. Каб адшукаць такую прэтэндэнтку, каралеўскія ганцы адправіліся ва ўсе куткі краіны. Нарэшце, «ля пахілай леснічоўкі, што стаяла ў глухой пушчы» яны і напаткалі прыгажуню Зараніцу, якая жыла са сваёй маці. Здавалася б, калі ёсць прыгажосць, ды яшчэ каралеўская воля, то і стаць Зараніцы жонкай каралевіча. Дакладней, нават каралевай, таму што бацька згодзен пасля жаніцьбы сына перадаць яму ўладу ў каралеўстве.

Толькі не так усё проста. Ёсць ахвочыя нават ісці супраць каралеўскай волі, абы не трапіла на трон прэтэндэнтка з простай сям'і.

На турніры вакол выбару пераможцы страсці настолькі накапляюцца, што пачынаюць выходзіць за межы казкі. Паўстае самае што ні ёсць паўсядзённае жыццё, калі нярэдка плятуцца інтрыгі, сутыкаюцца думкі розных групіроўвак, нараджаюцца чорныя задумы. Міжволі ловіш сябе на думцы, што па гэтым творы можна напісаць неблагі сцэнарый для будучага фільма-казкі. У наяўнасці займальны сюжэт. Відавочны дынамізм дзеяння. Героі ж такія, што пашукаць трэба.

Адзін «пан Павучыдла з роду Павуковічаў», які ўзначальвае турнір прыгажосці, чаго варты. Поруч персанажы не менш каларытныя. Яны хоць і казачныя, ды надзелены такімі рысамі, што і ў людзей ёсць. Безумоўна, у залежнасці ад таго, носьбітамі якіх якасцей яны з'яўляюцца — адмоўных ці дадатных. Пана Павучыдлу, несумненна, да тых, хто ўвасабляе сабой сумленнасць, не аднясеш. Як і зласліўку Шчэпку, якая дапамагае яму праводзіць гэтае «справядлівае» спаборніцтва для вызначэння самай прыгожай дзяўчыны. Не далёка ад іх адышлі пані Пудра, пан Пэндзаль і пан Чорны Аловак, гатовыя на ўсё што заўгодна пайсці, каб толькі Зараніца не стала пераможцай.

Дасканала валодаючы законамі жанру, А. Масла далёкая ад думкі, каб у якасці тых, хто супрацьстаіць таму ж пану Павучыдлу ці Шчэпцы, браць персанажаў, якія б адразу

паўставалі іхнімі антыподамі. Наадварот, усё не так і проста. Зноў жа, як у самім жыцці. Скажам, Гром, якога, баючыся ягонага гневу, арганізатары турніра вырашылі зрабіць сваім аднадумцам. Як быццам, ён мусіць быць на іхнім баку. Атрымліваецца ж іначай...

Казка ў пэўнай ступені завяршаецца па сутнасці шматкроп'ем. Кропка над «і» так і не пастаўлена. Хоць, калі дождж змыў фарбу з твару пляменніцы Шчэпкі, усе адразу ўбачылі, што ніякая яна і не першая Прыгажуня, але і Заранiца ёю не стала. Гром, абураны той несправядлівасцю, што адбывалася ў час турніру, забраў Заранiцу з сабой. Праўда, дадаецца, што «ў Заранiцы ўсё было, як Гром напрарочыў. І маці на ногі падняла, і прынца свайго дачакалася».

Казкі А. Масла адметныя і тым, што яны (магчыма, каму-небудзь у дачыненні да гэтага жанру падобнае сцвярджэнне і падасца дзіўным) жыццёвыя. Хоць дзеянне ў іх шмат у чым і далёкае ад рэальнасці, тым не менш часцей за ўсё, як і ў той жа «Першай Прыгажуні», відавочна набліжанасць да самой паўсядзённасці. Цалкам апраўдана тое, што вызначана ў якасці падзагалоўка да кнігі — «Мудрыя казкі — малым і вялікім падказкі». Каторую з іх ні возьмеш, падобнае сцвярджэнне мае пад сабой аснову. Як, напрыклад, у «Гісторыі адной Канапы».

Усё пад гэтым небам старэе. Чалавек дажывае адведзены яму Усявышнім век, а рэчы... Лёс рэчаў залежыць ад волі тых, каму яны не адзін год служылі верай і праўдай:

«— Ламаччына! — вынес аднойчы Канапе прысуд Гаспадар. Пасля яе пагрузілі ў машыну і адвезлі на лецішча, куды зазвычай адпраўляюць старыя рэчы».

Як і кожны на яе месцы, Канапа нудзілася. Аднак, калі яна супакоілася крыху, павяла сябе так, як здатны на гэтае толькі той, у каго моцная сіла волі і хто ніколі не пасуе перад абставінамі. Таму Канапа хутка знайшла сяброў сярод старых рэчаў, якія, як і яна, пыліліся на гарышчы — Шафы з ляшчыны, Калаўрота, на якім калісь ніткі пралі, старой швейнай машыны Зінгер, Патэфона... Новыя сябры танцавалі, спявалі і... расказвалі казкі!

Добрая казка, нічога не скажаш. Для дзяцей, зразумела, перш-наперш. Але і для дарослых таксама. Бо ў творы гучыць думка аб тым, што ў жыцці многае залежыць ад таго, як да ўсяго паставішся. Ніколі, нідзе не трэба пасаваць — вось асноўная выснова, пачэрпнутая з гэтай казкі. Старая ж Канапа сёння... Дзе б вы думалі? Разам з іншымі старымі рэчамі, а сваімі новымі сябрамі, яна трапіла ў музей. Ды яшчэ ўзята... на пасаду галоўнага экскурсавода: «Са спружынамі дамовілася, што на людзях рыпець не будуць, пацёртую абіўку прыкрыла саламяным капялюшыкам у кветкі, чаравічкі на абцасіках абула — выглядае лепш не толькі за сваіх аднагодак, але і за навейшыя канапкі. Адбою няма ад ахвотных прайсціся з ёю па экспазіцыі — такая Канапа прывабная і столькі цікавага ведае».

Абыякава ставіцца да таго, пра што расказвае А. Масла, сапраўды, нават дарослы не здолее. Што ж, у такім разе, пра дзяцей казаць. Яны, несумненна, з цікавасцю пазнаёмяцца з «Кітайскімі ліхтарыкамі», іх прывабіць «Самы лепшы грыб», не пакіне іх абыякавым «Сок з альясу». Захочацца зазірнуць у «Балотную "кансерваторыю"», даведацца пра «Крыўды старога Вадзяніка», убачыць «Саву на царстве». Усё гэта назвы асобных казак. Іх жа ў зборнік трапіла яшчэ некалькі. У тым ліку і «Казка пра нябачныя крылы і нячутную песню». Гэтыя творы таксама, па-свойму прывабныя. Без сюсюкання з дзецьмі і без голага маралізатарства, але такія, у якіх пісьменніца размаўляе з юным чытачом на роўных.

Кнігай «Першая Прыгажуня» А. Масла засведчыла, што яна сапраўды першая. Бадай, немагчыма знайсці сёння ў беларускай літаратуры прадстаўніц малодшага пакалення, якія б гэтак упэўнена абжывалі стары, але разам з тым вечна малады жанр казкі. Істотна і тое, што яна працуе ў жанры казкі надзіва ўпэўнена. Іначай і быць не можа, бо менавіта казка дазваляе ёй лепш раскрыць свой талент. А. Масла не «перабягае» з жанру ў жанр, як гэта робяць некаторыя аўтары, якія таксама пішуць казкі, а спакваля абжывае сваю творчую дзялянку, шчодра засяваючы яе, дбайна аздабляючы, а таму і збіраючы так і выніковы ўраджай.

## ВАНДРОЎКА ПАНІ ЧАРОТНАЙ

Сярод сучасных беларускіх дзіцячых пісьменнікаў, якія пішуць для дзяцей (маю на ўвазе празаікаў) А. Масла вызначаецца яшчэ і тым, што ў творчасці сваёй, бадай,

як ніхто іншы, цесна прывязана да фалькларных традыцый. Праўда, асобныя героі яе твораў хоць добра і знаёмыя маленькім чытачам, але яны дзейнічаюць у новых, сучасных абставінах, а гэта азначае, што гэтыя персанажы па сутнасці ўзяты з таго жыцця, якое блізкае і зразумелае хлопчыкам і дзяўчынкам. Дый паводзіны герояў казак А. Масла часам не надта адрозніваюцца ад таго, як павялі б сябе ў пэўнай сітуацыі самі дзеці, спазнаючы навакольны свет, адкрываючы для сябе ягоную таямнічасць і загадкавасць і, канечне ж, не ў апошнюю чаргу жадаючы як мага болей даведацца пра ягоных насельнікаў, прадстаўнікоў фаўны і флоры. Можна не сумнявацца, што гэтую прагу па нязведаным спатоліць і новая кніга пісьменніцы «Як пані Чаротная на госці ў Палангу бегала» (2010), якая пабачыла свет у серыі «Казкі XXI стагоддзя», што выпускае выдавецтва «Мастацкая літаратура». Дарэчы, гэтую бібліятэчку сучаснай беларускай казкі распрацавала сама Алена Сцяпанаўна, калі працавала ў «Мастацкай літаратуры».

«Казачныя гісторыі з жыцця дапытлівай рапухі-вандроўніцы, расказаныя ёй самой» — такі падзагаловак мае кніга. Па жанры яна — казачная аповесць. Ці казка-аповесць, што таксама блізка да ісціны. Правільным будзе сказаць, што гэта і аповесць-казка. Па змесце ж тое, пра што даведваешся, з новай кнігі А. Масла — невядомае ў вядомым, адкрытае ў тым, што, здавалася б, адкрыцця ўжо не патрабуе, нечаканае ў звыклым. Займальнасць жа да таго ярка выражана, што ад тэксту проста не адарвацца, настолькі сюжэт прыцягальны і, што таксама немалаважна, надзіва дынамічны.

Немалаважна і тое, што аповед вядзецца пераважна ад імя галоўнай гераіні — сама пані Чаротная расказвае пра сваю вандроўку ў Палангу. Аднак А. Масла выступае ў творы не староннім назіральнікам, ці ў ролі таго, хто толькі перадае гэты аповед. Аўтар і сама прысутнічае ў казцы, калі робіць пэўныя ўдакладненні да таго, пра што расказвае пані Чаротная. Тым самым дзеці яшчэ больш упэўняцца ў праўдзівасці таго, што адбывалася.

Гэтая ж упэўненасць з’яўляецца ў іх ужо пры знаёмстве са свайго роду ўступам да кнігі. Тыя, хто не прамінае серыю «Казкі XXI стагоддзя», ведаюць, што на другой старонцы вокладкі кожнай чарговай кнігі слова даецца яе аўтару, а на трэцяй — мастаку. Кнігу «Як пані Чаротная на госці ў Палангу бегала», дарэчы, няблага праілюстравала маладая мастачка Марыся Лось. Ва ўсялякім разе персанажы атрымаліся па-свойму сімпатычнымі, а таму і запамінальнымі.

Алена Масла ў гэтым кароткім слове-ўступе прызнаецца сваім чытачам, што яна пасля таго, як аднойчы ўратавала адну рапуху, выслабаніўшы яе з «абрыўка сеткі, кінутым некім у траве», нечакана «стала разумець гаворку і рапух, і жабаў». Тым самым у рэальнасці здарылася тое, што магчыма толькі ў казцы: «Раней яны для мяне, як і для ўсіх, проста крумкалі. А тое раптам на розныя галасы загаварылі! Дома сядзець пры адчыненым акне проста немагчыма!». Дый як уседзіш, калі непадалёку ад цябе адбываецца неверагоднае. Рапухі паводзяць сябе быццам людзі, дзеляцца тым, што іх хвалюе, непакоіць: «Крычаць над сажалкай наперабой хто пра рэцэпт баршчу, хто пра фасоны модных спаднічак, хто дзецьмі хваліцца, хто на дзяцей скардзіцца… Гучна крычаць, але гармідар такі, што разабраць цяжка». Таму і не ўстрымалася апавядальніца, накіравалася да сажалкі. «Так і пашчасціла мне, — прызнаецца А. Масла, — пані Чаротную пачуць з яе дарожнымі гісторыямі». Рапуха-бабця, а як яшчэ зваць будзеш, калі ўзрост паважны мае, расказала гэтулькі цікавага, што пісьменніцы захацелася ўсё не проста запомніць, а і занатаваць, каб хлопчыкі і дзяўчынкі маглі пазнаёміцца з гэтымі гісторыямі.

Паколькі ж усё, паўтаруся, адбывалася ў сапраўднасці, ды яшчэ ў часе, блізкім да нашага, а да ўсяго падаецца з вуснаў самой галоўнай гераіні, то і пачатак у твора зусім не такі, як у традыцыйнай казцы. Тым больш, калі мець на ўвазе, што аўтар кнігі толькі перадае тое, сведкам чаго яна нечакана стала. Чаротныя ж рапухі дзетак выхоўваюць, таму і ўшчуваюць іх, і павучаюць, а калі гэтага мала, то і пляскаюць «па іх зялёных азадачках дзягамі, парobленымі з асоту». Аказваецца, пані Чаротная іншай думкі наконт выхавання:

«— Годзе ўжо, абрыдла ваша сварка! — пачулася раптам з-пад карча старэчае рыпенне. — Не біце дубцамі, навучайце слаўцамі! Не біце вяроўкамі, навучайце гаворкамі! Хадзіце, мае слаўненькія, бабця казку вам баіць будзе!»

У творы і ў далейшым можна напаткаць і дасціпны народны выраз, і трапнае, блізкае да фальклорнага, параўнанне. А. Масла быццам ненарокам напамінае, нагадвае: запамінайце ўсё гэта, дзеткі. Не толькі самі гісторыі, з кожнай з якіх можна зрабіць выснову, правільна засвоіўшы якую, лёгка навучыцца таму, як паводзіць сябе ў той ці іншай сітуацыі. Чаму павучыцца, а што адпрэчыць, бо яно благое, а таму нявартае таго, каб браць яго ў сваіх паводзінах у якасці прыкладу. Як бы па-за тэкстава прысутнічае і іншы напамінак: любіце, даражэнькія хлопчыкі і дзяўчынкі, сваю родную мову, якая беларускай называецца. Гэта ж такая мова, у мілагучнасці з якой далёка не кожная можа параўнацца. Не ў кожнай такі багаты слоўны запас, як у беларускай. А што ні мясцовасць, то свая моўная адметнасць. Таму невыпадкова пані Чаротная не ў госці, а на госці бегала — менавіта так кажуць на радзіме А. Масла ў Міёрскім раёне. То чаму і не ўжыць гэткае спалучэнне. Як і некаторыя словы, што пашыраны ў гэтай мясцовасці.

Дзеянне ў творы, паколькі гэта расказ старой жабуцькі, уяўляе не суцэльную плынь успамінаў-згадак, а часам і перарываецца. Пані Чаротная з-за свайго ўзросту калі-нікалі губляе асноўную нітку аповеда. Тады яе слухачы, а гэта ж у першую чаргу маленькія рапухі, напамінаюць бабці, каб вярнулася да таго, пра што пачала было расказваць. Сама пісьменніца таксама не застаецца ўбаку. У неабходных выпадках штосьці ўдакладняе, расказвае, як паводзяць сябе жабкі, слухаючы пані Чаротную. Такі падыход зноў і зноў нагадвае маленькім чытачам: тое, пра што расказваецца, гэта праўда і толькі праўда.

Кожны з раздзелаў заінтрыгоўвае ўжо сваёй назвай: «Як адправіць ліст, калі ўсе паштальёны ў адпачынку», «Падарожніца трапляе ў слоік — і ратуецца з яго». «Расповед пра тое, якая карысць бывае ад ветлівасці», «Ад шэльмаў з нажом дабра не чакаюць», «Мора салёнае і мора пясчанае, або Чаму селядцы з вады хвастамі махалі». Гэта толькі некаторыя з раздзелаў, у аснову якіх пакладзена пэўная прыгода, што адбылася з паняй Чаротнай па дарозе ў Палангу. Кожная чарговая гісторыя як бы вынікае з папярэдняй, дзеянне разгортваецца далей, паступова набываючы ўсё большую дынамічнасць, напружанасць.

Зацікаўленасць тым, як завершыцца гэтае падарожжа, узмацняецца ад таго, што ў самым пачатку твора па сутнасці прысутнічае інтрыга. Цётка Крумка, да якой некалі бегала на госці пані Чаротная (менавіта бегала, бо ў адрозненне ад іншых рапух Беларусі чаротная рапуха не поўзае, не скача, а адносна хутка бегае), сярод сваіх суродзічаў мела немалую вядомасць, бо з'яўлялася «у той час рэдактаркай папулярнага часопіса «Жабурынне». Як высветлілася па прыбыцці пані Чаротнай у Палангу, такое выданне ў мясцовых рапух карыстаецца вялікай папулярнасцю.

Пра гэта няўрымслівая падарожніца даведалася ад Крумчы, збіральніка бурштыну, з якім пазнаёмілася на завяршэнні свайго падарожжа: «...Часопіс «Жабурынне» любім і выпісваем у кожную норку! А ў бурштынавыя хаткі — нават па некалькі асобнікаў, каб падтрымаць харошае выданне!». Дарэчы, прыгажун Крумча пані Чаротнай настолькі спадабаўся, што яна ахвотна згадзілася стаць ягонай жонкай.

Але казка ўсё ж заканчваецца не толькі на ідылічнай ноце. Калі пані Чаротная з мужам вярнулася ў Прыдзвінне, то высветлілася, што ўжо нікога з яе суродзічаў няма ў жывых: «на нашу сажалку буслы наляцелі і ўсіх чыста рапух тут панішчылі». Таму і засталіся маладыя на яе радзіме, каб прадаўжаць свой род, дзетак гадаваць.

У новай кнізе А. Масла, як і ў папярэдніх, моцныя выхаваўчыя моманты. Дзеці, слухаючы пра тыя ці іншыя гісторыі пра падарожжа пані Чаротнай, даведваюцца, як яна паводзіла сябе ў пэўнай сітуацыі. Сітуацыі ж надараліся такія, што і за сябе трэба было пастаяць, а ў некаторых выпадках і кемнасць праявіць, а то і хітрасць. Для прыкладу тады, калі галоўная гераіня залезла ў слоік, які ляжаў на траве. Не ведаючы нават, што гэта такое, яна палічыла, што перад ёю крышталёвы палац: «Забіраючыся ў яго, я нават уявіла сябе каралевай-жабай, а не чаротнай рапухай!» Імгненне — і аказалася ў пастцы, «ён — кулік! — перавярнуўся дагары дном». Хлапчук, які заўважыў гэта, хацеў злавіць яе, таму давялося прытварыцца мёртвай. Затое сама прыйшла на дапамогу Жамчужніцы. Калі над ёю ўзнікла небяспека, перанесла ракавіну ў іншае месца.

Ужо гэтых двух прыкладаў дастаткова, каб дзеці атрымалі для сябе ўрокі паводзін



*г. Стакгольм, Швецыя. У гасцях у сям'і славутай Астрыд Ліндгрэн разам з мінскімі бібліятэкарамі. Справа — унучкі А. Ліндгрэн.*

у пэўнай сітуацыі. Аднак у кнізе не абыдзены ўвагай і прыродазнаўчыя аспекты, а, правільней, прыродаахоўныя. Апошняе тым больш відавочна, што і сама пані Чаротная, а таксама тыя, з кім яна сустракаецца на сваім не такім ужо і блізкім, дый, не сказаць, каб простым і лёгкім шляху, належаць да рэдкіх прадстаўнікоў фаўны (і не толькі беларускай), а таму іх неабходна ўсяляк аберагаць, каб яны канчаткова не зніклі на Зямлі.

У такім разе, зразумела, не абыходзіцца і без некаторай дыдактычнасці, якая ў творах для дзяцей, калі не страчваецца пачуццё меры (творчасць А. Масла — яскравы таму прыклад), да месца. Аднак А. Масла знайшла і іншае выйсце: у канцы яе аповеда ёсць раздзел «Дзейныя асобы», у якім прыводзяцца звесткі паводле Чырвонай кнігі Беларусі і пра саму чаротную рапуху, а таксама пра тых, з кім яна сустракалася па дарозе ў Палангу, а гэта — дазорца-ўладар, адна з самых вялікіх прыгожых стракоз, глейнік невядомы, плывунец шырачэнны, гладыш жоўты, жамчужніца звычайная, рыбец. Кожнаму з гэтых відаў беларускай фаўны, даецца кароткая, але вызначальная характарыстыка.

Прачытаўшы кнігу «Як пані Чаротная на госці ў Палангу бегала», хлопчыкі і дзяўчынкі, несумненна, напоўняцца тым разуменнем, якое прыйшло і да самой пісьменніцы: «Пасля гэтага жабіна крумканне для мяне, як і для ўсіх, зноў стала проста крумканнем. Але назаўжды засталося са мной разуменне таго, што жыццё самай маленькай кузуркі на зямлі — з’ява цудоўная і непаўторная. А чалавек толькі тады мае права называцца найразумнейшым у прыродзе, калі шануе акаляючы свет і разумее, што Зямля — дом для ўсіх, хто на ёй жыве».

## СВЯТА НА ШТОДЗЕНЬ

Алене Масла блізкае выказванне знакамітай шведскай пісьменніцы-казачніцы Астрын Ліндгрэн: «Калі мы хочам змяніць свет да лепшага, мы павінны пачынаць з дзяцей». Як вядома, А. Ліндгрэн адрасавала свае творы толькі дзецям і катэгарычна

заяўляла, што не хоча пісаць для дарослых. Такога катэгарычнага запэўнівання з вуснаў Алены Сцяпанаўны, праўда, не прагучала, але штосьці не відаць, каб яна збіралася нешта напісаць для так званага дарослага чытача. Хоць, калі разважыць, то падзелу для сур'ёзнай літаратуры на дзіцячую і «дарослую» не існуе. У гэтым я мог неаднойчы ўпэўніцца, перачытваючы і кнігі А. Масла.

Нечакана злавіў сябе на думцы, што прычына не толькі ў тым, што ўсё тое, што з'явілася з-пад яе пяра, напісана таленавіта і па-майстэрску. Ёсць і іншае, не менш важнае. Канечне, А. Масла, як і ўсе мы, «родам з маленства», але ў адрозненне ад пераважнай большасці з нас, яна захавала аб дзяцінстве не адны ўспаміны. Яна яшчэ і здатная ставіцца да акаляючага свету так, быццам адкрывае яго для сябе ўпершыню: захоплена, паэтычна, замілавана, пастаянна будучы перакананай у тым, што якога б узросту чалавек ні быў, ён заўсёды мусіць радавацца жыццю і старацца штодзень рабіць самому сабе (дый іншым — таксама) свята.

Ці не таму Алена Сцяпанаўна з такім захапленнем і па-майстэрску не толькі піша свае казкі, а і майструе абрадавыя лялькі — сімвалы пэўных свят, абярэгаў?! Гэта ж таксама мажлівасць вярнуцца ў тую шчаслівую пару жыцця, з якой усе выйшлі, але ў якую ніколькі не грэшна вяртацца. Гэта, несумненна, таксама стымулюе творчасць, узнімае настрой. Настрой у сям'і — таксама, бо стварае ў ёй святочную атмасферу.

Дарэчы, сям'я ў А. Масла — па-сапраўднаму творчая. У гэтым, між іншым, змаглі ўпэўніцца тыя, хто аднойчы наведаўся на іхнюю сямейную вечарыну. Дачка пісьменніцы Крысціна, якая вучыцца ў гімназіі-каледжы № 26, выставіла свае гуашавыя пейзажы і нацюрморты. Сын Кастусь — ён студэнт факультэта філасофіі і сацыяльных навук Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта — пазнаёміў прысутных з уласнымі фотаэцюдамі. Не застаўся ўбаку і муж Сяргей Вячаслававіч, які, хоць па прафесіі і фізік, з задавальненнем піша жывапісныя творы.

Дома ж у А. Масла расце шмат кветак. «Я даўно заўважыла, — расказвае Алена Сцяпанаўна, — што каб яны не проста раслі, а буялі, былі прыгожымі, іх мала паліваць і падкармліваць. З імі гаварыць трэба, хваліць — усяму жывому неабходна ўвага. Што ж пра дзяцей казаць! Я пераканана, што дзецям у першую чаргу патрэбны любоў і шчырая зацікаўленасць імі. На жаль, яны часта становяцца закладнікамі праблем, якія ствараюць дарослыя. Таму ім патрэбен старэйшы сябра, які, паважаючы іх індывідуальнасць, дапаможа разабрацца ў жыцці, нешта падкажа...»

Такі старэйшы сябра для дзяцей — часопіс, галоўным рэдактарам якога яна з'яўляецца. Дэвіз «Бярозкі» — «часопіс для тых, хто хоча разабрацца ў гісторыі, сучаснасці, сабе!» А. Масла ўдакладняе: «Мы прапануем чытачам часопіс, здольны захапіць, навучыць разважаць, арганізаваць свой час і намеціць арыенціры ў жыцці. Мы запрашаем усіх пераканацца ў тым, што "Бярозка" — дрэва інтэлектуальнага росту!»

Яна перакананая, што і ў наш, калі можна так сказаць, час сусветнай камп'ютарызацыі казка як жанр не толькі не састарэла, а і мае вялікія перспектывы. Неяк Алена Сцяпанаўна зазначыла, што казка «гэта ж самы рэальны літаратурны жанр. Як вядома, спачатку было слова. Задумаў чалавек узняцца ў неба, пакарыць прастору — з'явіліся казачныя дыван-самалёт і боты-скараходы, а потым ужо людзі пачалі рэалізоўваць гэтыя ідэі. Так што казка крочыць наперадзе і вызначае вектар далейшага развіцця тэхнічнай думкі чалавецтва...»

З такой упэўненасцю, безумоўна, пісаць і працей, і лягчэй. Зразумела, казкі з'яўляюцца сёння адным з самых важкіх набыткаў сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры. Не ў апошнюю чаргу дзякуючы Алене Масла.

# СПОВЕДЗЬ ТЭАТРУ!

***«Мастацтва не мае сэнсу,<br>калі яно не выводзіць нас з адчаю<br>і не прымушае біцца нашы сэрцы»***

## Прэм'ера Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа

## «КВАРТЭТ» ПА П'ЕСЕ РОНАЛЬДА ХАРВУДА. КРАНАЛЬНАЯ КАМЕДЫЯ НА ЧАТЫРЫ АСОБЫ.

Ніколі не думаў, што я настолькі сентыментальны, і дазволю сабе вось так папросту плакаць і смяяцца, абурацца і захапляцца ў глядзельнай зале. Зрэшты, я не быў у гэтым адзінокі. Вытанчанасць сцэнаграфіі разам з дакладнымі акцёрскімі партытурамі, фенаменальнымі рэжысёрскімі знаходкамі і музычным афармленнем гранічна ўзнялі эмоцыі гледачоў, якія зачаравана назіралі за мітрэнгамі герояў і цалкам растварыліся ў чароўных гуках класічных оперных партый з «Рыгалета» і «Травіяты» Дж. Вердзі, «Чарадзейнай флейты» В. А. Моцарта, «Джані Скікі» Дж. Пучыні, «Сельскага гонару» П. Масканьі.

На імгненне нават здалося, што я знаходжуся ў оперы — настолькі эфектна выглядаў на сцэнічнай праекцыі відэашэраг фасадаў і залаў знакамітых оперных тэатраў свету — Ла Скала ў Мілане, Ковент-Гардэн у Лондане, Вялікі тэатр у Маскве, Гранд-Опера ў Парыжы, Метраполітэн Опера ў Нью-Ёрку. З кадраў старой галівудскай хронікі паўсталі герцаг Мантуанскі ды яго блазан Рыгалета, граф Мантероне, Джыльда і Маддалена. І глядзельная зала Коласаўскага тэатра запоўнілася чароўнымі галасамі Джузепе ды Стэфана, Ціта Гобі, Марыі Калас, Адрыяны Лацарыні. Маладыя, прыгожыя, яны як бы праносяцца па эфіры праз часы, краіны і адлегласці, каб стаць легендай і загарэцца яркімі зоркамі на небасхіле мастацтва. Менавіта ў гэтым легендарным квартэце з «Рыгалета» ў маладосці спявалі героі спектакля, якія праз шмат гадоў сустрэліся ў доме састарэлых. І невыпадкова ў фінале адзін з герояў спектакля Рэджынальд Пэйджэт, звяртаючыся да гледача ад імя былых зорак опернай сцэны, скажа: «Мы жадаем вярнуць вас у мінулае, калі нашы галасы былі моцнымі і… прыгожымі. Мы пастарэлі, але мы не змяніліся, прынамсі, душой. І нашы душы знайшлі сваю сублімацыю ў оперы… Мы хочам нагадаць вам, на што мы былі здатныя і што запісалі многа гадоў назад. Спадзяёмся, што гэта вас усхвалюе… Калі не мы, дык велічная музыка… бо мастацтва не мае сэнсу, калі яно не выводзіць нас з адчаю і не вымушае біцца нашы сэрцы».

І ў гэтым — асноўны сэнс рэжысёрскай задумкі: прадставіць свой погляд на складаны ўнутраны свет людзей мастацтва, на захапляльную і амаль недаступную тлумачэнню ўладу тэатра над чалавекам, якая вядзе да выратавання, ачышчаючы душу. Ужо сам камерны характар п'есы, які нагадвае свецкі анекдот з тэатральнага закулісся, набывае ў Рыда Таліпава філасофскую, спавядальную скіраванасць, што і абумоўлівае інтанацыю спектакля, яго жанр, вызначаны рэжысёрам як «кранальная камедыя».

Таму адносіны акцёраў да сваіх персанажаў досыць добразычлівыя, з тонкім гумарам і іроніяй. Лёгкасць і мяккасць у выказванні пачуццяў балансуюць з мудрагелістым перапляценнем складаных псіхалагічных нюансаў характараў персанажаў.

Пастаноўшчык спектакля Рыд Таліпаў, ён жа і стваральнік музычнай партытуры, не шукае для сябе псіхалагічных матывацый у сюжэце. Дзейства коласаўцаў, народжанае ў духу музыкі, абмінаючы побытавыя пласты, накіраванае да сэрца гледача, прасвятляючы яго, вызваляючы ад мішуры штодзённых клопатаў, зараджаючы энергіяй барацьбы за паўнавартаснае эмацыйнае творчае жыццё і мужнасцю, неабходнай для годнай сустрэчы мудрых гадоў старасці.

У рэпертуары коласаўцаў мусіў з'явіцца такі спектакль: сур'ёзная гутарка з гледачом пра тэатр і яго безумоўным уплыве на розумы і сэрцы людзей, пра напружанае, знясільваючае і няўдзячнае жыццё акцёраў, высакародную місію мастацтва ўвогуле і тэатра ў прыватнасці — тэатра, які апошнім часам ператварыўся ў рассаднік невуцтва і бескультур'я, прыдатак пацяшальных устаноў.

Спектакль «Квартэт» унікальны для тэатральнага жыцця Беларусі як прыклад сучаснага ўдумлівага і ўмелага арганічнага ўзаемадзеяння ўсіх выразных сцэнічных сродкаў. Пры гэтым ствараецца адмысловая выява рэчаіснасці: узрушанай і раскатурханай, поўнай супярэчнасцей, з гульні якіх высноўваюцца канфлікты. У гэтай рабоце коласаўцаў зноў выявілася знаёмая тэндэнцыя адаптацыі драматургічнага матэрыялу да беларускага менталітэту. Выкарыстоўваючы як крыніцу п'есу «Квартэт» брытанца Р. Харвуда, тэатр зрабіў свой арыгінальны пераклад з англійскай на рускую (Ірына Галаўня), а затым і на беларускую мову: літаратурны дар акцёра-коласаўца Пятра Ламана дапамог яму фактычна стварыць новы нацыянальны драматургічны твор, дзе ў кожным гуку, слове, сказе адгадваецца беларуская інтанацыя і лад мыслення. Таму гэткія арганічныя для нашай сцэны рэплікі персанажаў, як, зрэшты, і іх характары.

Дзівіць у спектаклі і выключная музычная чуйнасць рэжысёра, які імкнецца перадаць у музычных гуках тое, што іншым чынам не выкажаш. Музыка для Р. Таліпава робіцца тут «вызначальнай мовай» сцэнічнага твора. Няма ніводнага «прахаднога» музычнага



*Народная артыстка Беларусі Святлана Акружная ў ролі Сісіліі Робсан (Сісі).*

фрагмента: ад оперных арый да папулярнага Квартэта № 1 С. Губайдулінай, фартэпіянных кампазіцый «Узыходжанне з анёламі» Д. Неўю і «Шчырасць» Дж. Брэдфілда — усе яны цесна звязаны з характарамі персанажаў, іх унутраным станам і надаюць дзеянню цэласнасць і закончанасць.

Сцэнаграфія падпарадкавана выразу ідэі спектакля, дзе двухпланавасць дзеяння — аснова рамантычнай канцэпцыі відовішча. Куміры опернай сцэны, што называецца, вякуюць у доме састарэлых. І, як яны самі гавораць, чакаюць свайго далучэння да «хору нябесных анёлаў». У гэтым доме ёсць усё, каб не толькі палегчыць капрызлівым, экзальтаваным старым людзям жыццё, але і падтрымаць іх творчы дух. Сцэнограф Святлана Макаранка стварае ўтульны інтэр'ер сучаснай багадзельні са зручнымі крэсламі ў белых чахлах вакол круглага століка пад таршэрам. Невялікі раяль, таксама ў белым. Вазоны з пальмамі, накрытымі тканінай — ад пылу. Шырмы на роліках функцыянуюць як вялікае трумо і высокія вокны, якія разпораз адчыняюцца персанажамі. Дзесьці ў глыбіні сцэны, на верандзе, шэраг чырвоных крэслаў. На чорнае палатно задніка як бы неахайна накінуты цюль падобны да воблака. Паводле задумы рэжысёра, камфартабельны музычны салон і ёсць тая «залатая клетка» старасці, у якой наканавана дажываць свой век знакамітым артыстам, акружаных клопатамі, але пазбаўленых сувязяў са знешнім светам — дзеля іх жа спакою.



*Споведзь тэатру — праз лёс сцэнічных герояў.*
*Святлана Акружная, Тамара Скварцова і Рыгор Шацько ў ролі Сісі, Джын і Уілфа.*

Кожны па-свойму, героі спектакля выпрабоўваюць татальную адзіноту. Яны намагаюцца ўсяляк вырвацца з гэтай «клеткі» «на волю», трапіць у сваё юнацтва, дзе было так добра і ўтульна. Яны яшчэ памятаюць шквал апладысментаў і неверагодны поспех у публікі, які часам пазбаўляў магчымасці пабудаваць сваё асабістае жыццё або наўпрост руйнаваў яго.

Пранізлівымі і кранальнымі падаюцца сцэны са спектакля, калі персанажы адчыняюць вокны, высоўваюцца з іх, звяртаюцца ў залу са сваім надзённым, быццам бы ў памкненні ўцячы ад старасці, апынуцца на беразе вечнай маладосці. Здзейсніць скачок у Вечнасць. Гучаць акорды першага струннага Квартэта Соф'і Губайдулінай, ветрык маладосці гуляе з цюлевай фіранкай, якая нечакана з'яўляецца з левай кулісы пры кожным адкрыцці акна.

Перад позіркам кожнага з іх, як кінастужка, праплываюць гады ўласнага жыцця. З якой вынаходлівасцю і рашучасцю прагнуць яны падоўжыць сваё існаванне! Таму гэтак імкнуцца падтрымаць адно аднаго, зблізіцца, стварыць сваё кола аднадумцаў, як гэта было калісьці ў квартэце, каб выжыць і перамагчы старасць, пазбегнуць адзіноты і вар'яцтва, якое падпільноўвае творчую асобу. Таму і ўзнікае вар'яцкае жаданне: з нагоды дня нараджэння Джузепе Вердзі выканаць для насельнікаў дома састарэлых квартэт Герцага, Маддалены, Рыгалета і Джыльды, у якім яны калісьці зіхацелі на сусветнай сцэне, — маўляў «ёсць яшчэ порах…». Ці атрымаецца?

У II дзеі свет ілюзій мары мінулага жыцця яркасцю кантрасных колераў. Выбеленыя чахлы знікаюць. На іх месцы — модныя офісныя крэслы, абцягнутыя чырвонай і чорнай скурай. У лакаванай паверхні чорнага раяля адлюстроўваюцца агеньчыкі, якія падсвятляюць кроны дрэў у вазонах. Не апошнюю ролю ў стварэнні рамантычнага падвойнага плана дзеяння адыгрывае актыўная праекцыя відэашэрагу, які ўключае, апроч здымкаў рэальных выканаўцаў зорных партый у класічных операх, і фотаздымкі акцёраў-коласаўцаў у розных ролях, якія яны на працягу свайго творчага жыцця ўвасобілі на віцебскай сцэне. А пацешныя строі з оперы «Рыгалета», у якія

з такім імпэтам убіраюцца персанажы, не толькі выклікаюць у іх буру эмоцый і ўспамінаў, але правакуюць на своеасаблівыя споведзі. Зазначу, спавядаюцца не святару, а Тэатру!

У акцёраў сваё трапяткое стаўленне да гэтых персанажаў — як да калег. Знаёмыя пачуцці, такія ж праблемы. Таму кожны з коласаўцаў іграе не столькі ролю як лёс персанажа, спрабуючы не акцэнтаваць увагу на ўзаемаадносінах, а больш выходзіць на абагульненні, падкрэсліваючы спецыфіку акцёрскага рамяства. У ігры артыстаў таксама выяўляецца двухпланавасць дзеяння. І хоць выканаўцы трохі перабольшваюць узроставыя і характэрныя асаблівасці сваіх персанажаў, выкарыстоўваючы дазаваную іронію і гратэск, акцёры ўзмацняюць чыста рамантычны, меладраматычны пачатак прафесіі. Бо яны — адны са шматлікіх прымусовых працаўнікоў сцэны. Таму і драматычны дыялог яны вядуць з Часам.

У акцёрскай гульні таксама выяўляецца двухпланавасць дзеяння. Кожны з іх, іграючы душой і сэрцам, знаходзіць палітру інтанацый, уласцівую яго персанажу. Да прыкладу, далёка не камічная падаграва-радыкулітная хада Сісіліі (Святланы Акружной) чымсьці нагадвае рухі хворай Эдзіт Піаф, якая стамілася ад жыцця, але якая гэтак жа, як і прымадонна оперы, магла своечасова сабрацца і знайсці свой кураж. І гэта знаходзіць разуменне ў гледача. Як і строй Сісіліі ў першай дзеі, які, на першы погляд, выклікае «расчараванне» ад іміджу опернай дзівы. Але актрыса цалкам слушна дала зразумець, што менавіта такая зручная вопратка (блуза-распашонка, маленькія портачкі і чаравічкі — усё гэта яшчэ больш падкрэслівае далікатнасць, сентыментальнасць, «дзяцiннасць» персанажа) і падыходзіць жанчыне з халерычным характарам і актыўнай жыццёвай пазіцыяй. Акрамя таго, стварае кантраст вобраза.

Шыкоўнае і бездакорнае ва ўсіх адносінах выкананне (народнай артысткай Беларусі) Святланай Акружной ролі прымадонны оперы Сісіліі Робсан. Дзякуючы тонкай пластыцы, трапнай міміцы, ювелірнаму акцёрскаму майстэрству яна перадае сапраўднае хваляванне сваёй гераіні. Ад свайго крыху камічнага, але надзвычай абаяльнага і кранальнага з’яўлення на сцэне — з капой кудзерак на галаве і навушнікамі ад маленькага плэера ў вушах, — яна паступова захоплівае глядацкую ўвагу. Яе непераадольнаму жаданню заўсёды ведаць усё першай, а таксама ідэі фікс — стварыць квартэт безумоўна верыш. Бо дзеянні трошку звар’яцелай, чыстай і наіўнай Сісіліі адлюстроўваюць і стан эліты грамадства — большасці артыстаў, да скону адданых тэатру. Усе персанажы любяць яе і хвалююцца. Бо персанаж Святланы Акружной знітоўвае ўвесь квартэт, а ў ім — іх жыццё.

Актрыса стварае поліфанічны вобраз, шматзначнасць якога ў голасе (ад звонкага дзіцячага і далікатнага: «званочкі звянулі» і Карачы — краіна яе дзяцінства, куды павінен адвезці яе выдуманы карабель, да рашуча-пакрыўджанага ці ласкава-ахінальнага), і ў пластыцы (ад няўрымслівага дзіця-



*Артысты Рыгор Шацько, Віктар Дашкевіч у ролі Уілфрэда Бонда (Уілфа) і Рэджынальда Пэйджэта (Рэджы).*

ці, дапытлівай дураслівкі да актрысы, якая пакутуе ад хвароб), і ў дынаміцы характару (ад наіўнай, чыстай, з уздымамі і спадамі шызафрэнічных прыпадкаў, да філасофска-абстрактнага крыку душы: «Нішто не вечна пад месяцам»). Яна як бы акумулюе сусветны вобраз адданай Мельпамене актрысы з тэмай «маладосці і старасці», ахвярнасці і любові да мастацтва. Неаднаразова яна звяртаецца да гледача праз акно — адзіны выхад на свабоду, у вечнасць, іншы свет, у свет маладосці. Яна па часцінах лепіць сваю Сісілію, збіраючы разам яе самыя чыстыя ўспаміны пра дзяцінства, якое так рана для яе закончылася. Жыццё без бацькоў, без чыёйсці дапамогі, прымусіла гераіню перажыць многае, быць ва ўсіх на пабягушках, але застацца чыстай і наіўнай, пражыць і не атрымаўшы асалоднай радасці ад мужчын. І кахае яна, з яе слоў, як павее мужчынскім потам. Яна без анічыёй падтрымкі ўзнялася ў «неба» і стала знакамітай спявачкай, ажыццявіўшы мару свайго жыцця. І няўжо зараз, на схіле гадоў, яна так проста здасца? Яна трапятліва клапоціцца пра сваіх таварышаў, спрабуючы дапамагчы, дагадзіць кожнаму. Моцная, але простая, уразлівая, заўсёды здзіўленая і сонечная натура…

Да Сісіліі відавочна неабыякавы Уілфрэд Бонд (Рыгор Шацько), знакаміты барытон у мінулым. Гэтая роля — своеасаблівы дэбют дырэктара тэатра ў якасці акцёра пасля значнага перапынку. І трэба прызнаць, досыць паспяховы. Рыгор Шацько больш іншых у трупе коласаўцаў падыходзіць на гэтую ролю не толькі па вялікай камплекцыі, але і складу мыслення, філасофіі жыцця. Акцёр з майстэрствам стварыў аб'ёмны і неадназначны вобраз старога спевака, значна пашырыў і абвастрыў характар персанажа ў параўнанні з выпісаным драматургам. Мудрасць пры відавочнай прастадушнасці дапамагла Уілфрэду захаваць адданасць адной жанчыне. А каб схаваць сваю нязграбнасць, сарамлівасць, сціпласць, няўпэўненасць у сабе, ён па-блазенску рэагуе на жыццё, прылюдна дэманструе бессаромную шчадралюбнасць і «эратычны» спрыт гарэзы, сыпле «прыперчанымі» жарцікамі. Выканаўца надзяляе свой персанаж памяркоўнасцю, нават некаторай марудлівасцю. Славуты калісьці барытон не пакутуе праз тое, што старэе. Яго філасофскі нюх наводзіць на глыбакадумныя сентэнцыі пра мастацтва, напрыклад, «Мастацтва павінна чапаць сэрцы» — лейтматыў усяго спектакля. Але пры ўсім пры гэтым, бязмежнае жыццялюбства і замілавальнасць Уілфа — маска, за якой старанна схаваная хвароба, страх і адзінота. Вобраз Бонда атрымаўся досыць праўдзівым і псіхалагічна дакладным.

Рэджынальд Пэйджэт (Віктар Дашкевіч) — «зграбны, падцягнуты, ахайны, у добрай форме, бездакорна апрануты мужчына». Стрыманы, высакародны, інтэлектуальны, іранічны і не пазбаўлены гумару. У мінулым выбітны тэнар. Да шаленства засмучаецца, калі яго пазбаўляюць мармеладу. Да таго ж, яго адрознівае самаўлюбёнасць і прыпадкі грубіянскага нахабства. Акцёр перадае складаны і супярэчлівы характар персанажа ў дынаміцы: ад самаўлюбёнага ганарлівца, занятага толькі сваімі праблемамі да старога, які можа зразумець і прабачыць. На схіле гадоў стаў захапляцца тэарэтычнымі працамі па музыцы, вылоўліваючы з іх мудрыя выказванні, якія тут жа агучвае: «Мастацтва — гэта тое, што прымушае часцей біцца нашы сэрцы» ці «Абывацель лічыць сапраўдным толькі тое мастацтва, якое папулярнае. Але сапраўднае мастацтва ніколі не бывае папулярным». Дарэчы, вельмі слушная фраза ў наш супярэчлівы час. Але ў душы персанажа неспакойна. Прычына трывогі робіцца відавочнай, калі ў доме састарэлых пасяляецца яго былая жонка Джын — прымадонна оперы, выканаўца ролі Джыльды ў «Рыгалета», чацвёрты член квартэта.

Роля Джын Хортан, увасобленая Тамарай Скварцовай, досыць палемічная. Актрыса мае вялізны досвед стварэння вобразаў народных персанажаў, прадстаўнікоў купецкага асяроддзя ў рускай класіцы. Ёй яшчэ належыць унутрана прачуць усю складанасць і супярэчлівасць характару launch опернай дзівы, якая яшчэ не страціла чароўнасць «ідала Ковент-Гардэна», не пазбавілася зоркавых прыхамацяў. Са споведзі Джын глядач дазнаецца, што яе бацькі канфліктавалі, маці памерла ў вар'ятні. Адны мужыкі доўга не затрымоўваліся, ад іншых — сыходзіла яна. Сама спявачка ўсё жыццё зневажала, абражала навакольных, надта не дбаючы пра сваіх блізкіх. У выніку — трагічная адзінота, змушаны пераезд у гэты дом; ды іскрынка апошняй надзеі на прымірэнне з былым мужам Рэджынальдам. Адносіны

гэтай пары, на першы погляд, заблытаныя. Глядач здзіўляецца, чаму Рэджынальд так нязграбна рэагуе на Джын? Трэба адзначыць, што пастаноўшчык, прытрымліваючыся рамантычнай канцэпцыі спектакля, падкрэслівае духоўны аспект адносін Рэджы і Джын, таму і скарачае рэплікі п’есы, якія выкрываюць праўдзівыя прычыны непрыязнасці гэтых персанажаў — бязладзіца з інтымным жыццём былых маладых. Таму актрыса павінна была пераадолець легкаважнасць і эгацэнтрызм сваёй гераіні, якія спачатку не давалі ёй знайсці кантакт з былымі калегамі па сцэне і мужам. Рэжысёр нават дае актрысе недвухсэнсоўную падказку — пустую залатую клетку для птушак, своеасаблівы знак безвыходнасці для яе, ды і другіх удзельнікаў квартэта. Толькі праз разуменне, прабачэнне, шчырае даверлівае дачыненне і ўзаемападтрымку жыхары гэтага дома змогуць дасягнуць духоўнай блізкасці і перамагчы нягоды старасці. Тамара Скварцова пакуль намінальна ўспрымае лёс сваёй Джын, сэрца якой, на жаль, пакуль зачынена і ад партнёраў па квартэце, ды і ад гледачоў. Актрысе засталося толькі надаць аб’ём «лёсу» гераіні, паказаць, як яна пачала ўсведамляць перамены ў сваім жыцці, а таксама навучыцца валодаць магутным валявым пачаткам свайго характару і сувымяраць свой тэмперамент з душэўным станам свайго персанажа.

Фінальная сцэна ўражвае сваёй шматпланавасцю. Оперныя спевакі ў сваіх грымёрках, адгароджаных на авансцэне проста перад гледачом, пераапранаюцца ў сцэнічныя строі. Рэжысёр нібы прачыняе для публікі закуліссе, здымае покрыва таямнічасці з працэсу пераўвасаблення, развенчвае ілюзію бестурботнага і вясёлага тэатральнага космасу. Акцёры апранаюцца, зацягваюць гарсэты, дбайна грымiруюцца, хаваючы свой узрост, хваробы, адкідваюць кійкі. І вось перад намі квартэт з «Рыгалета», падцягнутыя спевакі глядзяць углыб сцэны, рыхтуючыся да выхаду. Кароткая сварка Рэджы з Бобі Свансанам (Пятро Ламан), які знаходзіцца ў асвятляльнай ложы. Абвяшчэнне выканаўцаў і… гучыць квартэт! Былыя оперныя віртуозы моўчкі з зачараванасцю слухаюць: да гэтага скарбу музычнай культуры калісьці былі спрычыненыя і яны. Старыя атрымалі перамогу, разумова вырваўшыся на свабоду, у краіну іх маладосці і поспеху. Нямоглыя спевакі змаглі сустрэцца з вечнасцю. Творчасць зрабіла іх бессмяротнымі. Шматлікія пакаленні слухалі музыку іх душы і будуць захапляцца талентам гэтых артыстаў. А гледачы? Яны, стаіўшы дыханне, успрымаюць непараўнальныя гукі, і слёзы блішчаць на вачах у многіх…

Рамантычная сутнасць новай работы Рыда Таліпава нават не ў музычнасці, вызначальнай для гэтай пастаноўкі, а ў аб’ёмным выкарыстанні традыцый і законаў менавіта псіхалагічнага тэатра. Камедыя Р. Харвуда «Квартэт» не проста перакладзена на мову музыкі, але асэнсавана з пазіцый прынцыпова іншага віду творчасці — у яго формах і катэгорыях. Спектакль коласаўцаў не ілюструе драматургічны тэкст, а спасцігае яго як меладычнае дзеянне, што нараджаецца з духу геніяльнай партытуры Дж. Вердзі. Сцэнічны твор успрымаеш як узор сапраўднай гармоніі, таго вытанчанага майстэрства, якое само па сабе становіцца прадметам мастацтва і вызначае свой уласны сюжэт: пошук дасканалай формы, здатнай захаваць эфемерную прыгажосць свету, і якая зараз незразумела для большай часткі моладзі. З гэтага пункта гледжання цяперашняя пастаноўка «Квартэта» — не толькі новы этап у сцэнічнай гісторыі Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра ім. Якуба Коласа, але і яркая мастацкая з’ява, якая здольная вярнуць у глядзельныя залы публіку.

***Вячаслаў ГРЫБАЙЛА,***
***тэатральны крытык,***
***адказны сакратар***
***Прэзідыума Савета РГА «БСЛМК»,***
***навуковы супрацоўнік***
***ІМЭФ НАН Беларусі***

# МУЗЫКА ФАРМІРУЕ ЧАЛАВЕКА — ЯГОНЫ ГУСТ, ХАРАКТАР І МАНЕРЫ

***Пра музычную кар'еру марацць шмат дзяцей. Але ці ўяўляюць яны насамрэч, з якімі складанасцямі прыйдзецца сутыкнуцца і колькім ахвяраваць, каб стаць сапраўдным прафесіяналам? Пра гэта і не толькі гутарка з маладой беларускай скрыпачкай Аляксандрай БЕЛЯКАЛАЙ.***

Наша гераіня з музычнай сям'і, дзе, як кажуць, нараджаюцца з музыкай і спяваць пачынаюць хутчэй, чым размаўляць.

**— Аляксандра, скажыце, калі ласка, калі вы вырашылі, што будзеце займацца музыкай?**



*На Міжнародным конкурсе ў ЗША.*

— Такога ўсвядомленага і сур'ёзнага рашэння ў мяне напачатку не было. Ужо ў пяць гадоў разам з бацькамі і старэйшай сястрой я выступала ў мясцовым музычным калектыве ў Ваўкавыску. То бок рашэнне за мяне ўжо было прынятае, калі можна так сказаць, хоць мне ўсе гэтыя выступы самой вельмі падабаліся. Гэта быў вельмі вясёлы і запамінальны час.

**— А не было крыўдна, што бацькі прынялі рашэнне за вас?**

— У пяць гадоў самастойнае рашэнне я прыняць не магла па аб'ектыўных прычынах. Таму мяне ўсё задавальняла. Праўда, калі я падрасла, быў час, што супраціўлялася заняткам і вельмі нават актыўна. Дзіцёнку часам складана сядзець на месцы і развучваць санаты ў той час, як аднакласнікі гуляюць у парку ці адпачываюць ля возера.

**— Вось цікава, а што ў навучанні самае складанае?**

— Мяркую, дзіцёнку цяжка, што называецца, выседзець. Бо заняткі музыкай прадугледжваюць шматгадзінныя рэпетыцыі. І гэта пры тым, што асноўныя заняткі ў агульнаадукацыйнай школе ніхто не адмяняў.

**— А вы самі вырашылі, на якім інструменце будзеце іграць ці бацькі дапамаглі вызначыцца?**

— Як ні дзіўна, але з малога ўзросту я добра разумела, дзе які інструмент. Скрыпка мяне прываблівала. Асабліва тым, што ў маёй сям'і ніхто на ёй не іграў, так што хацелася быць непаўторнай (*усміхаецца*). Але са скрыпкай не ўсё так проста — захацеў і можаш іграць. Тут патрэбны вельмі добры слых. А мне, на шчасце, з гэтым вельмі пашанцавала. Так што я крочу па жыцці са сваёю скрыпкаю і пра выбар інструмента не шкадую. Праўда, за час вучобы і выкладання я засвоіла яшчэ некалькі інструментаў: дасканала — фартэпіяна і гітару.

**— А наколькі важнымі былі для вас вашы настаўнікі музыкі? Ці паўтаралі вы іх досвед у сваёй працы?**

— Заняткі музыкай найчасцей індывідуальныя, таму тут вельмі важнае ўзаемапаразуменне з настаўнікам. Скажу шчыра, што з першай настаўніцай мне не пашанцавала, хоць мае бацькі працавалі ў той жа музычнай школе, выдатна ведалі ўвесь калектыў, але на першых занятках у мяне ўзнікалі

спрэчкі, настаўніца магла дазволіць крыкі… Карацей, нічым добрым гэта і не магло скончыцца. Таму праз некаторы час я перайшла ў клас да іншага педагога. І справы мае, як кажуць, пайшлі ўгару. Пачаліся шматлікія дадатковыя рэпетыцыі, праслухоўванні і конкурсы.

**— Дарэчы, наконт конкурсаў. Я ведаю, што вы неаднаразова станавіліся лаўрэатам і пераможцай. Гэта абавязковая ўмова для музыканта? Ці ўласнае жаданне паказаць сябе свету? Можа быць, даказаць нешта?**

— Конкурсы — гэта вельмі добры досвед, практыка. Вучні музычных школаў і без таго загартаваныя да выпрабаванняў, бо штогод абавязкова здаюць каля пяці ўнутраных іспытаў. Гэта, дарэчы, найлепшы спосаб навучыцца трымацца на аўдыторыі, перастаць баяцца публічных выступленняў і забыць пра хваляванні. А вось на конкурсах сустракаюцца сапраўды самыя моцныя музыканты. Тут самае сапраўднае змаганне і жарсці. Па тэлебачанні калі і паказваюць нешта такое, то ўсё прадстаўлена досыць спакойна і нават камерна. Насамрэч жа атмасфера такая, што напружанне адчуваецца на ўсіх тварах, нервы на мяжы, канкурэнцыя шалёная… Вядома ж, паскудства ніхто не дапускае, як тое расказваюць пра мадэльныя конкурсы: там і абцасы могуць падпіліць, і фрызуру сапсаваць… Але на музычных конкурсах таксама ўсё дастаткова напружана і сур’ёзна. Вельмі часта вырашаецца будучая кар’ера музыканта. Бо выйграны конкурс — гэта магчымасць атрымліваць стыпендыю, паступіць без іспытаў у вучылішча ці ўніверсітэт. Нарэшце, гэта прэстыж, праца над сваім імем у свеце мастацтва.

**— Пра тое, што не спыніцеся на музычнай школе і будзеце працягваць вывучаць музыку на больш прафесійным узроўні вы вырашылі пасля конкурсу? Ці гэта было спантаннае рашэнне?**

— Я сябе без музыкі не памятаю і не ўяўляю. Аднойчы сяброўка спытала ў мяне, кім я марыла стаць, акрамя як музыкант. І я нават не знайшлася, што ёй адказаць, бо хутчэй за ўсё нават не задавала сабе такога пытання. У мяне была мэта — адточваць сваё майстэрства, іграць лепш, выйграваць конкурсы. У мяне былі ўвесь час рэпетыцыі, прагоны праграм, праслухоўванні, паездкі па Беларусі і замежжы з канцэртамі… Не было нават часу думаць пра нешта іншае. Магчыма, можа падацца, што ў мяне не было дзяцінства, што ўвесь час я толькі і рабіла, што іграла на скрыпцы. Гэта не так, бо ўзгадванні пра былыя часы ў мяне адно толькі станоўчыя. Проста ў той час думаць пра іншую справу, марыць пра іншую прафесію, — для мяне было б чымсьці разбуральным. Я не змагла б дасягнуць тых поспехаў, што маю цяпер.

**— І паступаць вы вырашылі ў Мінск. Больш прэстыжна? Ці захацелі быць падалей ад бацькоў?**

— Самы асноўны крытэрый — гэта выкладчык. У кожнага музыканта ён асабісты. Я магла б паступіць у Гродна, але і я, і бацькі адчувалі, што ў Мінску лепшы ўзровень. Дый мне насамрэч хацелася адчуць сябе больш самастойнай, а Гродна занадта блізка ад роднага Ваўкавыска. Таму я паступіла ў вучэльню імя Глінкі. Дарэчы, у сваёй групе я была адзінай іншагародняй студэнткай. Больш таго, многія мае аднакурснікі і не ўяўлялі сабе, што гэта за горад такі Ваўкавыск. Памятаю, што калі паступала, у прыёмнай камісіі мяне спыталі: «З Ваўкавыска? А! Гэта горад, дзе робяць смачныя пельмені?» Я нават пакрыўдзілася спачатку. Але выпрабаванне правінцыйнасцю я прайшла досыць хутка.



*Аляксандра (справа) з калегай на конкурсе ў Маскве.*

І праз некалькі месяцаў ужо ўсе мае калегі ведалі гісторыю майго роднага горада, яго славутыя мясціны.

**— А паступленне ва ўніверсітэт. Якія ўзгадванні захаваліся?**

— Гэта быў надзвычай складаны час, бо я вагалася, куды падаваць дакументы — ва ўніверсітэт культуры ці акадэмію музыкі. Хадзіла шмат чутак, што ў акадэміі будзе надзвычай вялікі конкурс. Таму я вырашыла не рызыкаваць і падала дакументы ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. Пасля, дарэчы, высветлілася, што ў акадэміі конкурсу амаль не было, бо большасць скрыпачоў з ліцэя пры акадэміі музыкі вырашыла паступаць за мяжу.



*Аляксандра (справа) — пераможцы музычнага конкурсу СНД.*

**— Дарэчы, цікава, ці шмат з вашых знаёмых вырашылі з’ехаць на вучобу ці працу за мяжу?**

— Шмат сяброў скончылі музычную школу тут, вучылішча таксама тут, а вось за вышэйшай адукацыяй паехалі за мяжу. Хто ў Польшчу, хто ў Германію. Прычына простая — атрымаць еўрапейскую адукацыю, каб там і застацца, бо заробкі непараўнальна розныя.

**— Пасля вучылішча вы працавалі ў музычнай школе. Ці задавальняў вас заробак?**

— Сваю працу ў музычнай школе я сумяшчала з вучобай на дзённым аддзяленні. Шчыра кажучы, было вельмі няпроста, але я хацела, каб пачаў ісці стаж, з’явілася педагагічная практыка, дый падзарабіць грошай хацелася. На той момант я жыла на прыватнай кватэры, таму адной толькі стыпендыі не хапала. Заробак у настаўніка музыкі вельмі нізкі, асабліва ў маладога спецыяліста. Калегі стараліся браць дадатковыя гадзіны, падпрацоўваць з вучнямі дома. Я апроч музычнай школы працавала яшчэ і на прамоўтарскіх акцыях…

**— У чым вы бачыце праблему гэтай сітуацыі?**

— Па-першае, музыка перастала быць моднай, калі можна так сказаць. Я зараз маю на ўвазе класічную музыку. Разумееце, раней было вельмі прэстыжным, каб чалавек меў музычную грамату. Больш таго, для шаноўных паненак гэта было абавязковай умовай, калі разлічвалі на перспектыўную будучыню. Трэба сказаць, што па свеце ў некаторых краінах такая тэндэнцыя захавалася. Напрыклад, Японія. Для іх умець іграць на фартэпіяна ці любым іншым інструменце — гонар. Па-другое, недастатковае фінансаванне з боку дзяржавы. І выходзіць, што адукацыя ў нашых музыкантаў цудоўная, я сама неаднойчы пра гэта чула ад замежных музыкантаў і педагогаў, але прымяніць свой талент, развіцца немагчыма. Натуральна, што не толькі ў грашах справа. Але якасная праца мусіць аплачвацца належным чынам.

**— Вы з’ехалі на вучобу ў Амерыку па гэтай прычыне?**

— Не зусім. Найперш, я з’ехала, бо хацела павысіць свой прафесійны ўзровень. Дарэчы, у музычную акадэмію Мічыгана я паступіла без асаблівых складанасцей, што яшчэ раз сведчыць пра высокую якасць беларускай адукацыі. Я таксама хацела пабачыць свет. Перад паездкай у мяне было шмат стэрэатыпаў пра ЗША, а цяпер, праз паўгода, я магу спакойна асэнсоўваць усё. Напрыклад, я цяпер дакладна ведаю, што амерыканцы не горш і не лепш за нас, яны проста іншыя. Але ўражанне такое, што патрапіла на 50 гадоў наперад…

**— Ці плануеце вярнуцца ў Беларусь?**

— Так, натуральна. Я спадзяюся, што мае новыя веды спатрэбяцца на Радзіме. Тут я вывучаю новыя методыкі выкладання. У мяне шмат цікавых курсаў па музычнай тэрапіі, напрыклад.

**— У пяць гадоў вы марылі іграць на скрыпцы, як ніхто ў сям'і. А пра што вы марыце цяпер?**



*Выступленне з татам.*

— О, у мяне шмат ідэй і мараў. Я хачу адкрыць сваю музычную студыю. Спадзяюся, што працягну вучыць дзетак музыцы. Яшчэ вельмі хочацца, каб людзі змянілі сваё стаўленне да музыкі, каб адчулі яе. Ведаеце, было б цудоўна, каб у канцэртную залю філармоніі збіралася хоць бы палова тых, хто сёння прыходзіць у клубы паслухаць папсу ці шансон. Разумець музыку, разбірацца ў ёй — гэта вельмі важная якасць для сапраўды адукаванага чалавека. Музыка, безумоўна, фарміруе густ чалавека, яго манеры і нават характар. Так што я веру ў тое, што ў Беларусі адродзіцца сапраўдная любоў да класічнай музыкі. І прыводзіць дзіцёнка ў музычную школу будзе гэтаксама прэстыжна, як і ў Японіі.

***Дар'я ГУШТЫН***

Фота з архіва гераіні

*Шлях да поспеху*

# ДАСЯГАЦЬ УСЁ НОВЫХ І НОВЫХ ВЯРШЫНЯЎ

*Як вядома, сёлетні год у Беларусі аб'яўлены Годам прадпрыемлівасці, ініцыятывы, той самай нашай няўрымслівасці, якая і штурхае наперад жыццё. Гэта шлях да адкрыццяў, шлях да поспеху... І, зразумела, у кожнага чалавека свой поспех, свая вышыня, якою іншыя могуць захапляцца, маўляў, гэта ж трэба колькі ўсяго чалавек мог зрабіць! І трэба сказаць, што паспяховых людзей у нашым сённяшнім жыцці нямала, калі чалавек знаходзіць сябе ў аднойчы абраным і настойліва рухаецца наперад да новых здабыткаў, удасканальваючы папярэдні вопыт.*

*Поспех да чалавека можа прыйсці ў любым узросце, але лепш, каб гэта адбылося ў маладыя гады, калі твой талент, твой досвед, твае здольнасці і стараннасць звернуць на сябе ўвагу і належным чынам ацэняцца. Першы сапраўдны поспех — гэта як добры старт у жыццё. А як жа самі маладыя разважаюць пра поспех і ці адчуваюць яны сябе паспяховымі?*

*На гэтае і іншыя пытанні адказваюць паэткі Юлія Новік і Алёна Беланожка, а таксама малады ўрач-тэрапеўт Вольга Баравец.*



***Юлія НОВІК:***

**«ПОСПЕХ — ГЭТА ВЯЛІКАЯ ПАСТАЯННАЯ ПРАЦА»**

*Беларуская паэтка, якая аднолькава добра піша як на роднай мове, так і на французскай. Аўтар паэтычнага зборніка «Сонца за тэрыконамі». Перакладчык. Заснавальніца серыі франка-беларускіх праектаў, сярод іх самыя вядомыя — «Францыя ў сэрцы Беларусі» (2009), «Паралелі» (2010). Калі дзяўчына настолькі ж прыгожая, наколькі таленавітая, яе імя — Юлія Новік.*

**— Ці лічыш ты сябе паспяховым чалавекам? Ці дасягнула ты таго, пра што марыла ў пачатку сваёй літаратурнай дзейнасці? Твой шлях да поспеху — цярністы ці лёгкі?**

— Мне здаецца, у маім узросце яшчэ рана падводзіць вынікі, бо асоба складваецца ў самы актыўны перыяд жыцця — скажам, ад 20 да 35 гадоў. У чалавека фарміруецца жыццёвая пазіцыя. Дзяўчына, пакуль у яе няма сям'і, актыўна рэалізуецца як творца. Можа, гэта толькі пачатак нейкага шляху, наколькі ён будзе паспяховым — пакажа час. Ёсць пэўныя прафесійныя мэты. Самае цяжкае — іх сфармуляваць, таму што для мяне паспяховы чалавек, у першую чаргу, той, хто ведае, чаго ён хоча, і ўяўляе і пачынае планаваць, якімі метадамі дасягнуць жаданага. Чалавек, які ўмее вырашаць любую праблему, які не баіцца складанасцей. Поспех заключаецца ў гнуткасці мыслення, у здольнасці бачыць рэчы з розных ракурсаў, успрымаць і апрацоўваць

інфармацыю, сачыць за тым, што новага адбываецца, не замыкацца ў адным коле знаёмых. У літаратуру можна браць лепшыя здабыткі з іншых галінаў, самыя цікавыя і тыя, якія могуць прыжыцца.

Лічу сябе аматарам у літаратуры. Цяжка размяжоўваць прафесіяналізм і поспех. Напрыклад, калі я жыла ў Салігорску, я пісала вершы, апавяданні, замалёўкі, інтэрв'ю... На маё цяперашняе ўспрыманне, яны не мелі належнага ўзроўню, але мяне ведалі ў школе і ўвогуле многія ведалі, і гэта быў поспех. Паступіўшы ва ўніверсітэт, пераехаўшы ў Мінск, я зразумела, што такое прафесійная літаратура. Поспех — гэта вялікая пастаянная праца. У вядомых людзей жыццё складанае, цяжкае, ім усе зайздросцяць. Трэба ўмець заставацца чалавекам, які не толькі не скарыўся абставінам, не паступіўся сваімі прынцыпамі, але і захаваў добрыя, прыязныя стасункі і з сябрамі, і з ворагамі. Чалавекам, які не стаў самалюбнай «зоркай», не зазнаўся, які ўмее ацэньваць іншых і радавацца за іх. Аднак быць паспяховым яшчэ не азначае быць шчаслівым. Можна рэалізоўваць свае, маленькія, прыватныя мэты, і пры гэтым адчуваць сябе шчаслівым. Напэўна, чалавек сапраўды паспяховы, калі робіць сацыяльна значныя дасягненні.

**— Ты прызнаешся, што літаратура для цябе — покліч душы. Ты працуеш перакладчыкам з французскай мовы. Як праяўляюцца твае прафесійныя здольнасці ў творчай сферы?**

– Пераклад можа быць розным. Што датычыцца літаратурнага перакладу, то я спрабавала перастварацьь беларускіх паэтаў на французскую, пісала на сваім замежным блогу пра мерапрыемствы, якія ў нас адбываюцца. Пра свае франка-беларускія праекты я таксама стараюся пісаць для франкамоўнай публікі і дублірую ў Інтэрнэце апісанні праектаў, інтэрв'ю з удзельнікамі, пішу матэрыялы для прэсы. Я толькі пачынаю асвойваць прафесійны літаратурны пераклад. Прыкладам, Андрэй Хадановіч або Юрась Барысевіч маюць свой перакладчыцкі стыль, а мне яшчэ многаму трэба навучыцца.

У мяне вялікі досвед тэхнічных перакладаў. Лічу сябе спецыялістам больш у ІТ-сферы, у інфарматыцы, у тым, што датычыцца сайтаў, бо я працую з Інтэрнэтам. Шмат новай лексікі засвойваю, чытаючы замежную стужку навінаў, французскія рэсурсы. Самае важнае — сачыць за жывой мовай. Пасля заканчэння ўніверсітэта ў мяне была правільная з пункта гледжання граматыкі і стылістыкі французская, але не тая, якою карыстаюцца французы. Прафесійны досвед даў мне натуральнасць мовы. Галоўнае — успрымаць новыя павевы і ўводзіць іх ва ўжытак. Тады будзеш актуальным і зможаш казаць пра майстэрства.

**— Паспяховы чалавек мусіць няспынна развівацца, ніколі не спыняцца на дасягнутым — гэта твой рэцэпт?**

— Так. Раю пачаткоўцам кантактаваць з разумнымі і паспяховымі людзьмі і ад іх набірацца карысных ведаў, але не капіраваць, а знаходзіць свае ўнікальныя ідэі і шляхі развіцця. Важна знаходзіцца ў прафесійным, культурным асяроддзі, якое можа станоўча паўплываць. Для мяне такім асяроддзем у свой час стала суполка «Літаратурнае прадмесце». На першым этапе — парады прафесіяналаў, на другім — самаразвіццё, і канечне, цярпенне і настойлівасць — каб ісці толькі наперад.

## *Алёна БЕЛАНОЖКА:*

### «МЕЦЬ ПРАВА НА ВЫРАШАЛЬНАЕ СЛОВА»



*Часопіс «Маладосць» ганарыцца тым, што менавіта на яго старонках дэбютавала гэтая дзяўчына: паэтка, празаік, рэжысёр, сцэнарыст, аўтар тэкстаў песень... Яркая і смелая, экстравагантная і элегантная, яна з уяўнай лёгкасцю дасягае ўсё новых і новых вяршыняў. Алёна Беланожка.*

**— Якім быў твой шлях да поспеху (ці, можа, ён яшчэ доўжыцца)?**

— Поспех? Важна разабрацца, ці адно і тое ж мы маем на ўвазе пад словам «поспех». Поспех не вымяраецца колькасцю напісаных-выдадзеных тэкстаў і заробленых грошай, велічынёю і галінастасцю збудаванай сістэмы, аб'ёмам натоўпу прыхільнікаў і васалаў. Поспех вымяраецца колькасцю ажыццёўленых і запланаваных да ажыццяўлення гуманістычных ідэй — прычым, гуманістычнымі ж метадамі. Шлях да поспеху не можа мець завяршэння. Непаспяховы чалавек — той, які спыніўся на гэтым Шляху. Паспяховы — той, хто рушыць наперад і пры гэтым застаецца Асобай, не губляе чалавечы твар. Паспяховы чалавек — той, чые словы, учынкі мяняюць ход гісторыі народаў у лепшы бок. Гэта вялікая адказнасць перад светам — і вялікая ноша, якую можа вытрымаць далёка не кожны. Для таго, каб мець права на Вырашальнае Слова, трэба быць для іншых узорам і непахісным аўтарытэтам. Гэта не даецца ад нараджэння, гэта вынік вялікай працы над сабой. Так што, думаю, я ў самым пачатку Шляху. Дужа нялёгка будзе не спатыкнуцца, не спыніцца, не адступіць і не пусціцца ў спаборніцтва, бо ніякае барацьбы на Шляху не можа быць: усе, хто ідуць па ім, імкнуцца дасягнуць агульнай мэты — зрабіць свет лепшым.

**— Ты супрацоўнічаеш з зоркамі беларускай эстрады. Ты пісала сцэнарыі канцэртаў і фестываляў, здымала кліпы... Дык ці ёсць у нас шоу-бізнес і ці мае шанцы літаратура стаць ягонай часткай?**

— Заяўляю афіцыйна: шоу-бізнесу ў краіне няма, і пакуль нішто не прадвяшчае яго хуткага з'яўлення. Хаця вельмі многа сапраўды светлых, цікавых думак і праектаў, але яны ўсе гінуць на стадыі распрацоўкі. Шоу-бізнес — ён жа таму і «show», што на першапачатковым этапе свайго з'яўлення патрабуе каласальных фінансавых выдаткаў дзеля стварэння таго самага «шоу», якое ва ўсім свеце маецца на ўвазе пад гэтым словам. А свабодных фінансавых плыняў для спансіравання праектаў у тых маштабах, каб праекты атрымліваліся сапраўды прафесійнымі і якаснымі, у нас, на жаль, не маецца. Немагчыма з кавалка сінтэтычнай тканіны, трох дошак і спявачкі, якая мурлыча пад «фанеру» ды ўпарціцца, бо не жадае выконваць задачы, якія ставіць перад ёй рэжысёр, зрабіць мерапрыемства сусветнага ўзроўню. Да таго ж, сапраўды выдатны (а значыць, дарагі) праект проста не акупіцца: у насельніцтва не маецца столькі грошай, каб набываць квіткі па еўрапейскіх коштах. Для таго, каб сітуацыя зрушылася, трэба прыліў «свежае крыві»: неабходна, каб моладзь ішла ў культуру і наладжвала работу па эканамічных прынцыпах XXI стагоддзя. Што датычыцца літаратуры — ніякага шоу-бізнесу без літаратуры быць не можа. Не хапае харошых тэатральных і відовішчных драматургаў, тэксты песень пішуць людзі, што не ведаюць мовы, нават той, на якой размаўляюць; няма граматных спіч-райтэраў, няма людзей, якія проста могуць сесці і граматна і дасціпна скласці дакументацыю. Таму заклікаю ўсіх прафесійных і пачынаючых літаратараў: пішыце, адточвайце мову, працуйце са слоўнікамі, а калі да вас звернуцца вашыя знаёмцы за дапамогай у напісанні тэкстаў, ні ў якім выпадку не адмаўляйцеся: трэба паднімаць статус культуры, а самы першы і эфектыўны выразны сродак — гэта жывое слова!

**— Якімі рэцэптамі поспеху ты можаш падзяліцца з чытачамі «Маладосці»?**

— Ніколі не «зацыклівацца» на адной і той жа справе, асабліва, калі яна не атрымліваецца: губляць час — сабе даражэй, лепш адысці на некаторую адлегласць і адасоблена пашукаць шляхі вырашэння праблемы. Весці паралельна некалькі праектаў рознага накірунку: каб не стаміцца ад асноўнага праекта, трэба пераключаць увагу. Дасканала ведаць этыкет і прафесійную этыку — гэта вельмі важна, бо, натуральна, «адзін у полі не воін», а калі чалавек нявыхаваны, не ўмее весці дыскусіі, «цягне коўдру ў свой бок», лічыць сябе лепшым за астатніх — ён ніколі не збярэ эфектыўную каманду. Належыць займацца самавыхаваннем і цікавіцца сусветнымі падзеямі: у час глабалізацыі трэба быць у мэйнстрыме. І апошняе, я ўсім заўсёды кажу: не бывае дрэнных людзей, бывае так, што вы не можаце знайсці да іх падыход праз сваю ўласную ганарлівасць альбо лянота. Не лянуйцеся выслухоўваць людзей, раз-

маўляць з імі і ставіць сябе на іх месца! Я, напрыклад, не валодаю тэлепатыяй і чытаць чужыя думкі не ўмею, таму лічу, што шчырая, дарослая, спакойная размова — гэта адзіны сродак пазбегнуць непаразумення і крыўдаў. А падмацоўваць шчырыя размовы належыць своечасовымі, добрымі, разумнымі ўчынкамі.

***Віка ТРЭНАС***

### *Вольга БАРАВЕЦ:*

### «МОЙ ПОСПЕХ У ТЫМ, КАЛІ Я ДАПАМАГЛА ЧАЛАВЕКУ І ЁН МНЕ СКАЗАЎ СВАЁ ШЧЫРАЕ: «ДЗЯКУЙ, ДОКТАР!»



*Несумненна, калі давялося пачуць, што загадчыца трэцяга тэрапеўтычнага аддзялення 32-й мінскай клінічнай паліклінікі Вольга Георгіеўна Баравец толькі ў 2006 годзе закончыла Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт, дзе вучылася на лячэбным факультэце, мне падумалася, што гэтай маладой доктарцы спадарожнічае поспех. А, сустрэўшыся з ёю, зразумела, што не памылілася.*

**— Адразу ж прызнаюся, што ў мяне неаднойчы ўзнікала пачуццё гонару за нашых медыкаў, калі даводзілася чуць пра найскладанейшыя аперацыі, якія даводзіцца ім рабіць у імя выратавання чалавечага жыцця. Гэта поспехі нашай айчыннай хірургіі. Але найчасцей у сваім жыцці, калі з'яўляецца ў гэтым патрэба, мы звяртаемся да самага звычайнага ўчастковага доктара сваёй раённай паліклінікі і чакаем ад яго дапамогі. Ён на нейкі момант бачыцца нам выратавальнікам, ад якога залежыць, як хутка мы вернемся ў сваё звыклае жыццё. І, напэўна, мы асабліва ніколі і не задумваемся, як шмат у нашым жыцці значыць той самы ўчастковы доктар! Але не можам не заўважаць, што ў медыцыну апошнім часам прыходзіць шмат моладзі і вось цікава, Вольга, у які момант малады ўрач можа адчуць, што поспех пасміхнуўся яму і, увогуле, ці думае ён пра свой уласны поспех?**

— Мяркую, што ў маёй прафесіі паняцце поспеху асаблівае. Вось, скажам, малады паэт... Ён можа выступіць з цікавай публікацыяй у друку і яго заўважыць вялікая колькасць чытачоў, яго пачнуць хваліць, з'явяцца прыхільнікі яго творчасці, на вершы адгукнецца крытыка... І, вядома ж, гэта ўсё — поспех! Тое ж самае і ў маладога мастака, які можа выставіць на выставе карціну, якая ўсіх уразіць, выкліча пачуцці захаплення, і ён тут жа адчуе, што да яго прыйшоў поспех. А ў нас гэта ўсё па-іншаму, таму што самога ўрача поспех як бы і не тычыцца, тут хутчэй ідзе гаворка пра паспяховае выздараўленне хворага, якога ўрач лечыць. У нашым асяродку вельмі часта можна пачуць, што курс лячэння таго ці іншага захворвання прайшоў паспяхова, пацыент хутка пайшоў на папраўку і тут не можа ісці гаворка пра поспех урача, хутчэй, трэба гаварыць пра яго прафесіяналізм, пра тое, наколькі ён добры ўрач. *(Пасміхаецца.)* Помню са свайго ранняга дзяцінства, калі даводзілася разам з маці хадзіць да зубнога доктара, яна нярэдка пыталася: «А які ўрач працуе на змене?» І хацела мяне запісаць толькі да аднаго, які быў проста выдатным доктарам.

**— Значыцца, гэта і ёсць той самы поспех, якому садзейнічае высокі прафесіяналізм. Іншая справа, што гэты поспех някідкі, ён не гучны... Так, мастак, выставіўшы на выставе цікавую карціну можа пераждыць галавакружны поспех, але не факт, што другая выкліча такое ж захапленне! А харошы, вопытны ўрач толькі за адну змену, прыняўшы не адзін дзясятак сваіх пацыентаў, можа адчуць не адну хвіліну радасці, ад таго, што дзякуючы яму, чалавек, што называецца, паднімаецца на ногі. І такое адбываецца штодзённа. Дык няўжо няма адчування, што гэта і ёсць той самы твой уласны поспех, з чаго і складваецца далейшая паспяховасць? Ну прызнайцеся, што вы адчувалі хвіліны такога свайго поспеху!**

— Так, як вы гэта расклалі, безумоўна, і даволі часта. Больш таго, дадам яшчэ адзін момант, які мне падаецца істотным, менавіта, для маладога ўрача. Існуе такі вельмі распаўсюджаны выраз, што калі ты прыйшоў да доктара, паразмаўляў з ім, і табе не стала лягчэй, значыцца, гэта не доктар! У нашай прафесіі надзвычай важна адразу ж наладзіць кантакт з пацыентам, атмасферу той даверлівасці, якая дапамагае доктару адразу паставіць дыягназ, а хвораму дае пачуццё ўпэўненасці, што менавіта гэты доктар табе дапаможа, што наперадзе хуткае выздараўленне.

Я расла ў сям'і ўніверсітэцкіх выкладчыкаў, але сярод сваякоў ёсць у мяне дзядзькава, жонка майго дзядзькі, якая шмат гадоў адпрацавала ўчастковай медсястрой у адной з мінскіх паліклінік. Таму натуральна, што ў нашай сям'і даволі часта ўзнікалі размовы, якія нейкім чынам былі звязаны з медыцынай. І ўжо ў дзяцінстве, дзякуючы ёй, у мяне вымалёўваўся вобраз ідэальнага доктара...

**— ...Моваю нашага часу паспяховага. Але цяпер чыста медыцынскае пытанне: сыходзячы з вашай практыкі, якія захворванні на сённяшні дзень самыя распаўсюджаныя, і на што трэба звярнуць увагу нашай моладзі, каб заўжды адчуваць сябе ў належнай форме, іншымі словамі, якая нечаканая небяспека можа падсцерагаць?**

— Што да самых распаўсюджаных цяпер захворванняў, дык на першае месца выходзяць артэрыяльная гіпертэнзія (гіпертанія), анкалогія і цукровы дыябет. Сярод іх вельмі актыўную тэндэнцыю да амаладжэння мае тая самая гіпертанія. Калі раней гэта ў асноўным была хвароба людзей сталага веку, дык зараз яна перакідваецца і на моладзь… Мне асабіста прычына гэтай з'явы бачыцца ў тым, што нярэдка маладыя людзі не сочаць за сваёй вагою, паляць, у многіх — фізічныя перагрузкі на працы, ну і тыя ж самыя стрэсы. Імі поўніцца наша жыццё.

У прынцыпе, пазбавіцца можна ад многіх і многіх хвароб, — гэта дазваляе высокі ўзровень нашай медыцыны, але лепш, калі чалавек гэтых хвароб увогуле пазбегне. Той жа самы стрэс, які як унутраны выбух закранае ўсё ў арганізме. Яго блакіраваць можна пераходам у стадыю станоўчых эмоцый, пераключэннем на прыемныя думкі… А да ўсяго — актыўны адпачынак, спакойная, лагодная атмасфера ў сям'і і, што асабліва важна для моладзі, — актыўныя заняткі спортам. Здаровае цела носіць у сабе і здаровы дух.

**— Вольга Георгіеўна, а цяпер апошняе… Выбар будучай прафесіі. Вы пагадзіцеся, што не можа ісці гаворка ні пра які поспех, калі чалавек не любіць сваю працу, калі абраў для сябе не той занятак, які б стаў галоўнай справай усяго жыцця?**

— Ну, вядома ж… Любы чалавек у другім чалавеку вельмі цэніць і паважае такую якасць, як вернасць, адданасць… Думаю, што падобнае распаўсюджваецца і на прафесію. Калі мы вельмі любім тое, што называем справай жыцця, калі вельмі адданыя гэтай справе, дык атрымліваем і маем плён, які і ёсць той самы поспех.

Што да мяне, дык так атрымалася, што з першага класа я хадзіла ў выдатніцах, і гэты статус міжволі схіляў да лідарства, як, дарэчы, і да выбару вельмі сур'ёзнай прафесіі. Хочацца падкрэсліць: жыццёва важнай!

І вось тут мне здавалася, што прафесія ўрача — гэта і ёсць самае важнае: браць на сябе і несці адказнасць за чужое жыццё… Гады маёй працы ў паліклініцы толькі пацвердзілі правільнасць майго выбару. Я вельмі люблю сваю прафесію, ганаруся ёю, а галоўнае разумею, што без дапамогі ўрача не абыходзіцца ніводзін чалавек, і я прысвяціла сваё жыццё таму, каб аказваць людзям гэтую дапамогу.

***Р. ШЫМАНСКАЯ***

*Мая прафесія*



Ірына КЛІМКОВІЧ

# ГОРАД МАЙСТРОЎ У ЦЭНТРЫ МІНСКА

***Мы не ўпершыню знаёмім чытачоў з установамі прафтэхадукацыі. Сёння гаворка пра незвычайную навучальную ўстанову такога кшталту. Яе асаблівасць у тым, што тут рыхтуюць не толькі будаўнікоў, але і мастакоў. Маецца на ўвазе Мінскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва імя М. А. Кедышкі, што на Сурганава 45/3. Спосабаў рэалізацыі сваіх ведаў і майстэрства ў выпускнікоў каледжа вялікае мноства. Усё залежыць ад узроўню прафесіяналізму і любові да працы. А такім якасцям будучых спецыялістаў навучаць дасведчаныя педагогі і майстры сваёй справы.***

## ГІСТОРЫЯ КАЛЕДЖА — ЯГОНЫ ПАДМУРАК

Афіцыйнай датай пачатку працы каледжа лічыцца 1 верасня 2007 года. У гэты дзень адбылося ўрачыстае адкрыццё. І хоць біяграфія непрацяглая, ёй папярэднічала гісторыя дзвюх навучальных устаноў, на базе якіх яна і фарміравалася: гісторыя ПТВ-24 і гісторыя навучальна-прафесійнага цэнтра дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (ДПМ).

Гісторыя ПТВ-24 пачалася ў лістападзе 1924 года. У той час вучылішча назвалі школай фабрычна-заводскага навучання камунальнай гаспадаркі і знаходзілася яно ў раёне Заходняга чыгуначнага моста. У 1940 годзе гэтую школу па спецыяльнасці муляр-тынкоўшчык скончыў Мікалай Кедышка. Падчас вайны ён, как вядома, стварыў падпольную камсамольскую групу, якая рабіла дыверсіі ў Мінску супраць акупантаў. У лістападзе 1943 года пры выкананні баявога задання М. Кедышка загінуў. У 1965 годзе яму пасмяротна надалі званне Героя Савецкага Саюза. Тады гэта была вышэйшая дзяржаўная ўзнагарода. А ў 1968 годзе загадам Савета Міністраў БССР імя М. Кедышка было нададзена Мінскаму гарадскому прафесійна-тэхнічнаму вучылішчу № 24 будаўнікоў. Падчас Другой сусветнай вайны ўсе дакументы тых гадоў зніклі і адрадзіць даваенную гісторыю вучылішча было нялёгка. У пасляваенныя часы зруйнаванай краіне былі патрэбны ў вялікай колькасці будаўнікі. Таму наборы ў вучылішча былі шматлікімі — да 300 чалавек. Вучылі на муляраў, тынкоўшчыкаў, цесляроў, маляроў. Пасля вайны вучылішча знаходзілася на тым самым месцы, дзе і цяпер. У 1964 годзе замест драўляных вучэбных баракаў быў пабудаваны корпус № 1, дзе сёння знаходзяцца кабінеты і спартыўная зала. З 1966 года пачалі ўзводзіць корпус №2, а ў 1975 быў здадзены трынаццаціпавярховы будынак інтэрната. Выпускнікі навучальнай установы працавалі па ўсім Савецкім Саюзе.

Гісторыя вучылішча была сведкам шматлікіх знамянальных падзей і сустрэч, розныя

перыяды перажывала яно. Найбольш знакавая падзея адбылася ў 2002 годзе. Да Мінскага ПТВ-24 далучылі Цэнтр дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, які знаходзіўся на вуліцы Я. Коласа, 47/а. Цэнтр арганізавалі яшчэ за часамі кіраўніцтва П. М. Машэрава як вучэбна-вытворчы камбінат, якіх у той час было шмат у горадзе. У такіх камбінатах існавалі гурткі тэхнічнай творчасці, куды наведваліся дзеці школьнага ўзросту.



*Дырэктар каледжа Андрэй Васільевіч Саюк.*

На сёння гэта не проста каледж, а суцэльны горад майстроў. Так, у шэрагу будаўнічых спецыяльнасцей, такіх, як цясляр, сталяр, станочнік дрэваапрацоўчых станкоў, муляр, мантажнік, электразваршчык, маляр, тынкоўшчык, абліцоўшчык, плітачнік, мастаўшчык і бетоншчык тут на аддзяленні дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва рыхтуюць мастакоў роспісу па дрэве, майстроў мастацкіх вырабаў з лазы, керамікі, рэзчыкаў па дрэве і бяросце, інкрустатараў, выканаўцаў мастацка-афарміцельскіх работ.

## ГЕНЕРАТАР ІДЭЙ І ГРАНДЫЁЗНЫХ ПЛАНАЎ

Пятнаццаць гадоў дырэктарствуе **Андрэй Васільевіч САЮК.** Дзякуючы ягоным намаганням, каледж не толькі змяніў сваё аблічча, але і зрабіўся ўзорнай установай прафтэхадукацыі. Нарадзіўся Андрэй Саюк на Украіне ў Жытоміры. Там прайшло ягонае дзяцінства, там ён скончыў школу будаўнікоў і ПТВ № 2. Трэба было вучыцца далей, паўстала пытанне: куды падацца? Паміж харкаўскім, кішынёўскім і мінскім тэхнікумамі выбар паў на апошні — індустрыяльна-педагагічны. Чаму? Дабірацца бліжэй і зручней: можна і цягнікам, і аўтобусам. Потым былі прыступкі прафесійнага шляху, па-мужчынску складанага, але такога неабходнага для сённяшняга жыцця і досведу. Вучоба ў тэхнікуме і служба ў войску, праца майстрам вытворчага навучання ў вучылішчы і прарабам на будоўлі. За гэты час ён скончыў універсітэт, магістратуру, і Камітэт па дзяржтэхадукацыі запрасіў яго на працу намеснікам дырэктара ў той самы індустрыяльны тэхнікум. За трынаццаць гадоў працы Андрэй Саюк паспеў стаць дэпутатам Мінскага гарсавета, атрымаць дзяржаўныя ўзнагароды, ён Выдатнік ПТА БССР і Выдатнік адукацыі РБ. Запрашалі Андрэя Васільевіча на працу і ў адміністрацыю Прэзідэнта. Але лёс распарадзіўся паіншаму. У 1998 годзе яго накіравалі сюды, тады яшчэ ў ПТВ № 24.

Па словах дырэктара, навучальная ўстанова на момант ягонага прызначэння знаходзілася ў заняпадзе, яе ўвогуле хацелі ліквідаваць, а матэрыяльную базу перадаць вучылішчу № 63. Але гэтага не адбылося. Пачалі ўзводзіць новы навучальны корпус. І хаця на ягонае будаўніцтва адводзілася пятнаццаць гадоў, яго завяршылі за шэсць. Тут няма нічога дзіўнага. Навучэнцы каледжа цудоўныя будаўнікі. Іх рукамі і рукамі майстроў вытворчага навучання робіцца капітальны і касметычны рамонт, мэбля для вучэбных класаў і кабінетаў. Летась узвялі двухпавярховы корпус вытворчых майстэрняў. А літаральна з верасня сёлетняга навучальнага года ў двары каледжа ўзвялі новую майстэрню. Складанага рамонту вымагала і сталоўка, дзе цалкам замянілі столь, умывальнікі і мэблю, адрамантавалі два паверхі інтэрната. Нямала намаганняў прыкладзена да стварэння і афармлення ўнікальнай канферэнц-залы ў каледжы. Дарэчы, ідэя цалкам належала дырэктару. Навучэнцы і выкладчыкі таксама пастараліся, падышлі да сваёй працы — аздабленне залы, з фантазіяй. Яе сцены ўпрыгожваюць два велізарных пано, дзе сценавы роспіс спалучаецца з інкрустацыяй. Тое самае тычыцца афармлення класаў, майстэрняў, калідораў і вестыбюляў. Паўсюль мора ідэй і фантаны выдумкі. Дзякуючы таленавітым афарміцельскім

работам, у каледжа цяпер ёсць свой твар, непадобны да іншых.

Але Андрэй Васільевіч не збіраецца спыняцца на дасягнутым. У яго вялікія планы на будучыню. Да прыкладу, марыць пра яшчэ адну грандыёзную залу. Каледж наведваюць розныя дэлегацыі, як з нашай краіны, так і з-за мяжы. Пасля таго, як яны вырашаць свае справы ва ўрачыстай абстаноўцы канферэнц-залы, трэба адпаведна і паабедаць. Вось і збіраецца дырэктар зрабіць нешта накшталт троннай залы на дваццаць чалавек, дзе вакол вялізнага стала будуць стаяць велічныя фатэлі з высокімі спінкамі. І ўсё гэта павінна быць зроблена ўласнаручна вучнямі і майстрамі каледжа з якаснай драўніны, аздобленай разьбой, роспісам і інкрустацыяй. Утульны інтэр’ер каледжа, гасціннасць ягоных гаспадароў, вабяць сюды гасцей. Кожны з захапленнем дзівіцца на цудоўныя працы таленавітых майстроў. Каб уразіць іх у чарговы раз, Андрэй Васільевіч хоча памяняць афармленне галоўнага навучальнага корпуса разам са сталоўкай, аздобіць карцінамі. Дзякуючы таленавітым вучням, унікальная магчымасць выкарыстоўваецца напоўніцу.

Апроч гаспадарчых і адміністрацыйных клопатаў у дырэктара маюцца іншыя абавязкі. Ён выкладае навучэнцам такі жыццёва неабходны для іх прадмет, як асновы эканомікі. А яшчэ з’яўляецца старшынёй дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі ў тэхналагічным універсітэце і штогод прымае там іспыты па абароне дыплома. Ну і нарэшце хатнія справы. Вяртаючыся дахаты, Андрэй Васільевіч трапляе ў цёплую хатнюю абстаноўку. Як чалавек сямейны, мае не толькі дзяцей, але і ўнукаў. Больш за ўсіх яго цешыць самы маленькі, якога называе сваім трэцім сынком, а той яго адпаведна татам. Дарэчы, жонка Андрэя Саюка родам з Гомельскай вобласці. Магчыма, таму дырэктар каледжа так шчыра захапляецца нашай мовай, нягледзячы на сваё ўкраінскае паходжанне. Усе шыльды ў каледжы па-беларуску, а сам ён кажа, што для яго няма складанасці хоць зараз сесці і напісаць дыктоўку на мове Янкі Купалы і Якуба Коласа. А як жа іначай, гаворыць ён, мову і радзіму не выбіраюць, гэта ад Бога. А з Богам у Андрэя Васільевіча адносіны асаблівыя. Кожныя выходныя ён абавязкова наведвае храм. Таму што ўпэўнены: усё робіцца з Божай дапамогай.



*Роспіс суцяны заўсёды натхняе.*

## ПРАФЕСІЯНАЛІЗМ, ПАМНОЖАНЫ НА ПРАЦОЎНЫ СТАЖ

Працаваць і марыць пра здзяйсненне далейшых задач і планаў дырэктару дапамагае працоўны калектыў. Намеснік па вучэбнай рабоце **Ірына Міхайлаўна Пяткоўская** як выкладчык фізікі працуе з 1983 года. Асноўная яе задача курыраваць агульнаадукацыйныя прадметы і складаць расклад заняткаў. А калі ўлічыць, што ў каледжы навучаецца 810 чалавек, то такую працу не назавеш простай. Для яе і ўсяго педагагічнага складу пасля 2002 года, калі да навучальнай установы быў далучаны Цэнтр ДПМ, і з'явіліся абсалютна два розных калектывы, паўстала задача — як спалучыць прафесіі творчых людзей з прафесіямі будаўнікоў. Доўга думалі і планавалі, што народзіцца наноў, а што трэба захаваць і доўжыць традыцыі. У выніку інтэграцыя адбылася, і на думку Ірыны Міхайлаўны, дастаткова ўдалая. Пра гэта кажа і невялікая ўцечка кадраў. Больш таго, калі параўноўваць усю сістэму мінскіх ПТВ, то тут збольшага працуюць людзі, у якіх у працоўнай кніжцы ўсяго адзіны запіс. І калі выкладчыкі сыходзяць адсюль, то толькі на заслужаны адпачынак.

Намеснік дырэктара па вучэбна-вытворчай працы **Міхаіл Васільевіч Гарох** апроч сваіх прамых абавязкаў па арганізацыі навучальнага і вытворчага працэсаў і размеркавання выпускнікоў, выкладае спецтэхналогію ў муляраў, матэрыялазнаўства ў атынкоўшчыкаў і агульную тэхналогію дрэваапрацоўчых вытворчасцей у сталяроў і станочнікаў. У апошні час да гэтых прадметаў далучылася яшчэ эканоміка і правілы дарожнага руху. Ён сам некалі скончыў вучылішча і атрымаў прафесію муляра, пасля набываў прафесійны досвед на будоўлі. Спачатку ў якасці рабочага, потым майстра. І калі пасля атрымання вышэйшай адукацыі перайшоў на працу выкладчыка, Міхаіл Васільевіч ужо дасканала ведаў сакрэты сваёй прафесіі.

Прымаюць на вучобу на будаўнічае аддзяленне як пасля дзевяці, так і пасля адзінаццаці класаў. У першым выпадку вучацца тры гады, на працягу якіх дзеці атрымоўваюць яшчэ і сярэднюю адукацыю, у другім — дзесяць месяцаў. Выпускнікі гэтага аддзялення працуюць на базавых прадпрыемствах, замацаваных за каледжам. Гэта ў першую чаргу адкрытае акцыянернае таварыства МАПІД, дзе на сёння працуе больш за дзевяць тысяч чалавек. Сюды ўваходзяць шматлікія заводы панельнага домабудаўніцтва, аддзелачныя, мантажныя і будаўнічыя ўпраўленні. А яшчэ ёсць трэст № 7, які, акрамя жылля, узводзіў такія будынкі як Нацыянальная бібліятэка, «Мінск-Арэна», кінатэатр «Беларусь» і другія пабудовы, якія ўпрыгожваюць наш Мінск. Менавіта для ўзвядзення маналітных канструкцый у каледжы рыхтуюць спецыялістаў. Асабліва запатрабаваны сёння цесляры-бетоншчыкі, спецыялісты па ўстаноўцы апалубкі і ўкладцы бетоннай сумесі. І калі раней выпускалі асобна цесляроў і асобна бетоншчыкаў, то цяпер з'явілася адна кваліфікацыя, якая аб'ядноўвае дзве спецыяльнасці. Але, на жаль, сёлета каледж не набраў запатрабаванай колькасці навучэнцаў на гэтую спецыяльнасць. Не ідуць чамусьці хлопцы сюды. Хаця на будоўлі гэта адна з найбольш аплачваемых і запатрабаваных прафесій. А самым вялікім попытам на будаўнічым аддзяленні каледжа карыстаецца прафесія маляра і атынкоўшчыка. Чаму? Ды проста таму, што лічыцца яна не вельмі фізічна цяжкай, і сюды, у адрозненне ад іншых «мужчынскіх» спецыяльнасцей, ідзе шмат дзяўчат. Увогуле ў каледжы імкнуцца інтэграваць некалькі спецыяльнасцей у адну кваліфікацыю. Калі чалавек вучыцца на маляра, то на выхадзе ён павінен быць яшчэ і тынкоўшчыкам, і абліцоўшчыкам-плітачнікам. Таму што пасля каледжа выпускнікі могуць патрапіць на будоўлю ў брыгады аддзелачнікаў, якія апроч малярных выконваюць яшчэ і шпалерныя, тынковачныя і плітачныя работы.

На першым курсе будаўнічага аддзялення ідзе чаргаванне тэарэтычнага і практычнага навучання. Вытворчыя ўрокі праводзяцца адзін раз на тыдзень у майстэрнях каледжа. Так будучыя цесляры і сталяры практыкуюцца ў майстэрнях ручной і механізаванай апрацоўкі драўніны. У апошняй усталяваны дрэваапрацоўчыя, габлявальныя, фрэзерныя і шліфавальныя станкі. Ідзе нарыхтоўка брусоў, рэек і дошак, з якіх робіцца мэбля і дзверы для патрэбаў каледжа і на замову. Маляроў, тынкоўшчыкаў і плітачнікаў-абліцоўшчыкаў рыхтуюць у майстэрні аддзелачных работ. У спецыяльных кабінах, разлічаных на два чалавекі, пры дапамозе гліняных раствораў адпрацоўваюць прыёмы тынкавання, выроўніванне рустоў. На другім



*Майстэрня муляраў.*

і трэцім годзе навучання будучыя спецыялісты праходзяць практыку на базавых будаўнічых аб'ектах. Там жа яны праходзяць і перад-дыпломную практыку. У большасці выпадкаў тыя, хто добра сябе зарэкамендаваў, пасля здачы дзяржіспытаў, застаюцца на аб'ектах. А каб здаць дзяржіспыт, трэба прайсці два этапы. Па-першае, неабходна выканаць так званую пробную работу. Так, будучы муляр на сапраўднай будоўлі павінен выканаць сапраўдную каменную кладку, мантажныя і зварачныя работы. Толькі пасля гэтага ён дапускаецца да здачы тэорыі і атрымлівае адпаведны рабочы разрад.

На аддзяленні будаўнікоў працуе калектыў педагогаў і майстроў вытворчага навучання. Да прыкладу, **Галіна Сцяпанаўна Батура** прыйшла сюды на працу яшчэ ў 1971 годзе зусім маладой дзяўчынай. Прыйшла з будоўлі, была рабочай, завочна вучылася. Цяпер загадвае майстэрняй і займае ў прафесійных гарадскіх конкурсах прызавыя месцы. Заканчвае свой працоўны стаж яшчэ адзін ветэран каледжа — **Людміла Іванаўна Грынкевіч.** Усё яе жыццё прайшло ў гэтых сценах, а нядаўна ёй споўнілася семдзесят гадоў. З 1973 года працуе ў навучальнай установе — **Сафія Іванаўна Сцяпанава.** Дзяўчат і хлопцаў яна вучыць не толькі, як трымаць пэндзаль і фарбаваць ім аканіцы, але і як з гонарам уладкавацца ў жыцці і пераадольваць цяжкасці. Разам з ёю прыйшлі сюды на працу **Іван Уладзіміравіч Жолудзь** і **Галіна Уладзіміраўна Мікалайчык**. Іван Уладзіміравіч чалавек неабыякавы, адзін з лепшых даследчыкаў гісторыі навучальнай установы, кумір дзяцей, любіць сваю справу. Тое самае можна сказаць і пра Галіну Уладзіміраўну. Некалькі разоў ёй прапаноўвалі новыя месцы працы, але яна не наважылася сысці, не можа без дзяцей і калектыву. Кажа, што гэта яе лёс. Ужо 44 гады працуе на адным месцы **Марыя Якаўлеўна Румо.** Яна таксама лічыць каледж сваім родным домам. Тут яе сям'я, яе сябры, тут усё яе жыццё, і яна не хавае сваіх пачуццяў да роднага калектыву. **Ларыса Антонаўна Панчанка** працуе тут з 1979 года. Атрымала прафесію, скончыла МІПТ і цяпер не ўяўляе сябе на іншым месцы. З 1965 года ў каледжы працуе бібліятэкар **Ларыса Маркаўна Левіна**, якая дапамагае і выкладчыкам, і майстрам, і навучэнцам. А яшчэ ў каледжы з 1972 года працуе загадчык медпункта **Ірына Аляксееўна Пока**, якая не толькі падтрымае лекамі, але і добрым словам. Нямала сіл і ведаў аддала роднай установе **Кацярына Сцяпанаўна Абрамовіч**. Раней яна была майстрам вытворчага навучання, пасля заканчэння політэхнічнага інстытута і інжынерна-педагагічнага факультэта перайшла на выкладчыцкую працу. **Святлана Яфімаўна Паўлючук** — выкладчык вышэйшай катэгорыі, выкладае чарчэнне з 1977 года. У 2003 годзе ўзнагароджана знакам «За заслугі ў развіцці ПТА». **Вольга Пятроўна Дзінгілевіч** і **Кацярына Уладзіміраўна Пратасевіч** працуюць у каледжы нядаўна, але ўжо зарэкамендавалі сябе руплівымі і дбайнымі майстрамі, якія не саромеюцца звяртацца з пытаннямі да старэйшых педагогаў. У 2010 годзе яны паспяхова працавалі на рамонце беларускамоўнай школы ў сталіцы Літвы і кадзецкага вучылішча ў Мінску. **Арцём Алегавіч Быстрыцкі** хоць і малады, але, дзякуючы сваёй стараннасці і ініцыятыўнасці, загадвае майстэрняй муляраў. Усяго ў каледжы трыццаць тры педагогі і сорак майстроў вытворчага навучання. Шмат хто з іх — выкладчыкі і майстры вышэйшай і першай катэгорыі. Усе яны спрычыніліся да выхавання і падрыхтоўкі канкурэнтаздольных спецыялістаў.

## МАСТАЦТВА, КАРАНІ ЯКОГА СЯГАЮЦЬ У СІВУЮ ДАЎНІНУ

Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва — складаная і шматгранная з'ява культуры. Яно мае шырокія і глыбокія карані. Шырокія, бо ахоплівае разнастайныя віды народных промыслаў. Глыбокія, бо жыве разам з народам, сыходзячы каранямі ў сівую даўніну і разам з тым працягваючы развівацца ў нашы дні. Каб навучыць такому мастацтву іншых, трэба самому глыбока і шырока ведаць, разбірацца ў гісторыі і жыццёвым ладзе, густах і ідэалах тых простых людзей, чыёй працай і талентам былі створаны дасканалыя рэчы. Мяркуючы па ўсім, гэта ў каледжы разумеюць. Таму кожны год тут адкрываюць новыя спецыяльнасці. Так, сёлета на аддзяленні дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва адкрылі такую ўнікальную прафесію, як каваль. З мінулага года тут навучаюцца інкрустацыі. А кіруе гэтым працэсам **Наталля Міхайлаўна Блахіна.** Яна скончыла педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка, факультэт «народнай культуры». Працуе ў каледжы сёмы год, спачатку ў групе «мастак роспісу па дрэве», а як толькі з'явілася новая спецыяльнасць — «інкрустацыя саломкай» — перайшла сюды. Набываць такое майстэрства складана і нялёгка, яно патрабуе карпатлівай і стараннай работы. Выхаванцы Н. Блахіной пастаянна ўдзельнічаюць у розных фэстах і мерапрыемствах, прафесійных конкурсах, кшталту «Горад майстроў». Пасля атрымання спецыяльнасці яны не спыняюцца на дасягнутым, а надалей удасканальваюць сваё майстэрства. Нехта працягвае вучобу на другой ступені навучання, нехта паступае ў ВНУ, а нехта адразу пачынае зарабляць грошы — займаецца рамесніцкай дзейнасцю. Два гады працуе ў каледжы майстра вытворчага навучання **Алена Васільеўна Гурэцкая.** Яна рыхтуе спецыялістаў па лозапляценні. Набыла сваё майстэрства ў віцебскім Цэнтры народных рамёстваў і мастацтваў «Задзвінне». Цяпер паралельна вучыцца ва ўніверсітэце культуры і мастацтваў і з'яўляецца сябрам Беларускага саюза майстроў народнай творчасці. Яна ўдзельнік і стыпендыят шматлікіх рэспубліканскіх тэматычных выставак і конкурсаў. У 2007 годзе прадстаўляла беларускую культуру ў Баліварыянскай Рэспубліцы Венесуэла. Яе вучні на працягу года пераймаюць багаты досвед і творчыя фантазіі свайго майстра, атрымліваюць спецыяльнасць нарыхтоўшчыка мастацкіх вырабаў з лазы. У канцы навучання яны могуць прафесійна сплесці такія рэчы, як куфар, карзіну, вазу і шмат чаго іншага.

Роспіс па дрэве і ганчарства існавалі ў навучальнай установе першапачаткова, як толькі Цэнтр ДПМ быў далучаны да ПТВ-24. Майстра вытворчага навучання **Аляксандра Міхайлаўна Жур** навучае роспісу па дрэве ўжо шэсць гадоў. Таксама скончыла факультэт «народнай культуры» педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка па спецыяльнасці «народныя рамёствы». Дзякуючы Аляксандры Міхайлаўне, яе вучні выпрацоўваюць свой асабісты стыль, пабудаваны на нацыянальных матывах і беларускай народнай школе. Паўсюль на сценах майстэрні можна бачыць распісныя пано з выявамі знакамітых замкаў і храмаў нашай краіны. Пасля авалодвання майстэрствам роспісу па дрэве выпускнікі могуць працаваць як на дзяржаўных фабрыках, так і прыватных прадпрыемствах па вырабе сувеніраў, або займацца рамесніцтвам і здаваць свае працы ў мастацкія салоны, або самім гандляваць імі. З мінулага года ў каледжы імкнуцца спалучыць некалькі прафесій. Так, некаторыя навучэнцы выконваюць свае працы ў змяшанай тэхніцы, яны аб'ядноўваюць роспіс з інкрустацыяй салом-



*Майстэрня лозапляцення.*

кай або з лозапляценнем. На думку кіраўніцтва, у будучых майстроў з'яўляюцца ўніверсальныя мастацкія магчымасці, і ім адкрываюцца больш шырокія далягляды. А гэта дае ім перспектыву займацца сваёй любімай справай прыватна. Што і робяць многія выпускнікі дэкаратыўна-прыкладнога аддзялення каледжа. Тым больш, цяпер гэта вельмі запатрабавана, асабліва з развіццём апошнім часам у нашай краіне агратурызму.

Загадчык аддзялення дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва **Юлія Сяргееўна Лабковіч** скончыла ўніверсітэт культуры і мастацтваў, мае ступень бакалаўра мастацтваў і працуе ў каледжы ўсяго год. Але нягледзячы на гэта, яна прафесійна і з досведам наладжвае навучальны і вытворчы працэс на аддзяленні ДПМ, сочыць за наведваннем заняткаў навучэнцамі і іх размеркаваннем пасля заканчэння вучобы. Дарэчы, на гэтае аддзяленне бяруць хлопцаў і дзяўчат толькі з сярэдняй адукацыяй на базе 11-ці класаў. І навучаюцца яны ад дзесяці месяцаў да аднаго года дзесяці месяцаў, у залежнасці ад спецыяльнасці. Гэтага дастаткова, каб авалодаць тэхнікай выканання на ўзроўні рамеснікаў. А каб надалей развіваць свой творчы патэнцыял, у каледжы ёсць другая ступень навучання, дзе можна ўдасканальваць як прафесійныя, так і рамесныя навыкі. Трэба адзначыць, што на кожную спецыяльнасць у аддзяленні ДПМ існуе свая майстэрня, дзе навучэнцы праходзяць вытворчую практыку.



*Афармленне канферэнц-залы.*

Як прызнаецца Юлія Сяргееўна, большасць навучэнцаў — дзяўчаты. Хлопцы ж ахвотней ідуць атрымліваць такія мужчынскія прафесіі, як мастак-афарміцель і рэзчык па дрэве. Сёлета самы вялікі конкурс быў на прафесію «Мастак роспісу па дрэве» — тры чалавекі на месца. Дарэчы, гэта адзіная спецыяльнасць у каледжы, куды пры паступленні трэба здаваць іспыт, здаюць малюнак. На ўсе астатнія існуе толькі конкурс атэстатаў. Сёлета з тых, хто не вельмі ўдала здаў іспыт, была арганізавана невялікая група ў адзінаццаць чалавек, якія атрымліваюць навыкі роспісу па дрэве платна. Нягледзячы на гэта, дзеці, якія навучаюцца на аддзяленні ДПМ, унікальныя, амаль кожны з іх перад паступленнем у каледж мае пэўныя мастацкія здольнасці. Тым не менш, у выпускнікоў аддзялення існуюць цяжкасці з уладкаваннем на працу пасля заканчэння каледжа — іх спецыяльнасці адзінкавыя, знайсці ім прымяненне дастаткова складана. Таму ў апошнія гады скарацілі набор з дваццаці пяці да трынаццаці-пятнаццаці чалавек. Нягледзячы на гэта, большая частка выпускнікоў супрацоўнічае з прадпрымальнікамі, або, як мы казалі вышэй, самі займаюцца прадпрымальніцтвам. Гэта дазволена дзяржавай.

## МАРЫ ЗДЗЯЙСНЯЮЦЦА

У каледжы маецца выстаўка тэхнічнай і дэкаратыўна-прыкладной творчасці. На ёй прадстаўлены ўсемагчымыя экспанаты, зробленыя навучэнцамі і майстрамі, якія адлюстроўваюць розныя прафесіі аддзялення ДПМ. У асноўным гэта лепшыя дыпломныя і курсавыя працы. Выстаўлены і вырабы тых, хто наведвае гурткі каледжа. Кіруе выстаўкай мастак-афарміцель **Юрый Іванавіч Аўсяны**. Ён працуе ў гэтай сістэме яшчэ з 1994 года, калі Цэнтр ДПМ існаваў аўтаномна. Юрый Іванавіч быў тады намеснікам дырэктара цэнтра. Цяпер на ім шмат працы і службовых абавязкаў, у якія ўваходзіць клопат пра арганізацыю работы выстаўкі і яе экспанатаў. Апроч гэтага

ён займаецца афарміцельскай дзейнасцю: пад ягоным куратарствам упрыгожваецца інтэр'ер каледжа, ягоныя сцены, распрацоўваюцца розныя стэнды.

Калі заходзіш у памяшканне, дзе месцяцца экспанаты, то не ведаеш куды ў першую чаргу кінуць погляд. Столькі ўсяго, што проста вочы разбягаюцца! Тут куфры, камплекты мэблі, рамы для люстэркаў, шкатулкі, пяцісвечны кандэлябр, арыгінальныя пано і копіі з вядомых карцін. Усё зроблена з дрэва або з лазы, распісана, упрыгожана разьбой або інкрусціравана адпаведным чынам. Сюжэты роспісу здзіўляюць сваёй разнастайнасцю і выдумкай. Большасць з іх прысвечана беларускай гісторыі і культуры. Уражваюць і прымушаюць спыніць на сабе ўвагу ганчарныя вырабы, тыя, якія робяцца на ганчарным коле, і тыя, якія лепяцца рукамі. Гэта дэкаратыўныя вазы, талеркі, падсвечнікі, наборы посуду, упрыгожванні, цацкі і другія ўнікальныя творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Гледзячы на незвычайныя экспанаты выстаўкі, міжволі думаеш, што іх аўтары сапраўдныя майстры, якія знарок пакінулі ў творах частку сваёй душы і таленту. Таму прайсці паўз іх проста немагчыма.

Немагчыма прайсці і каля своеасаблівага генеалагічнага дрэва, сплеценага з лазы, якое таксама стаіць на выстаўцы. На ягоных галінках выкладчык жывапісу, малюнка і кампазіцыі **Марына Вячаславаўна Станішэўская** размясціла свой беларуска-шляхецкі радавод. Яе педагагічны «генатып» налічвае амаль сто гадоў. Настаўнікамі былі старэйшыя сёстры дзядулі, цётка і дзядзька. Адна з галінак радаводнага дрэва расквітнела ў далёкай Брытаніі, дзе жыве і працуе выкладчыцай стрыечная сястра Марыны. Здольнасць бачыць і ўпрыгожваць свет мастацкімі вобразамі М. Станішэўская атрымала таксама ў спадчыну ад адной з бабуль, якая была не толькі выдатніцай народнай асветы, але і адмысловай рукадзельніцай.

Па-мастацку бачыць свет і напаўняць яго незвычайнымі вобразамі могуць не толькі выкладчыкі творчых дысцыплін. Так, выкладчык матэматыкі **Віктар Міхайлавіч Трахтэнберг**, які працуе ў каледжы 34 гады, таксама ўспрымае акаляючую яго рэчаіснасць своеасабліва — праз прызму свайго прадмета. Сцены кабінета ўпрыгожваюць копіі карцін вядомага галандскага мастака Марыса Эшэра, асноўны накірунак якога — геаметрычна-сюррэалістычнае мастацтва. Серыя карцін носіць назву «Чацвёртае вымярэнне» і з'яўляецца дыпломнай працай выпускнікоў аддзялення ДПМ. Апроч карцін на паліцах кабінета месцяцца шматлікія аб'ёмныя геаметрычныя фігуры, адны з іх зроблены з паперы, другія — з рознакаляровых нітак. Віктар Міхайлавіч называе фігуры матэматычнымі зорачнымі шматграннікамі і кажа, што даўно захапляецца імі. Робяць такія фігуры па жаданні і для развіцця інтэлекту навучэнцы будаўнічага аддзялення. Але натхняе іх на гэта сам Віктар Міхайлавіч. Каб зрабіць чарговы шматграннік, ён распрацоўвае схему, малюе графікі. Такое афармленне кабінета стварае адпаведны настрой і абстаноўку, якая падкрэслівае асабістыя густы выкладчыка і ягоных вучняў.

Рэалізаваць творчыя здольнасці навучэнцы і выкладчыкі каледжа могуць і ў сваёй газеце або сваім радыё ці на тэлебачанні, дзе нават маецца свой лагатып. Пішуць артыкулы і рыхтуюць перадачы ў асноўным самі дзеці, а дапамагаюць ім выкладчык гісторыі **Алег Мікалаевіч Шклянка** і выкладчык геаграфіі **Андрэй Іосіфавіч Полінь**. Газета, якая выходзіць у выглядзе невялікіх інфармацыйных лістоў, мае сімвалічную для гэтай навучальнай установы назву — «Фрэскі». Фрэскі — гэта роспіс па вільготнай атынкоўцы, што адлюстроўвае сэнс працы мастака і будаўніка.

*Вось мы і зазірнулі ў маляўнічыя куточкі своеасаблівага горада майстроў. Зазірнулі і зразумелі, што час адкідае ўсё выпадковае, недасканалае, а захоўвае толькі самае каштоўнае і карыснае. Так пошукі і дасягненні асобных выкладчыкаў і майстроў злучыліся ў калектыўнай скарбніцы ведаў і досведу. Той скарбніцы, якая непарыўна папаўняецца новымі дасягненнямі працоўнага калектыву, дапамагае зацікавіць моладзь у атрыманні рабочых прафесій і падрыхтаваць іх на належным узроўні.*

Тамара АЎСЯННІКАВА

# АБНАДЗЕЕНЫЯ ДНІ

***Ды ўжо прашу у дня,
Што наступае,
Ахоўнага і яснага
крыла…***
Я. ЯНІШЧЫЦ

Пры ўважлівым знаёмстве з творчасцю Яўгеніі Янішчыц няцяжка заўважыць, што ў зборнік «У шуме жытняга святла» (1988) аўтар не ўключыла ніводнага верша з кнігі «Дзень вечаровы» (1974). Чаму? Паспрабую разабрацца. Дзм. Бугаёў у артыкуле *«Трыумф і трагедыя» ў адзінаццатым нумары часопіса «Нёман» за 2008 г. піша: «Кнігі, як і людзі, маюць неаднолькавы лёс. На «Снежныя грамніцы» пасля іх выхаду з друку з'явілася больш дзясятка рэцэнзій. А на зборнік «Дзень вечаровы» аператыўная крытыка не адгукнулася»*. Няцяжка ўявіць сабе стан паэта, кніга якога засталася не заўважанай. *«Праўда, паэтэса атрымала за гэтую кнігу беларускую камсамольскую прэмію*, — працягвае далей Дзм. Бугаёў. — *Магчыма, сваю ролю адыгралі тыя абставіны, што паэтэса тады працавала загадчыкам бібліятэкі ў ЦК камсамола Беларусі»*. Мушу заўважыць, што ў бібліятэцы ЛКСМБ Я. Янішчыц працавала ў 1971 г. да ад'езду ў ЧССР, а ў 1976 г. яна была амаль увесь год беспрацоўнай, толькі ў канцы года стала літкансультантам «Сельскай газеты». Аўтар артыкула ўсё ж лічыць, што *«…рашаючым было тое, што паэзія Яўгеніі Янішчыц адрозніваецца сапраўднай таленавітасцю. Такім чынам, прэмія давалася не за кан'юнктурнасць, не за «приспособленческое словословие» (гэтага ў Я. Янішчыц не было), а за шчырасць і глыбіню паэтычнага слова»*.

Канечне, за «шчырасць і глыбіню», за «сапраўдную таленавітасць». Але ж пасля прысуджэння прэміі пачаліся перасуды. Маўляў, другая кніга слабейшая за першую, а ўзнагароду атрымала. Гэтыя перасуды прыпалі на самы цяжкі перыяд у жыцці Жэні. Яшчэ балючай была рана трагічнай смерці бацькі і рана разводу з мужам. У пісьме ад 6 студзеня 1976 г. Жэня напісала: *«Милая Тамарка, здравствуй! Извини, что долго тебе не писала, таким тягостным и трудным для меня было последнее время минувшего года, что врагу, как говорится, не пожелаешь. Но всё окончилось…»*. А 10 лютага 1976 г. у Магілёве Жэня трапіла ў аварыю, пасля якой вучылася хадзіць, шукала ў сабе сілы жыць. І прэмія Ленінскага камсамола Беларусі, атрыманая ў гэтым жа годзе, не прынесла ні радасці, ні матэрыяльнага прыбытку (усе прэміі пералічваліся тады ў Фонд Міру).

Ул. Гніламёдаў у артыкуле «Разглядаючы тайны быцця (Яўгенія Янішчыц)» адзначае: *«У другой кнігі заўсёды ёсць свая асаблівасць: часам здараецца, што на яе паэта не хапае. Пра «Дзень вечаровы» так не скажаш — там ёсць шэраг удалых вершаў. Але кнігай — этапнай кнігай — ён, на мой погляд, не стаў. У лепшым выпадку абазначыў пачатак новай паласы ў творчасці паэтэсы»*.

«Снежныя грамніцы» (1970) сапраўды сталі адкрыццём. Аўтар здзівіла ўсіх сваёй непаўторнай паэтычнай індывідуальнасцю, цнатлівасцю, святлом пачуццяў і вобразаў, любоўю да роднага краю. Але час юнацкіх летуценняў мінуў. У Жэні быў новы жыццёвы, а значыць, і творчы перыяд. Надзеі не спраўдзіліся: *«Я думала: прыйду ў зялёны сад — // «Прыйшла у сад, які увесь барвовы!..»*.

На мой погляд, кнігай «Дзень вечаровы» Я. Янішчыц не толькі замацавала сваю пазіцыю ў паэзіі, захавала сваю непаўторную паэтычную індывідуальнасць, але і пайшла далей. Жыццёвыя варункі паўплывалі на яе светапогляд. У вершах з'явілася больш філасофскай развагі і жыццёвай мудрасці. Любоў Гарэлік у артыкуле «Паэзія суму і святла» («Полымя» № 3, 1996) заўважае:

*«У кнізе «Дзень вечаровы» шырэюць далягляды, узбагачаецца вопыт, раскрываюцца новыя якасці лірычнага характару».*

Другая кніга пісалася замужняй жанчынай, якая шчаслівай сябе адчувала толькі два тыдні пасля вяселля. Таму, пэўна, мы сустракаем радкі: *«Пагас, патух мой ясны дзень», «Мінаюць летуценняў дні, // Наперадзе няясная трывога...»* Менавіта ў перыяд напісання другой кнігі ў жыцці паэта адбыўся душэўны надлом. З’яўляюцца першыя трывожна-трагічныя ноты (*вершы: «З зялёнага Палесся», «Чайка над залівам», «Калі не мне вясну пачуць», «Асіліць мушу перашкоды», «Я сёння святкую сваю перамогу»*). Разам з паэтам і яе лірычнай гераіняй мы чуем, як *«...Зайшлася надоўга над возерам каня // Удовінай песняй...»,* нам разам *«шчыміць»* начамі крык чайкі, якая згубіла сваіх дзяцей *«...і над залівам плача»*. Трывога дасягае найвышэйшай ноты ў радках:

Я і сама паміж вятроў
Уся палёт суровы.

Нягледзячы на перажыванні, трывожнае гучанне некаторых вершаў, другая кніга Я. Янішчыц прасякнута святлом:

Прымі святло,
Што льецца з-пад пяра
і вырастае ў сонца пад рукамі.

Паэт па-ранейшаму адчувае радасць ад еднасці з прыродаю і лёгкасць творчасці:

Я сінюю радасць
вітаю,
Гукаю зялёную ў сны...
І словы з душы вылятаюць,
Як ластаўкі з гнёздаў вясны.

Канечне, ёсць шкадаванне па тым, што было:

Як добра ўсё было!
Няўжо так хутка лета адцвіло?

Але няма трагедыі:

Ўсяму,
што збудзецца, —
вітанне!
Збылося што —
таму паклон!

Жэня стаіць на парозе новага творчага шляху, але, як і заўжды, светлага:

Я выйду зялёным прадвеснем
На першую ўранні расу
І ціхую, новую песню
Да сонца, да зор панясу.

Радасці ў пачуццях і светаўспрыманні ёй дадавала мацярынства, якое яна спазнала ў 1972 годзе, калі нарадзіўся сын Андрэй. Яго Жэня ласкава называла «Люсю».

Спі, мой сыне, спі, мой болю,
Спі, крыло майго жыцця...
Я й сама цяпер з табою,
Як вясёлае дзіця.

Чытаючы «Дзень вечаровы», мы заўважаем, што пачуцці да Радзімы ў Я. Янішчыц набываюць яшчэ больш патрыятычны характар. У яе няма страху «памерці», а ёсць страх «сабой не засланіць» Радзіму. Гэта звязана з тым, што Жэні давялося некаторы час жыць з мужам у Чэхіі, адной з самых прыгожых краін Еўропы. Але там яна сумавала, таму што звязана была з родным краем, нібы пупавінай дзіця з маці. Сустрэча з Бацькаўшчынай напоўніла сэрца радасцю, «...новыя спевы душу... захлінулі...», яна ідзе «...роднаму краю... пакланіцца» і ўпэўнена:

Цяпер,
калі са мной зямля —
Мае палі, мае дубровы,
Я свята верую, што й шлях
Абраны мной,
беспамылковы.

Яўгенія Янішчыц яшчэ не ведае, што яе чакае — «Дарога? Бездараж? Спакой?», але ёй ужо хочацца ведаць: хто яна, што яна значыць для Радзімы:

Хто я ў лясах тваіх,
Радзіма?
Радзіма,
Хто я у палях?

Не менш важным для самой Жэні і яе лірычнай гераіні было ведаць, што значыць яна для каханага:

Скажы,
Скажы мне:
Што я значу
Ў душы разгубленай тваёй?..

Тэме кахання ў кнізе прысвечана каля 15 вершаў. У іх мы не знойдзем той рамантычна-акрыленай гераіні, што была ў «Снежных грамніцах». У іх мы бачым жанчыну, якая спазнала расчараванне, але гатовую жыць, працаваць, ісці далей. У прыродзе ўсё па-ранейшаму: *«Ізноў буяе восень, // ізноў гудуць бары. // Ізноў дажджы прыходзяць, // як даўнія сябры.».* У жыцці гераіні мы бачым змены:

Перабіраю стрэчы…
Заглядваю ў акно…

Але нікога штосьці
ля хаты не відно.
Гуляе толькі восень
па дрогкаму мастку…
І голас твой падобны
апаламу лістку.

Паэт разам са сваёй гераіняй разумее, што няма патрэбы вяртаць страчанае:

Збылося што — не мінаваць!
Між намі шлях святла і ценяў.
Нашто, забыўшыся, вяртаць
Кароткі пошум летуценняў?

У любоўнай лірыцы звычайна героі перажываюць, што іх разлюбілі, пакінулі. У Я. Янішчыц наадварот, разлюбіла сама гераіня, хаця і цепліць надзею:

Нашто захмурваць галаву
І думаць, што яшчэ кахаю…
Але, наіўная, заву!
Але, трывожная, шукаю!

Яе лірычная гераіня спазнала *«...міг пакаяння // і міг, які баліць // За ўчынкі і за сказаныя словы, // Што не вырваць, // не забыць // і не спаліць...»* і адчувае не толькі свой боль, але і боль некалі каханага чалавека:

Галоўнае,
Што боль твой
Жыве ў маёй душы .

Значнае месца ў творчасці паэта займае верш «Памяці Ёзаса Янішчыца». Ёзас Янішчыц — першы муж Жэнінай маці, які не вярнуўся з вайны, а прозвішча бацькі — Патапчук.

Мне як памяць адзіная
Ад журботных удоў —
Ваша прозвішча дзіўнае
З латышскіх стралкоў.

Прысвячаючы верш кожнаму чацвёртаму беларусу, які загінуў у гады Вялікай Айчыннай вайны, Жэня адчувала адказнасць за прозвішча, якое насіла:

Расстралянаму прозвішчу
Абяцаю жыццё.

Сваё абяцанне Жэня выканала. У кожнай кнізе паэта ёсць вершы, звязаныя з вайной. Яна не бачыла вайны, але ж дзіцячая памяць назаўсёды зберагла яе адгалоскі. У Жэні быў свой асобы падыход да гэтай тэмы, якую яна магла вызначыць адною фразаю, як у вершы *«Славацкі снег. Памяці Змітрака Астапенкі»:*

Ды ўжо на белы снег нясмела
Хіснуўся ранены паэт.

Не засталася Я. Янішчыц убаку і ад ваенных падзей, якія адбываліся ў Чылі.

…Гарыць касцёр дзесь у далёкім Чылі,
А іскры далятаюць да мяне!

Уражвае карціна расправы над песняром і яго гітарай у вершы *«Песня Віктара Хара»*:

…Пяць пальцаў не баляць —
яны ляжаць
Асобна…
За горла падвешана гітара,
Як асоба.
І побач з ёю — яе ўладар —
Пясняр бязрукі…
Нібы удар,
цяжкі удар —
Нясуцца гукі.

Жэню кранալі лёсы паэтаў, якія загінулі маладымі. Вельмі шчымлівым атрымаўся верш «*Салаўі»* памяці дваццацідвухгадовага Лёні Якубовіча.

Не ведала, не ведала, калі…
А думала
Зялёным тым прадвеснем:
Калі мае замоўкнуць салаўі,
То над тваімі —
Столькі многа песень!

У кнізе «Дзень вечаровы» Я. Янішчыц упершыню звяртаецца да сацыяльнай праблемы вёскі. Праблемы, калі сялян не адпускалі ў горад — не давалі выпіскі.

Кажа маці: «Сёння дзеці — госці.
Нездарма мясцовы сельсавет
Так баіцца выпісак.
Хоць злосці
Ўжо нажыў на цэлы божы свет…

Паэт тут не пратэстуе, а толькі абазначае праблему і выказвае адносіны вяскоўцаў да гэтай праблемы. Носьбітам адносін стала маці. С. У. Калядка, аналізуючы першыя дзве кнігі Я. Янішчыц, слушна заўважае: *«Яе лірычнае, мяккае слова не набыло публіцыстычнага напалу і выкрывальнай энергетыкі… Гэта таленту Я. Янішчыц не патрабуецца, у такой іпастасі яна чужая».* Сапраўды так, Жэня — паэт-лірык, а не трыбун. І патрабаваць ад яе палітычна выражанай паэзіі было нельга.

Варлен Бечык называе другую кнігу «*цікавай і таленавітай*», але ёй не хапае, на яго погляд, *«...арганічнага суладдзя: то фарсіравалася форма, то спеў не дасягаў глыбінь, непасрэднасць знікала, а глыбіня не давалася».* Згодна. Кніга цікавая і таленавітая. А вось фарсіравання формы не бачу. На 59 вершаў —

адзін верлібр і рубаі (6 чатырохрадкоўяў). Тым больш, што форма не выглядае штучнай у адносінах да зместу, а наадварот. У Жэні ўсяго тры верлібры. У кнізе «Дзень вечаровы» мы знаёмімся з першым — *«Хацела Вам сказаць я»*. Другі сустрэнем у кнізе «Ясельда» (1980) — *«Калі маўчыць тэлефон»*, трэці — у кнізе «Каліна зімы» (1987) — *«На ўсякі выпадак»*. Апошні, трэці, — верш-наказ сыну. Форма верлібра вельмі спрыяе перадачы філасофскага зместу і пачуццяў, якім цесна ў межах рыфмаваных радкоў.

Да вершаванай формы рубаі, распаўсюджанай у народаў Усходу, аўтар звяртаецца толькі ў другой кнізе.

Садралі белую кару
З бярозкі юнай не ў пару.
Здаецца мне, што не бяроста,
А я у полымі гару.

Колькі ж трэба пераЖЫЦЬ, каб прыйсці да такой асацыяцыі!

*«Спеў не дасягаў глыбінь, непасрэднасць знікала, а глыбіня не давалася»*, — гаворыць В. Бечык. Калі што і знікала, то не «непасрэднасць», а наіўнасць, якая была ўласціва Жэні напачатку, калі яшчэ не была яна *«...сямейнай картай бітая, // і дарогай стаўпавой...»*. Магчыма, у душы паэта і не было суладдзя, але ў кнізе ёсць. І глыбіня ёсць. Дастаткова ўчытацца ў кожны верш і задумацца. Я ўпэўнена, што калі б Варлен Бечык меў магчымасць сёння перачытаць «Дзень вечаровы», ён па-іншаму б ацаніў гэтую кнігу.

Карані чалавечай існасці Яўгеніі Янішчыц, глыбіня яе пачуццяў там, дзе нарадзілася:

Ў маёй глушы і звер —
                    уся паслушнасць.
Уся празрыстасць — тоненькі ручэй.
Ніхто
    ніколі
        тут
            да раўнадушша
Не апускаў ні сэрца,
                ні вачэй.

Паэт толькі тады паэт, калі паэзія для яго становіцца жыццём, калі не пісаць ён не можа. Жэні было наканавана быць паэтам. Падсвядома, а можа, і свядома яна гэта адчувала:

Яшчэ няма мяне.
                Аднак
У залатым разнагалоссі,
Нібы узрушаны мастак,
Мой першы след
                малюе восень.

Разумеючы сваё прадвызначэнне, сваю еднасць з песняю, паэт просіць яе: *«Ступай са мною, песня, // На камень і касу...», «Са мною, песня, разам // Пакутуй і мудрэй...», а «Калі ўпаду, не ўстану, — // Ідзі адна далей!»* Жэня гатова ўступіць у новы этап свайго жыцця і творчасці. Ёй ужо *«...сярэбраныя чуюцца падковы // Абнадзеенага // заўтрашняга // дня»*. Яна ўпэўнена, што зможа «асіліць ...перашкоды...», але адчувае неабходнасць у падтрымцы, за якой звяртаецца да прыроды, таму што сама Я. Янішчыц — дзіця гэтай прыроды. Яна просіць аберагаць яе «Ад позы лішняе і слоў...» да таго часу, пакуль не стане *«...памяццю зялёнай // Ля ясяльдзянскага сяла»*.

Просіць у дня, а значыць, і ў нас, *«...ахоўнага і яснага крыла»*.

Паэзія Яўгеніі Янішчыц багатая мастацкімі сродкамі. Амаль кожны з іх — асабістая знаходка паэта. Тропы вясёлкай рассыпаліся па старонках кнігі «Дзень вечаровы», пачынаючы з яе назвы. Вечар у яе «салодкі», сады «зажураныя», дзень «стомлены», «росы гарачыя», летуценні «думныя», далягляд «незваротны», поза «шэранькая», цішыня «мудрая», «удумак вечаровы», трывога «няясная», здрада «чорная», гады «неразгаданыя», дні «абнадзееныя», сама яна — «непазбежная»; зіма заткала ёй снег «на падарунак», восень малюе яе «першы след», чарнавікі заблішчаць «слязой ці першаю расою», вясенняя вада «сакоча», задума «спела», ранак «залачаў»; «душа падобна высям, а высі — светлым журавам», шлях, «як ніць», аблачынка ў яе плыве «яснымі вочкамі сына».

«Дзень вечаровы» — кніга высокай паэзіі. Трэба толькі ўважліва чытаць. Шкада, што Жэня так балюча ўспрыняла папрокі і крытыку ў адрас другой кнігі і ніводнага верша з яе не ўключыла ў зборнік «У шуме жытняга святла». Дзякуй вялікі Але Канапельцы і Валянціне Коўтун. Яны часткова паправілі сітуацыю. 17 вершаў з кнігі «Дзень вечаровы» ўвайшлі ў зборнік «Выбранае» (Мінск: Маст.літ., 2000).

Выдаткі творчага плёну на працягу жыцця неаднолькавыя. У каго яны роўныя? Кнігу «Дзень вечаровы», на мой погляд, трэба разглядаць як адпаведны і значны этап у творчасці Яўгеніі Янішчыц, як этап яе жыццёвых перажыванняў і перажыванняў яе лірычных герояў. Многія вершы паэта не маюць часавых межаў, таму што пачуцці герояў складаюць вечную тэму, а значыць, і вершы вечныя.




# ПАЯДНАННЕ МАСТАЦКАСЦІ І ПАПУЛЯРЫЗАЦЫІ

**Бадак, А. М.**
***Птушкі: заалагічныя эцюды / Алесь Бадак; фотаздымкі: А. М. Бадак [і інш.] — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 96 с.: іл. — (Серыя “Усім пра ўсё”).***

Перабіраючы старыя газетныя выразкі, наткнуўся на пажоўклы нумар «Советской России», дзе прачытаў словы расійскага вучонага, пісьменніка, гісторыка старажытнарускай літаратуры Дзмітрыя Сяргеевіча Ліхачова, якія ён агучыў на Маскоўскім Форуме за бяз’ядзернае чалавецтва: «Слова дадзена чалавеку, каб ён быў абаронцам і жывёл, таму што жывёлы маюць свае правы. Маюць правы і расліны. Мае правы ўсё жывое. Я прапанаваў, каб юрысты падумалі пра стварэнне кодэкса правоў жывёл».

Сапраўды, слова — інструмент у клопатах чалавека па выратаванні прыроды ад разбуральных працэсаў. У апошнія гады ў беларускай дзіцячай літаратуры з’явілася нямала кніг, асобных твораў, дзе па-мастацку, часам з завостранай публіцыстычнасцю вырашаюцца прыродазнаўчыя, экалагічныя тэмы. Дастаткова згадаць імёны празаікаў П. Васючэнкі, Л. Рублеўскай, Р. Баравіковай, А. Масла, В. Гардзея і інш. Чытацкі розгалас, станоўчыя рэцэнзіі займелі калектыўныя зборнікі «Чырвоная кніга ў казках і вершах», «Лясная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў», «Блакітная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў», выдадзеныя РВУ «Літаратура і Мастацтва». Асобнай бібліятэкай вылучаецца серыя «Усім пра ўсё»: «Расліны», «Жывёлы», «Птушкі». Аўтар у іх адзін — паэт, празаік Алесь Бадак. Выйшлі кнігі ў 2008—2010 гады. Апошняя па часе — «Птушкі», пра яе і хацелася б пагаварыць.

Алесь Бадак задумаў і ажыццяўляе цікавы па творчай канструкцыі мастацкі праект. Пісьменнік імкнецца стварыць інфармацыйна насычаныя зборнікі. Але ж і абсягі выбіраюцца бязмежныя. Напрыклад, у свеце, на нашай планеце прыблізна 8600 відаў птушак. І як жа пра ўсіх іх расказаць у адной кнізе. Да таго ж нават пераказ цікавай інфармацыі патрабуе асаблівай падрыхтоўкі, вывучэння істотнай бібліятэкі хаця б папулярнай, пазнавальнай літаратуры па тэме. А. Бадак, дбаючы пра грунтоўнасць, сур’ёзнасць аповеда, выбраў форму стасункаў з юным чытачом. Кніга пра птушак — кніга эцюдаў, замалёвак, дзе кожны з твораў адказвае на пэўнае пытанне. Якімі былі старажытныя птушкі? Навошта птушкам пер’е? Ці праўда, што ў свеце ёсць птушкі, якія крадуць свіней? Пра чыіх птушанят Арыстоцель гаварыў, што іх карміцельцы ненавідзяць уласных дзяцей? Дзе сустракаюцца куры, якія жывуць на дрэвах? Ці праўда, што галубы разбіраюцца… у мастацтве? Ці можна зразумець птушыную мову?..

І другое правіла, якое ўзяў на ўзбраенне Алесь Бадак, — стварыць у кнізе мастацкую, літаратурную прастору ў межах абранай тэмы. Так у зборніку з’явіліся казкі, кароткія апавяданні, невялікія абразкі — «Шпак і чароўная дудачка», «Варона-гультайка», «Шкадаванне», «На досвітку», «Нота “мі” для Кваквы», «Белы Пеўнік», «Няўдалыя “артысты”»…

Гэтыя асноўныя фундаментальныя адметнасці і спрыяюць фарміраванню пры-

цягальнай для юнага чытача прыродазнаўчай кніжнай прасторы. З вялікай любоўю пісьменнік расказвае пра сваіх герояў. Зборнік складаецца з наступных раздзелаў: «Падарожжа ў глыбіню стагоддзяў», «Як? Чаму? Навошта?», «Птушыная планета», «Крылатыя суседзі», «Свае сярод нас». У першым з іх аўтар дапамагае чытачу ажыццявіць падарожжа ў часы, якія даўным-даўно мінулі, стараецца сканструяваць партрэт прыроды мінулых тысячагоддзяў. І пытанне адразу задае істотнае, разлічанае на інтрыгу: «Ці заўсёды птушкі былі… птушкамі?» Так, пісьменнік нагадвае, што «далёкія продкі птушкі не ўмелі лятаць. На думку вучоных, птушкі паходзяць ад старажытных паўзуноў, якія калісьці далі пачатак не толькі ім, але і млекакормячым…» Уся кніга, кожны з нарысаў, твораў, якія ўвайшлі ў зборнік, ілюстраваны. Гэтая адметнасць вылучае кнігу сярод падобных выданняў, дазваляе яе шырока выкарыстоўваць на школьных уроках.

Разглядаючы «Птушкі» Алеся Бадака, не магу не вярнуцца да слоў Дзмітрыя Ліхачова. Вось якім перакананнем ён кіраваўся, праводзячы ідэю асаблівай чалавечай увагі да насельнікаў жывёльнага, птушынага царстваў: «Павінен быць складзены кодэкс правоў жывёл. Бо жывое валодае сваімі правамі. Чалавек абавязаны абараняць правы жывёл, незалежна ад таго, патрэбны яны яму ў яго гаспадарцы ці не. Дэльфіны, кіты, сланы, сабакі — думаючыя, але такія істоты, што не валодаюць словам. За іх чалавек абавязаны гаварыць, пісаць, нават судзіцца. Спажывецкія адносіны да жывога ў свеце амаральныя».

Аўтар кнігі «Птушкі» праз свае нарысы, замалёўкі, апавяданні выбудоўвае пэўную філасофію адносін да прыроды, імкнецца развіць у юнага чытача любоў да прадстаўнікоў птушынай планеты. Сойка, белая чапля, сініца, ластаўка, калібры, страусы — як іх не любіць, нават калі вы іх жыўцом, непасрэдна не бачылі?! Алесь Бадак знаходзіць такія словы, вымалёўвае такія вобразныя мастацкія партрэты, што часам здаецца: вось-вось ціхенька пагрукае ў вакно сініца, альбо раптам заляціць у фортачку папугай. Ды не абы-які, а кеа ці какапо. Дарэчы, першы з іх жыве, гадуе дзяцей на вышыні двух кіламетраў над узроўнем мора. Многія абразкі А. Бадака, якія змешчаны ў кнізе «Птушкі», пабудаваны на супрацьпастаўленні. Нягледзячы на невялікі памер твораў, пісьменнік паспявае выкласці ў іх дастаткова цікавай інфармацыі, стараецца і акрэсліць тую ці іншую думку для чытацкіх разваг.

Між іншым, хаця ў беларускай дзіцячай літаратуры, як мы ўжо гаварылі, прыродазнаўчай тэматыцы надаецца вялікая ўвага, Алесь Бадак сваімі кнігамі з аўтарскай серыі «Усім пра ўсё» выбудоўвае свой арыгінальны шлях. Вывучыўшы абраную тэму як мага шырэй, пісьменнік вядзе нязмушаную размову, стараецца выявіць сябе не толькі як майстар мастацкай прозы, але і як дасведчаны публіцыст, папулярызатар прыроды. Напрыканцы XIX — пачатку XX стагоддзя ў рускай літаратуры актыўна працаваў наш зямляк — ураджэнец Полацка Дзмітрый Нічыпаравіч Кайгародаў (1846—1924). Фенолаг, арнітолаг, педагог, ён шмат пісаў для дзяцей, склаў феналагічныя карты вясенняга прылёту птушак. Пабачылі свет асобныя кнігі Дз. Кайгародава «Нашы зімовыя пярнатыя госці», «Пра даўганогіх і даўганосых птушак», «З царства пярнатых. Папулярныя нарысы з свету рускіх птушак» (зборнік вытрымаў 6 выданняў). «Пра школьныя феналагічныя назіранні» і інш. Алесь Бадак настойліва засвойвае дзялянку папулярызацыі, якая была патрэбная ў розныя часы, якая надзвычай патрэбная і зараз.

На вокладцы кнігі «Птушкі» змешчана рэкламная падказка для чытача: у серыі «Усім пра ўсё» запланаваны «Насякомыя» і «Рыбы». Будзем чакаць. А яшчэ відавочным падаецца і наступны выдавецкі клопат. Чаму б не перавыдаць ранейшыя кнігі Алеся Бадака — «Расліны» і «Жывёлы»? Папярэдні іх тыраж разышоўся літаральна імгненна.

***Мікола МІРШЧЫНА***

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## МАЛАДЗЕЧАНСКІ РАЁН

* * *

**Вуліца Савецкая**

Перад Домам культуры ў 1982 г. быў устаноўлены новы помнік **Купалу Янку. Рыльскі Максім** напісаў верш «Помнік Янку Купалу»:

Каля шашы, дзе ліпы зацвілі...
Ён, хто не знаў спакою і спачыну,
На Вязынку глядзіць праз далячыні,
Дзе першыя маленства дні пражыў...

*(Рыльскі М. Світальная зара. Мн., 1985. С. 84).*

**Вуліца Тарашкевіча, 16**

На тэрыторыі бальнічнага комплексу (на месцы колішняга замка) захаваўся дом яго жонкі Веры Андрэеўны Ніжанкоўскай, дзе ў 1923—1931 гг. бываў і працаваў **Тарашкевіч Браніслаў**, грамадскі дзеяч, філолаг і літаратар, ураджэнец засц. Мацюлішкі Віленскага пав. (цяпер Вільнюскі р-н., Літва). У 1972 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка. **Ніжанкоўская Вера** (21.2.1901—7.5.1998), ураджэнка в. *Кальзберг* Мінскага р-на, пакінула пра свайго мужа ўспаміны.

**Вуліца Чарнышэвіча, 4**

Дом, дзе ў 1957—1961 гг. жыў **Чарнышэвіч Алесь**, пісьменнік, ураджэнец в. *Кулакі* Салігорскага р-на. На доме ў 1977 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

* * *

**Белы Сымон,** пісьменнік, педагог, пляменнік **Коласа Якуба**, жыў у Радашковічах, працаваў настаўнікам. Аўтар успамінаў пра свайго дзядзьку, апавяданняў.

**Драздовіч Язэп,** мастак, пісьменнік, ураджэнец засценка *Пунькі* (цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.) у 1926-1927 гг. жыў у Радашковічах. Выкладаў маляванне і кіраваў мастацкай студыяй пры беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны.

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г. № 1, 2 за 2011 г.

**Капуцкага Андрэя** (2.5.1897—17.5.1934), беларускага грамадскага дзеяча, пісьменніка, публіцыста, радзіма. Нарадзіўся ў сям'і рамесніка. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі. Уваходзіў у ЦК КПЗБ. Неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі. З канца 1920-х гг. у БССР. У 1931 г. скончыў Камуністычны ўніверсітэт Беларусі. Працаваў загадчыкам сектара друку ЦК КПБ, выконваў абавязкі галоўнага рэдактара газеты «Савецкая Беларусь». Пад псеўданімам Язэп Пралеска выдаў зборнік апавяданняў «Паноў трэба знішчаць гуртам» (1932).

Аграномам калгаса імя Янкі Купалы ў 1968—1971 гг. працаваў пісьменнік **Корзун Мікола**, ураджэнец в. *Заўшыцы* Салігорскага р-на.

12.7.1882 г. у Радашковічах у касцёле Найсвяцейшай Тройцы, заснаваным у 1447 г., а вымураваным у 1855—1860 гг., быў хрышчаны Іван Луцэвіч (будучы паэт **Купала Янка**). Кумамі былі Іосіф Бандарэвіч і Алімпія Замбржыцкая. У 1903 г. будучы паэт працаваў у Радашковічах некалькі месяцаў хатнім «дырэктарам», а потым пісарам у судовага следчага Адруцкага. 15 жніўня 1913 г. Купала ў памяшканні пажарнай аховы глядзеў камедыю «Паўлінка», пастаўленую ўпершыню на беларускай зямлі калектывам Мінскага драмгуртка. Аб гэтай падзеі 5 верасня 1913 г. напісала «Наша ніва» (Явар Мікола. «Беларуская вечарына ў Радашковічах»). Хрышчэнню паэта прысвяціў верш «Споведзь» **Дашкевіч Вячаслаў** (у яго кн.: «Загадка Атлантыды», Мн., 1983).

**Лявіцкай Ванды** [13.(25).9.1895—8.12.1968], паэтэсы, празаіка, радзіма. Адзіная дачка пісьменніка Ядвігіна Ш. З 1897 г. сям'я жыла ў в. Карпілаўка (за 20 км ад Радашковіч). Скончыла вышэйшае пачатковае вучылішча ў Радашковічах (1914). Рыхтавалася здаць экзамены на званне настаўніцы сельскай школы, але пачалася вайна. З 1914 г. жыла ў Мінску. Працавала ў «Беларускай кнігарні», бібліятэцы імя А. Пушкіна, карэктарам «Сахі», «Лучынкі». Летам 1916 г. — выхавацелька ў дзіцячым прытулку ў в. Карпілаўка і Ратамцы. З лета 1917 г. працавала ў Мінскай беларускай школе. У 1917 г. выйшла замуж за **Лёсіка Язэпа**. Пасля арышту мужа (1930) жыла ў Ліпецку, пасля яго смерці — у дзяцей. Друкавалася ў «Нашай ніве», газетах «Вольная Беларусь». Аўтар успамінаў пра свайго бацьку. Памерла і пахавана ў пас. Татарка Стаўрапольскага краю.

**Марціноўскага Антонія** (10.7.1781—3.1.1855), польскага рэдактара-выдаўца, публіцыста, радзіма. Скончыў Віленскі ўніверсітэт. У 1816—1822 гг. — адзін з рэдактараў сатырычнага часопіса «Wiadomości Brukowe» («Вулічныя паведамленні»). Рэдагаваў і выдаваў ў 1817—1839 гг. газету „Kurier Litewski» («Літоўскі веснік»), у 1819—1830 гг. — першы ў Літве і Беларусі навукова-літаратурны часопіс „Dziennik Wilenski» («Віленскі дзённік»). Аўтар прац па педагогіцы, публіцыстычных артыкулаў. Ажыццявіў каля 400 выданняў па сельскай гаспадарцы, гісторыі, астраноміі, філасофіі, літаратуры, этнаграфіі і інш.

У 1920-я гг. у мясцовай гімназіі вучыліся **Мілюць Алесь, Міско Язэп, Танк Максім** і іншыя беларускія пісьменнікі.

З 1923 г. выкладчыкам лацінскай мовы і дырэктарам Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны працаваў **Стацкевіч Фелікс,** мемуарыст, педагог, выдавец, ураджэнец г. *Шчучына* Гродзенскай вобл.

**Чарнышэвіч Аркадзь** (8.8.1912—18.1.1967), пісьменнік, ураджэнец в. *Кулакі* Салігорскага р-на, з 1954 да 1961 г. жыў у Радашковічах. Друкаваўся на старонках радашковіцкай раённай газеты «Сцяг Ільіча», маладзечанскай абласной «Сталінскі шлях», маладзечанскага альманаха «Нарач». Быў кіраўніком маладзечанскага літаратурнага аб'яднання. У Радашковічах напісаў шэраг сваіх празаічных і публіцыстычных твораў. На доме, дзе пісьменніку выдзелілі кватэру (вул. Чарнышэўскага, 4), устаноўлена мемарыяльная дошка.

**Шчупака Юзі** (сапр. Сайкоўскі Язэп; 1890—1936), паэта, публіцыста, культурнага дзеяча, мастака-прыкладніка, радзіма. Паходзіў са шляхецкага роду. Скончыў Радашковіцкае гарадское вучылішча. Працаваў мулярам. Выконваў мазаічныя работы. Пісаў вершы ў «Нашу ніву», нататкі пра культурнае жыццё. Пахаваны на мясцовых могілках.

У 1891—1897 гг. у Радашковічах працаваў памочнікам аптэкара **Ядвігін Ш.,** (сапр. Лявіцкі Антон), празаік, ураджэнец в. *Добасна* Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл. У мястэчку наладжваліся тады літаратурныя вечары. Антон Лявіцкі чытаў на іх вершы Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча. У 1893 г. ён піша камедыю «Злодзей» з намерам паставіць яе сіламі гурткоўцаў. Але павятовы пракурор забараніў паказваць п’есу, якая не прайшла цэнзуру ды яшчэ напісана на непрызнанай беларускай мове. Праз некаторы час з-за хваробы лёгкіх Лявіцкаму давялося па парадзе ўрача адмовіцца ад работы ў аптэцы. У 1894 г. ён ажаніўся з Люцыяй Гнатоўскай, якая займалася шытвом у Радашковічах. У 1978 г. на месцы, дзе жыў пісьменнік, быў адкрыты памятны мемарыяльны знак.

**Янкоўскі Фёдар** (21.9.1918—13.11.1989)**,** мовазнавец, ураджэнец в. *Клетнае* Глускага р-на Магілёўскай вобл., у 1948—1951 гг. выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Радашковіцкай СШ. Запісваў мясцовы фальклор.

**Вёска Ракуцёўшчына** Красненскага сельсавета

Аб прабыванні тут **Багдановіча Максіма, Луцкевіча Антона** і іншых дзеячаў беларускай культуры падрабязна гаворыцца ў кнізе **Каханоўскага Генадзя** «А сэрца ўсё імкнецца да бацькоўскага краю…» (Мн., 1991). У ракуцёўскім фальварку Вацлава Лычкоўскага Максім Багдановіч, паэт, перакладчык, літаратуразнавец, празаік, ураджэнец *Мінска*, летам 1911 г. займаў асобны пакойчык, які выходзіў вокнамі ў сад. На працягу двух месяцаў паэт працаваў над зборнікам вершаў «Вянок». У Ракуцёўшчыне былі створаны цыклы вершаў «Старая Беларусь» і «Места», паэмы «Вераніка» і «У вёсцы», санет «Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі…». Хата перабудавана. На ёй летам 1985 г. устаноўлена мемарыяльная дошка. У самой вёсцы стараннямі **Ляшковіча Вячаслава** ў 1978 г. адкрыты мемарыяльны знак. У 1981 г. у вёсцы быў закладзены Максімаў сад у гонар М. Багдановіча. У 1991 г. адкрыты філіял Літаратурнага музея Максіма Багдановіча «Фальварак Ракуцёўшчына», куды ўключаны былая сядзіба Лычкоўскіх (Дамок арандатара, гумно), адноўленая паводле ўспамінаў, Максімава крынічка, навакольная тэрыторыя. Штогод летам у Ракуцёўшчыне праводзяцца паэтычныя святы.

Вёсцы і паэту прысвяцілі свае вершы **Бічэль Данута** («Ракуцёўшчына 23 чэрвеня 1985»), **Шніп Віктар** («Ранак у Ракуцёўшчыне»), **Макаль Пятрусь** («Максімаў сад»), **Тарасюк Люба** («Крыніца ў Ракуцёўшчыне»), **Пазнякоў Міхась** («У Максімавым садзе») і інш.

**Вёска Селеўцы** Хоўхлаўскага сельсавета

**Зянько Уладзіміра** (1926—1987), паэта, фалькларыста, радзіма. Скончыў некалькі класаў польскай пачатковай школы. Працаваў шафёрам, слесарам-інструментальшчыкам у лакаматыўным дэпо Маладзечна, атрымаў там як рацыяналізатар прэмію імя К.Заслонава. Уваходзіў у літаратурнае аб’яднанне «Купалінка» пры «Маладзечанскай газеце». У друку выступаў пад псеўданімам Уладзімір Верасень. Аўтар паэмы «Беларуская трагедыя». Склаў зборнік «Спадчына маёй маці» (1993). Унікальнасць яго заключаецца ў тым, што ўвайшлі ў яго песні, запісаныя ад адной і той жа асобы (маці Зосі Сымонаўны) і ў адной і той жа вёсцы.

**Вёска Удранка** Радашковіцкага сельсавета

Пасля вайны летам тут адпачываў **Колас Якуб**. Жыў у хаце Шунейкаў.

**Вёска Хажова,** цэнтр сельсавета

У 1911 г., пасля турмы, **Колас Якуб** заязджаў сюды да Мацвея Цярэшкі, селяніна, удзельніка рэвалюцыйнага руху, з якім сядзеў разам у мінскай турме. Потым перапісваўся з яго сынам Пятром. Адна з вуліц вёскі носіць імя Якуба Коласа.

**Вёска Хоўхлава,** цэнтр сельсавета

Тут у сярэдзіне 1560-х гг. жыў у маёнтку магнатаў Кішкаў **Будны Сымон**, гуманіст, асветнік, філосаф, гісторык, філолаг і рэлігійны рэфарматар. У 1976 г. на сярэдняй школе ўстаноўлена ў яго гонар мемарыяльная дошка. Імем Буднага названа ў вёсцы вуліца.

**Вёска Цюрлі**, цэнтр сельсавета

**Купала Янка** наведваў вёску ў 1906-1907 гг. па дарозе ў Яхімоўшчыну.

**Вёска Юраўшчына,** да 1976 г., пасля хутар у Маркаўскім сельсавеце

**Сергіевіча Юльяна** (23.9.1910—4.10.1976), паэта, самадзейнага мастака, радзіма. У 1921—1923 гг. вучыўся ў беларускай школе ў Ленкаўшчыне, дзе яго настаўнікам быў М. Абрамчык. У 1939 г. трапіў у палон да немцаў. Вярнуўшыся, працаваў у вёсцы настаўнікам, у калгасе. Быў рэпрэсіраваны. Друкаваўся на старонках літаратурнага альманаха «Рунь веснаходу» (Вільня, 1928), у часопісах «Маланка», «Шлях моладзі», падрыхтаваў да друку зборнік вершаў, які меўся выйсці ў 1939 г. у Вільні, але перашкодзіла вайна. Пахаваны на могілках у в. Ленкаўшчына.

**Вёска Ярмакі** Хоўхлаўскага сельсавета

**Гарановіча Віталя** (н. 7.1.1952), паэта, радзіма. Скончыў філфак Мінскага педагагічнага інстытута. Працаваў у друкарні выдавецтва «Вышэйшая школа», настаўнікам, дырэктарам сельскіх школ. Цяпер — дырэктар сярэдняй школы № 3 г. Глыбокае. Аўтар зборнікаў вершаў «Дзвіна» (1992), «Беразвечча» (1997), «Саракі» (2007).

**Вёска Яхімоўшчына** Палачанскага сельсавета

Тут у 1906—1907 гг. **Купала Янка** працаваў на бровары землеўладальніка Аляксандра Любанскага памочнікам вінакура (будынак спіртзавода. Узведзены ў 1890 г., захаваўся да нашага часу). У Яхімоўшчыне ён пазнаёміўся з настаўнікам А. Посахам, які потым завёз творы Купалы Максіму Горкаму ў Італію. У 1959 г. на будынку канторы саўгаса «Яхімоўшчына», у 1965 г. — на мясцовым доме культуры, а ў 1982 г. на хаце, у якой жыў паэт, устаноўлены мемарыяльныя дошкі. Вядома, што ў Яхімоўшчыне Купала напісаў вершы «А хто там ідзе?», «Ворагам Беларушчыны», «З песень нядолі», «Што ты спіш?», паэму «Нікому», завяршыў работу над сваім першым зборнікам вершаў «Жалейка». У гэтай вёсцы ён пачуў шмат казак, легенд, расказаў аб праўдзівых здарэннях. У аснову паэмы «Нікому» леглі пачутыя ад жыхара вёскі В. Парфёна ўспаміны з часоў прыгону. Тут ён з рук вясковага настаўніка атрымоўваў лістоўкі, рэвалюцыйныя пракламацыі. Па ўспамінах рабочых, паэт запомніўся ім як «добры, шчыры і культурны чалавек». Старажылы ўспаміналі яго так: «Быў ветлівы, вясёлы. Не цураўся кампаніі. Дарыў алоўкі, кнігі».

**Купалы Янкі літаратурнага музея філіял «Яхімоўшчына»**

Заснаваны 24.1.1997, адкрыты 30.5.2001. Пл. 101,4 $м^2$. У 1998 г. праведзена рэстаўрацыя хаты, распрацавана экспазіцыя (мастак Г. Чысты). Адноўлены інтэр’ер хаты XIX ст., дзе жыў паэт, яго пакоя-кабінета, «мемарыяльнага пакоя». Традыцыйна 7 ліпеня тут праводзяцца святы, прысвечаныя дню нараджэння Купалы.

**Мартыненкі Уладзіміра,** беларускага празаіка, радзіма. У 2002 г. жыў у Англіі, працаваў у беларускім самадзейным тэатры г. Аманфорд. Лідар літаратурнага аб’яднання «Класіка XXI стагоддзя». Аўтар кнігі «Катуй мяне, ратуй мяне…» (2002). Па просьбе яго сястры Ганны з Яхімоўшчыны ў газеце «Голас Радзімы» былі надрукаваны яго фатаграфія і апавяданне «Сэрца».

# МІНСКІ РАЁН

**Пасёлак Азярышча** былога Каладзішчанскага сельсавета, цяпер у межах Мінска.

**Дашкевіч Таццяны** (н. 1.9.1968), рускай і беларускай пісьменніцы, журналіста, радзіма. Бацька, Мікалай, працаваў інжынерам на Мінскім трактарным заводзе, маці, Яўгенія, паходзіла з сасланых на Амур беларусаў, была доктарам у шпіталі інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны ў Бараўлянах, вызначалася літаратурнымі здольнасцямі. Пасля заканчэння ў Мінску сярэдняй школы Т. Дашкевіч у 18 год паступіла ў Літаратурны інстытут імя Максіма Горкага ў Маскве (семінар паэзіі Льва Ашаніна). Закончыўшы яго, працавала ў рэдакцыях часопісаў, вяла Літаратурную майстэрню ў Маскоўскім універсітэце культуры. У 2000 г. вярнулася на радзіму разам з мужам, пісьменнікам Шыпілавым Мікалаем. Першыя вершы надрукавала ў мінскай шматтыражцы «Трактар» (1984). Аўтар паэтычных зборнікаў «Ля люстэрка» (1993), «Міранка» (М., 2002), біяграфіі ў серыі «ЖВЛ» «Фацьянаў» (М., 2004), «Жыцце святой блажэннай Валянціны Мінскай» (у сааўт. са святаром Фёдарам Крываносам, 2007), кніг для дзяцей «Голас ангела» (2004), «Пацярпі крышачку» (2006), «Ільюшыны імяніны» (2008), песенных аўдыё-альбомаў «Адвядзі мяне ў храм», «Вясковы ангел», «Мама» (уласныя песні выконвае сама). У многіх творах беларуская тэматыка займае дамінуючае месца. Узнагароджана прэміямі Расійскай Федэрацыі: «Разумнае сэрца» імя Андрэя Платонава — за падборку вершаў «Яе любоў суседнічала з сумам…»; «Імперская культура» імя Эдуарда Валодзіна — за кнігу ў серыі ЖВЛ «Фацьянаў»; «Залаты грамафон» — за песню «З днём нараджэння, мама!» (муз. Дзмітрыя Малікава). Перакладае на рускую мову вершы беларускіх паэтэс. Цяпер пражывае ў вёсцы Валяр'янава Мінскага р-на ў хаце бацькоў.

**Вёска Акалонія** Сенніцкага сельсавета цяпер у межах г. Мінска

**Маракова Валерыя** (27.3.1909—7.5.1940), паэта, радзіма. Скончыў Мінскі педінстытут (1934). Працаваў мулярам. Настаўнічаў у Бабруйску. Друкаваўся з 1925 г. Аўтар кніг паэзіі «Пялёсткі» (1926), «На залатым пакосе» (1927), «Вяршыні жаданняў» (1930), «Права на зброю» (1933). Пераклаў на беларускую мову творы М. Галоднага, П. Тычыны, А. Новікава-Прыбоя. У 1936 г. рэпрэсіраваны. Рэабілітаваны ў 1956 г. Біёграфам паэта выступіў яго пляменнік Маракоў Леанід.

**Вёска Астрашыцкі Гарадок,** цэнтр сельсавета

**Бечыка Варлена** (25.6.1939—13.11.1985), крытыка і літаратуразнаўцы, радзіма. Скончыў БДУ (1960). З 1972 працаваў у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Друкаваўся з 1959 г. Аўтар кніг «Свет жывы і блізкі» (1974), «Беларуская савецкая лірыка» (у сааўт., 1979). Пахаваны ў в. Прылукі Мінскага р-на. Сын **Кароткай Ларысы**.

**Кароткай Ларысы** (н. 17.3.1919), літаратуразнаўцы, радзіма. З сям'і служачага. Бацька быў фельчарам, маці — медыцынскай сястрой. Скончыўшы школу ў Астрашыцкім Гарадку, працавала ў Мінску, выкладала рускую мову і літаратуру на рабфаку пры БДУ (1936) і ў 5-й чыгуначнай вячэрняй школе (1937—1938). Скончыла Мінскі педінстытут (1938), выкладала рускую і беларускую мовы на радзіме. У час вайны ўдзельніца антыфашысцкага падполля ў акупаваным Астрашыцкім Гарадку, партызанка брыгады «Штурмавая» і ўпаўнаважаная асобага аддзела партызанскага атрада «За Айчыну». З 1944 г. завуч і выкладчыца рускай мовы і літаратуры ў Астрашыцка-Гарадоцкай СШ, выкладчыца ў Талькаўскай СШ (Пухавіцкі р-н) і Прылуцкай СШ (Мінскі р-н). Скончыўшы ў 1957 г. аспірантуру і абараніўшы кандыдацкую дысертацыю, выкладчыца, дацэнт філалагічнага факультэта БДУ (да 1994). Друкавацца пачала з 1946 г. Складальнік навучальных і метадычных дапаможнікаў, хрэстаматый для студэнтаў і школьнікаў «Старажытная руская літаратура ў даследаваннях» (1979), «Гісторыя старажытнай рускай літаратуры і літаратуры XVIII ст.» (1982, абедзве з Л. Гусевай), «Аб мінулым Бацькаўшчыны» (1985), «Руская літаратура XVIII ст.» (1988), «Літаратура Старажытнай Русі і XVIII ст.» (1997) і інш. Маці **Бечыка Варлена**.

**Купала Янка** часта бываў у Астрашыцкім Гарадку ў 1904—1909 гг., калі наведваў маці, якая жыла ў в. Бараўцы. Праз пошту ў Астрашыцкім Гарадку Купала пасылаў у 1907 г. карэспандэнцыі ў «Нашу ніву», пра што сведчыць «паштовая скрынка» «Нашай нівы» за 3.8.1907 г. У 1909 г. там жа была надрукавана Купалава карэспандэнцыя «Астрашыцкі Гарадок» (за подпісам І. Л.), у якой падрабязна апісана мястэчка, бальніца, стан медыцынскага абслугоўвання. 12 студзеня 1936 г. на вечары ў мясцовым калгасе «Новы шлях» прысутнічаў **Колас Якуб**. Тады ж ён быў выбраны ганаровым членам сельгасарцелі.

**Фальв. Бараўцы** Папярнянскага сельсавета

Калі ехаць па Смаргаўскім тракце на ўсход сярод лецішчаў і павярнуць у цэнтры вёскі на скрыжаванні дарог ля крыжа (раней каплічкі), у цэнтры лецішчаў — стары дуб, які памятае Купалу. На ўсход ад лецішчаў — фальварак Бараўцы пані Стралкоўскай.

У 1904—1909 гг. маці **Купалы Янкі** арандавала ў пані Стралковай фальварак. У Бараўцах паэт у 1904 г. аднавіў ранейшыя сувязі з У. Самойлам, які ў 1905 г. памог яму надрукаваць першы верш «Мужык». Увосень 1905 г. адсюль Купала пайшоў працаваць на бровар у *Сёмкава*. Прыязджаў у Бараўцы ў 1906 г., калі працаваў на бровары ў Яхімоўшчыне, і ў 1907 г., калі быў памочнікам вінакура ў *Дольным Снове*. Тут напісаў шэраг лірычных вершаў, у т.л. «Явар» (1909), 22 жніўня 1908 г. завяршыў драматычную паэму «Адвечная песня».

Паводле кнігі У. Содаля «Тут бачу свой край», дом, у якім жылі Луцэвічы, стаяў на гары, з якой любіў глядзець Купала. Прапануецца гэтую гару зрабіць гарой Луцэвічаў. Дом у 1930-я гг. перавезлі на дровы ў пякарню ў Астрашыцкі Гарадок.

**Вёска Буцэвічы** Юзафоўскага сельсавета

**Янкоўскі Фёдар,** мовазнавец, ураджэнец в. *Клетнае* Глускага р-на Магілёўскай вобл., у 1936 г., пасля заканчэння Рагачоўскага педтэхнікума, працаваў настаўнікам Буцэвіцкай школы Заслаўскага р-на. Працаваў да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. У 1939—1940 гг. удзельнічаў у савецка-фінляндскай вайне. Яго жонку і малую дачушку спалілі ў школе немцы разам з іншымі вучнямі і супрацоўнікамі школы ў 1941 г. Партызаніў у гэтых мясцінах.

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***